# УВОДЗІНЫ

**Грунвальдская** бітва 1410 г. належыць да адной з найбольш знакавых падзей у нашай гісторыі. Яна завяршае больш чым двухсотгадовы этап барацьбы насельніцтва беларускіх зямель з крыжацкай агрэсіяй. Мэтай гэтай кнігі з'яўляецца разгляд не толькі падзей так званай Вялікай вайны, кульмінацыйнай падзеяй якой і стала бітва пад Грунвальдам. У ёй зроблена спроба прасачыць усю гісторыю ўзаемаадносін з крыжакамі ад моманту іх з'яўлення ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне ў канцы XII ст. Гэтыя адносіны часам былі даволі мірныя, хоць у сваёй аснове мелі характар дыпламатычнага і ваеннага супрацьстаяння, спачатку з нешматлікімі рыцарамі-«пілігрымамі», затым з Ордэнам мечаносцаў і, нарэшце, з магутным і моцным Тэўтонскім ордэнам, які быў запрошаны ў Прыбалтыку кіраўнікам аднаго з польскіх княстваў, паглынуў балцкае племя прусаў, далучыў да сябе мечаносцаў, захапіў важныя польскія землі і, у рэшце рэшт, стаў прэтэндаваць на поўную гегемонію ў рэгіёне. У працэсе гэтай барацьбы беларускія землі ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), а тое, у сваю чаргу, прайшло супярэчлівы шлях ад канфрантацыі са сваёй заходняй суседкай, Польшчай, да саюзу з ёй. Гэты саюз, альбо унія, заключаны ў 1385 г. у беларускім замку Крэва, не толькі дазволіў аб'яднаць сілы для барацьбы з грозным праціўнікам, але і прыняў рашэнне аб хрышчэнні язычніцкай часткі насельніцтва Літвы, што пазбавіла крыжакоў ідэалагічных падстаў для працягвання агрэсіі.

Важнай задачай гэтага выдання з'яўляецца разгляд вайсковага патэнцыялу варагуючых бакоў. На сённяшні дзень у плане вывучэння вайсковасці Тэўтонскага ордэна, Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага зроблены значныя напрацоўкі. Аднак па-ранейшаму актуальным застаецца супастаўленне вайсковай манеры, узроўню матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і колькаснага складу войскаў вышэйназваных дзяржаў, параўнанне іх баявых якасцяў.

У той жа час у задачу гэтага выдання не ўваходзіць аналіз крыніц і гістарыяграфіі. Па праблеме Грунвальдскай бітвы і барацьбы з крыжакамі наогул напісана такая колькасць літаратуры, як навуковай, так і папулярнай, што яе аналіз уяўляецца справай нават больш складанай, чым разгляд, уласна кажучы, самога антыкрыжацкага супрацьстаяння. Просты пералік работ, прысвечаных Грунвальдскай бітве, запатрабаваў бы спецыяльнай кнігі, па аб'ёму не меншай за тую, якую мы рызыкуем прапанаваць шаноўным чытачам. Да таго ж існуе значная колькасць спецыяльных грунтоўных прац, у тым ліку зусім нядаўна выдадзеных і ў Беларусі, якія цалкам прысвечаны аналізу крыніц і літаратуры.

Натуральна ж, аўтар гэтага выдання не ставіць сваёй мэтай разгляд усяго перыяду барацьбы з крыжакамі, які выходзіць за рамкі не толькі 1410 года, але і ўсяго XV стагоддзя. Пасля Грунвальда Тэўтонскі ордэн яшчэ працягваў сваё існаванне больш за сто гадоў, ды ўжо не складаў сур'ёзнай пагрозы Вялікаму Княству Літоўскаму. Напачатку XVI ст. ён спыніў сваё існаванне, толькі як напамін аб крыжацкай прысутнасці заставаўся яго «асколак» — Лівонскі ордэн, з якім ВКЛ знаходзілася пераважна ў прыязных адносінах. Аднак гісторыя Лівонскага ордэна і ўзаемаадносін з ім нашых продкаў патрабуюць зусім іншага разгляду.

Була Папы Інакента IV з заклікам крыжовага паходу супраць Прусіі і балтыйскіх плямёнаў. 29 верасня 1243 г.



# Умацаванне крыжакоў у Прыбалтыцы: пачатак XIII ст. — 1377 г.

**Гісторыя** ўзаемаадносінаў славянскага і балцкага насельніцтва Цэнтральнай і Усходняй Еўропы з крыжакамі сягае сваімі каранямі ў тыя аддаленыя часы, калі тут не існавала ні Тэўтонскага ордэна, ні Вялікага Княства Літоўскага. Хроніка Балтазара Русава сцвярджае, што задоўга да нямецкіх рыцараў берагі паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі «адкрылі» брэменскія купцы, якія «пад'ехалі сюды на караблях» у 1158 г.[1] Аднак пранікненне немцаў у Прыбалтыку ўскладнялася наяўнасцю па суседству дастаткова моцнага Полацкага княства, у залежнасці ад якога знаходзілася частка мясцовых плямёнаў.

Полацкае княства перажывала перыяд палітычнай раздробленасці, аднак было па-ранейшаму развіта эканамічна і, акрамя таго, займала надзвычай выгаднае геаграфічнае становішча. Гэта дазваляла яму, разам з землямі суседніх ліваў, адыгрываць значную ролю ў гандлі з Балтыкай па Заходняй Дзвіне. На гэтай рацэ палачанамі былі закладзены ўмацаваныя гарады Герцыке і Кукенойс, якія, як лічыцца, служылі апорнымі пунктамі Полацка ў Прыбалтыцы. Драбленне Полацкай зямлі наносіла ўдар яго палітычнай і ваеннай магутнасці, таму зразумела імкненне полацкіх князёў да ўмацавання сваёй улады. Аднак тут яны сустракалі супраціўленне з боку мясцовага баярства і полацкага веча. Тым не менш у канцы XIII ст. энергічны князь Уладзімір змог умацаваць свае пазіцыі. Аб сіле і аўтарытэце гэтага князя можна меркаваць ужо па тым, што ў нямецкай «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага ён называецца «кароль» альбо «вялікі кароль».

Непасрэднае пранікненне немцаў у Прыбалтыку пачалося ў 1185 г., калі «аўгусцінскі манах Мейнард, пасланы брэменскім арцыбіскупам Гортвігам, прыбыў у мястэчка Іскуль каля Заходняй Дзвіны і па пагадненню з полацкім князем Уладзімірам пачаў хрысціць ліваў»[2]. Паказальна, што полацкі князь паслаў яму не толькі свой дазвол, але яшчэ і дары. Невядома, ці гэта быў толькі знак прыязні і павагі да духоўнай асобы, ці, можа, Уладзімір быў зацікаўлены ў атрыманні саюзніка ў гэтым неспакойным краі. Дзейнасць Мейнарда, верагодна, насіла даволі паспяховы характар, таму ў 1188 г. ён быў прызначаны біскупам. Аднак наўрад ці ён карыстаўся выключна мірнымі сродкамі, як часам лічыцца. Пра гэта сведчыць гісторыя з пабудовай у вёсачцы Ікскюль мураванага замка. Калі суседнія з лівамі земгалы спрабалі, як сведчыць Генрых Латвійскі, абвязаць яго карабельнымі канатамі і сцяг-



Нямецкія рыцары і лучнік. Каля 1200 г.

нуць у Дзвіну, то былі паранены і рассеяны стральцамі Мейнарда.

Пасля смерці Мейнарда ў 1196 г. яго месца заняў нейкі Бертольд, які дзейнічаў больш жорстка, за што і быў забіты. Па загаду Папы рыцары, што яго суправаджалі, «страшна за яго адпомсцілі і прымусілі прымаць каталіцкіх святароў». Гэта азнаменавала пераход да больш жорсткіх мер, ад мірнага пранікнення да планамернай заваёвы.

У 1199 г. брэменскі канонік Альбрэхт фон Буксгёўдэн «набраў да 500 чалавек для крыжовага паходу ў Лівонію» і, прыбыўшы ў 1200 г. у вусце Заходняй Дзвіны, заклаў горад Рыгу і сабор Св. Марыі. Спачатку ў яго распараджэнні знаходзіліся толькі рыцары-пілігрымы, якія мяняліся раз на год. Гэтых сілаў было яму яўна недастаткова, і таму ўзнікла неабходнасць у стварэнні значнага пастаяннага войска. У 1202 г. Буксгёўдэн выклікаў у Лівонію (Інфлянты) новыя сілы рыцараў і заснаваў новы духоўна-рыцарскі ордэн, які быў зацверджаны Папам у 1203 г. і атрымаў назву Ордэна мечаносцаў.

Ордэн атрымаў статут тампліераў і стаў падпарадкоўвацца біскупу. У аснове статута ляжалі тры агульныя для ўсіх ордэнаў абяцанні, альбо прысягі: паслушэнства, цнатлівасці і беднасці, да якіх дадавалася прысяга барацьбы з «нявернымі». Члены ордэна падзяляліся на тры разрады: браты-рыцары, браты-святары (капланы) і браты-служэбныя (збраяносцы і рамеснікі). Апазнавальным знакам братоў-рыцараў служыў белы плашч з чырвонымі крыжам і мячом. На чале

ордэна стаяў магістр, улада якога абмяжоўвалася капітулам. Ордэн знаходзіўся ў васальнай залежнасці ад біскупа, хоць і дабіўся ў 1207 г. права на леннае ўтрыманне заваяваных зямель. У ордэн маглі ўступаць грамадзяне Рыгі з маёмасцю, а з 1226 г. рыцары ордэна сталі лічыцца грамадзянамі Рыгі, хоць і не былі падсудныя гарадскім судовым органам[3].

З самага пачатку свайго знаходжання ў Інфлянтах крыжакі імкнуліся забяспечыць сабе манаполію на гандаль па Заходняй Дзвіне, для чаго гавань у вусці гэтай ракі яны з 1200 г. «сумесна пастанавілі лічыць пад інтэрдыктам, а ўсякага, хто ў будучым захоча ўвайсці туды для гандлю, пазбаўляць маёмасці і жыцця». Полацкія купцы не збіраліся згаджацца з падобнай сітуацыяй і ў 1203 г. спусціліся на караблі ўніз па рацэ. Крыжакі выканалі сваё абяцанне: лоцман і капітан былі забітыя, а купцы былі вымушаны вярнуцца назад. Гэты канфлікт паслужыў сігналам для канфлікту паміж ордэнам і Полацкам. У тым жа 1203 г. «з'явіўся ў Лівонію кароль Полацкі з войскам і аблажыў замак Ісесколу». Лівы, якія былі ў замку, паабяцалі Уладзіміру грошы (бо немцы, напэўна, «вызвалілі» іх ад даніны Полацку), атрымаўшы якія, ён рушыў да замка Гольм. Аднак акурат у гэты час туды падышлі і крыжакі, таму палачане не рашыліся на пераправу праз раку пад пагрозай абстрэлу нямецкіх арбалетчыкаў і вярнуліся назад.

У тым жа годзе «кароль Герцыке, падышоўшы да Рыгі з літоўцамі, забраў скаціну гараджан, захапіў двух святароў, а Тэадорыха Брудэнгама, які пагнаўся за ім з гараджанамі, забіў»[4].

Гэтыя падзеі не набылі маштабаў шырокага процідзеяння ўмацаванню нямецкай прысутнасці ў Прыбалтыцы. Тым не менш неабходнасць саюзу з полацкім князем, ці хаця б нейтралізацыі яго, была для біскупа Альберта відавочнай. З гэтай мэтай у 1206 г. ён накіраваў у Полацк паслоў з багатымі падарункамі з мэтай «заручыцца сяброўствам і прыхільнасцю караля полацкага, якія той праяўляў да яго папярэдніка, біскупа Мейнарда». Прыбыўшы ў Полацк, немцы засталі ў князя ліваў, якія пераконвалі яго, што «біскуп і яго прыхільнікі для іх вялікі цяжар, а бярэма веры нясцерпна», і заклікалі яго выступіць супраць ордэна. Уладзімір, адаслаўшы немцаў, загадаў тайна «як мага хутчэй рыхтавацца да паходу, каб, узяўшы самае неабходнае на дарогу, на караблі ці на плытах з бярвёнаў хутка і нябачна падысці да Рыгі».

Аднак кіраўніку нямецкай дэлегацыі абату Тэадорыху ўдалося падкупіць аднаго са слуг князя і даведацца пра тайныя пагадненні з лівамі. Паслаўшы ганца да біскупа, абат прызнаўся Уладзіміру, што яго тайна раскрытая. Князь, убачыўшы, што фактар неспадзяванасці страчаны, пайшоў на хітрасць і пад выглядам дэлегатаў, пасланых у Лівонію для ўрэгулявання канфлікту, накіраваў ганцоў, якія «рассыпаліся ва ўсе бакі па вобласці, сталі зваць ліваў і лэтаў з'явіцца пры зброі». «Той, хто з выглядам галубкі гаворыць ласкавыя словы, часам раніць гэтак жа, як і змяя ў траве», — з горыччу зазначае крыжацкі храніст.

Справа магла б набыць сур'ёзны размах, калі б лівы, сабраўшыся разам, дачакаліся палачан. Але яны ўступілі ў бой і былі разбіты параўнальна невялікімі (150 чалавек) сіламі крыжакоў. У сечы загінуў арганізатар супраціўлення князь Ако. Нягледзячы на тое што пасля разгрому ліваў момант для сумесных баявых дзеянняў быў упушчаны, Уладзімір «сабраў войска з усіх канцоў свайго каралеўства, а таксама ад суседніх каралёў, сваіх сяброў, і з вялікай храбрасцю спусціўся ўніз на караблі». Войска палачан неспадзявана падышло да Гольма, які з'яўляўся «ключом ад Рыгі», і аблажыла яго. Аднак аблога праходзіла няўдала для палачан: пабудаваная імі кідальная машына страляла не па ворагах, а па сваіх, безвынікова скончылася спроба падпаліць замак, адчуваўся недахоп у правіянце, перамяшчэнне па дарогах абцяжарвалася раскіданымі паўсюль трохзубымі кручкамі, існавала пагроза падыходу свежых крыжацкіх сіл. Таму праз 11 дзён аблога была знятая[5].

Няўдалае завяршэнне паходу прывяло да таго, што лівы былі вымушаны запрасіць міру і ў 1207 г. былі канчаткова ахрышчаны. У далейшым крыжакі, «па просьбе» ліваў, якія, натуральна ж, не жадалі выплочваць двайную даніну — немцам і палачанам, спынілі выплату ліўскай даніны Полацку.

На шляху далейшага прасоўвання Ордэна мечаносцаў углыб Усходняй Прыбалтыкі ляжалі гарады Герцыке і Кукенойс. У беларускай гістарыяграфіі трывала замацавалася перакананне, якое сягае сваімі каранямі яшчэ ў расійскую дарэвалюцыйную і савецкую гістарыяграфію, што барацьба гэтых гарадоў з крыжакамі была часткай антыкрыжацкага супрацьдзеяння з боку Полацка[6]. Аднак аналіз найбольш аўтарытэтнай крыніцы — «Хронікі Лівоніі» Генры-

ха Латвійскага — дазваляе ўсумніцца ў гэтым, здавалася б, бясспрэчным тэзісе[7]. Па-першае, падчас падзей 1206 г., якія сталі пікам крыжацка-полацкага супрацьстаяння, і Кукенойс, і Герцыке занялі надзвычай дзіўную для васалаў пазіцыю, праігнараваўшы антынямецкія захады князя Уладзіміра. Асабліва яскрава гэта праявілася ў стаўленні да згаданага супрацьстаяння балцкага племені латгалаў, якія былі залежныя ад Кукенойса і выплочвалі яму даніну. Атрымаўшы ад Уладзіміра запрашэнне на перагаворы, на якіх павінен быў разглядацца план вайны з крыжакамі, «лэты, альбо латгалы, якія хоць і заставаліся яшчэ язычнікамі, але былі добрай думкі аб жыцці хрысціян і жадалі ім дабра, не з'явіліся на гэтыя каварныя перагаворы, і нават падарункі, паднесеныя ім русінамі, не маглі схіліць іх да зла супраць тэўтонаў».



Пячатка Ордэна мечаносцаў. 1202—1237 гг.

Аднак жа і пазіцыя самога Кукенойса мала чым адрознівалася ад той, якую займалі падначаленыя яму латгалы. Пад 1205 г. мы чытаем у Генрыха Латвійскага, што «калі кароль Вячка з Кукенойса пачуў, што прыйшлі такім вялікім атрадам лацінскія пілігрымы і пасяліліся па суседству, усяго ў трох мілях ад яго, ён, здабыўшы праз ганца пропуск ад біскупа, скіраваўся да яго на караблі ўніз па рацэ. Пасля пацісканняў рук і ўзаемных прывітанняў ён тут жа заключыў з тэўтонамі трывалы мір». Наўрад ці Вячка рызыкнуў бы пайсці на сепаратнае заключэнне міру з ордэнам, які толькі ў 1206 г. прадпрыняў крокі, ды і тое беспаспяховыя, па наладжванню адносін з палачанамі, калі б сапраўды знаходзіўся ў рэальнай залежнасці ад Полацка.

Паўстае пытанне: а што прымусіла Вячку ўвогуле шукаць збліжэння з крыжакамі? Адказ можна знайсці ў падзеях, якія разгарнуліся ў 1207 г. «Калі кароль Кукенойса Вячка пачуў аб прыбыцці [у Рыгу] біскупа і пілігрымаў, ён разам са сваімі людзьмі выйшаў ім насустрач і па прыбыцці ў Рыгу быў прыняты з усімі ўшанаваннямі. Правёўшы ў самай дружалюбнай абстаноўцы ў доме біскупа многа дзён, ён нарэшце папрасіў біскупа дапамагчы яму супраць нападзенняў на літоўцаў, прапануючы за гэта палову сваёй зямлі і свайго замка. Гэта было пры-

нята, біскуп ушанаваў караля многімі дарамі, абяцаў дапамагчы яму людзьмі і зброяй, і кароль з радасцю вярнуўся дадому». Такім чынам, калі верыць крыжацкаму храністу Генрыху, у абдымкі да крыжакоў Вячку штурхнула літоўская пагроза. Пра гэта той жа Генрых піша ў іншым месцы надзвычай выразна: «Улада літоўская да такой ступені ціснула тады над усімі плямёнамі, якія жылі ў тых землях, што толькі нямногія рашаліся жыць у сваіх вёсачках, а больш за ўсіх баяліся лэты. Гэтыя, пакідаючы свае дамы, пастаянна хаваліся ў цёмных лясных трушчобах, ды і так не маглі ўратавацца, таму што літоўцы, наладжваючы засады па лясах, пастаянна лавілі іх, адных забівалі, другіх забіралі ў палон, а маёмасць забіралі. Уцякалі і русіны па лясах і вёсках перад абліччам нават нешматлікіх літоўцаў, як бягуць зайцы перад паляўнічым, і былі лівы і лэты кормам і ежай літоўцаў, падобна авечкам без пастыра ў пашчы воўчай»[8].

На карысць аслаблення васальна-сеньёрыяльных сувязяў Кукенойса з Полацкам сведчыць і той факт, што Вячка, збіраючы з латгалаў даніну, не аддаваў яе Полацку. Прынамсі, Уладзімір Полацкі, пастаянна турбуючыся пра лёс ліўскай даніны і патрабуючы яе з біскупа Альберта, ніколі не згадвае пра даніну латгальскую. Такім чынам, калі абапірацца на тыя звесткі, якія прыносіць «Хроніка Лівоніі», то Кукенойс напачатку XIII ст. выступае ўжо як цалкам незалежнае княства, са сваёй палітыкай, якая амаль не ўзгадняецца з палітыкай былога сюзерэна — полацкага князя.

Адносіны Кукенойса і Рыгі, магчыма, так і заставаліся б бясхмарнымі, калі б не канфлікт Вячкі з рыцарам Даніэлем з Леневардэна, які захапіў уладанні князя. Біскуп паспрабаваў залагодзіць канфлікт, асудзіў учынак Даніэля, і Вячка вярнуўся дадому з дваццаццю рыцарамі і арбалетчыкамі, выдзеленымі яму нібыта для абароны ад літоўцаў. Аднак Вячка, які ўжо не мог дараваць крыўды, палічыў іх хутчэй за акупацыйны гарнізон, таму, дачакаўшыся зручнага моманту, перабіў 17 чалавек, трупы пакідаў у Дзвіну і паслаў полацкаму князю запозненае запрашэнне да паходу на Рыгу. Не дачакаўшыся дапамогі, Вячка падпаліў Кукенойс і «сышоў у Русію, каб ніколі больш не вяртацца ў сваё каралеўства». У далейшым ён дзейнічаў у Эстоніі як васал Ноўгарада і загінуў пры абароне Дэрпта (Тарту) у 1224 г.




Пасля захопу Кукенойса на шляху далейшага прасоўвання крыжакоў ляжаў Герцыке, у якім правіў Усевалад. Гэты князь таксама практычна не падпарадкоўваўся Полацку, бачыў апору сваёй улады ў саюзе з літоўцамі, быў жанаты з дачкой аднаго з наймагутнейшых літоўскіх правадыроў Даўгерутэ і, «будучы для іх амаль сваім, часта ўзначальваў іх войскі, аблягчаў ім пераправу праз Дзвіну і забяспечваў іх харчовымі запасамі»[9]. Менш за ўсё жадаючы бачыць побач з сабой такога небяспечнага суседа, біскуп Альберт, сабраўшы войска «з усіх абласцей Лівоніі, Лэтыі, разам з рыжанамі, пілігрымамі і ўсім сваім народам», у 1209 г. раптоўна падышоў да Герцыке і захапіў яго. Самога князя крыжакі не засталі, але вывелі вялікі палон, у тым ліку і яго жонку, а таксама вывезлі значныя скарбы. Пасля гэтага Альберт перадаў Усеваладу загад прыбыць у Рыгу для заключэння міру. Умовы міру былі наступныя: не падтрымліваць зносінаў з язычнікамі, не пасягаць на ўладанні ордэна, не спустошваць, сумесна з літоўцамі, землі «русінаў-хрысціян» (!) і, нарэшце, перадаць свае ўладанні крыжакам, каб зноў прыняць іх з рук біскупа, што азначала прызнанне васальнай залежнасці. Усевалад мусіў прыняць гэтыя ўмовы, хоць і надалей рабіў спробы пазбавіцца апекі ордэна з дапамогай літоўцаў.


Літоўскі воін XIII ст. Рэканструкцыя

У 1210 г. біскуп Альберт зрабіў спробу нармалізаваць адносіны з Полацкам, вакол якога гуртаваліся ўсе антыкрыжацкія сілы. Гэта было тым больш актуальна, што крыжакі ўцягнуліся ў складаную барацьбу з эстамі. Да полацкага князя быў накіраваны пасол, каб «даведацца, ці пагодзіцца ён на мір і ці не адчыніць рыжскім купцам доступ у свае ўладанні... І тады ў першы раз быў заключаны вечны мір паміж імі (немцамі) і каралём, з тым, аднак, каб каралю штогод плацілася належная даніна лівамі ці за іх біскупам. І рады былі ўсе, што цяпер больш бяспечна могуць ваяваць з эстамі і іншымі паганскімі плямёнамі»[10].

Час паказаў, што гэты мір быў буйной дыпламатычнай памылкай полацкага князя. Канчаткова ўмацаваўшыся ў Лівоніі, крыжакі зноў пазбавілі Полацк ліўскай даніны. У 1212 г. Уладзімір запрасіў біскупа на перагаворы, якія адбыліся ў Герцыке. Полацкі князь марна спрабаваў пагрозамі прымусіць немцаў спыніць каланізацыю краю,



аднак быў вымушаны перадаць «пану біскупу ўсю Лівонію без даніны, каб умацаваўся паміж імі вечны мір, як супраць літоўцаў (!), так і супраць іншых паганаў, а купцам быў заўсёды адчынены свабодны шлях па Дзвіне»[11].

Пасля падпарадкавання Лівоніі нямецкія феадалы ўзмацнілі націск на іншыя прыбалтыйскія землі — эстаў, куршаў і г. д. Будучы не ў стане самі супрацiўляцца сілам ордэна, яны, як і лівы, імкнуліся знайсці сабе дапамогу ў асобе рускіх князёў. У 1216 г. да Уладзіміра Полацкага звярнуліся эсты з просьбай арганізаваць паход на Рыгу. Самі ж эсты абяцалі змагацца з войскамі саюзных крыжакамліваў і эстаў. А таксама замкнуць гавань у Дынамюндэ. «І спадабалася каралю задумка вераломных, і паслаў ён у Русію і Літву, і склікаў вялікае войска з русінаў і літоўцаў». Калі ўсе прыгатаванні былі закончаны, войскі наважыліся адплыць і Уладзімір ужо збіраўся ўзысці на карабель, ён раптоўна памёр, а «войска яго рассыпалася і вярнулася ў сваю зямлю»[12].

Першы вопыт барацьбы з крыжацкай агрэсіяй быў для насельніцтва Усходняй Прыбалтыкі і суседніх славянскіх зямель няўдалым. Невядома, як склаўся б лёс Полацка, калі б рыцары Ордэна мечаносцаў скіравалі свае позіркі на ягоныя землі. На шчасце для палачан, немцы былі заняты ўмацаваннем свайго ўплыву ў Эстоніі, дзе для іх склалася небяспечная сітуацыя. Акрамя таго, у гэты час пачынаецца актывізацыя літоўскіх плямёнаў. Усё гэта адцягнула ўвагу мечаносцаў ад Полацка і часова ўратавала палачан ад цяжкой і крывавай вайны з ордэнам.

Рэзідэнцыя Тэўтонскага ордэна ў Акры



Прыблізна ў гэты ж час на захад ад Лівоніі пачынаюць разгортвацца падзеі, якія ўнеслі кардынальныя змены ў працэсы нямецкай каланізацыі Прыбалтыкі. Яны былі звязаны з барацьбой



польскага Мазавецкага княства з роднаснымі літоўцам прусамі. Пакутуючы ад нападаў гэтага ваяўнічага племені, мазавецкі князь Конрад запрасіў для барацьбы з імі рыцараў Ордэна шпітальераў Найсвяцейшай Панны Марыі Нямецкага дому ў Ерусаліме[13].

Гісторыя ўзнікнення гэтага ордэна сягае сваімі каранямі ў 1190 г., калі падчас III Крыжовага паходу пад мурамі горада Акка (Акра), у Палесціне, мяшчане Брэмена і Любека заснавалі невялікі шпіталь для рыцараў нямецкага паходжання (па іншых звестках, ён з'явіўся яшчэ ў 1118 г.). Пры ім згуртавалася невялікае брацтва, спачатку як філіял Ордэна іанітаў. У 1191 г. яно было зацверджана Папам Клеменсам II, а ў 1196 г. было рэарганізавана ў духоўна-рыцарскі ордэн. Канчаткова ордэн аформіўся з выданнем новым Папам Інакентам III булы ад 19 лютага 1199 г., у якой пацвярджалася яго заснаванне.

У аснове статута новазаснаванага ордэна, таксама як і Ордэна мечаносцаў, ляжаў статут тампліераў. Усе яго члены падзяляліся на тры катэгорыі — браты-рыцары, браты-святары (капланы) і браты-служэбныя. Існавалі таксама т. зв. «паўбраты», якія, у адрозненне ад братоў, не прыносілі клятваў беднасці, цнатлівасці, паслушэнства, барацьбы з ворагамі Хрыста і не маглі займаць кіруючыя пасады ў ордэнскай іерархіі. Нязначную ролю адыгрывалі сёстры, якія апекаваліся хворымі і параненымі, а таксама маглі выконваць жаночую працу ў ордэнскіх гаспадарках.

Адметным уборам братоў-рыцараў былі белыя плашчы з простым чорным крыжам, нашытым з левага боку. Што да паўбратоў, то яны насілі шэрыя плашчы з паловай крыжа ў выглядзе літары «Т». Такія ж самыя знакі змяшчаліся на шчытах крыжакоў. Вялікія магістры з канца XIV ст. насілі адмысловы крыж, так званы «Ordenskreuz», залаты, але абведзены чорным контурам, з перакладзінкамі на канцах. Усярэдзіне крыжа размяшчаўся залаты шчыт з чорным каранаваным арлом. Пад плашчамі рыцары насілі кароткія (вышэй калена) і аблягаючыя кафтаны без рукавоў («wappenrock»), якія маглі апранацца паверх даспехаў і таксама ўпрыгожваліся крыжамі. Яны маглі вырабляцца з сукна шэрага, белага ці карычневага колеру. Выяўленчыя крыніцы канца XIV — пачатку XV ст. паказваюць цікавую манеру нашэння крыжа на такіх кафтанах — вертыкальная перакладзіна праходзіла зверху кафтана і да самага яго нізу, а гарызантальная размяшчалася на ўзроўні пояса[14].



Ужо ў канцы XIV ст. «статутную» вопратку крыжакі насілі пераважна толькі падчас набажэнстваў, афіцыйных мерапрыемстваў, падарожжаў і на вайне. На кожны дзень браты ордэна насілі свецкія строі, але абавязкова сціплыя. На практыцы ж патрабаванне сціпласці ва ўборах выконвалася не заўсёды.

Браты-рыцары ордэна ў абавязковым парадку павінны былі насіць бароды, у адрозненне ад іншых катэгорый братоў, якія галілі твар. Дзякуючы гэтай асаблівасці іміджу тэўтонскіх братоў-рыцараў палякі называлі іх «барадатымі». Ёсць звесткі, адлюстраваныя, між іншым, у Хроніцы Быхаўца, што пасля Грунвальдскай бітвы пераможцы «абдзерлі» ў забітых крыжакоў бароды, разам са скурай, у якасці трафея[15]. Рэгламентацыі падлягалі таксама прычоскі братоў-рыцараў, якія былі даволі кароткія і пакідалі адкрытымі вушы.

Братамі ордэна маглі стаць пераважна толькі выхадцы з нямецкамоўнага тэрытарыяльнага абшару, хоць гэта патрабаванне і не было зафіксавана ў статуце. Асаблівую ўвагу на паходжанне прэтэндэнтаў сталі звяртаць з XIV ст. Дзякуючы падобнай практыцы ордэн стаў шырока вядомы пад назвай «Нямецкі» альбо «Тэўтонскі». Ад кандыдатаў у браты ордэна абавязкова патрабавалася рыцарскае паходжанне, і выключна рэдка імі маглі стаць прадстаўнікі знатных патрыцыянскіх родаў вялікіх нямецкіх гарадоў. Найчасцей у шэрагі ордэна ўступалі малодшыя сыны рыцарскіх родаў, якія не маглі разлічваць на зямельную спадчыну сваіх бацькоў.

Уся тэрыторыя, падпарадкаваная ордэну, падзялялася на правінцыі. На чале правінцый стаялі правінцыйныя магістры, альбо правінцыйныя комтуры. Правінцыі, у сваю чаргу, дзяліліся на камтурыі, якімі кіравалі комтуры. Акрамя камтурый існавалі тэрытарыяльныя адзінкі ў выглядзе войтаўстваў, альбо пракураторый. На чале ўсяго ордэна стаяў вялікі магістр (гросмайстар). Ён пажыццёва выбіраўся з асяроддзя братоў генеральнай капітулай. Гэтая капітула складалася з краёвых магістраў і трынаццаці электараў (выбаршчыкаў), куды павінны былі ўваходзіць адзін брат-святар, восем братоў-рыцараў і чатыры браты-служэбныя з розных правінцый. Вялікі магістр узначальваў адначасова і галоўную рэзідэнцыю ордэна. Першапачаткова яна знаходзілася ў Святой зямлі, аднак пасля падзення Аккі ў 1291 г. была перанесена ў Еўропу — спачатку ў Венецыю, а ў 1309 г. у Марыенбург (Мальбарк). Пас-



ля перамяшчэння галоўнай рэзідэнцыі тэўтонаў у Мальбарк з'явілася рада, якая сканцэнтравала ў сваіх руках кіраванне ордэнам. У раду ўваходзілі вялікі комтур, які быў намеснікам вялікага магістра, вялікі маршал, што з'яўляўся ягоным вайсковым намеснікам, вялікі інтэндант (шатны), вялікі шпітальнік і вялікі скарбнік[16].

Напачатку існавання Тэўтонскага ордэна справы яго ішлі зусім не бліскуча. Умацаванне і ўзвышэнне ордэна звязана з імем чацвёртага магістра — Германа фон Зальца (1209—1239). У гэты час пазначылася два напрамкі дзейнасці тэўтонаў — палесцінскі і еўрапейскі. У 1211 г. рыцары ордэна былі запрошаны ў Венгрыю для барацьбы супраць полаўцаў, аднак у 1225 г. венгерскі кароль запатрабаваў ад крыжакоў пакінуць яго краіну. Невядома, як бы склаўся лёс Тэўтонскага ордэна ў Еўропе, калі б Конрад Мазавецкі не запрасіў у 1226 г. тэўтонаў для барацьбы з прусамі, саступіўшы ім на 20 гадоў Хелміньскую (Кульмскую) зямлю. Вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Герман фон Зальца накіраваў сюды значны атрад рыцараў пад кіраўніцтвам правінцыйнага магістра (ландмайстра) Германа фон Балка. Першыя браты ордэна пасяліліся ў раёне Торуня ў 1230 г.

Са з'яўленнем тэўтонаў у Прусіі яны адразу ж разгарнулі энергічную барацьбу з мясцовымі плямёнамі і нанеслі ім паражэнне, «смела на іх абрынуўшыся»[17]. Пасля гэтага Кульмская зямля была даравана ордэну назаўсёды, і праз 50 гадоў амаль уся Прусія была падначалена немцамі. Знаходзячыся ў непасрэдным суседстве з Германіяй, Тэўтонскі ордэн мог больш паспяхова, чым Ордэн мечаносцаў, папаўняць шыхты сваіх братоў, што разам з іншымі чыннікамі, такімі, напрыклад, як суседства дружалюбна настроеных палякаў, абумовіла іх трывалае становішча.



Герман фон Зальца. Скульптура ў Мальбаркскім замку

Гэта акалічнасць прымушала мечаносцаў шукаць збліжэння з тэўтонамі, аднак тыя згадзіліся на ўз'яднанне са сваімі «калегамі» толькі пасля бітвы пры Саўле (Шаўлях) у 1236 г. У гэтай бітве лівонскія рыцары і саюзныя ім пскавічы пацярпелі ад літоўскага племені



Тэўтонскія рыцары XIII ст.

жамойтаў страшнае паражэнне. Па звестках лівонскай «Рыфмаванай хронікі», у сечы загінулі магістр мечаносцаў Фалквін, 48 братоў і вялікая колькасць простых воінаў[18]. З 200 пскавічоў, што змагаліся на баку ордэна, палягло 180. Пасля гэтага Ордэн мечаносцаў не мог існаваць як самастойная арганізацыя, і Папа Рыгор IX у 1237 г. загадаў Тэўтонскаму ордэну далучыць рэшткі лівонскіх рыцараў да сябе. Такім чынам, Ордэн мечаносцаў спыніў сваё існаванне, а на яго месцы была ўтворана лівонская правінцыя (ландмайстарства) Тэўтонскага ордэна. З гэтага часу з'яднанне прускай і інфлянцкай частак ордэна робіцца адной з яго асноўных задач.

Пагроза з боку Тэўтонскага ордэна аказала вялізарны ўплыў на ўзнікненне ў басейне р. Нёман новага дзяржаўнага ўтварэння — Вялікага Княства Літоўскага. Пытанне аб механізмах, што прывялі да яго з'яўлення, застаецца прадметам зацятай дыскусіі па сённяшні дзень. Даўняя традыцыя звязвае ўзнікненне Вялікага Княства з падпарадкаваннем ваяўнічымі літоўскімі плямёнамі заходнярускіх княстваў, аслабленых мангольскім нашэсцем[19]. У супрацьвагу гэтай канцэпцыі беларускі гісторык-аматар Мікола Ермаловіч вылучыў ідэю заваявання Літвы беларускім горадам Навагародкам (цяперашні Навагрудак). Аднак погляды М. Ермаловіча на дзяржаватворчыя працэсы ў Верхнім і Сярэднім Панямонні практычна адразу ж былі аспрэчаны прафесійнымі гісторыкамі, у тым ліку і айчыннымі. На сённяшні дзень у беларускай гістарыяграфіі пераважае асцярожны тэзіс аб мірным характары ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага і добраахвотным уваходжанні ў яго беларускіх зямель[20].



Практычна адразу ж новай дзяржаве давялося ўступіць у барацьбу з крыжакамі, шырока выкарыстоўваючы пры гэтым як ваенныя, так і дыпламатычныя сродкі. У 1249 г. склалася кааліцыя, скіраваная супраць першага ўладара Вялікага Княства Літоўскага — Міндоўга. У склад гэтай кааліцыі ўваходзілі, акрамя яго пляменніка Таўцівіла, жамойцкага князя Выкінта і галіцка-валынскіх князёў, лівонскія рыцары на чале з ландмайстрам Андрэем фон Сцірландам. Каб вывесці з кааліцыі тэўтонаў, Міндоўг быў вымушаны пайсці на прыняцце хросту па каталіцкаму абраду, што адбыўся ў 1250 ці 1251 г. У 1253 г. ён быў каранаваны прысланай з Рыма каралеўскай каронай, а Папа Інакенці IV узяў яго пад сваю апеку. Каранацыя адбылася, па ўсёй верагоднасці, у Навагародку, што павінна было пацвердзіць правы літоўскага караля на гэты горад і гэтыя землі, хоць існуюць і іншыя думкі наконт месца каранацыі Міндоўга. Адначасова Міндоўг заключыў шэраг пагадненняў з крыжакамі, па якіх, верагодна, перадаў ордэну пэўныя тэрыторыі ў Жамойці[21].

Пасля хрышчэння Міндоўга немцы ўзмацнілі націск на прусаў і асабліва на жамойтаў, тэрыторыя якіх магла стаць, у залежнасці ад вынікаў барацьбы, альбо сцяной, альбо мастком паміж прускай і інфлянцкай правінцыямі ордэна. У 1253 г. тут былі заснаваны Кёнігсберг і Мемельбург (Мемель, зараз Клайпеда). Але, сутыкнуўшыся з адчайным супраціўленнем жамойтаў, крыжакі мусілі ў 1257 г. згадзіцца на двухгадовае перамір'е. Ваенныя дзеянні аднавіліся толькі ў 1259 г. Вырашыўшы адным ударам зламіць сілы Жамойці, немцы сабралі пад Мемельбургам вялікае войска, якое складалася з інфлянцкіх рыцараў з Бургардам фон Горнгузэнам на чале, прускіх тэўтонаў з маршалам Генрыхам Ботэлем і датчан, якіх прывёў з Рэвеля герцаг Карл. У крывавым баі пры возеры Дурбе 13 ліпеня 1260 г. гэта войска было ўшчэнт разбіта літоўска-жамойцкімі сіламі. У сечы палягло 150 братоў-рыцараў на чале з лівонскім ландмайстрам, прускім маршалам і іншымі вышэйшымі чынамі. Палонных літоўцы спалілі ў ахвяру сваім багам[22].

Пячатка Міндоўга. Рэканструкцыя





Пасля гэтага Міндоўг, выракшыся згоды з немцамі, узначаліў аб'яднаныя літоўскія сілы і, «сабраўшы шмат, да 30 000 ваюючых, рушыў у Мазавецкую зямлю і напаў таксама на Прусію, разбурыў гарады, знішчыў амаль усю зямлю Прусіі». У наступным, 1261 г. войска з тэўтонаў, палякаў «і іншых прававерных народаў» рушыла ў межы Літвы, але літоўцы, захапіўшы крыжацкі стан, прымусілі рыцараў вярнуцца да яго і, «дамогшыся перамогі, звярнулі хрысціян да ўцёкаў». Пасля гэтага Міндоўг ужо сам з літоўскімі сіламі «агнём і мячом» спустошыў Чэрскую зямлю ў Мазовіі, разбіўшы высланыя супраць яго варожыя войскі. У 1261 г. Міндоўг заключыў саюз з наўгародскім князем Аляксандрам Неўскім, і як вынік гэтага саюзу, адбыўся паход аб'яднаных сіл у Лівонію[23].

Пасля паражэння тэўтонаў пры Дурбе антыкрыжацкія паўстанні скаланулі амаль усе заваяваныя імі землі, шэраг якіх, фактычна, аддзяліўся ад ордэна. Ажно да 70-х гадоў XIII ст. крыжакам давялося, па сутнасці, занава заваёўваць ужо аднойчы заваяваны край. Аднак са смерцю Міндоўга ў 1263 г. у Літве адбываецца аслабленне вярхоўнай улады, што дазволіла Тэўтонскаму ордэну зноў умацаваць свае пазіцыі і завяршыць падпарадкаванне мяцежных прусаў. Да 1283 г. крыжакі выйшлі да Нёмана, непасрэдна да межаў Літвы і Беларусі. З гэтага часу пачынаецца новы, найбольш заняты перыяд барацьбы з тэўтонамі. Ордэн перайшоў да тактыкі, распрацаванай яшчэ ў Палесціне, — прасоўвання пры дапамозе замкаў, якія ўзводзіліся на занятай тэрыторыі і, у сваю чаргу, служылі апорнымі пунктамі для далейшых наездаў і заняцця новых зямель.

Крыжацкія наезды («рэйзы») ажыццяўляліся, як правіла, сіламі невялікай колькасці ордэнскіх братоў (да некалькіх дзясяткаў), якія суправаджаліся дапаможнымі сіламі, колькасць якіх магла даходзіць да некалькіх тысяч. У іх ахвотна прымала ўдзел і еўрапейскае рыцарства, якое бачыла ў гэтым выдатную магчымасць выканаць свой хрысціянскі абавязак па барацьбе з «няверным!». Галоўнай апорнай базай для арганізацыі паходаў у Вялікае Княства Літоўскае служыў Кёнігсберг, які адначасова быў рэзідэнцыяй вялікага маршала ордэна.

Галоўнымі напрамкамі крыжацкай агрэсіі сталі Жамойць і сярэдняе Панямонне, на якія адбываўся націск з двух бакоў — з Прусіі і з Лівоніі. Аднак не пакідалі тэўтоны ў спакоі і беларускія землі. Верх-





Гаршковы шлем нямецкага рыцара. XIII ст.

няе Панямонне служыла аб'ектам атак прускага рыцарства, тады як на Падзвінне скіроўваліся позіркі інфлянцкіх рыцараў. Першай з беларускіх зямель, прыняўшых на сябе тэўтонскі ўдар, была Гарадзеншчына, атакаваная ўжо ў 1284 г., калі магістр Тэўтонскага ордэна Конрад Цырнберг аблажыў Гародню (Гродна). Горад адбіў усе штурмы праціўніка, і захапіць яго ўдалося толькі пры дапамозе двух здраднікаў, выхадцаў са знішчанага немцамі племені прусаў. У выніку Гародня была разбурана.

Адноўлены замак зімой 1296 г. быў зноў аблажаны тэўтонамі на чале з комтурам крыжацкага замка Бальга Зігфрыдам Райнбергам. Замак выстаяў, але ўся жылая забудова была спалена. Перабіўшы значную колькасць гарадзенцаў і захапіўшы 200 мірных жыхароў, крыжакі вярнуліся назад, але ўжо без Райнберга, які быў забіты.

У тым жа годзе, але ўвесну, адбыўся яшчэ адзін паход на Гродна, які ўзначаліў комтур Бальгі Зуцверт. Рыцары спрабавалі захапіць замак, аднак сустрэлі такое моцнае супраціўленне, што мусілі, забраўшы забітых і параненых, вярнуцца дадому. Безвынікова скончыліся і крыжацкія наезды ў 1305 г., двойчы ў 1306, 1311 г., хоць на землі Гарадзеншчыны прыходзілі атрады да 6000 чалавек. Асаблівая ўвага тэўтонаў да Гарадзенскага замка тлумачыцца тым, што ён служыў асноўнай апорнай базай для ваенных экспедыцый ВКЛ на захад. Таму на працягу ўсяго XIV ст. на Гродна пастаянна скіроўваліся крыжацкія паходы, прычым рабілася гэта значна часцей, чым на іншыя гарады сучаснай Беларусі[24].



Пераадоленне перыяду нестабільнасці ў Вялікім Княстве Літоўскім звязваецца з часам праўлення Віценя (1296—1316). Ён здолеў зноў умацаваць дзяржаву і арганізаваць належны адпор крыжакам. Тактыцы прасоўвання пры дапамозе замкаў ён супрацьпаставіў стварэнне пояса ўласных умацаванняў на асноўных напрамках руху крыжакоў. Палітыку Віценя працягваў Гедымін, які княжыў з 1316 па 1341 г.

У гэты час ваеннае ўмацаванне ВКЛ суправаджалася сур'ёзнымі дыпламатычнымі поспехамі. У канцы XIII ст. узмацніліся супярэчнасці паміж лівонскім рыцарствам і мяшчанамі Рыгі, што было звязана з барацьбой за перавагу ў Інфлянтах. У 1298 г. рыжане запрасілі літвінаў і русінаў, якія разбурылі рыжскі рыцарскі двор і пакінулі там свой гарнізон. Інфлянцкі філіял Тэўтонскага ордэна быў вымушаны на нейкі час засяродзіцца на барацьбе за ўладу над Рыгай, што ажно да 1330 г. пазбавіла Вялікае Княства Літоўскае неабходнасці ваяваць на два франты, хоць асобныя паходы лівонцаў на землі ВКЛ усё ж назіраліся.

Значным дыпламатычным крокам вялікага князя Гедыміна, скіраваным на спыненне тэўтонскай агрэсіі мірным шляхам, стаў праект хрышчэння Літвы. Папа Ян XII паставіўся да гэтага праекта з вялікай прыхільнасцю і забараніў крыжакам рабіць паходы ў Літву. У выніку ў 1324 г. было заключана чатырохгадовае перамір'е з крыжакамі, якое давала ВКЛ мірную перадышку[25].



Гедымін.
Гравюра канца XVI ст.

Значныя поспехі, якіх дабілася Вялікае Княства ў пачатку XIV ст. у абароне ад крыжакоў Беларускага Панямоння, былі звязаны з імем гарадзенскага кашталяна (старосты) Давыда. Упершыню тэўтоны сутыкнуліся з гэтым таленавітым ваяром у 1305 г., калі зімой пад Гародню прыйшло прускае войска пад камандай комтура Брандэнбурга Конрада Ліхтэнхагена, але было разбіта войскамі падаспеўшага Давыда, якога здолелі апавясціць аб падыходзе ворага. Абмежаваўся захопам пасада і атрад Эферхарда фон Вірнербурга з Кёнігсберга, які зрабіў спробу захапіць Гародню ў 1306 г., нягледзячы на тое, што ён налічваў 100 рыцараў і 6000 лёгкіх вершнікаў. Паход 1311 г. таксама скончыўся безвынікова.





У 1314 г. вялікае крыжацкае войска, якое ўзначальваў магістр Генрых фон Плоцке, аблажыла замак у Новагародку і пачало абстрэльваць яго з камнямётаў, адначасова знішчаючы наваколле горада. Штурм салідных умацаванняў поспехаў не меў, і тэўтоны мусілі разбіць лагер, а новы штурм адкласці да раніцы, калі, зняўшы і пакінуўшы ў абозе даспехі, у якіх цяжка было штурмаваць крутую (да 60°) замкавую гару, рыцары пайшлі на прыступ. Яны сустрэлі град дзідаў, стрэл і арбалетных балтоў, на іх паляцелі вялізныя бярвёны — «каткі». А тут скрытна падышоў конны атрад з кашталянам Давыдам на чале, які з-за сваёй малалікасці не пайшоў на прамое сутыкненне з рыцарамі, а захапіў крыжацкі абоз, перабіўшы 30 чалавек аховы. Захоплены былі 1500 рыцарскіх коней, увесь вайсковы рыштунак, абоз і харчовыя запасы. Былі таксама знішчаны ўсе базы, пакінутыя немцамі па дарозе. Зняўшы аблогу і нават пакінуўшы параненых, крыжакі пачалі адыход, пастаянна пакутуючы ад удараў конніцы Давыда, харчуючыся апошнімі коньмі, а таксама травой і карэннямі. Толькі праз шэсць тыдняў рэшткі тэўтонскага войска вярнуліся ў Прусію[26].

Пасля гэтага землі Беларускага Панямоння былі на нейкі час пакінуты ў спакоі, а ў 1319 г. Давыд сам з 800 вершнікамі, скарыстаўшы веснавы разліў і паводку, неспадзявана ўварваўся ў Натангію, што ў Прусіі. Захапіўшы ў палон радавітых рыцараў, з вялікай здабычай літвіны вярнуліся дадому, хоць па дарозе і былі пашматаны крыжакамі.

У 1322 г. Давыд дапамагаў пскавічам бараніць іх горад, а калі ў сакавіку 1323 г. датчане захапілі Гдоў і, забіўшы рускіх купцоў, сталі рабаваць Пскоўшчыну, Давыд зноў прыйшоў на дапамогу пскавічам, адкінуўшы агрэсара. Ваяры гарадзенскага кашталяна рушылі наўздагон за непрыяцелем і дайшлі да Рэвеля, захапіўшы вялікую здабычу і знішчыўшы да 5000 ворагаў. Аднак у маі таго ж года нямецкія рыцары са штурмавымі машынамі аблажылі Пскоў, жыхары якога зноў паслалі па Давыда. Яго дружына падышла праз 18 дзён, сумесна з пскавічамі разбіла крыжакоў і прагнала іх за р. Вялікую.

Жадаючы хоць неяк адпомсціць свайму ворагу, у пачатку сакавіка 1324 г. тэўтоны выслалі атрад у 600 чалавек, які, абмінуўшы Гародню, напаў на маёнтак Давыда Верцілішкі і зруйнаваў яго. Былі забіты 33 чалавекі, забраны коні і шмат скаціны. Адказам на гэта



быў новы паход гарадзенскага старосты ў Мазовію, якая традыцыйна ўспрымалася ў ВКЛ як саюзнік Тэўтонскага ордэна.

У 1325 г. быў заключаны антынямецкі саюз Гедыміна з каралём Польшчы Уладзіславам Лакеткам (Лакатком), які прыкладаў энергічныя намаганні па збіранні раздробленых польскіх зямель. Польшча перажывала тады нялёгкія часы. Цэнтралізатарская пазіцыя Лакетка сустракала супраціўленне мясцовай польскай знаці. Правам на польскую карону фармальна валодаў чэшскі кароль Ян Люксембургскі. У 1308—1309 гг. Тэўтонскі ордэн падпарадкаваў сабе польскае Паморра з важнейшым портам на Вісле Гданьскам. Гэты факт аказаў вялізарнае значэнне на далейшае развіццё барацьбы з крыжакамі, бо Польшча, якая дагэтуль мела прыязныя і нават саюзныя адносіны з Тэўтонскім ордэнам, ператварылася ў яго зацятага ворага.

У 1326 г. быў арганізаваны сумесны паход Польшчы і ВКЛ, скіраваны на Брандэнбург. На чале сілаў Вялікага Княства стаяў Давыд Гарадзенскі. Аб'яднанае войска дасягнула Франкфурта-на-Одэры і павярнула назад. Палякі рушылі ў свае землі, а Давыд вырашыў па дарозе зачапіць Мазовію, дзе і быў забіты мазавецкім рыцарам Андрэем Гостам. У беларускай гістарыяграфіі прынята, што Гост быў падкуплены крыжакамі, аднак польскі храніст Ян Длугаш падае іншую версію, якая, як нам уяўляецца, больш адпавядае рэаліям таго суровага часу.

Нямецкія рыцар, пехацінец і арбалетчык пачатку XIV ст.



Па словах Длугаша, літвіны «шмат ганебных дапусцілі ў той выправе гвалтаў... зневажаючы святыні Божыя, кляштары і слуг касцёла, жанчын і дзяўчат... Рыцар адзін, паляк Енджэй з Мазовіі, хочучы адпомсціць за крыўды, нанесеныя яму і яго народу літвінам Давідам, старостам гартэнскім (гарадзенскім), змяшаўся з літоўскім войскам, тады з'ядналым з польскім каралём, і таго Давіда ў адсутнасць іншых забіў, сам жа ад літвінаў, якія спрабавалі яго дагнаць, уцёк»[27].

Гібель легендарнага кашталяна развязала рукі крыжакам, якія ў 1328 г. падступілі да Гародні. Большая частка войска схавалася, а меншая — 400 чалавек — стала знішчаць забудову перад замкам, а пасля адышла. Жыхары, вырашыўшы, што небяспека мінула, выйшлі з замка ў поле, і тут асноўныя сілы захопнікаў уварваліся ў замак, абрабавалі яго і спалілі. У 1334 г. у руках крыжакоў апынулася Бярэсце (Брэст), але хутка яны мусілі пакінуць гэты горад[28].



Гаршковы Вялікі шлем. XIV ст.

Нягледзячы на тое што ўвага лівонскіх рыцараў была занята ўнутранымі справамі, іх усё ж вабілі землі суседзяў, у тым ліку Полацка, які напачатку XIV ст. трапіў у часовую залежнасць ад рыжскага арцыбіскупа. Адразу ж за гэтым пачалося інтэнсіўнае пранікненне ў Полацкую зямлю нямецкіх феадалаў і насаджэнне там сваіх парадкаў, якія выклікалі незадавальненне палачан. У 1307 г. яны пазбавіліся занадта клапатлівых апекуноў, запрасіўшы на дапамогу вялікага князя літоўскага Віценя. Страта такога важнага апорнага пункта каланізацыі выклікала незадавальненне не толькі рыцараў, але і Папы Клемента V, які папракаў крыжакоў недастатковай стараннасцю. Але весці зацяжную барацьбу з балтаславянскай дзяржавай лівонцы былі ў той час не ў стане, таму ў 1323 г. быў падпісаны Віленскі дагавор, прычым пасрэднікамі выступілі рыжане. Дагавор з'явіўся важным дыпламатычным поспехам Вялікага Княства Літоўскага, але абсалютнага спакою ён гарантаваць не мог.

Ужо ў 1324 г. Гедымін скардзіўся, што рыцары напалі на Полацкую зямлю, якую яны «варожа разарылі, людзей і коней захапілі і павялі з сабой», а «праз 40 дзён яны зноў, як драпежныя ваўкі, жорстка спустошылі тую ж зямлю, бязлітасна забілі 80 чалавек, а некаторых павялі з сабой з 50 цудоўнымі конямі, вопраткай і іншым дабром,



якога не злічыць». Яшчэ больш павысілася агрэсіўнасць немцаў пасля 1330 г., калі ордэн здолеў падначаліць сабе Рыгу. У 1333 г. лівонскі магістр Эвергард з вялікім войскам і флотам быў пад Полацкам, але захапіць яго не здолеў. У 1334 г. каля Полацка з'явілася яшчэ адно войска крыжакоў на чале з магістрам і графам Арэнебергам. І зноў паход аказаўся безвыніковым: горад утрымаўся[29].

Не пакідалі тэўтоны і спроб захапіць землі Літвы. У 1348 г. сюды ўварваліся вялікія сілы крыжакоў, якія рабавалі літоўскія землі на працягу тыдня. У тэўтонскае войска ўваходзілі таксама рыцары з Англіі і Францыі. Вялікі князь Альгерд (1345—1377), заклікаўшы на дапамогу сілы з Бярэсця, Віцебска, Полацка, Турава і Пінска, а таксама са Смаленска і Уладзіміра-Валынскага, падышоў да р. Стрэве (правы прыток Нёмана). Тут, у раёне Коўна, адбылася бадай што самая зацятая бітва з крыжакамі з усіх, што адбываліся ў XIV ст. Бітва скончылася паражэннем войска Вялікага Княства Літоўскага, якое страціла дзясяткі тысяч забітымі. Загінуў у бітве і брат Альгерда Нарымонт, князь тураўскі і пінскі. Крыжакі ж панеслі адносна невялікія страты[30].

Падчас свайго праўлення Альгерд падзяліў Вялікае Княства Літоўскае на дзве часткі. Захоўваючы вярхоўную ўладу ва ўсёй дзяржаве, ён ажыццяўляў непасрэднае кіраўніцтва ва ўсходняй частцы з цэнтрам у Вільні. Заходняя ж частка дзяржавы (Жамойць, беларускае Панямонне, Берасцейшчына, Падляшша) кіравалася братам Альгерда Кейстутам. Галоўная рэзідэнцыя Кейстута, які «адказваў» за барацьбу з крыжакамі, знаходзілася ў Троках.

Пасля бітвы на Стрэве ў баявых дзеяннях паміж ВКЛ і ордэнам на нейкі час наступіла зацішша. З 1345 па 1360 г. прускія рыцары зрабілі ўсяго 10 паходаў на Вялікае Княства, лівонцы — 6 паходаў, а ў адказ было прадпрынята 10 набегаў. Гэта можа быць звязана з чарговай дыпламатычнай кампаніяй вакол магчымага хрышчэння літоўцаў альбо з эпідэміяй бубоннай чумы — «чорнай смерцю», якая ў 1349—1351 гг. спусташала прускія землі[31]. Тым не менш ужо ў 1356 г. гарадзенцы ўдзельнічалі ў паходзе на прускую правінцыю Аленштадт і аблозе горада Гутэнштадта, а ў пачатку лета 1362 г. маршал Прусіі Генінг Шындэкопф рушыў пад сцены Гародні з крыжацкім войскам. Рыцары ўжо сабраліся пераправіцца праз Нёман, але сустрэлі моцны адпор і адмовіліся ад спробаў захапіць горад.



Кракаўскі замак. Рэканструкцыя А. Іова і А. Башкова

Наступная спроба захапіць Гартэн, як называлі Гародню немцы, была зроблена ў лютым—сакавіку 1364 г., калі нямецкі князь Ханаў прывёў, на гэты раз з Лівоніі, вялікае войска, у якім былі «госці» з Еўропы, у тым ліку з далёкай Англіі. Але непрыступны замак выстаяў, і крыжакі абмежаваліся спусташэннем наваколля, што было зроблена з вялікай жорсткасцю. Няўдача напаткала крыжакоў таксама ў 1373 і 1375 гг., калі Гародня зноў выстаяла[32].

У 1373 г. тэўтонскія атрады з'явіліся ў Берасцейскім Пабужжы, разрабаваўшы Камянецкую зямлю, а ў чэрвені 1375 г. крыжакі, якіх узначальваў комтур Бальгі Тэадор фон Эльнер, аблажылі замак Бельск, а пасля перайшлі Белавежскую пушчу і зноў спустошылі Камянеччыну. Але ні ў першы, ні ў другі раз Камянецкі замак ім здабыць не ўдалося.

Не забываліся крыжакі пра Пабужжа і пазней. У 1379 г. сюды зноў прыйшоў з войскам той жа самы комтур Тэадор фон Эльнер, які, пасля няўдалай аблогі замка Мельнік, спустошыў Камянецкую зямлю, але зноў не змог узяць замак. Не здолеў захапіць Эльнер і Берасцейскі замак, хоць і спаліў неўмацаваны пасад. Увогуле той факт, што замкі пабужскага рэгіёна ніколі не былі ўзятыя, сведчыць пра адсутнасць у

атрадах тэўтонаў, што прыходзілі сюды, аблoжнай тэхнікі, якую цяжка было везці праз пушчу[33].

У 60—70-х гадах XIV ст. арэнай зацятай барацьбы з крыжакамі зноў робіцца Полаччына, абарона якой была звязана з імем полацкага князя Андрэя, сына вялікага князя літоўскага Альгерда і яго першай жонкі, віцебскай князёўны Марыі. Ужо ў 1366 г. Полацку давялося вытрымаць нападзенне магістра Вільгельма, які 15 сакавіка прывёў сюды свае войска. 24 красавіка 1373 г., па словах нямецкага храніста Г. Вартберга, «Андрэй, полацкі князь, быў са сваімі людзьмі перад замкам Дынабургам, дзе ён захапіў некаторых з нашых і павёў з сабой». У далейшым Андрэй Альгердавіч асноўныя баявыя дзеянні вёў з рыцарамі менавіта гэтага замка, які знаходзіўся ў непасрэднай блізкасці ад Полацка і пастаянна пагражаў тэрыторыі Полаччыны.

Так, 21 верасня 1374 г. «дынабургскі комтур з 100 сваіх людзей рушыў сухім шляхам у Рутэнію», на Полацк. У гэты самы час Андрэй падышоў да Дынабурга, забраў усю скаціну комтура і сялян і, даведаўшыся аб адсутнасці комтура, паслаў за ім у пагоню 250 чалавек, а сам заняўся спусташэннем суседніх зямель. Аднак комтур дазнаўся пра гэта і іншай дарогай вярнуўся назад. На другі дзень да Дынабурга падышоў атрад палачан колькасцю ў 50 чалавек, які вяртаўся з Разітэна, «дзе ён там усё спустошыў». Атрад меў намер затрымаць комтура каля замка, між тым як асноўныя сілы палачан працягвалі б пустошыць лівонскія землі. На жаль, гэты план сарваўся з-за здрадніка, які раскрыў намеры Андрэя.



Стральба з каменекідальнай машыны («бліды»)

На пачатак 1375 г. быў задуманы вялікі паход у Лівонію, у якім прымалі ўдзел палачане Андрэя, літоўцы, якіх, верагодна, узначаліў Кейстут, а таксама віцебскія і смаленскія палкі. 2 сакавіка беларуска-літоўскія атрады ўварваліся на землі ордэна і спустошылі некаторыя землі, у тым ліку маёнткі рыжскага арцыбіскупа. Па-





ход ускладнялі вялікі мароз і снег. Але тым не менш войскі шчасліва вярнуліся назад, ведучы палонных. Адказам на гэта быў наезд 6 красавіка таго ж года на землі Полацка.

3 лістапада 1375 г. Андрэй зноў рушыў «са ўсёй сваёй конніцай і ладдзямі да замка Дынабург». Замак захоплены не быў, але палачане знішчылі ўвесь фураж крыжакоў, узялі палонных і забралі скаціну. Крыжацкі храніст піша, што вынікі паходу адчуваліся ў Дынабургу на працягу цэлага года.

Для барацьбы з лівонцамі палачане пабудавалі за 11 міль ад Дынабурга Новы замак (цяпер гэта Друя). 12 жніўня 1376 г. дынабургскі комтур з рыцарамі з Разітэна і Зельбурга з'явіліся «перад Новым замкам у Літве па той бок Дынабурга». Знішчыўшы запасы сена і жыта, рыцары захапілі палонных і, падпаліўшы мост, адышлі. А ў гэты час князь Андрэй з вялікім войскам на 100 караблях спусціўся да замка Разітэна. Палачанамі былі спустошаны ўсе ваколіцы горада, але, калі верыць нямецкаму храністу, лівонцы захапілі ўсе яго караблі.

24 жніўня 1377 г. Новы замак палачан зноў падвергся нападу вялікага крыжацкага войска, якое вялі ўверх па Дзвіне «магістр і ордэнскія чыны». Крыжакі паставілі насупраць замка 4 кідальныя машыны і 2 т. зв. «гукі» (напэўна, бамбарды). «Дзён трынаццаць магістр храбра, з вялікімі намаганнямі і старанна працаваў увесь час пры аблозе гэтага замка, але не дасягнуў нічога»[34].



# Барацьба з тэўтонамі ва ўмовах дынастычнага крызісу ў Вялікім Княстве Літоўскім

**У маі** 1377 г. адбылася падзея, якая кардынальна змяніла дагэтуль адносна стабільную ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Вялікім Княстве Літоўскім. Памёр вялікі князь літоўскі Альгерд, пры якім да дзяржавы былі далучаны вялізарныя тэрыторыі на ўсходзе і які прад'яўляў прэтэнзіі на непадзельнае дамінаванне ў рэгіёне. Смерць грознага манарха, які меў не толькі нешараговыя здольнасці палітычнага дзеяча, але і шмат сыноў, востра паставіла пытанне аб спадкаемцы велікакняскага стала. Насуперак спадзяванням старэйшых сыноў, Альгерд прызначыў сабе пераемніка ў асобе Ягайлы, які быў старэйшым сынам, але ад другога шлюбу, заключанага Альгердам з цвярской князёўнай Юльянай. На момант смерці бацькі Ягайлу, які нарадзіўся недзе паміж 1350 і 1355 г., было самае большае 27 гадоў.

Рашаючы ўплыў аказала на выбар Альгерда пазіцыя маці Ягайлы — Юльяны. Аднак рэальны падмурак трываласці пазіцый Ягайлы ў пачатку яго праўлення забяспечыла падтрымка з боку брата і фактычнага суправіцеля Альгерда — Кейстута, які карыстаўся аграмадным аўтарытэтам не толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім, але і па-за яго межамі. Тым не менш ужо ў 1377 г. Ягайла сутыкнуўся з рэальнай апазіцыяй з боку незадаволеных князёў. У сярэдзіне ліпеня ўкраінскія землі Вялікага Княства былі атакаваны сіламі Людовіка Анжуйскага, які з'яўляўся адначасова венгерскім і польскім каралём. Ратненскі князь Фёдар Альгердавіч, Любарт Валынскі і Карыятавічы, што мелі ўладанні на Валыні, прызналі ўладу Людовіка. Супраціўленне было аказана толькі белзскім князем Юрыем Нарымунтавічам, на дапамогу якому Кейстут паслаў аднаго са сваіх сыноў. Аднак апошні трапіў у палон да венграў, а Юрый Нарымунтавіч таксама паддаўся Людовіку. Цалкам верагодна, што гэта стала вынікам змовы князёў, якія былі незадаволены прыходам да ўлады Ягайлы і спадзяваліся з польска-венгерскай дапамогай адабраць ад яго велікакняскі трон.

Верагодна, разумеючы рэальнасць змовы князёў, Альгерд зімой 1377/78 г. выгнаў з Полацка Андрэя Альгердавіча, нягледзячы на тое што раней сам пацвердзіў яго права на полацкі пасаг. Андрэю, які карыстаўся вялікай папулярнасцю ў палачан і ўвогуле на праваслаўных землях «Русі», заставалася адзінае выйсце — аддацца пад апеку маскоўскага князя Дзмітрыя і з яго дапамогай паспрабаваць вярнуць страчаныя землі. Вынікам гэтага кроку стаў паход на ноўгарад-



Пячатка Кейстута. 1379 г.

северскія землі, арганізаваны Дзмітрыем ужо зімой 1379/80 г. Апроч Андрэя Альгердавіча ў ім браў удзел Дзмітрый Міхайлавіч Карыятавіч Валынскі. Пасля захопу Трубчэўска да іх далучыўся трубчэўскі князь Дзмітрый Альгердавіч. Такім чынам, з-пад улады Ягайлы фактычна выйшлі Валынь, Падолле і Севершчына[35].

Неспакойна было і на паўночна-заходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага. Спадзеючыся на аслабленне дзяржавы пасля смерці Альгерда, крыжакі ў верасні 1377 г. здзейснілі паход на Жамойць, у снежні — на ваколіцы Коўна і на Гродзеншчыну. У наступным годзе яны двойчы — з Прусіі і Лівоніі — атакавалі землі Вялікага Княства. У 1379 г. нападам ордэна падвергліся Жамойць, Літва па р. Вілію, Падляшша ажно да Гродна. У адказ прадпрымаліся неадэкватныя меры, якія ў асноўным зводзіліся да абароны Вільні і Трок ці невялікіх паходаў на крыжацкія землі. Існавала пагрозлівая магчымасць падтрымкі лівонскімі рыцарамі Андрэя Полацкага.

У складанай для сябе сітуацыі Ягайла прадпрыняў пэўныя дыпламатычныя крокі, мэтай якіх было заручыцца падтрымкай асноўных суседзяў ва ўмацаванні ўлады ўнутры дзяржавы. Летам 1379 г. па даручэнню вялікага князя за мяжу выехаў ягоны малодшы брат Скіргайла. Ён сустракаўся з магістрам Тэўтонскага ордэна, засведчыўшы гатоўнасць прыняць хрост, а ў жніўні — з Людовікам Анжуйскім. Юрый Нарымунтавіч быў вызвалены, хоць пад уладай Людовіка заставаліся Фёдар, Любарт і Карыятавічы. Аднак большых вынікаў місія Скіргайлы не прынесла. Больш таго, у гэты час над Вялікім Княствам навісла новая сур'ёзная пагроза, звязаная са знешнепалітычнымі інспірацыямі крыжакоў.

29 верасня 1379 г. Ягайла і Кейстут заключылі ў Троках мір з ордэнам тэрмінам на 10 гадоў. Крыжакі абавязваліся ўстрымацца ад наездаў на шэраг зямель Вялікага Княства Літоўскага па гарады Ваўкавыск, Сураж, Драгічын, Мельнік, Бельск, Камянец і Гродна, якія знаходзіліся ў непасрэдным падпарадкаванні Кейстута. Пасля гэтага крыжацкія паслы скіраваліся ў Вільна, дзе вялі патаемныя перамовы з Ягайлам. У наступным, 1380 г. апошні, таксама патаемна, заключыў

27 лютага ў Рызе мір з лівонскімі рыцарамі, які не распаўсюджваўся на землі Кейстута. І хоць Ягайла нейкі час працягваў дзейнічаць сумесна са сваім дзядзькам, пазначылася тэндэнцыя па ягонаму аддаленню ад фактычнага кіраўніка заходніх зямель дзяржавы. 21 мая вялікі князь заключыў новы, бестэрміновы мір з крыжакамі, паводле якога абяцаў не дапамагаць Кейстуту бараніць ягоныя ўладанні. Перамовы зноў жа насілі патаемны характар, хоць на іх прысутнічаў сын Кейстута Вітаўт, гарадзенскі князь. Гэта тлумачылася найперш імкненнем Ягайлы пазбавіцца апекі з боку Кейстута і атрымаць рэальную ўладу ў Вялікім Княстве[36].

Не выключана, што адначасова мелася на мэце заручыцца спакоем на захадзе для таго, каб развязаць сабе рукі на ўсходзе. Падобная справа ўяўлялася надзвычай надзённай у святле пераходу старэйшых братоў Ягайлы пад пратэктарат маскоўскага князя Дзмітрыя. Практычныя крокі ў гэтым напрамку выявіліся ў заключэнні ў 1380 г. саюзу з фактычным кіраўніком Залатой Арды Мамаем, які імкнуўся аднавіць кантроль над Масквой пасля паражэння татараў у бітве на рацэ Вожа ў 1378 г. Да саюзу далучыўся і разанскі князь Алег, дачка якога была выдадзена замуж за малодшага брата Ягайлы Карыбута. Рэальнае месца Алега ў антымаскоўскай кааліцыі вызначыць цяжка, аднак не выключана, што ён нават з'яўляўся яе ініцыятарам.

У жніўні 1380 г. татарскія сілы рушылі на рускія землі. Спатканне войск саюзнікаў было прызначана на 1 верасня. Аднак Ягайла, у войску якога апроч уласных сілаў маглі нават знаходзіцца крыжакі, не спяшаўся злучыцца з татарамі. Напэўна, часткова гэта было абумоўлена тым, што Алег разанскі, застрашаны Дзмітрыем, адмовіўся ад выступлення. Аднак вялікую ролю ў нерашучасці Ягайлы павінна была адыгрываць нестабільнасць яго ўнутрыпалітычнага становішча. На баку Дзмітрыя змагаліся мяцежныя Альгердавічы, якія маглі разлічваць на сімпатыю пэўнай часткі літоўскай знаці і феадалаў літоўскай Русі[37].

8 верасня 1380 г. на Куліковым полі, што на берагах Дона, адбылася бітва маскоўскіх і татарскіх войскаў. Яна скончылася поўным разгромам войскаў Мамая, пры-



Скіргайла.
Гравюра канца XVI ст.



чым выдатна зарэкамендавалі сябе літоўскія князі, якім шэраг крыніц прыпісвае ледзь не вядучую ролю ў кіраванні рускімі сіламі. Войскі Ягайлы так і не прынялі ўдзелу ў бітве і толькі ў яе канцы ўдарылі на маскоўскія атрады і захапілі ў іх значную частку здабычы.

Перамога Дзмітрыя, які атрымаў пасля Кулікоўскай бітвы прыдомак «Данскі», пагоршыла знешнепалітычнае становішча Вялікага Княства Літоўскага і персанальна Ягайлы, прэстыж якога яшчэ больш упаў. З вясны 1381 г. кіеўскі мітрапаліт Кіпрыян перанёс сваю рэзідэнцыю ў Маскву, што скіроўвала ў яе бок позіркі значнай часткі праваслаўнага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Алег разанскі мусіў разарваць саюз з Ягайлам і прыняць бок Масквы. Вясной 1381 г. жыхары Полацка з ганьбай выгналі брата і стаўленіка Ягайлы Скіргайлу, спаслаўшыся на яго прыналежнасць да паганства. На скарэнне горада былі пасланы ўзброеныя сілы, якія трымалі Полацк у аблозе з 10 жніўня да 16 лістапада. Скіргайла звярнуўся па дапамогу да лівонскіх рыцараў, палачане — да Ноўгарада Вялікага. Бачачы бесперспектыўнасць сілавога рашэння праблемы, Скіргайла прыняў праваслаўе пад імем Іван. Аднак далейшае развіццё падзей было парушана канфліктам паміж Ягайлам і Кейстутам. Яно заклала падмуркі супрацьстаяння ў Вялікім Княстве Літоўскім, якое давала сябе знаць ажно да сярэдзіны XV ст.

Знешнепалітычная актыўнасць Ягайлы паступова пачала непакоіць ягонага дзядзьку і апекуна — Кейстута. Яшчэ адной праявай дэманстратыўнай самастойнасці маладога манарха стала ігнараванне старой знаці на карысць менш тытулаваных асоб. Найбольш паказальным з'яўляецца ўзвышэнне нейкага Вайдылы, былога нявольніка, які быў аблашчаны яшчэ Альгердам. Пасля смерці апошняга ён здолеў увайсці ў такі давер да Ягайлы, што той аддаў за яго сваю родную сястру Марыю. Крыжакі імкнуліся нагнятаць сітуацыю, даносячы да Кейстута чуткі аб планах Ягайлы ў саюзе з ордэнам перадаць ягоныя землі таму ж самаму Вайдылу.

Падазрэнні Кейстута аб змове Ягайлы з крыжакамі імкнуўся развеяць ягоны сын Вітаўт, які знаходзіўся з Ягайлам у прыязных адносінах. Аднак падазрэнні паступова перарасталі ва ўпэўненасць, асабліва пасля крыжацкіх рэйдаў у лютым і чэрвені 1381 г., падчас якіх Кейстут так і не дачакаўся дапамогі ад свайго пляменніка. Як бы рыхтуючыся



да выправы супраць ордэна, стары князь у канцы кастрычніка сабраў войска і, скарыстаўшы знаходжанне сілаў Ягайлы пад Полацкам, раптоўна захапіў Вільню. У рукі Кейстута трапіў сам Ягайла з ягонай маці Юльянай. Былі знойдзены і граматы сакрэтных пагадненняў з немцамі. Выклікаўшы да сябе праз ганцоў Вітаўта, Кейстут паказаў яму граматы як сведчанне Ягайлавай здрады. Было вырашана не забіваць Ягайлу, але, пазбавіўшы яго вярхоўнай улады ў дзяржаве, перадаць яму бацькоўскую вотчыну з Віцебскам і Крэвам. Ягайла мусіў падпісаць спецыяльны дакумент, у якім адракаўся ад улады і запэўніваў Кейстута ў вечнай вернасці і паслушэнстве. Прысягу новаму манарху, абстаўленую язычніцкімі рытуаламі, павінны былі прынесці і іншыя ягоныя пляменнікі[38].

Пазбаўленне Ягайлы ўлады часткова прывяло да прымірэння з апальнымі Альгердавічамі. Полацкі стол зноў заняў Андрэй, бранскі — Дзмітрый. Севершчына дасталася малодшаму брату Ягайлы Карыбуту, тады як ён сам скіраваўся спачатку ў Крэва, а затым у Віцебск. Скіргайла, так і не здзейсніўшы свой намер умацавацца ў Полацку, збег у Лівонію. Адначасова былі наладжаны кантакты Кейстута з Дзмітрыем Данскім.

Усе сілы, якія вызваліліся пасля ўладкавання праблем на ўсходзе, Кейстут кінуў на барацьбу з крыжакамі. Былі здзейснены паходы на землі ордэна і адбіты рэйды ў адказ. Аднак сітуацыя зноў ускладнілася, калі на ўсходзе дзяржавы падняў мяцеж северскі князь Карыбут. Пакінуўшы ў Літве Вітаўта, Кейстут з войскам скіраваўся на расправу з непакорным васалам. Ягайлу таксама было загадана рушыць на дапамогу свайму цяперашняму сюзэрэну. Аднак падтрымка ненавіснага дзядзькі не ўваходзіла ў планы Ягайлы, які паразумеўся з Карыбутам і, скарыстаўшы адсутнасць у Вільні Кейстута з войскам, 12 чэрвеня 1382 г. захапіў сталіцу дзяржавы.



Трокскі замак на паўвостраве



Вітаўт, які рушыў з войскам да Вільні, быў разбіты і мусіў уцякаць да Гродна. Пасля гэтага 20 ліпеня Ягайлам была занята і другая сталіца Вялікага Княства Літоўскага — Трокі.

Важную ролю ў зыходзе канфлікту адыграла пазіцыя віленскіх мяшчан, якія падтрымалі Ягайлу. У значнай ступені яна абумоўлівалася неабходнасцю правядзення гандлю з Рыгай, які сустракаўся б з сур'ёзнымі перашкодамі ва ўмовах непрымірымай антыкрыжацкай палітыкі Кейстута. На думку некаторых польскіх даследчыкаў, найбольшай актыўнасцю падчас вяртання Ягайлам улады ў Вільні вызначылася невялікая нямецкая калонія на чале з нейкім Ганулам, ці Гансам, з Рыгі.

Ужо пад Трокамі выявілася і пазіцыя крыжакоў, якія на чале з маршалам ордэна фон Гутэнштэйнам рушылі сюды і паспяшаліся развеяць сумненні Ягайлы, перадаўшы праз паслоў, што яны ідуць яму на дапамогу. 6 ліпеня 1382 г. непадалёк ад Трокаў было заключана новае пагадненне з крыжакамі. Немцы абяцалі не дапамагаць Кейстуту і яго сынам і захоўваць нейтралітэт да 8 верасня. Прысутнасць крыжакоў самым непасрэдным чынам паўплывала і на хуткую здачу трокскага гарнізона. Пасля пытання маршала ордэна, каму яны хочуць здацца, крыжакам ці Ягайлу, абаронцы, пасля нядоўгага роздуму, выбралі апошняга.

Кейстут, даведаўшыся пра падзеі ў Літве, скіраваўся ў Гродна, дзе знаходзіліся яго сын Вітаўт і жонка Бірута. Адтуль ён, імкнучыся заручыцца падтрымкай сваіх суседзяў, звярнуўся па дапамогу да свайго зяця, мазавецкага князя Януша, і да брата Любарта на Валыні. Аднак Януш не толькі не аказаў чаканай дапамогі, але наадварот, скарыстаўшы цяжкое становішча свайго свёкра, захапіў Драгічын і Мельнік, пустошачы па ходу справы Бельскую і Берасцейскую землі. Пакінуўшы Вітаўта ў Гродне, Кейстут скіраваўся ў Жамойць, дзе разлічваў сабраць пэўныя сілы. Пасля некаторага вагання жамойты прадставілі ў распараджэнне Кейстута некалькі тысяч воінаў. Разам з імі, а таксама з падляшскімі і гродзенскімі атрадамі стары князь напачатку ліпеня 1382 г. рушыў пад Трокі. У яго войску знаходзіліся і нязначныя сілы з Валыні, прысланыя Любартам. Усяго войска Кейстута магло налічваць каля 5 тысяч чалавек.

Войскі варагуючых бакоў сутыкнуліся 3 жніўня і спыніліся адно супраць аднаго на адлегласці трох ці чатырох стрэлаў з луку. Жа-

даючы прадухіліць узброенае сутыкненне, Ягайла запрасіў Вітаўта і Кейстута на перамовы. Гарантыю недатыкальнасці абодвум князям ад свайго імя і ад імя Ягайлы пад прысягай даў Скіргайла. Аднак неўзабаве Ягайла парушыў сваю прысягу. Заманіўшы Кейстута і Вітаўта ў Вільню, ён загадаў закаваць свайго дзядзьку і стрыечнага брата ў кайданы, замкнуўшы пасля гэтага іх у вязніцы Крэўскага замка. Як сведчаць хронікі, там Кейстут быў задушаны каморнікамі Ягайлы. Гэта здарылася каля 15 жніўня 1382 г. Быламу ўладальніку заходняй паловы дзяржавы і грaзе крыжакоў было наладжана пышнае пахаванне ў Вільні з захаваннем багатага паганскага рытуалу. Разам з нябожчыкам былі спалены коні, шаты, зброя, паляўнічыя сокалы і сабакі[39].



Крэўская вежа. Выгляд пачатку XX ст.

Аднак, нягледзячы на запозненыя знакі павагі да Кейстута, на Ягайлу падала падазрэнне ў імкненні да вынішчэння ўсяго роду старога князя. У тым ліку ён абвінавачваўся ў забойстве Біруты і падрыхтоўцы смерці Вітаўта. Прынамсі, калі апошні звярнуўся да Ягайлы з просьбай перадаць яму спадчыну бацькі разам з Трокамі, то яму было адмоўлена, а Трокі былі перададзены Скіргайлу. У дачыненні да прыхільнікаў Кейстута распачаліся рэпрэсіі. Не жадаючы паўтарыць лёс бацькі, Вітаўт збег з Крэўскага замка, як сведчыць летапіс, пры дапамозе сваёй жонкі Ганны. Менавіта яна падвучыла мужа пераапрануцца ў жаночую вопратку і тым самым падмануць варту[40].





Герб
Конрада Валенрода

Вырваўшыся з няволі, Вітаўт скіраваўся ў Мазовію, але, не сустрэўшы там чаканай спагады (Януш і не збіраўся аддаваць яму захопленай часткі Падляшша), вырашыў шукаць дапамогі ў крыжакоў. На землях ордэна, куды Вітаўт прыбыў у канцы 1382 г., яго прыняў маршал Конрад Валенрод. Кейстутавіч прызнаў сюзэрэнітэт ордэна, спадзеючыся з яго дапамогай вярнуць спадчыну бацькі. Гэта распачало новы перыяд унутрыпалітычнага, дакладней дынастычнага, супрацьстаяння ў Вялікім Княстве Літоўскім, падчас якога шырока выкарыстоўваліся войскі суседняй, больш таго, варожай дзяржавы.

Пераход Вітаўта пад пратэктарат Тэўтонскага ордэна зноў ускладніў становішча Вялікага Княства, якое, здавалася, троху палепшылася пасля смерці 11 верасня 1382 г. венгерскага і польскага караля Людвіка Анжуйскага. Карыстаючыся зручным момантам, у тым ліку нарастаючымі ўзаемнымі непаразуменнямі паміж Венгрыяй і Польшчай, літоўскія князі занятых раней Людвікам тэрыторый спяшаліся прызнаць уладу Ягайлы. Вельмі спрыяльным для Ягайлы стаў захоп і знішчэнне ў жніўні 1382 г. Масквы татарамі на чале з ханам Тахтамышам. Мітрапаліт Кіпрыян мусіў пакінуць Маскву і зноў вярнуцца ў Кіеў, які знаходзіўся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Тым самым праваслаўнаму насельніцтву Русі было падспудна дадзена зразумець, хто на той час з'яўляўся больш надзейнай абаронай ад «басурман».

Гэта дазваляла Ягайлу больш увагі звярнуць на заходні вектар знешняй палітыкі дзяржавы. У кастрычніку 1382 г. на востраве ля ўпадзення ў Нёман р. Дубісы адбыўся з'езд літоўскіх князёў з вярхушкай Тэўтонскага ордэна. Ад літвінскага боку прысутнічаў Ягайла са сваёй маці і малодшымі братамі, ад крыжакоў — маршал Конрад Валенрод, лівонскі магістр і інш. Ягайла ўзяў на сябе абавязак на працягу 4 гадоў захоўваць мір з ордэнам і нават больш таго, дапамагаць яму ва ўсіх войнах, без дазволу крыжакоў не пачынаць вайны з іншымі дзяржавамі. Сам Ягайла з братамі абавязваўся прыняць хрост і ахрысціць Літву. І нарэшце, ці не найбольш жаданай для ордэна была саступка яму большай часткі Жамойці паміж крыжацкімі ўладаннямі і р. Дубісай. Тым самым спрадвечная мара крыжакоў аб з'яднанні прускай і лівонскай частак ордэна станавілася блізкай да здзяйснення.

Гэты крок Ягайлы, здавалася б, мала вытлумачальны, відавочна, меў на мэце прапанаваць ордэну больш выгадныя ўмовы, чым тыя,

якія ён мог атрымаць ад збеглага Вітаўта. Напэўна, ісці на рэальнае выкананне ўзятых на сябе абавязацельстваў Ягайла не збіраўся, жадаючы толькі нейтралізаваць крыжакоў у справе дынастычнай барацьбы Альгердавіча і Кейстутавіча. Завярэнне пагаднення пячаткай Ягайлы, што азначала б яго ратыфікацыю, было адкладзена да моманту наступнай сустрэчы[41].

Спачатку крыжакі, пэўна, мелі ілюзіі наконт сапраўдных намераў Ягайлы. Прынамсі, інфармуючы ў канцы 1382 г. Ягайлу аб прыбыцці ў Прусію Вітаўта і пытаючы, ці не жадае вялікі князь вярнуць свайму стрыечнаму брату хоць частку ўладанняў яго бацькі, яны рабілі гэта вельмі асцярожна. Натуральна, што Вітаўту было адмоўлена ў праве на спадчыну Кейстута, але сам факт зацікаўленасці ордэна ў літвінскіх справах даў Ягайлу падставу абвінаваціць крыжакоў у прадстаўленні прытулку ягоным ворагам.

Не спрыяла паляпшэнню літоўска-крыжацкіх адносінаў і вайна з Янушам Мазавецкім, якую Ягайла, не параіўшыся з ордэнам, пачаў у сакавіку 1383 г. Мэтай гэтай паспяховай для літвінаў вайны было вяртанне захопленага мазаўшанамі Падляшша. У рэшце рэшт магістр ордэна Конрад фон Цольнер запатрабаваў паўторнага з'езду і рэальнага ўвасаблення прынятых Ягайлам абавязацельстваў. Спатканне было прызначана на тым самым востраве пры ўпадзенні Дубісы ў Нёман на 20 мая 1383 г. У далейшым час з'езду быў перанесены на 19 ліпеня. На ўмоўленае месца абодва бакі з'ехаліся з вялікімі вайсковымі сіламі. У тым ліку ў крыжацкім войску мелася 3 тысячы жамойтаў на чале з Вітаўтам. Для ажыццяўлення абяцанага Ягайлам хрышчэння на месца сустрэчы прыехалі таксама два прускія біскупы.

Аднак сустрэча была фактычна сарвана. Калі магістр, спыніўшыся ў Мемелі, запрасіў да сябе Ягайлу, той адказаў, што ён гатовы зрабіць гэта, але не гатовыя ягоныя паны. Зразумеўшы, што папярэднія абяцанні літвіна былі хітрым дыпла-

Віленскі Верхні замак. Рэканструкцыя





матычным крокам, крыжакі не сталі стрымліваць сябе ў выказванні эмоцый. Да Ягайлы быў накіраваны абразлівы ліст (не называўся нават яго афіцыйны тытул) з абвяшчэннем вайны.

Менавіта ў гэты час адбылася чарговая змена знешнепалітычных сімпатый кіраўніцтва дзяржавы. Даследчыкі мяркуюць, што праўдападобна ў 1383—1384 гг. Ягайла заключыў мірнае пагадненне з Дзмітрыем Данскім, напэўна, інспіраванае княгіняй Юльянай. Паводле ягоных умоў, Ягайла павінен быў ажаніцца з дачкой маскоўскага князя, «быці ў іх волі» і хрысціцца па праваслаўнаму абраду. Як і Дубіскае пагадненне, пагадненне з Дзмітрыем было для Ягайлы крайне нявыгадным. Пэўнае заспакаенне праваслаўнага насельніцтва дзяржавы кампенсавалася патэнцыяльным незадавальненнем паганскай Літвы, не кажучы ўжо пра тое, што прыняцце хрысціянства па ўсходняму ўзору не гарантавала спынення крыжацкай агрэсіі з захаду. Не адпавядала рэальнай расстаноўцы сіл у рэгіёне абяцанне Ягайлы «быці ў волі», г. зн. у васальнай залежнасці ад Дзмітрыя, перажыўшага да таго ж незадоўга перад гэтым жахлівы татарскі пагром. Аднак, як паказаў час, гэтае пагадненне, падобна як і аналагічныя ж пагадненні з крыжакамі, было толькі дыпламатычнай гульнёй Ягайлы, закліканай забяспечыць супакой папераменна то на захадзе, то на ўсходзе, каб развязаць сабе рукі для вырашэння найбольш актуальных праблем[42].

Яшчэ адна асаблівасць у вызначэнні знешнепалітычных прыярытэтаў Вялікага Княства Літоўскага ў гэты час была звязана з вяртаннем у 1383 г. Падляшша. Імкнучыся ўсталяваць трывалыя гандлёвыя сувязі з Польшчай, Ягайла ўжо 15 чэрвеня ў Вільні выдаў прывілей люблінскім мяшчанам, якія атрымалі права вольнага гандлю ў яго ўладаннях. У такіх абставінах і распачаліся ваенныя дзеянні з Тэўтонскім ордэнам, натхняльнікам якіх стаў энергічны Вітаўт. Сабраўшы ў Жамойці значныя вайсковыя сілы, ён разам з крыжацкай арміяй з'явіўся 11 жніўня 1383 г. пад Трокамі і ўжо на наступны дзень заняў горад. Пра тое, чые канкрэтна інтарэсы меліся на ўвазе падчас выправы, сведчыць перадача магістрам ордэна Трокаў Вітаўту як ягонай «вотчыны». Далей шлях крыжакоў ляжаў на Вільню. Яго «руская» частка была спалена, а ваколіцы горада спустошаны, але большага Вітаўту і немцам дамагчыся не ўдалося. Больш таго, пасля вяртання крыжакоў у Прусію Ягайла са Скіргайлам 24 верасня падышлі да Трокаў і захапілі іх 3 лістапада.





Такім чынам, кампанія 1383 г. скончылася нічым.

Між тым супрацоўніцтва з ордэнам абяцала ў перспектыве прынесці Вітаўту выгады значна большыя, чым тыя, якія ён спадзяваўся атрымаць ад Ягайлы нават пры самым спрыяльным збегу абставін. Крыжакі выношвалі планы адхілення Ягайлы ад улады і замены яго на Вітаўта, які бачыўся марыянеткай у руках братоў-рыцараў. Першым крокам у гэтым кірунку мусіў стаць урачысты хрост Кейстутавіча, які адбыўся 21 кастрычніка ў Тапяў. Вітаўт атрымаў імя Віганд, у гонар свайго хроснага бацькі, комтура Рагнеты Віганда фон Бальдэршэйма. У якасці лена новаахрышчанаму князю перадаваўся замак Марыенборг на памежжы ордэна і Літвы. Аднак за падтрымку ў якасці кандыдатуры на літоўскі трон Вітаўт абяцаў заплаціць крыжакам вельмі вялікую цану: 30 студзеня 1384 г. у сталіцы Тэўтонскага ордэна Мальбарку ён выдаў акт, паводле якога перадаваў сваім саюзнікам усю Жамойць па Невяжу і частку Літвы па Румшышкі. Усе землі, якія ў далейшым яму ўдалося б адваяваць у Ягайлы, ён павінен быў прыняць з рук крыжакоў у якасці лена. Каб пазбегнуць незадавальнення літоўскай знаці, сярод якой Вітаўт карыстаўся грамадным аўтарытэтам і многія прадстаўнікі якой спадарожнічалі яму ў выгнанні, хрост Кейстутавіча вырашылі трымаць у сакрэце[43].



Трокскі замак

Для рэалізацыі амбітных планаў ордэна і Вітаўта ў маі 1384 г. на землі Вялікага Княства Літоўскага рушыла грандыёзная выправа, у якой магло прымаць удзел да 40 тысяч чалавек на чале з вялікім магістрам. Ужо ў тым жа маі было захоплена Коўна. Ковенскі замак быў разбураны, а побач крыжакі ўзвялі новы, які назвалі Новы Марыенвердэн. Ён павінен быў стаць апорнай базай далейшага прасоўвання немцаў на землі Літвы. Аднак «грандыёзная» выправа на справе мела даволі сціплыя вынікі. Комтур Рагнеты, узяўшы 500 чалавек, спрабаваў

атакаваць пад Вількамірам літвінскія войскі на чале з Скіргайлам, але 25 мая пацярпеў паражэнне. Пасля гэтага магістр вырашыў адкласці працяг кампаніі на наступны год.

Разам з тым кампанія паказала, што саюз крыжакоў з Вітаўтам, які меў значных прыхільнікаў у Вялікім Княстве Літоўскім, мог прывесці да вельмі небяспечных вынікаў для Ягайлы. Ён памятаў, што ў рэшце рэшт немцы дагэтуль адыгрывалі далёка не апошнюю ролю ў ходзе дынастычнай барацьбы, у тым ліку ў яго супрацьстаянні з Кейстутам. Вярнуць сабе прыхільнасць ордэна ён быў ужо не ў стане. Заставалася адзінае выйсце, каб парушыць небяспечны альянс, — перацягнуць на свой бок Вітаўта. З гэтай мэтай да Кейстутавіча напраўляліся паслы, якія сведчылі гатоўнасць Ягайлы вярнуць яму бацькаву спадчыну.

9 ліпеня 1384 г. Вітаўт прыняў прапанову свайго стрыечнага брата. Распусціўшы чуткі, што Ягайла збіраецца напасці на Рагнету, ён сабраў свае сілы, размешчаныя ў перададзеным яму крыжакамі Марыенборгу, і рушыў нібыта супраць літвінаў. Уведзеныя ў зман крыжакі таксама скіраваліся да месца мяркуемага нападзення. Скарыстаўшы гэта, Вітаўт спаліў практычна безабаронныя замкі Юрбарк, Новы Баерн і ўласны Марыенборг. Пасля гэтага, з'явіўшыся пры двары Ягайлы, ён мог з поўным правам спадзявацца на выкананне абяцанага. Аднак, як пазней жаліўся Вітаўт, «князь Ягайла прысягі сваёй не выканаў, і адышоў ад уласнай дамовы, і дзядзіцтва майго па айцу мне не выдаў, але дзядзіцтва маё айцоўскае даў брату свайму, князю Скіргайлу». Ягайла абмежаваўся перадачай Вітаўту толькі часткі абяцанай спадчыны з гарадамі Гродна, Брэст, Драгічын, Мельнік, Бельск, Сураж, Камянец і Ваўкавыск, ды і тое ўзамен прыняцца прысягі на вернасць.

Па словах Вітаўта, Ягайла прымусіў яго таксама прыняць хрост, цяпер ужо па праваслаўнаму абраду, пад імем Аляксандр. Аднак, магчыма, ён быў заахвочаны да гэтага абяцаннем дадаць да перададзеных яму зямель яшчэ і Луцк. Тым не менш гэты горад ён атрымаў у сваё распараджэнне толькі ў 1392 г. Заахвочванне Вітаўта да прыняцця праваслаўя мела, напэўна, дзве мэты. З аднаго боку, яно мусіла яшчэ больш настроіць супраць Кейстутавіча былых саюзнікаў — крыжакоў, а з другога — па магчымасці аслабіць яго аўтарытэт сярод паганскага насельніцтва Літвы, дзе аўтарытэт яго бацькі быў асабліва моцны.



Луцкі замак

Знакам прымірэння Ягайлы з Вітаўтам (а таксама з іншымі князямі і баярамі, яго прыхільнікамі) стала сумесная выправа пад Коўна. 9 верасня 1384 г. пачалася аблога Новага Марыенвердэна. На дапамогу гарнізону замка падышлі крыжацкія сілы на чале з вялікім маршалкам Конрадам Валенродам, аднак мусілі адступіць. 6 лістапада замак быў узяты і цалкам зруйнаваны. Тым самым была пастаўлена кропка ў першым этапе дынастычнай барацьбы ў Вялікім Княстве Літоўскім. Аднак зерне ўнутранай нестабільнасці, пасеянае ў выніку княжацкай барацьбы за ўладу, трапіла на ўдзячную глебу, і вынішчаць атрутныя парасткі ўзаемнай нянавісці нашчадкам Альгерда і Кейстута даводзілася ледзь не да сярэдзіны XV ст.[44]



Марыя Анжуйская.
Мініяцюра XV ст.

У гэты час пачалі разгортвацца падзеі, якія кардынальна змянілі палітычную сітуацыю ў рэгіёне. Яны былі звязаны са збліжэннем Вялікага Княства Літоўскага з каралеўствам Польскім, дзе ў той час таксама назіраўся дынастычны крызіс. Пасля смерці караля Польшчы і Венгрыі Людовіка Анжуйскага не засталося яго прамых нашчадкаў мужчынскага полу. У той жа час Людовік пакінуў пасля сябе дзвюх дачок — Марыю і Ядвігу. Марыя была заручана з нямецкім прынцам Жыгімонтам, маркграфам брандэнбургскім і прадстаўніком варожай Польшчы дынастыі Люксембургаў. Таму палякі прыклалі ўсе намаганні, каб атрымаць у якасці кандыдаткі на польскую карону юную Ядвігу. У 1384 г. адбылася ўрачыстая каранацыя Ядвігі ў якасці «караля» Польшчы. Аднак і Ядвіга, яшчэ ў 1378 г., калі ёй было ўсяго 4 гады, была заручана з васьмігадовым аўстрыйскім княжычам Вільгельмам Габсбургам, таксама немцам. Афіцыйны шлюб павінен быў адбыцца пасля дасягнення Ядвігай паўналецця, якое ў той час складала для жанчын 12, а для мужчын — 14 гадоў.

Польскім панам не падабалася перспектыва атрымаць у якасці караля немца. Яны апасаліся, і відаць небеспадстаўна, што такі кароль канчаткова абабраў бы Польшчу на карысць сваіх германскіх уладанняў і спрыяў бы канчатковай германізацыі польскіх зямель. Таму пачаліся пошукі альтэрнатыўных кандыдатаў, у лік якіх патрапіў і Ягайла, перамовы з ім вяліся ўжо ў 1383 г. Менавіта на яго асобе і спыніўся, у рэшце рэшт, выбар польскіх паноў. Чым жа прывабіў палякаў не вельмі малады літвін, да таго ж не каталік, уладар краіны, якая знаходзілася ў стане перманентнай канфрантацыі з хрысціянскім светам? Перш за ўсё, палякі разлічвалі, што, выбраўшы каралём гаспадара Літвы, яны не аддадуць Польшчу ва ўладанне гэтага «дзікага» краю, а наадварот, далучаць яго да Кароны Польскай. Па-другое, падобны альянс мог прывесці да хрышчэння язычніцкай Літвы, што моцна падняло б міжнародны прэстыж Польшчы, бо ёй удалося б зрабіць тое, што

стагоддзямі не ўдавалася крыжакам, — ліквідаваць апошні ў Еўропе бастыён паганства.

14 жніўня ў замку ў Крэве Ягайла падпісаў дакумент, вядомы як акт Крэўскай уніі. У ім агаворваліся ўмовы яго каранацыі. Ягайла абяцаў хрысціць паганскае насельніцтва Літвы, навечна далучыць Вялікае Княства Літоўскае да Кароны Польскай, перавесці ўвесь дзяржаўны скарб ВКЛ з Вільні ў Кракаў, вызваліць усіх польскіх палонных, захопленых у папярэдніх войнах, вярнуць Польшчы «ўласнымі намаганнямі і коштам» страчаныя ёй да таго часу землі і выплаціць 200 тысяч флорынаў адшкадавання Вільгельму Габсбургу за сарваны шлюб з Ядвігай.

У 1386 г., у рамках рэалізацыі ўмоў уніі, адбыўся хрост Ягайлы. «У чацвер, 14 лютага, на свята Св. Валянціна, спачатку Ягайла, вялікі князь літоўскі, а затым яго браты, літоўскія князі... адкінуўшы паганскія забабоны, учынілі вызнанне ісціннай веры і ў кракаўскім касцёле былі ахрышчаны арцыбіскупам гнезненскім Бадзантам і Янам, біскупам кракаўскім, які дапамагаў яму, пры вялікай радасці ўсіх». Ягайла атрымаў імя Уладзіслаў, Вітаўт пакінуў праваслаўнае імя Аляксандр. «Такім чынам, князь Уладзіслаў, ці Ягайла, прыняўшы



Ядвіга.
Надмагілле
на кракаўскім Вавелі



асноўны і першы Сакрамант, у той жа дзень прыступіў да другога і ў названым касцёле кракаўскім злучыўся ўрачыстым шлюбам з дастойнай дзявіцай Ядвігай, каралевай польскай... Затым Ягайла землі літоўскія, жамойцкія і рускія, якія трымаў двайным правам: спадчынным і набытым, — далучыў да Каралеўства Польскага на вечнасць, злучыўшы іх неразлучна ў адзінае цэлае. Акрамя таго, абавязаўся прысягай ахрысціць насельніцтва і схіліць яго да хрысціянскай веры». Апошні пункт быў асабліва важным, бо пазбаўляў Тэўтонскі ордэн ідэалагічнага абгрунтавання крыжовых паходаў у Літву. Хрышчэнне і каранацыя, якая адбылася 17 лютага, павінны былі сімвалізаваць уваходжанне «дзікіх» літоўцаў ва ўлонне хрысціянства. На ўрачыстасць хрышчэння ў Кракаў быў запрошаны нават магістр тэўтонаў Конрад Цольнер[45].

Аднак магістр не падзяляў усеагульнай радасці, бо перспектыва такога шлюбу і такога хрышчэння была не на карысць крыжакоў. Таму яго рэакцыя на запрашэнне была своеасаблівай: ён, «сабраўшы прускае і лівонскае войска, рушыў двума атрадамі ў літоўскія землі». Разам з немцамі ішоў і князь Андрэй Полацкі, былы люты вораг крыжакоў, абаронца ад лівонскіх рыцараў беларускага Падзвіння, які шукаў у ордэна дапамогі ў барацьбе з Ягайлам. Не сустрэўшы супраціўлення (большасць сілаў Ягайлы знаходзілася ў Кракаве), захопнікі падзяліліся на дробныя атрады і пачалі спусташэнне краю. Асаблівай жорсткасцю вызначаўся Андрэй. Па яго загаду людзей спальвалі жыўцом у хатах, ламалі ім шыі, падкладаючы іх пад сцены зрубаў, і г. д. Захапіўшы без бою замак Лукомль, крыжакі аддалі яго Андрэю. Палачане, якія, верагодна, былі незадаволены ўладай вялікага князя, а цяпер ужо і польскага караля, таксама здаліся Андрэю, аўтарытэт якога ў «рускіх» землях быў надзвычай высокі.



Ягайла.
Роспіс XV ст.
з кракаўскага Вавеля



Хрышчэнне Літвы

Адсутнасць Ягайлы вырашыў скарыстаць і смаленскі князь Святаслаў, які зрабіў спробу вярнуць сабе Мсціслаў, захоплены Вялікім Княствам Літоўскім у часы праўлення Альгерда. «Тое же зимы у велики пост начал Светослав думаты со смоленскими бояры на хрыстыянское кровопролитые, ы пойде ко городу Мстыславлю, ы ставшы у городу Мстыславля начал добываты ы пороки биты город, а в землю Мстыславскую вою свою пустыл ы многое кровопролитые хрыстианское вчынил». Даведаўшыся пра гэта, Ягайла паслаў у Вялікае Княства войска на чале з Вітаўтам і Скіргайлам, якія расправіліся як з Андрэем, які быў захоплены і кінуты ў вязніцу, так і са смалянамі: «ызбито быст вой многое множество, князей ы боярья, но ы самого князя Светослава вбили, сына же его князя Юрья князь велики Скиргайла исцели от ран ы прыведе его ко городу Смоленську ко матери его великой княгини Светославли, ы посади его на великом княжении Смоленьском... Ы одшедшы од города Смоленска, князь велики Скиргайло пойде во свою землю Литовскую...»[46].

У наступным, 1387 г. у Вільні Ягайла правёў пышную і паказальную цырымонію хрышчэння літоўцаў у каталіцтва. З гэтага часу ён праводзіў палітыку стварэння для каталіцкага касцёла найбольш спрыяльных умоў, што выклікала незадавальненне праваслаўнага насельніцтва, якое даводзілася час ад часу падаўляць сілай. Прыкладам таму — паход у 1388 г. Ягайлы ў землі Полацка і Віцебска. Але, нягледзячы на жорсткую палітыку польскага караля, ягоны курс на

поўнае падпарадкаванне Польшчы Літвы і Русі сустракаў усё большае супраціўленне ў землях Вялікага Княства[47].

У 1388 г. Ягайла прызначыў вярхоўным кіраўнікам Літвы і Русі свайго роднага брата Скіргайлу. Гэта выклікала незадавальненне Вітаўта, які сам разлічваў на гэтае месца. Таму ён, пакінуўшы ў сваіх радавых замках Гародні, Бярэсці і Камянцы гарнізоны, часткова складзеныя з крыжакоў, зноў скіраваўся ў Прусію. Адбылося гэта ў 1389 г. 19 студзеня 1390 г. Вітаўт падпісаў з крыжакамі пагадненне, паводле якога ён прызнаваў васальную залежнасць ад ордэна і абяцаў, у выпадку вяртання яму спадчыны бацькі, перадаць тэўтонам частку зямель, у тым ліку Гародню.

Пакінутыя Вітаўтам гарнізоны, мабыць, час ад часу трывожылі верныя Ягайлу землі, бо ўжо ў лютым 1390 г. кароль, сабраўшы войска, рушыў ва ўладанні мяцежнага князя. Падышоўшы да Бярэсця, каралеўскія войскі пасля 10-дзённай аблогі ўзялі яго, але пасля гэтага частка польскіх сілаў «з-за скуднасці і недахопу правіянту» вярнулася дадому. Тым не менш у Ягайлы заставалася яшчэ 130 «коп'яў», таму ён, пакінуўшы Бярэсце на аднаго са сваіх рыцараў, падышоў да Камянца і авалодаў ім. Перадаўшы Камянецкі замак яшчэ аднаму са сваіх рыцараў, Зындраму Машкавецкаму, кароль скіраваўся да галоўнага замка Вітаўта — Гародні — і аблажыў яго.

Заклапочаны лёсам гэтага найважнейшага стратэгічнага пункта, які, відаць, не меў вялікіх харчовых запасаў, сюды рушыў і Вітаўт з крыжакамі. У гэты час да Ягайлы сталі падыходзіць атрады з зямель Беларусі і Літвы і нават атрад з Ноўгарад-Северскага. Таму Вітаўт не рашыўся фарсіраваць Нёман на вачах у сілаў Ягайлы і зрабіў спробу пабудаваць новы замак на супрацьлеглым беразе. Між тым, захапіўшы Ніжні замак, палякі наносілі гарадзенскаму гарнізону вялікія страты няспынным абстрэлам з бамбардаў. Занепакоеныя крыжакі і Вітаўт паспрабавалі пабудаваць пры дапамозе перацягнутага праз Нёман ланцуга і прывязаных да яго чаўноў наплыўны мост для эвакуацыі з замка параненых і перапраўкі туды падмацаванняў. Убачыўшы гэта, каралеўскія войскі «насеклі вышэй па рацэ шмат сосен магутных і тоўстых, якія з галлём і карэннем па рацэ спусцілі». Імклівая плынь панесла іх на ланцуг, які быў разарваны. На наступны дзень немцы разам з Вітаўтам мусілі адысці, і замак пасля 50-дзённай аблогі здаўся[48].



Пячатка Свідрыгайлы. 1394 г.

Страту сваіх радавых уладанняў Вітаўт імкнуўся нейкім чынам кампенсаваць, перацягнуўшы на свой бок жамойтаў. 25 мая 1390 г. у Кёнігсбергу знаць паўднёважамойцкіх зямель заключыла дамову з Вітаўтам і крыжакамі, паводле якой абяцала ордэну і Кейстутавічу вайсковую дапамогу. Пэўныя спадзяванні ўскладаў мяцежны князь і на шлюб сваёй дачкі Соф'і з маскоўскім князем Васілём.



У тым жа годзе Вітаўт прывёў вялікае крыжацкае войска ў Літву. У склад войска ўваходзілі англійскія і французскія рыцары пад камандаваннем графа ланкастарскага Генрыха Дэрбі, будучага англійскага караля Генрыха IV, немцы, а таксама браты ордэна і верныя Вітаўту літвіны і русіны. Разбіўшыся на тры атрады, тэўтоны занялі Коўна, спалілі Трокі і аблажылі Вільню. Па сведчанню Длугаша, некаторыя літвіны і русіны, якія разам з палякамі абаранялі сталіцу, спачувалі Вітаўту і, імкнучыся дапамагчы яму, падпалілі важны элемент віленскіх умацаванняў — драўляны Крывы горад. Польскі храніст сцвярджае, што агонь і крыжакі знішчылі 14 тысяч беларуска-літоўскіх і польскіх абаронцаў горада. Загінуў і кіраўнік абароны замка — князь Карыгайла. Але, нягледзячы на знішчэнне Крывога горада, аблога Вільні зацягнулася, і, не здолеўшы зламіць гераізму гарнізона, немцы былі вымушаны зняць аблогу. Падчас аблогі загінуў брат Вітаўта Конрад-Таўцівіл, які быў забіты гарматным ядром абаронцаў[49].

Нямецкія рыцары
і лучнік
другой паловы XIV ст.



У 1391 г. Вітаўт і крыжакі не пакідалі ў спакоі земля Вялікага Княства. Вітаўту ўдалося вярнуць сабе Гародню, а магістр Конрад Валенрод у тым самым годзе зрабіў спробу захапіць Навагародак. У снежні 1392 г. атрады тэўтонскіх рыцараў на чале з Вітаўтам, комтурамі Янам Румпенгаймам і Конрадам Ліхтэнштэйнам, а таксама англічане з графам нартумберлендскім уступілі ў межы ВКЛ і падышлі да Ліды,

разрабаваўшы і падпаліўшы «падзамча». Князь Дзмітры Карыбут, нягледзячы на тое, што ў яго хапала сіл для абароны замка, ноччу пакінуў яго і разам з гарнізонам накіраваўся ў бок Новагародка. Крыжакі захапілі вялікую колькасць зброі і ваеннай амуніцыі[50].

Неспакойнае становішча ў Вялікім Княстве Літоўскім, якое не толькі спусташалася крыжакамі, але і стаяла на парозе міжусобнай вайны, прымусіла Ягайлу пайсці на пагадненне з Вітаўтам, больш энергічным і больш папулярным, чым Скіргайла. 4 жніўня 1392 г. у маёнтку Вострава каля Ліды паміж Ягайлам і Вітаўтам было падпісана пагадненне, паводле якога Вітаўту перадавалася ўлада ў Вялікім Княстве. Вітаўт нарэшце атрымаў не толькі спадчыну бацькі, князя Кейстута, але і ўсю дзяржаву, праўда, пакуль што толькі як намеснік Ягайлы. Ён прызнаваўся старэйшым сярод усіх братоў польскага караля, аднак не атрымаў тытул вялікага князя, абмяжоўваючыся тытулам князя Літвы. Вітаўт і яго жонка Ганна абавязваліся захоўваць вернасць не толькі асабіста Ягайлу, але таксама каралеве Ядвізе і польскай кароне, што ставіла ВКЛ у ролю васала Польшчы[51].

Змена кіраўніцтва ў ВКЛ і страта крыжакамі свайго саюзніка-літвіна не спыніла тэўтонскіх наездаў. У пачатку 1393 г. немцы на чале з маршалам ордэна зрабілі два паходы на беларускія землі, дасягнулі Гародні, спалілі Сураж і захапілі шмат палонных. Паўторны паход на Гародню прывёў да захопу і спалення замка. У 1394 г. вялікія крыжацкія сілы, куды ўваходзілі шматлікія «госці» з Германіі, Англіі і Францыі, дасягнулі вусця р. Вілія і, раздзяліўшыся на тры часткі, рушылі на Новагародак, Ліду, Мерач і Драгічын. Спустошыўшы землі і захапіўшы вялікую здабычу, крыжакі вярнуліся ў Прусію. Значная экспедыцыя з удзелам замежных «гасцей» адбылася і зімой 1395 г.

Аднак у 90-х гг. XIV ст. Тэўтонскі ордэн стаў адчуваць значныя праблемы пры арганізацыі «рэйзаў» на землі Літвы і Русі. Пачаліся спрэчкі паміж «гасцямі», што прыбывалі ў Прусію і Лівонію. У выніку адной з такіх спрэчак паміж англійскімі і шатландскімі рыцарамі ў 1391 г. загінуў пляменнік шатландскага караля. Падобныя канфлікты прывялі да таго, што з 1394 г. спыніўся паток добраахвотнікаў з Англіі, якія дагэтуль колькасна саступалі толькі французам. Чэшскі кароль Вацлаў IV Люксембургскі, вельмі аўтарытэтны ў справах, звязаных з крыжовымі выправамі, у 1395 г. заклікаў тэўтонаў спыніць паходы ў ВКЛ.



З такой самай просьбай звярнуўся да ордэна і Папа Рымскі. Давала аб сабе знаць хрышчэнне Літвы, чуткі аб якім дасягалі розных краёў Еўропы. У новых умовах ордэн быў вымушаны актывізаваць дыпламатычную дзейнасць, накіраваную на абвінавачванне Ягайлы ў ілжывым хросце і падтрымцы «паганаў». Ягайла і Вітаўт вялі контрпрапаганду, сцвярджаючы, што сваімі нападамі на ўжо ахрышчаныя землі тэўтоны дыскрыдытуюць сярод літоўцаў ідэю хрысціянства.

У другой палове 1390-х гг. пазначылася тэндэнцыя да спынення канфрантацыі паміж ВКЛ і ордэнам. Тэўтоны імкнуліся разарваць небяспечны для сябе саюз Вялікага Княства з Польшчай. Для гэтага яны вырашылі пайсці на збліжэнне з Вітаўтам, які быў незадаволены васальнай залежнасцю ад польскага караля. Асабліва вострае незадавальненне выклікала ў Вітаўта пытанне аб даніне, якую патрабавала з Літвы і Русі каралева Ядвіга. Акрамя таго, Вітаўт стаў выношваць планы далейшага ўмацавання сваёй дзяржавы і пашырэння яе межаў, што ўладары ВКЛ традыцыйна рабілі шляхам далучэння рускіх зямель на ўсходзе і поўдні. Аднак гэтыя планы «князя Літвы» таксама выклікалі супрацьдзеянне з боку Ядвігі, якая баялася празмернага ўмацавання яго ўлады. У выніку Кейстутавіч таксама стаў шукаць збліжэння з ордэнам.

16 студзеня 1397 г. пачаліся перамовы, і ў красавіку 1398 г. быў гатовы праект пагаднення паміж ВКЛ і крыжацкай дзяржавай. У верасні таго ж года пагадненне было падпісана каля Коўна, на нёманскім востраве Салін. Салінскі дагавор перадаваў ордэну Жамойць, якая была для крыжакоў найбольш спакуслівым кавалкам Літвы і прадметам іх спрадвечных дамаганняў. Вітаўт таксама абавязваўся дапамагаць тэўтонам у здабыванні Пскова і збудаваць некалькі памежных замкаў у якасці кампенсацыі за ранейшыя разбурэнні. Крыжакі, у сваю чаргу, абяцалі спрыяць Вітаўту ў ажыццяўленні яго ўсходняй палітыкі, у прыватнасці ў падпарадкаванні Ноўгарада Вялікага.

Для Вітаўта і яго прыхільнікаў Салінскія пагадненні азначалі не толькі часовае замірэнне з ордэнам. Тое, што гэты крок быў зроблены насуперак інтарэсам Польшчы, рупарам якіх выступала каралева Ядвіга, сведчыла пра намеры Кейстутавіча ўмацаваць свой статус як суверэннага ўладара. На піры, які быў наладжаны ў гонар заключэння пагаднення, літоўскія, беларускія і ўкраінскія феадалы аб'явілі Вітаўта



«каралём Літвы і Русі». Тым самым яны абвясцілі, што больш не прызнаюць залежнасці сваёй дзяржавы ад польскага караля.

Пасля заключэння Салінскіх пагадненняў пачаўся кароткі перыяд вайсковага супрацоўніцтва Вялікага Княства Літоўскага з Тэўтонскім ордэнам. Крыжацкія сілы прымалі ўдзел у выправе супраць татараў, арганізаванай Вітаўтам летам 1398 г. у паўночнае Прычарнамор'е. У выніку гэтага паходу войскі Вітаўта дайшлі да Азова; было захоплена шмат татараў, якія былі расселены ў Літве і Беларусі. У яшчэ больш грандыёзнай выправе Вітаўта 1399 г., якая набыла статус крыжовага паходу і мэтай якой было ўсталяванне на залатаардынскім троне літоўскага стаўленіка, выгнанага хана Тахтамыша, прыняло ўдзел 100 тэўтонскіх «коп'яў». Аднак гэты паход, які абяцаў Вітаўту здзяйсненне яго самых грандыёзных планаў па падпарадкаванню ўсёй Русі, скончыўся для яго трагічна. У 1399 г. у бітве на р. Ворскла яго сілы былі разбіты аб'яднаным татарскім войскам. Гэта зноў унесла істотныя карэктывы ў адносіны Вітаўта з Тэўтонскім ордэнам[52].

**У канцы** XIV ст. і без таго няпростая сітуацыя ў Цэнтральна-Усходнееўрапейскім рэгіёне абвастрылася яшчэ больш. Калі дыпламатычная дзейнасць Вітаўта дазваляла залагодзіць даўнюю варожасць паміж крыжакамі і Літвой і нават наладзіць нейкае падабенства адносінаў хай сабе не саюзніцкіх, але прынамсі прыязных, то стасункі тэўтонаў з Польшчай няўхільна пагаршаліся. Ордэн, умела выкарыстоўваючы свой статус хрысціянскага фарпоста на ўсходзе Еўропы, прапагандуючы свае заслугі, рэальныя альбо ўяўныя, па хрысціянізацыі паганскага насельніцтва Прыбалтыкі, карыстаўся падтрымкай наймагутнейшых палітычных сілаў каталіцкага свету. Тэўтонаў падтрымлівалі аўстрыйскія Габсбургі, прадстаўнікі дынастыі Люксембургаў у Чэхіі і Венгрыі, а значыць, і Святая Рымская імперыя германскай нацыі. У выніку польскія «заслугі» ў справе хрысціянізацыі Прыбалтыкі рабіліся як бы незаўважальнымі, тым больш што і ордэн, і Габсбургі, і Люксембургі з'яўляліся даўнімі ворагамі Польшчы і былі не супраць адарваць ладны кавалак яе тэрыторыі[53].

У канцы XIV ст. дзейнасць крыжакоў у гэтым кірунку зноў актывізавалася. Князь апольскі Уладзіслаў аддаў у заклад прускаму магістру за 40 тысяч фларынаў Добжыньскую зямлю, што выклікала моцнае незадавальненне палякаў. Сітуацыя прыняла настолькі сур'ёзны характар, што ў 1397 г. кароль Ягайла быў ужо гатовы распачаць вайну, і толькі па просьбе каралевы Ядвігі, якая мела намер уладзіць гэтае пытанне палюбоўна і распачала перамовы з ордэнам, ён стрымаў свае ваяўнічыя амбіцыі. Між тым гэтыя перамовы скончыліся безвынікова, што сведчыла пра тое, што праблема Добжыньскай зямлі заставалася вельмі вострай.

Яшчэ больш узмацніўся ордэн напачатку XV ст., калі ў 1402 г. крыжакі набылі ў венгерскага караля Жыгімонта Люксембургскага Новую Марку. У выніку іх землі злучыліся з тэрыторыяй Святой Рымскай імперыі германскай нацыі, што значна павышала пагрозу для польскіх земель. Таксама крыжакамі былі захоплены памежныя з Польшчай гарады Санток і Дрэздэнка, якія лічыліся спрэчнымі. Тэўтонскі ордэн, здавалася, дасягнуў вяршыні сваёй магутнасці. Узнікалі нават грандыёзныя праекты, якія прадугледжвалі падзел польскай тэрыторыі паміж ордэнам і германскімі ўладарамі[54]. У такіх няпростых для



Вітаўт.
Выява пачатку XVI ст.

сябе ўмовах Польшча была вымушана шукаць далейшага збліжэння з Вялікім Княствам Літоўскім. На шчасце для палякаў, Вітаўт пасля паражэння на Ворскле перагледзеў свае палітычныя прыярытэты і зноў схіліўся да саюзу з Ягайлам. Поўнае падпарадкаванне Русі адкладалася на перспектыву, і ў гэтым сэнсе страта Жамойці ўяўлялася Кейстутавічу неапраўданай. Таму адной з важнейшых мэтаў яго на бліжэйшае дзесяцігоддзе робіцца вяртанне гэтай важнай тэрыторыі, якая давала яму магчымасць выхаду да Балтыйскага мора.

Важным крокам па збліжэнні Вітаўта і Ягайлы стала заключэнне новай уніі, падпісанай 18 студзеня 1401 г. літоўскім бокам у Вільні і польскім бокам 11 сакавіка таго ж самага года ў Радаме. Гэтая унія ўвайшла ў гісторыю пад назвай Віленска-Радамскай. У выніку Вітаўт атрымаў правы на самастойнае княжанне пры ўмове прызнання аўтарытэту Ягайлы. Вітаўт афіцыйна набываў тытул вялікага князя («magnus dux»), аднак Ягайла, імкнучыся падкрэсліць свае даўнія спадчынныя правы на ВКЛ і адначасова сваё вяршэнства над Вітаўтам, пакінуў за сабой тытул «вярхоўны князь» («supremus dux»). Паводле ўмоў уніі, у выпадку, калі б у Вітаўта не было нашчадкаў, Вялікае Княства пасля яго смерці павінна было адысці да Ягайлы і яго спадкаемцаў. Са свайго боку палякі абяцалі ў выпадку смерці апошняга не выбіраць новага караля без згоды феадалаў Вялікага Княства. У выніку персанальная унія, якая фармальна існавала з часоў заклю-





чэння Крэўскай уніі 1385 г., ператварылася ў дагавор паміж дзвюма дзяржавамі. Праўда, мясцовыя ўладары Вялікага Княства паспяшаліся зноў, як пасля заключэння Крэўскай уніі, прынесці прысягу Ягайлу ў тым, што застануцца верныя Кароне пасля смерці Вітаўта[55].

Віленска-Радамская дамова выклікала ў Мальбарку, натуральна ж, трывогу і насцярожанасць. Адчуваючы марнасць сваіх спадзяванняў на раз'яднанне Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, крыжакі сталі рыхтавацца да магчымага ваеннага сутыкнення, і першым крокам у гэтай падрыхтоўцы стала дыпламатычная барацьба. Калі сітуацыя ў дачыненні да Літвы выглядала даволі простай (еўрапейская грамадскасць здаўна падтрымлівала хрыстова воінства ў барацьбе з паганамі), то вайна супраць каталіцкай Польшчы павінна была мець важкія тлумачэнні. Прычына, якая павінна была давесці рацыю крыжакоў, была выбрана даволі простая — падтрымка польскім каралём Ягайлам, які сам толькі нядаўна прыняў каталіцтва, сваіх былых аднаверцаў — язычніцкай Літвы, а таксама саюз са схізматычнай Руссю.

Падобныя довады, прыводзімыя пры дварах еўрапейскіх манархаў і нават пры папскім двары крыжацкімі пасланцамі, павінны былі выглядаць тым больш праўдзівымі, калі ўлічыць, што Віленска-Радамскае пагадненне, якое выклікала такое абурэнне ў Мальбарку, было з энтузіязмам сустрэта жамойтамі. Ужо ў 1401 г. пачаліся антыкрыжацкія выступленні на землях Жамойці. На гэты раз Вітаўт і не думаў рабіць рэверансы ордэну і дапамагаць яму душыць паўстанне. Наадварот, ён адкрыта стаў на бок паўстанцаў. Гэта паслужыла сігналам для новай хвалі дыпламатычнай барацьбы — крыжакі даносілі Папе, кардыналам і хрысціянскім уладарам пра «здраду» Вітаўта, а той, у сваю чаргу, сам слаў гэтым самым уладарам антыордэнскія лісты. У сакавіку ён напісаў грамату да хрысціянскіх уладароў, у якой скардзіцца на несправядлівыя патрабаванні ордэна выдаваць жамойтаў, якія ўцякалі ў ВКЛ, бо, па словах Кейстутавіча, ён перадаў крыжакам толькі жамойцкую зямлю, але не жамойцкі народ[56].



Вітаўт.
Гравюра пачатку XVI ст.

У той жа час адносіны вялікага магістра ордэна з польскім каралём заставаліся нібыта прыязнымі; 4 мая магістр нават паслаў Ягайлу свайго найлепшага паляўнічага



Гродзенскі
Стары замак.
Рэканструкцыя

сокала. Гэтая вонкавая прыязнасць захоўвалася і пазней. Магістр, у прыватнасці, інфармаваў караля аб сваёй перапісцы з Вітаўтам. Між тым разрыў Вітаўтам саюзу з Польшчай заставаўся адной з галоўных мэтаў дыпламатыі ордэна, і магістр быў вымушаны ў лісце ад 13 ліпеня 1402 г. нават апраўдвацца перад Ягайлам у тым, што ён не падбівае вялікага князя адступіцца ад яго. Пра занепакоенасць польскага караля такой перспектывай сведчыць і ліст Вітаўта ад 19 чэрвеня 1403 г., у якім вялікі князь спецыяльна запэўніваў свайго стрыечнага брата, што без яго волі і ведама не заключыць міру ні з прускімі, ні з інфлянцкімі рыцарамі[57].

Не абмяжоўваючыся дыпламатычнымі захадамі, крыжакі аднавілі баявыя дзеянні і ўжо ў 1401 г. здзейснілі шэраг паходаў на Вялікае Княства Літоўскае, у тым ліку і на беларускія землі. Польскі храніст адзначаў: «Новыя пачаліся ў той час спрэчкі паміж Аляксандрам, вялікім князем літоўскім, і крыжакамі прускімі і інфлянцкімі, у выніку якіх магістр інфлянцкі, збройна ўвайшоўшы ў Літву, спустошыў яе мячом і агнём... А калі інфлянты пасля зробленых спусташэнняў спакойна з Літвы вярталіся, Аляксандр, вялікі князь літоўскі, узмоцнены дапамогай, каторую яму Уладзіслаў, кароль польскі, прыслаў, пайшоў за імі ў пагоню... Калі ж войска інфлянцкае наблізілася да межаў свайго краю і рыцары пачалі разбягацца для паяднання са сваімі жонкамі і дзецьмі, Аляксандр, вялікі князь літоўскі, уварваўся ў Інфлянты, знішчыў шмат вёсак і мястэчак забойствамі, рабаваннем і пажарам і ўмацаваны горад Дынабург сілай узяў»[58]. Напачатку 1402 г. крыжакі на чале з маршалам ордэна Вернерам фон Тэтынгенам з'явіліся пад Гродна, захапілі вялікую здабычу і шмат палонных.

Мелі поспехі і спробы перацягнуць на свой бок суперніка Вітаўта — князя Свідрыгайлу. Вынікам стала паўстанне восенню 1401 г. у Смаленску і на Падоллі, а ў сакавіку 1402 г. мяцежны Свідрыгайла прыехаў у Мальбарк. Там ён 2 сакавіка заключыў саюз з вялікім





магістрам Конрадам Юнгінгенам, які прадугледжваў васальную залежнасць Тэўтонскага ордэна і абяцаў перадаць крыжакам Полацк[59]. Узамен крыжакі абяцалі Свідрыгайлу дапамогу грашыма і вайсковай сілай. Найбольш выбітнай акцыяй стала выправа на сталіцу ВКЛ Вільню, арганізаваная ўлетку, аднак яна скончылася няўдала.

У 1403 г. «магістр прускі Конрад фон Юнгінген і крыжакі, сабраўшы са свайго і наёмнага рыцарства значнае войска, у кампаніі Баляслава Свідрыгайлы... каля дня Св. Дароты ўварваліся збройна ў Літву». Здабыўшы і спаліўшы замак Мерач, крыжакі сабраліся ісці на Гродна, аднак змянілі маршрут і рушылі да Трок. Не рашыўшыся на аблогу моцнага замка, яны абмінулі яго і, пустошачы край, вярнуліся ў Прусію ў раёне Рагнеты. Немцы вывелі з сабой тысячы палонных, якія ў далейшым, па просьбе Вітаўта, былі адпушчаны за выкуп. Як толькі тэўтоны вярнуліся назад, у межы ВКЛ уварваліся лівонскія рыцары. Спустошыўшы літоўскія землі і захапіўшы палон, яны таксама вярнуліся дадому. У адказ Вітаўт у красавіку прадпрыняў паход у Лівонію. Вынікам стала спаленне Дынабурга і Юнгінгурта[60].

Неўзабаве з'явіўся шанец на мірнае ўрэгуляванне канфлікту; 2 ліпеня Вітаўт і прускі маршал дасягнулі дамоўленасці аб прыпыненні ваенных дзеянняў і абмене палоннымі. Аднак сустрэча вялікага князя літоўскага і вялікага магістра 8 верасня 1403 г. на р. Дубіса скончылася безвынікова. Конрад фон Юнгінген у лісце да ордэнскага пракуратара ў Рыме віну за гэта ўскладаў на Вітаўта, які адмовіўся заключаць мір без ведама Ягайлы. Тым не менш была дасягнута дамоўленасць аб кароткачасовым замірэнні, якое павінна было трываць да свята Божага нараджэння (трохі пазней яно было працягнута да Грамніц)[61].

Між тым дыпламатычная дзейнасць Вітаўта прыносіла першыя вынікі. Папа Баніфацы IX, здаецца, схільны быў прызнаць хрышчэнне Літвы і таму аддаў загад спыніць экспансію на літоўскія землі. Крыжакі спрабавалі апраўдацца перад апостальскай сталіцай, давесці сваю рацыю. Аднак гэта не перашкодзіла ім пайсці на пошук кампрамісаў з Вялікім Княствам і Польшчай. 18 мая 1404 г. у Рацёнжы сабраліся Вітаўт і Ягайла «з райцамі польскімі і літоўскімі», а таксама вялікі магістр Конрад фон Юнгінген «з комтурамі сваімі». Галоўным пытаннем сустрэчы была спроба знайсці паразуменне па пытаннях Жамойці і Добжыньскай зямлі. Рашэнні, якіх удалося дасягнуць, былі



наступныя: «каб Уладзіслаў, кароль польскі, і Аляксандр Вітаўт, вялікі князь літоўскі, магістру і ордэну крыжацкаму вярнулі зямлю Жамойцкую, перад гэтым да іх належачую, і адракліся ад яе актам пісаным, а жамойтаў схілілі, каб магістру і ордэну далі сыноў абывацельскіх у якасці заложнікаў і склалі ім прысягу паслушэнства і вернасці. Акрамя таго, каб Уладзіслаў, кароль польскі, зямлю Добжыньскую за выплату ў сорак тысяч злотых у магістра і ордэна выкупіў». Важным для Вітаўта быў пункт «каб палякі, як і крыжакі, ані ўцекачоў, ані выгнаннікаў узаемна не прымалі, ані ім не давалі апекі, а палонных, забраных сабе ў няволю, выпусцілі». Гэта зрабіла магчымым скасаванне саюзу Свідрыгайлы з ордэнам. У іншых пунктах дасягнутыя дамоўленасці былі для Польшчы і ВКЛ значна менш выгадныя, аднак «Уладзіслаў, кароль польскі, і Вітаўт, вялікі князь літоўскі, прагнучы, як толькі магчыма, пазбегнуць вайны, пастанавілі іх прыняць». Каб выплаціць грошы за Добжыньскую зямлю, палякі павінны былі ўвесці спецыяльны падатак у памеры дванаццаці грошаў з лана. У той жа час крыжакі адчувалі сябе гаспадарамі становішча і нават здзейснілі паход на Мазовію, якую палякі лічылі сваёй зямлёй. Спатрэбілася спецыяльнае пасольства Ягайлы, каб угаварыць магістра выпусціць з палону захопленага падчас нападу мазавецкага князя Януша, «мужа знакамітага, правага і пачцівага», яго сям'ю і двор[62].

Незадаволены ўмовамі рацёнжскага з'езду, Вітаўт спрабаваў праігнараваць рашэнне аб вяртанні Жамойці ордэну. Рэакцыя апошняга не прымусіла сябе чакаць. Ужо ў 1405 г. «магістр прускі і крыжакі, увайшоўшы з магутным войскам у Літву, спустошыў яе і знішчыў агнём». Вітаўт, ухіляючыся ад прамога сутыкнення, трывожыў немцаў нападзеннямі з засад. Ягайла, разумеючы цяжкасць сітуацыі, у якую трапіў ягоны саюзнік, «паслаў яму з Польшчы немалы атрад рыцараў у дапамогу». Гэта прымусіла крыжакоў пакінуць землі Вялікага Княства і вярнуцца назад. Аднак Вітаўт быў вымушаны ў дзень Св. Пятра і Паўла заключыць у Саліне новае пагадненне з крыжакамі. Вялікі князь абавязваўся не толькі адступіцца ад Жамойці, але і сілай зброі садзейнічаць падпарадкаванню жамойтаў ордэну. Як толькі стала ясна, што жамойты не жадаюць прызнаваць вяршэнства немцаў, Кейстутавіч з войскам, у адпаведнасці з умовамі новага пагаднення, рушыў на сваіх былых суайчыннікаў і разам з тэўтонамі «сілай прымусіў Жа-





мойць да прыняцця ярма крыжацкага ордэна». Каб гарантаваць супакой і паслушэнства гэтага краю, Вітаўт загадаў жамойтам выбраць са свайго асяроддзя маладых людзей у якасці закладнікаў. Кіраўніком (солтысам) новых ордэнскіх зямель магістр прызначыў Міхаіла Кухмайстра[63].



Рыцар Тэўтонскага ордэна з капітэлі калоны Мальбаркскага замка

Здавалася, наступіў час міру і спакою. Вітаўт прызнаў правы ордэна на Пскоў і нават удзельнічаў у лютым 1408 г. у паходзе лівонцаў на Пскоўшчыну. У сваю чаргу крыжакі дапамагалі ў 1406 і 1408 гг. Кейстутавічу ваяваць з Масквой. Салінскае пагадненне павінна было прынесці ў адносіны паміж Тэўтонскім ордэнам і Вялікім Княствам Літоўскім пэўнае заспакаенне, аднак гэтае заспакаенне было ўяўным. Гэта разумелі не толькі ў Мальбарку і Вільні, але і ў Кракаве. Таму ў 1408 г. «Уладзіслаў, кароль польскі, прагнучы Айчыне сваёй Літве спакой забяспечыць, з Ульрыхам Юнгінгенам, магістрам прускім, сабраліся на з'езд у горадзе літоўскім Коўне ў дзень урачысты Трох Каралёў». Перамовы «з мэтай спынення спрэчак і кампенсацыі за нанесеныя крыўды» цягнуліся звыш дзесяці дзён, аднак скончыліся безвынікова. Супернікі яшчэ спрабавалі захаваць ілюзію прыязных адносін і нават абмяняліся падарункамі, але было зразумела, што неўзабаве павінен грымнуць выбух. Кажучы словамі Яна Длугаша, «тлеючая ў сэрцах непрыязь і сполахі будучых войнаў прытушаны былі да часу»[64].

Узрастанне напружанасці ў рэгіёне было выклікана не толькі нежаданнем Вітаўта адступіцца ад сваіх правоў на Жамойць, аднак і вельмі жорсткай і ваяўнічай пазіцыяй Ульрыха фон Юнгінгена, які ў 1407 г. змяніў свайго брата Конрада на пасадзе вялікага магістра. Відавочна, што ён паставіў сабе на мэце кардынальна вырашыць праблему з ВКЛ і Польшчай, для чаго пайшоў на змяненне знешнепалітычных прыярытэтаў. Калі яшчэ ў 1403—1404 гг. ордэн вёў напружаную барацьбу з Даніяй за Готланд, вынікам чаго стаў захоп вострава крыжакамі,



то ў 1408 г. магістр адмовіўся ад яго і прыпыніў баявыя дзеянні ў Балтыйскім моры. У той жа час нарошчваўся ваенны патэнцыял ордэна на мяжы з Вялікім Княствам і Польшчай, праводзілася разведка памежных тэрыторый, павялічылася вытворчасць зброі ў сталіцы ордэна Мальбарку[65].

Вітаўт і Ягайла таксама не гублялі часу. У 1408 г. у Літве ўспыхнуў голад, і па просьбе вялікага князя кароль польскі «выслаў у Літву дваццаць вялікіх суднаў, збожжам нагружаных, якія былі спушчаны ракой Віслай ажно да Рагнеты, а затым павінны былі цягнуцца ўверх па Нёману. Але як толькі яны прыбылі да Рагнеты, былі захоплены па загаду магістра прускага Ульрыха фон Юнгінгена, які ў апраўданне свайго беззаконня сцвярджаў, «нібыта на тых караблях везлі зброю для паганых варвараў супраць хрысціян і вернікаў»; на самай жа справе зрабілі гэта з зайздрасці і гневу, што збожжа, у шпіхлерах крыжацкіх з даўняга часу падрыхтаванае, якое літвіны па вялікіх коштах павінны былі купляць (як гэта бывала раней), па гэтай прычыне стала б для іх непатрэбным». Такая была афіцыйная версія Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага, аднак крыжацкі бок настойваў, што на затрыманых караблях сапраўды знаходзілася зброя. Яшчэ ў 1416 г. на Канстанцкім саборы крыжакі жаліліся, што палякі адпраўлялі літоўцам, схізматыкам і ерэтыкам вайсковыя прылады, зброю і амуніцыю. Аналіз рахункаў польскага каралеўскага двара таксама пацвярджае, што ў перыяд ад заключэння Крэўскай уніі і да Грунвальдскай бітвы даўзбраенне Вялікага Княства Літоўскага адбывалася даволі значнымі тэмпамі[66].

31 мая 1409 г. у Жамойці выбухнула антыкрыжацкае паўстанне. Яно выспявала даўно, і крыжакі раней ужо неаднаразова адзначалі незадавальненне жамойтаў, якія не жадалі даваць немцам закладнікаў альбо ўдзельнічаць у вайсковых выправах ордэна. Аднак непасрэдную віну за арганізацыю паўстання хрыстова воінства ўсклала на Вітаўта. Гэта не было простай спробай апраўдаць свае няўдачы. Падазроная актыўнасць падданых Вялікага Княства і іх энергічная дзейнасць на Жамойці заўважалася крыжакамі яшчэ да паўстання, і ўжо тады гэта выклікала ў іх сур'ёзную трывогу. Яшчэ 25 снежня 1408 г. Міхаіл Кухмайстар у лісце да маршала ордэна жаліўся, што «край жамойцкі поўны русінамі (беларусамі. — *Ю. Б.*) і татарамі, якія яго ўдоўж і ўпоперак аб'язджаюць», пры гэтым жамойцкі солтыс бачыў у гэтым справу рук

Вітаўта. Ліст, блізкі не толькі па зместу, але і па стылю, быў накіраваны Кухмайстрам напачатку 1409 г. старосце ковенскаму Сунігайлу. Ён скардзіўся, што «падчас нашай адсутнасці ў краі вашы той край наш удоўж і ўпоперак аб'ехалі — адны ў тры, а іншыя ў чатыры кані, а нашы мусілі іх карміць». З ліста вынікае, што Вітаўт вёў двайную гульню: з аднаго боку, ён нібыта забараняў ліцвінам без яго ведама уступаць у межы Жамойці, а з другога — нічога не рабіў для выпраўлення сітуацыі. Больш таго, як вынікае з ліста таго ж Кухмайстра да маршала ад 18 красавіка таго ж года, вялікі князь літоўскі не перашкаджаў жамойцкім баярам, якія выязджалі ў яго ўладанні, выводзіць з сабой і «люд жамойцкі». Вітаўт, у сваю чаргу, адказваў, што згодна з умовамі заключанага з крыжакамі міру ён мае права вываду ў Літву 250 жамойтаў. 26 мая Вітаўт яшчэ абяцаў магістру пакараць вінаватых ва ўзброеным пераходзе жамойцкай мяжы, але ўжо 3 чэрвеня Кухмайстар даносіў магістру, што ўзбунтаваныя жамойты чакаюць Вітаўта, каб разам ісці паходам на Мемель. Такім чынам, вызначальная роля Вітаўта ў падрыхтоўцы паўстання практычна не выклікае сумнення. Да 16 чэрвеня войскі Вялікага Княства цалкам занялі Жамойць, узялі заложнікаў, а горад Фрыбург быў блакіраваны ліцвінамі[67].


Вялікі магістр. Барэльеф з Мальбаркскага замка

Пасля таго як пры чынным удзеле Вітаўта Жамойць была ачышчана ад крыжакоў, апошнія пачалі прамую падрыхтоўку вайны з Вялікім Княствам Літоўскім. Не жадаючы ваяваць на два франты, а можа, і свядома жадаючы ўцягнуць Польшчу у канфлікт, каб адным махам пакончыць з двума ворагамі, тэўтоны зрабілі спробу заручыцца нейтралітэтам Ягайлы. Перад святам Яна Хрысціцеля прускія паслы заспелі караля ў мястэчку Аборнікі і, абвінаваціўшы Вітаўта ў здрадзе і падтрымцы бунтуючых жамойтаў, пацікавіліся, ці мае кароль жадан-






Магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнгінген

не «брата свайго Аляксандра, князя літоўскага, падтрымаць у яго справе, каб магістр і ордэн, ведаючы яго намеры, маглі паклапаціцца пра сябе». Ягайла, захоплены знянацку, не знайшоўся, што адказаць. Спаслаўшыся на важнасць пытання і адсутнасць у яго належнай колькасці дарадцаў, кароль паабяцаў даць адказ не раней за свята Св. Аляксея. У той жа час магістр Ульрых фон Юнгінген атрымаў ліст ад Вітаўта з папрокамі ў тым, што ў цяжкі для Літвы час ён не толькі не дапамог ёй хлебам, нягледзячы на мір, але і затрымаў польскія караблі са збожжам[68].

У прызначаны час 1 жніўня 1409 г., у свята Св. Аляксея, «сабраліся прэлаты і панове польскія ў вялікай колькасці ў Ленчыцы, дзе напладзілі сейм вальны, каб даць адказ магістру і ордэну прускаму». На сейме было абрана пасольства да Ульрыха фон Юнгінгена. Паслы, прыехаўшы ў Мальбарк, гаварылі так: «Не сакрэт для вас, магістр і ордэн, што кароль польскі Уладзіслаў трымаецца той думкі, што вялікі князь літоўскі Аляксандр, на якога вы скардзіцеся, нібыта захапіў зямлю жамойцкую, хоць ён з'яўляецца прыроджаным князем, а акрамя таго, як брат, кроўнымі вузамі ад нараджэння злучаны з каралём, цалкам Каралеўству Польскаму і каралю належыць, а край і Княства Літоўскае адзіна як дар з ласкі таго ж караля пажыццёвым правам трымае. А таму нягожа каралю ў той вайне, якую князю Аляксандру і Літве абвясціць збіраецеся, і ў кожным іншым выпадку таго ж князя пакідаць, але наадварот, павінен яму ўсімі сіламі дапамагаць». Далей паслы параілі магістру ўстрымацца ад вайны і даць магчымасць Ягайлу самому залагодзіць узаемныя прэтэнзіі такім чынам, каб задаволіць абодва бакі. Аднак магістр не згадзіўся з такой прапановай і адказаў, што «не сцерпіць больш крыўды сваёй і свайго ордэна, але з усімі сіламі сваімі пойдзе на Літву». На гэта адзін з паслоў, гнезненскі біскуп Мікалай Куроўскі, абураны безапеляцыйнасцю магістра, заявіў: «Перастань страшыць нас, магістр, вайной літоўскай: калі толькі ты выберашся на Літву, будзь пэўны, што кароль наш Прусію збройна наведае. Непрыяцеляў





Літвы мы лічым сваімі ворагамі, дык супраць цябе звернем зброю, калі Літву зачэпіш».

Польскі храніст адзначае, што невядома, ці то сам пасол не ўстрымаўся ад гнеўных слоў, ці атрымаў адпаведныя інструкцыі, аднак ягоныя словы справакавалі магістра на аб'яўленне вайны Польшчы: «Дзякуй табе, Ойча Найвялебнейшы, што не ўтаіў ад нас намеры свайго караля. Я, тваёй прамовай навучаны і паракананы, лепш на саму галаву, чым на члены, удар свой скірую, землі заселеныя, а не пустыя, гарады і вёскі, а не лясы наведаць жадаю; вайну, задуманую супраць Літвы, на Каралеўства Польскае абярну». Адпусціўшы паслоў, магістр адразу ж пачаў збіраць войскі і неўзабаве накіраваў Ягайлу пісьмовае абвяшчэнне вайны[69].

Важным крокам у дыпламатычнай барацьбе напярэдадні вайны стала пасланне Ягайлы, скіраванае «каралям і князям, як духоўным, так і свецкім, дастойнікам, панам, шляхце, рыцарству, суполкам гарадскіх гмін і г. д., і ўсім жыхарам зямлі, і святой каталіцкай веры праўдзівым вызнаўцам». У гэтым пасланні польскі кароль змяшчаў разгорнутыя абвінавачанні супраць крыжакоў, што павінна было перацягнуць сімпатыі ўплывовых колаў Еўропы на бок Польшчы. Гэта было тым больш важным, што браты ордэна шмат дзе разглядаліся як найважнейшы фарпост каталіцтва на «паганскім» і «схізматычным» Усходзе, як бадай што апошні напамін пра векавыя традыцыі крыжовых паходаў. Таму Ягайла пастараўся знайсці найбольш важкія аргументы. Ён абвінавачваў тэўтонаў у парушэнні міру, у абылганні палякаў і Вітаўта, якія нібыта мала дбалі пра хрост Літвы, а заадно і падтрымлівалі русінаў у іх «ерасі». Абвяргаючы гэтыя крыжацкія наветы, Ягайла даводзіў, што «вера і рэлігія хрысціянская сярод новаахрышчанага народа нашага ў Літве за ласкай Хрыстуса Пана хвалебна квітнее». У той жа час Ягайла звяртаў увагу на саміх крыжакоў, якія ўжо дзвесце гадоў валодалі Прусіяй, а рэшткаў паганства да канца не выкаранілі, ды і ў Жамойці, дзе панавалі ўжо некалькі гадоў, нічога не зрабілі для хросту язычнікаў. Адзінае, на што, па словах караля, была звернута ўвага крыжакоў, дык гэта на захоп чужых зямель. Такім чынам, Ягайла паставіў пад сумненне саму мэтазгоднасць знаходжання ў рэгіёне Тэўтонскага ордэна. Кароль заклікаў валадароў еўрапейскіх краін устрымацца ад аказання ордэну дыпламатычнай і ваеннай



дапамогі, бо гэта стварала пагрозу для ўсіх краін рэгіёна. Той факт, што пасланне датуецца 10 жніўня 1409 г., указвае на тое, што Польшча пачала падрыхтоўку да вайны задоўга да яе пачатку.

У сваю чаргу Вітаўт таксама прыкладаў значныя дыпламатычныя намаганні па падрыхтоўцы свайго ўдзелу ў будучай вайне. Каб пазбегнуць вайны на двух напрамках, ён нармалізаваў адносіны з Ноўгарадам, Псковам і Масквой, а таксама з татарамі[70].

Ацэньваючы ролю і месца Вялікай вайны і Грунвальдскай бітвы ў нашай гісторыі, беларускія аўтары, прычым як навукоўцы, так і пісьменнікі, адзначаюць яе справядлівы характар. Гэтая вайна ацэньваецца як вызваленчая з боку Вялікага Княства Літоўскага, ваяры якога адстойвалі свае сем'і і хаты ад драпежных крыжакоў. Цалкам падзяляючы падобныя ацэнкі ў дачыненні да ўсяго перыяду барацьбы беларускага і літоўскага народа з крыжацкай агрэсіяй, трэба, аднак, зазначыць, што з пункту гледжання фармальнай справядлівасці ордэн акурат у Вялікай вайне меў сваю рацыю і яго дзеянні не былі пазбаўлены законнасці. Вайна вялася за жамойцкія землі, якія былі перададзены ордэну Вялікім Княствам Літоўскім, кіраўнік якога замацаваў гэтую перадачу адпаведнымі дакументамі. Парушаючы ўмовы гэтых дакументаў, ён тым самым фармальна парушаў, як сказалі б сёння, «нормы міжнароднага права», і менавіта ён выступаў у ролі агрэсара напярэдадні вайны. Аднак тое, што вайна была абвешчана не Вялікім Княствам Літоўскім, а ордэнам, які адхіліў магчымасць мірнага ўрэгулявання канфлікту, і больш таго, сам першы пачаў баявыя дзеянні, прычым не супраць Вітаўта, а супраць трэцяй краіны — Польшчы, якая толькі з'яўлялася саюзнікам ВКЛ, — усё гэта паставіла саміх крыжакоў у становішча ініцыятара вайны.

Першы этап Вялікай вайны праходзіў пад знакам перавагі Тэўтонскага ордэна. Адразу ж па аб'яўленні вайны вялікі магістр перанёс ваенныя дзеянні на тэрыторыю Польшчы (гэта адбылося 14 альбо 16 жніўня), «замак Добжынь аблажыў, бесперапынным штурмаваннем з гармат і кіданнем агністых стрэл здабыў і спаліў, а жаўнераў польскіх, якія замак баранілі, у пень высек. Потым мястэчкі Рыпін, Ліпна, Добжынь спустошыў і шмат дзявіц і жанчын, у іх жывучых, пазабіваў». Неўзабаве былі захоплены Баброўнікі, пасля чаго крыжакі атачылі замак Златарыю. Абаронцы, шэрагі якіх значна парадзелі ад



Вацлаў Люксембургскі. Скульптура ў Празе

непрыяцельскіх стрэл і ядраў, на восьмы дзень аблогі вымушаны былі здаць замак. Тэўтоны захапілі значны палон. Спадзеючыся на звыклую па тых часах практыку абмену палоннымі, вялікі князь Вітаўт выпусціў шмат крыжакоў, што таміліся ў ягоных вязніцах, але яго высакародны жэст застаўся марным — палонныя палякі так і засталіся ў няволі. Падышоўшы да моцнага замка Быдгашч, крыжакі не наважыліся на штурм, вырашыўшы ўжыць іншыя сродкі. Яны падкупілі бурграфа замка, які адчыніў ім браму. Захоп Быдгашча меў вялікае значэнне для тэўтонаў, бо адчыняў ім шлях да велікапольскіх земель.

Ягайла, даведаўшыся пра страту такой колькасці замкаў у такі малы тэрмін, быў узрушаны і абвясціў збор паспалітага рушэння, якое павінна было сканцэнтравацца ў Вольбажы і рушыць у межы Прусіі. На прускай мяжы да палякаў павінна было далучыцца войска Вялікага Княства Літоўскага. Падышоўшы да Быдгашча, перад гэтым занятага немцамі, палякі цяпер ужо самі атачылі яго і пачалі артылерыйскі абстрэл. Ульрых фон Юнгінген, адчуваючы хуткую здачу замка, прапанаваў каралю перадаць Быдгашч у рукі чэшскага караля Вацлава, які павінен быў выступіць у ролі трацейскага суддзі. Ягайла нібыта пагадзіўся з гэтай прапановай, але пры ўмове, што пад апеку Вацлава будзе перададзена таксама Добжынская зямля, захопленая крыжакамі ў самым пачатку канфлікту. Гэта было для ордэна непрымальным, аблога працягвалася, і на восьмы дзень замак быў узяты палякамі[71].

У той жа час спадзяванні Ягайлы на падыход войска Вялікага Княства Літоўскага не спраўдзіліся; Вітаўт прыслаў да Ягайлы свайго пісара Якуба Глінянага, які патаемна перадаў каралю, што вялікі князь «у той час не мог ніяк прыбыць да яго збройна са сваім людам на дапамогу». Прытым Кейстутавіч раіў свайму брату, «каб з непрыяцелем заключыў замірэнне аж да наступнага лета; ён жа за гэты час усё





ўпарадкуе і падрыхтуецца да вайны, каб з больш шматлікім войскам і большай магутнасцю мог прыбыць і дапамагчы каралю».

Ці то пад уражаннем ад слоў Вітаўтавага пасланца, ці то па іншых прычынах, аднак пасля вяртання Быдгашча Ягайла склікаў нараду, на якой абмяркоўваўся далейшы лёс кампаніі. Чуліся прапановы працягваць вайну і рушыць на Паморра «і спустошыць яго агнём і мячом». Іншыя ж выказваліся ў духу Вітаўтавых просьбаў — адкласці працяг вайны да наступнага года, бо «такое вялікае войска ніяк не магло б у полі і пад голым небам вытрымаць зімовую непагоду». Тым часам прыбылі паслы Вацлава, караля чэшскага, якія прасілі заключыць перамір'е да свята Св. Яна Хрысціцеля, а самога Вацлава прыняць «за пасрэдніка і суддзю». Вацлаў прэтэндаваў на тытул рымскага караля, што давала права на трон Святой Рымскай імперыі германскай нацыі. Таму для падняцця свайго аўтарытэту Вацлаў імкнуўся надаць сваёй дзейнасці міжнародны маштаб. У якасці канкрэтных крокаў па вырашэнню канфлікту Ягайлу прапаноўвалася прыслаць у Прагу паўнамоцных прадстаўнікоў для пошуку «ўзаемнага паразумення і дамоўленасці».

Схіліўшыся на просьбы Вітаўта і чэшскага караля, а таксама прыслухаўшыся да парад сваіх дарадцаў, Ягайла прыняў прапановы Вацлава і 8 кастрычніка падпісаў замірэнне на той тэрмін, які яму прапанаваў «пасрэднік і суддзя», — да 24 чэрвеня 1410 г. Рашэнне чэшскага караля павінна было быць абвешчана 9 лютага таго ж года. Аднак прыпыненне ваенных дзеянняў не ўсімі было ўспрынята з задавальненнем. Па словах польскага храніста, «агідным здавалася ўсім тое замірэнне па прычыне такой вялікай магутнасці войска, якое кароль меў з сабой». Некаторыя патрыятычна настроеныя палякі абвінавачвалі нават каралеўскіх дарадцаў, якія «нібыта падкупленыя крыжацкім золатам, згадзіліся на мір». Аднак лёгкасць, з якой Ягайла пагадзіўся на замірэнне, сведчыла, што кароль не адчуваў у сабе сілы для працягу кампаніі. Войска, якое патрыятычна настроеныя палякі называлі «вялікім і магутным», было сабрана спешна і змагло дабіцца толькі нязначных поспехаў. Перавага была пакуль на баку ордэна, і прапанова Вітаўта была для саюзнікаў, напэўна, найлепшым і адзіна слушным выйсцем у той сітуацыі. Разам з тым вяртанне Быгдашча



было хоць і даволі сціплым, але заўважальным поспехам палякаў, бо пазбаўляла крыжакоў рабіць рэйды па Велькапольшчы[72].

У той час як Ягайла спрабаваў адваяваць страчаныя землі і вёў перамовы з пасольствам чэшскага караля Вацлава, Вітаўт працягваў умацоўваць свае пазіцыі ў Жамойці. Больш таго, ужо пасля падпісання замірэння ён накіраваў у Прусію свайго брата Жыгімонта, які разрабаваў і спаліў там шэраг гарадоў і вёсак, а таксама вывеў шматлікі палон. Палякі сцвярджалі, што вялікі князь літоўскі папросту не ведаў пра падпісаны мір, аднак не выключана, што Вітаўт пайшоў на гэты крок свядома, будучы не ў стане ўстрымацца ад спакусы нанесці яшчэ адзін удар ненавісным яму тэўтонам. У адказ крыжакі «чакалі зручнага выпадку, каб па сваёй завядзёнцы адпомсціць князю Вітаўту. Затым, патаемна сабраўшы войска, выслалі яго ў Літву праз пушчу, расцягнуўшыся паміж Гроднам і Бельскам... а ў нядзелю красавіка, напаўшы на мястэчка Ваўкавыск, дзе народ быў сабраўся на набажэнства, усё абрабавалі і спалілі, люд жа абодвух палоў, складзены з літвінаў і русінаў, у няволю забралі і той жа самай дарогай, якой прыйшлі, хутка вярнуліся назад. Даведаўшыся пра тое, вялікі князь Аляксандр, які ў Слоніме за сем міль ад таго месца знаходзіўся, узрушаны і раптоўнай трывогай агорнуты, сам, з адной толькі жонкай Ганнай, хаваўся ў цёмных і балоцістых лясах каля Здзітава... На шляху ж, якім войска крыжацкае ішло да Ваўкавыска і вярталася праз тую самую пустку, утварыўся вялікі гасцінец, і яго як сведчанне тых спраў па сённяшні дзень яшчэ паказваюць. Акурат з таго часу вайсковая старожа прызвычаілася паліць толькі дубовую кару, якая не дае дыму, каб распаленае вогнішча не выдавала месцазнаходжанне каравулаў»[73].

Мірную перадышку, атрыманую пасля падпісання замірэння, варагуючыя бакі імкнуліся максімальна выкарыстаць для ўмацавання сваіх пазіцый, як ваенных, так і дыпламатычных. Кароль польскі Уладзіслаў Ягайла, распусціўшы войска, вызначыў склад пасольства, якое павінна было неўзабаве ехаць да чэшскага караля Вацлава IV Люксембургскага з мэтай атрымання абяцанага «палюбоўнага» рашэння ў справе канфлікту з крыжакамі.

Упарадкаваўшы справы ў Польшчы, Ягайла скіраваўся ў Вялікае Княства Літоўскае. Прыбыўшы 30 лістапада ў Брэст, дзе яго ўрачыста сустрэў Вітаўт, «там склаў патаемна кароль Уладзіслаў з Аляксандрам,





вялікім князем літоўскім, план усёй вайны, якую з крыжакамі весці сабраўся... Уцягнулі яны да ўзброенага ўдзелу ў той вайне хана татарскага, якога Аляксандр, князь літоўскі, прывёз у Брэст і які абяцаў прысылаць сваіх татараў на дапамогу. Дамовіліся, у які дзень і ў якім месцы павінны былі злучыцца і якім чынам пераправіць за Віслу войскі польскія і літоўскія. Вырашылі таксама збудаваць пантонны мост, якога раней ніхто не бачыў».

Праца па пабудове гэтага моста цягнулася ў вялікай таямніцы ўсю зіму. «А калі ўжо ўсё было наладжана і падрыхтавана да плануемай прускай вайны, кароль польскі Уладзіслаў выехаў з Брэста да Камянца-Літоўскага (Рускага), куды яго суправаджаў Аляксандр, вялікі князь літоўскі». Там ён, між іншым, атрымаў булу ад Папы Аляксандра V, у якой той прасіў караля падтрымаць яго як адзінага сапраўднага Папу, што павінна было спрыяць пераадоленню (канешне ж, на карысць Аляксандра V) расколу каталіцкага касцёла. Тое, што Ягайла пагадзіўся падтрымаць менавіта Аляксандра ў ягонай барацьбе з іншымі папамі, напэўна, і паслужыла пачаткам тых добрых адносін, якія дапамаглі ў далейшым каралю польскаму і вялікаму князю літоўскаму ў дыпламатычнай барацьбе з Тэўтонскім ордэнам. «З Камянца кароль Уладзіслаў выехаў па паляванне да Белавежы за раку Лясную. Князь жа літоўскі Аляксандр паехаў у Літву разам з татарскім ханам, якога ўсю зіму і аж да дня Св. Яна Хрысціцеля з усёй дружынай яго і з жонкамі ў сваёй зямлі ўтрымоўваў. Уладзіслаў жа, кароль польскі, восем дзён забаўляючыся ловамі ў Белавежы, вялікую колькасць звера забіў і, засаліўшы ў бочках, сплавіў Наравам і Віслай да Плоцка, каб мець гатовы запас на будучую вайну».



Вацлаў Люксембургскі. Малюнак XIV ст.

Калі настаў дзень, прызначаны чэшскім каралём Вацлавам для абвяшчэння выраку паміж варагуючымі бакамі, Ягайла і Вітаўт накіравалі ў Прагу пасольства, склад якога быў вызначаны яшчэ раней. Да яго далучыліся таксама паслы мазавецкага князя, якога Ягайлу ўдалося перацягнуць на свой бок. Туды ж прыехала і прадстаўніцтва Тэўтонскага ордэна. Адказ, які атрымалі палякі і літвіны, быў для іх цалкам непрымальны. Польскі храніст Ян Длугаш, які апісвае працэдуру «палюбоўнага суда», сцвярджае, што па прычыне пастаяннага п'янства Вацлава канчатковы вердыкт быў падрыхтаваны не ім, а маркграфам Маравіі, які ненавідзеў Ягайлу асабіста. Сама працэдура

абвяшчэння дакумента, які мусіў быць зачытаны па-нямецку, абразіла палякаў, і яны адмовіліся яго слухаць. Таму вырак чэшскага і рымскага караля, заверaны ягонымі пячаткамі, быў у пісьмовай форме адасланы палякам і літвінам. Вацлаў аб'яўляў, «што зямля Добжыньская, крыжакамі занятая, павінна была з усімі замкамі і ўсім, што да яе належыць, у яго рукі быць перададзена; ён жа, трымаючы яе пад сваёй уладай, павінен быў на працягу года вырашыць і канчаткова пастанавіць, каму б тая зямля па праву належала. Сцвярджаў таксама, што Каралеўства Польскае ніколі ўжо потым не павінна было выбіраць сабе каралёў ані з Літвы, ані з краёў усходніх, а толькі з Захаду». З іншых крыніц вынікае, што паводле выраку абодва бакі захоўвалі за сабой тыя ўладанні, якія мелі перад вайной. Акрамя таго, забаранялася карыстацца дапамогай няверных, што яўна было каменем у агарод вялікага князя літоўскага. Абразлівым падалося паслам Ягайлы і Вітаўта таксама стаўленне да іх з боку як самога караля чэшскага і рымскага, так і ягоных рыцараў. Абураныя, апасаючыся па дарозе за сваё жыццё, паслы вярнуліся назад[74].

Жыгімонт Люксембургскі. Партрэт XV ст.



Карыстаючыся перамір'ем, ордэн зрабіў яшчэ адну спробу разарваць небяспечны для сябе саюз Польшчы з Вялікім Княствам Літоўскім, на гэты раз рукамі венгерскага караля Жыгімонта Люксембургскага, малодшага брата Вацлава IV. Яшчэ 20 снежня 1409 г. Ульрых фон Юнгінген заключыў з ім у Будзе антыпольскі саюз. А ў лютым 1410 г. у Кежмарку, што ў Венгрыі, адбыўся арганізаваны Жыгімонтам з'езд, на якім абмяркоўвалася пытанне захавання мірных пагадненняў паміж Венгрыяй і Польшчай. На нарадзе Ягайлы і Вітаўта, якая папярэднічала з'езду, было прынята сумеснае рашэнне, што каралю лепш устрымацца ад паездкі, таму польска-літвінскую дэлегацыю ўзначаліў Вітаўт. Асноўная місія вялікага князя літоўскага поспеху не мела. На прапанову Вітаўта аб захаванні міру паміж Польшчай і Венгрыяй Жыгімонт адказаў, што ён «гэтага абяцаць не можа, калі вайна будзе весціся з крыжакамі». Разам з тым ён, таксама як і ягоны брат, прапанаваў свае паслугі трацейска-



га суддзі ва ўрэгуляванні канфлікту. Польскі храніст лічыць, што гэта было зроблена, каб заручыцца прыхільнасцю нямецкіх князёў і ордэна, якая была яму патрэбна для барацьбы за імперскую карону. У сувязі з гэтым спадзявацца на нейкае справядлівае рашэнне ў дачыненні да Польшчы і ВКЛ не даводзілася.

Між іншым, адвёўшы Вітаўта ў патаемнае месца, Жыгімонт прапанаваў вялікаму князю адступіцца ад Ягайлы, за што абяцаў яму каралеўскую карону. Механізм ператварэння Вялікага Княства Літоўскага ў каралеўства быў, па словах Жыгімонта, такі: набліжаліся выбары імператара, а маральнае аблічча і стыль жыцця Вацлава выклікалі моцнае незадавальненне нямецкіх курфюрстаў (князёў-выбаршчыкаў). У такіх абставінах венгерскі кароль спадзяваўся, што рымская карона будзе адабрана ў яго брата і ўручана яму, што дасць магчымасць атрымаць імперскі тытул. А паколькі імператары, як і папы, мелі права раздаваць кароны, то Жыгімонт такім спосабам адплоціць Вітаўту за тую «маленькую паслугу», якую Кейстутавіч павінен аказаць крыжакам і асабіста яму, Жыгімонту. Тым самым Вітаўт «будзе вызвалены ад усіх прысяг і абавязкаў вернасці Уладзіславу, каралю польскаму». Аднак у той час Вітаўт не прыняў адназначна спакуслівай прапановы: на словах ён даў прыхільны адказ, аднак тут жа сеў на каня і разам са сваёй світай спешна пакінуў Кежмарк, нават не развітаўшыся з гаспадаром. Заехаўшы ў Польшчу да свайго стрыечнага брата, Кейстутавіч распавёў Ягайлу пра падзеі на з'ездзе, у тым ліку і пра сакрэтныя прапановы Жыгімонта. Яшчэ раз абмеркаваўшы з каралём план будучай вайны, Вітаўт вярнуўся ў Літву[75].

Такім чынам, напачатку 1410 г. расстаноўка сілаў у рэгіёне ўжо канчаткова аформілася. Крыжакі здолелі заручыцца падтрымкай чэшскага караля Вацлава і венгерскага караля Жыгімонта, а таксама паморскіх князёў. Аднак у далейшым непасрэднай дапамогі чэшскі і венгерскі каралі ордэну не аказалі, хоць і далі дазвол на вярбоўку ў сваіх уладаннях наёмнікаў. Не спраўдзіліся спадзяванні тэўтонаў і на дапамогу сваіх бліжэйшых і натуральных саюзнікаў — лівонскіх рыцараў, якія баяліся ўдару з боку Паўночнай Русі. Акрамя таго, напрыканцы 1409 г. лівонцы заключылі з Вітаўтам мір, адна з умоў якога абавязвала абодва бакі абвяшчаць пра разрыў дагавору за тры месяцы да пачатку баявых дзеянняў. Гэта вельмі моцна абмяжоўвала лівонскіх рыцараў у вы-



Грош
Тэўтонскага ордэна



бары часу дапамогі сваім саюзнікам. Калі ў маі 1410 г. прускі магістр запатрабаваў у лівонскага ландмагістра дапамогі ў вайне з Вітаўтам, той адказаў, што зробіць гэта, але не раней чым праз тры месяцы пасля скасавання дагавору. Гэта было занадта позна, калі ўлічыць, што перамір'е паміж Вітаўтам і Тэўтонскім ордэнам скончалася 24 чэрвеня. Раз'юшаны Ульрых фон Юнгінген запатрабаваў 15 чэрвеня вярнуць пазычаныя лівонцам грошы і гарматы, але тым не менш у рашаючай бітве Вялікай вайны на баку Тэўтонскага ордэна змагалася ўсяго адна інфлянцкая харугва.

Што тычыцца Ягайлы і Вітаўта, то поспехам іх дыпламатычнай дзейнасці можна лічыць перацягненне на свой бок мазавецкага князя Земавіта і паморскага князя Багуслава, а таксама ўсталяванне нейтральных адносін з княствамі Усходняй Русі. Акрамя таго, не былі марнымі і дыпламатычныя высілкі, прадпрынятыя для нейтралізацыі заходніх краін. Да прыкладу, значна зменшылася колькасць прыхільнікаў ордэна ў Англіі, адкуль дапамога крыжакам так і не паступіла, хоць англійскі кароль Генрых IV спачатку планаваў аказаць такую дапамогу тэўтонам. Вынікам дыпламатычнай дзейнасці стаў таксама пераход да Ягайлы шэрагу рыцараў, якія знаходзіліся на венгерскай службе. Найбольш вядомым з іх быў славуты Завіша Чорны[76].

Падобная расстаноўка сілаў абумовіла некаторыя меры, прынятыя Ягайлам з мэтай забеспячэння сваіх паўднёвых межаў на выпадак уварвання войскаў Жыгімонта Люксембургскага. Польскі кароль вызваліў ад выправы на Прусію шляхту Бежскай зямлі, якая была падначале-

на люблінскаму кашталяну Яну са Шчакоціна і павінна была прыкрываць Польшчу на венгерскім участку мяжы. Рэшта рыцарства дзяржавы падлягала мабілізацыі, а звыш таго праводзіўся найм жаўнераў у Чэхіі і Маравіі (нягледзячы на тое, што чэшскі кароль афіцыйна падтрымліваў крыжакоў). Перавага аддавалася найму «спрактыкаваных у вайне рыцараў, якія ўмелі ўмацоўваць абозы, весці гуфы (атрады) і выбіраць для войска зручнае становішча». Вартыя ўвагі аргументы на карысць шырокага выкарыстання наёмнікаў, якія прыводзілі каралю ягоныя дарадцы, — маўляў, у выпадку перамогі аплату можна будзе правесці за кошт пераможаных крыжакоў, а ў выпадку паражэння нанятыя жаўнеры альбо загінуць, альбо трапяць у палон і ужо не змогуць спагнаць з караля грошай.

Умацоўваючы паўднёвыя межы, Ягайла не адмаўляўся і ад дыпламатычных сродкаў. Для гэтага ён яшчэ раз паслаў да венгерскага караля сваіх людзей з просьбай аб захаванні міру. Жыгімонт нібыта пагадзіўся і нават выззваўся асабіста наведаць Прусію з мэтай зрабіць апошнюю спробу ўладзіць канфлікт мірным шляхам. У далейшым Жыгімонт адмовіўся ад асабістай паездкі ў Мальбарк і паслаў замест сябе давераных асоб, але не з мэтай пошуку міру, а каб выпрасіць у магістра сорак тысяч залатых за дапамогу ў вайне. Аднак, як ужо адзначалася, рэальнай дапамогі крыжакам венгерскі кароль у той час не аказаў, бо быў заняты барацьбой з туркамі і Венецыяй. Адзінае, што зрабіў Жыгімонт, дык гэта выслаў палякам ліст з пагрозай аб'явіць вайну. Ліст гэты не меў ніякага значэння, нават не аказаў маральнага ўздзеяння на войска Ягайлы і Вітаўта, бо пра яго існаванне ведалі ўсяго восем дарадцаў польскага караля. Аднак крыжакі, слепа давяраючы венгерскаму каралю, як з'едліва адзначаў польскі храніст,


Жыгімонт Люксембургскі. Партрэт А. Дзюрэра



«згадзіліся заплаціць сорак тысяч залатых за кепскі кавалак спісанай паперы»[77].

На другім этапе вайны ініцыятыва адразу ж перайшла да Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. 14 чэрвеня польскія атрады атакавалі прускія ўладанні паблізу Торуня, падпалілі мястэчкі Нешаву, Мужынаў і «іншыя цудоўныя і шматлюдныя вёскі» і падрыхтаваліся да фарсіравання Віслы, што было даволі неспадзявана для прускага магістра. Таму ён ахвотна згадзіўся на прапанову венгерскага пасрэдніка аб дзесяцідзённым спыненні баявых дзеянняў. Тым больш выгадным гэта было для Ягайлы, бо перадышка дазваляла дачакацца Вітаўта.

Між тым ваенныя прыгатаванні вялікага князя літоўскага крыжацкая разведка заўважала ўжо даўно. 30 мая комтур Рагнеты даносіў магістру, што Вітаўт збіраецца на вайну супраць ордэна, што паслаў Ягайлу 20 000 коп грошаў на аплату наёмнікаў, інфармаваў пра нейкага Лоя Мазаўшаніна, які пражываў каля Астэродэ і шпіёніў на карысць вялікага князя. 14 чэрвеня той самы комтур даносіў, цяпер ужо свайму калегу з Брандэнбурга, што Вітаўт мабілізаваў з кожнага краю на Жмудзі па 300 чалавек тэрмінам на пяць тыдняў і што 3 чэрвеня яны ўжо рушылі ў паход, што князь яшчэ раней паслаў перад сабой гарматы, але ніхто не ведае куды. У той жа самы дзень комтур Рагнеты накіраваў ліст і магістру, дзе інфармаваў, што Вітаўт канцэнтруе свае войскі над Наравам і, напэўна, пойдзе да Астэродэ[78].

27—30 чэрвеня палякі пераправіліся праз Віслу па наплыўным мосце з чаўноў у раёне Чэрвіньска, у Мазовіі, і злучыліся з войскамі Вялікага Княства Літоўскага. Пасля гэтага саюзнікі пачалі рухацца ў Прусію, межаў якой дасягнулі, па звестках Длугаша, 9 ліпеня. («Хроніка канфлікту» сцвярджае, што гэта адбылося яшчэ 6 ліпеня.) Пераправа, якая адразу ж пачала абрастаць легендамі, па тых часах з'яўлялася сапраўдным цудам як інжынернай думкі, так і высокай арганізацыі саюзных войскаў. Каб зразумець, чаго варта было пераправіць праз Віслу некалькі дзясяткаў тысяч узброеных кавалерыстаў, разам з абозам, прыслугай і артылерыяй, дастаткова згадаць, што шырыня гэтай ракі ў месцы пераправы даходзіць да 500 м! На наступны дзень, 10 ліпеня, адбылася яшчэ адна нарада кіраўніцтва саюзных войскаў, на якой абмяркоўваўся па-





Ваяры ВКЛ канца XIV — пачатку XV ст. Рэканструкцыя Ю. Бохана

драбязны план вайны. Было вырашана кінуць асноўныя сілы на сталіцу Тэўтонскага ордэна Мальбарк.

У адрозненне ад Вітаўта і Ягайлы, Юнгінген плана вайны не меў. Адзінае, што ён планаваў, дык гэта весці вайну на сваёй тэрыторыі. Аднак, дэзарыентаваны дзеяннямі праціўніка, які, каб увесці крыжакоў у зман, наносіў удары па прускай тэрыторыі на розных напрамках, ён не мог зразумець, дзе будуць адбывацца асноўныя баявыя дзеянні. Куды пойдуць саюзныя войскі: на Мальбарк ці на Добжынь, ён не ведаў, таму загадаў умацоўваць межы з Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай на ўсім іх працягу. Свае войскі магістр сканцэнтраваў у Свецы.

Трэба сказаць, што Ульрых фон Юнгінген часткова і сам быў вінаваты ў сваёй слабой інфармаванасці, бо некаторым звесткам пра войска Вітаўта і Ягайлы ён папросту не жадаў верыць. Так, калі да яго прыбыў пасол венгерскага караля Дабяслаў Скарачоўскі, які вяртаўся з польска-літоўскага лагера, то магістр атрымаў поўную інфармацыю аб велічыні войска праціўніка, яго ўзброенасці, абставінах пераправы праз Віслу. Аднак калі пасол сказаў, што «войска Вітаўта не толькі



шматлікае і магутнае, але і добра ўзброенае», Юнгінген паблажліва заўважыў: «У войску Вітаўта больш можна знайсці людзей з лыжкамі, чым са зброяй», а калі пасол працягваў настойваць на сваіх словах, дадаў: «Лепш мы гэта ведаем, чым ты, якое яно і наколькі вялікае, колькі мае людзей і коней, гэтаму мы многім навучаны вопытам». Такую ж самую рэакцыю выклікала ў магістра і інфармацыя пра пераправу саюзнікаў па наплыўным масце, які ён іранічна назваў «збудаваным у паветры». Важнейшая інфармацыя, якая магла ўнесці істотныя карэктывы ў ход кампаніі, была ацэнена ім наступным чынам: «Байкі ўсё тое, што гэты чалавек гаворыць, і нічым на праўду не падобна. Бо прыбылі вартыя даверу нашыя шпегі і паведамілі, што кароль польскі Уладзіслаў над Віслай блукае і спрабуе, але не можа пераправіцца праз раку; што мноства рыцарства яго, шукаючы броду, патанула. Вітаўт жа стаіць над ракой Наравам, але не смее яе перайсці».

5 ліпеня войска Ягайлы і Вітаўта яшчэ раз наведалі паслы Жыгімонта Люксембургскага з прапановай міру. У адказ прагучала, што мір магчымы толькі пры ўмове вяртання ВКЛ Жамойці, а Польшчы — Добжыньскай зямлі. Потым паслам быў наладжаны абед, а затым Вітаўт у іх прысутнасці зрабіў агляд свайго войска. Відавочна, што гэта было зроблена з мэтай уразіць венграў, якія несумненна мусілі падзяліцца сваімі назіраннямі з каралём Жыгімонтам, а можа, і з тэўтонскім магістрам[79].


Бамбарда.
Мальбаркскі замак

Пасля ўступлення войска Вялікага Княства Літоўскага ў межы Тэўтонскага ордэна Вітаўту сталі паступаць скаргі на літвінаў і татараў, якія па законах ваеннага часу разглядалі варожую тэрыторыю як аб'ект свайго ўзбагачэння. Між тым гэтыя землі лічыліся польскімі і былі толькі закладзеныя ордэну князем Земавітам. Ад мяча літвінаў гінулі не толькі моладзь, але і малыя дзеці, «іншых жа разам з маткамі да сваіх абозаў і ў

няволю, нібыта непрыяцельскае племя, забіралі, хоць увесь народ таго павета быў племені польскага і размаўляў па-польску». Каб суцішыць абурэнне як сярод мірнага насельніцтва, так і сярод польскіх рыцараў, Вітаўт і Ягайла загадалі свайму войску ўстрымацца ад марадзёрства і адпусціць усіх палонных. Аднак ганебныя для хрысціянскага воінства выпадкі працягваліся, і даходзіла нават да рабаўніцтва касцёлаў і зневажання святыняў. Калі скаргі на падданых Вітаўта сталі занадта частымі, ён схапіў двух найбольш вінаватых літвінаў і загадаў ім прылюдна павесіцца на сваімі ж рукамі збудаванай шыбеніцы. Відовішча публічнага пакарання так уразіла ўсё войска, што «ніхто з рыцараў не наважыўся больш нападаць на касцёлы і да здабычы касцельнай працягваць драпежныя рукі»[80].

Пасля 5 ліпеня, калі стала ясна, што польска-літвінскае войска даўно пераправілася праз Віслу і накіроўваецца на Мальбарк, войскі крыжакоў сталі сцягвацца ў раён Кужэнтніка, які ляжаў каля бродаў на рацэ Дрвенца. Менавіта тут павінны былі з'явіцца сілы Вітаўта і Ягайлы на шляху да прускай сталіцы. Спешна ўмацоўваўся вастраколам заходні бераг ракі. План Юнгінгена быў такі: дачакацца атакі праціўніка на ўмацаваны заходні бераг, расстраляць яго з гармат, а затым давяршыць разгром, выпусціўшы супраць яго кавалерыю.

Аднак гэты план праваліўся. Падышоўшы да Кужэнтніка, Ягайла і Вітаўт пераканаліся, што «рака Дрвенца па абодвух берагах яе ўмацавана высокім вастраколам, так што без бою яе нельга перайсці», пасля чаго яны прынялі рашэнне адысці назад і абысці раку каля яе вытокаў. У той жа час (13 ліпеня) саюзнікі даведаліся пра канчатковае адхіленне ордэнам міру, а таксама пра разрыў адносінаў з венгерскім каралём.

Вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген, атрымаўшы ад шпіёна звесткі пра апусцелы польска-літвінскі лагер і адыход праціўніка, вельмі ўзрадаваўся, бо вырашыў, што непрыяцель уцякае. Аднак венгерскія дарадцы, якія знаходзіліся пры ім, слушна заўважылі, што «пакіданне на месцы начынняў, ды і тое парожніх, таксама як і хворых коней, не ёсць яшчэ дастатковым сведчаннем адступлення і ўцёкаў. Бо трэба быць толькі пазбаўленым розуму, каб непатрэбныя статкі і кульгавых кляч з сабой валачы». Пераканаными гэтымі і іншымі аргументамі,



магістр выступіў з войскам з Кужэнтніка і рушыў паралельна войску саюзнікаў па другім беразе Дрвенцы, маючы намер разбіць яго, пераправіўшыся праз раку ў іншым месцы, для чаго загадаў пабудаваць дванаццаць мастоў.

Між тым 13 ліпеня саюзныя войскі падышлі да ўмацаванага мястэчка Гільгенбург (Дуброўна). Гэта было невялікае паселішча, размешчанае паміж азёрамі Вялікая і Малая Дубровы, акурат на шляху саюзных войскаў на поўнач. Вечарам пачаўся штурм мястэчка, і пасля трохгадзіннай бітвы яно было захоплена, разрабавана і падпалена, пры гэтым была праяўлена крайняя суровасць. Значная колькасць як абаронцаў, так і мірных жыхароў «палягло пад мячамі, і няшмат было тых, хто на чаўнах і лодках выбраліся на возера, ніхто не пазбег смерці альбо няволі. Не зважалі ні на ўзрост, ні на просьбы аб літасці: палякі далі волю сваёй жорсткасці, не столькі па законах вайны, колькі з нянавісці да крыжакоў».

Разам з тым пажары, якія ахапілі ўсю забудову Дуброўна і палыхалі ажно да раніцы, стварылі для саюзнікаў нечаканыя праблемы. Мястэчка займала практычна ўвесь трохсотметровы прамежак паміж азёрамі Вялікая і Малая Дубровы, і абысці яго было немагчыма. Яшчэ больш праблематычна было правесці вялікую армію разам з абозам па вузкіх вулачках, густа аблепленых палаючымі дамамі, гатовымі ў любую хвіліну абрушыцца на галовы пераможцаў. Можна было б перачакаць пажар, але ў такім разе існавала сур'ёзная рызыка раптоўнага падыходу крыжацкага войска. Яно магло перакрыць вузкі праход паміж азёрамі і навязаць бой, аналагічны таму, які планаваўся пад Кужэнтнікам. У такіх абставінах кіраўніцтвам саюзных сілаў было вырашана рушыць на ўсход, абысці возера Вялікая Дуброва і працягваць марш на Мальбарк[81].

Расправа з абаронцамі і жыхарамі Дуброўна зрабіла вялізарнае ўражанне на сучаснікаў. Крыжакі, каб узмацніць псіхалагічны эфект ад пагрому, абвясцілі, што захоп горада быў зроблены рукамі «няверных» татараў і літоўцаў, а таксама русінаў. Відавочную няёмкасць за расправу адчуваў і аўтар «Хронікі канфлікту», які паспяшаўся падкрэсліць, што яна была зроблена не рыцарствам, а мяшчанамі. Аднак магчымасць самавольнага штурму горада якой бы там ні было часткай вой-



Самае месца ўзгадаць скептычнае стаўленне Ульрыха фон Юнгінгена да інфармацыі аб тым, што Вітаўт прывёў на злучэнне з Ягайлам войска не толькі вялікае, але і моцна ўзброенае. Для таго каб яшчэ раз пераканаць крыжацкіх шпіёнаў у магутнасці свайго войска, Вітаўту давялося наладзіць для «гасцей» спецыяльны парад. Калі вялікі магістр заяўляў, што ў «войску Вітаўта можна больш знайсці людзей з лыжкамі, чым са зброяй», то асноўным аргументам для яго скепсісу паслужылі частыя сутыкненні з літвінскім войскам, падчас якіх крыжакі мелі выдатную магчымасць ацаніць узровень матэрыяльна-тэхнічнай забяспечанасці літоўскіх воінаў. Іншая справа, што магістр не ведаў, якія высілкі былі зроблены Вітаўтам і Ягайлам напярэдадні Вялікай вайны для даўзбраення літоўскага войска.

Нават праз паўтара стагоддзі, калі ў ВКЛ была адносна някепска наладжана ўласная вытворчасць зброі і сістэма яе закупак за мяжой, значная частка войска, як ілюструюць попісы 60-х гг. XVI ст., была ўзброена яўна недастаткова. Нярэдка наступальнае ўзбраенне абмяжоўваліся рагацінай, некаторыя ваяры выходзілі «с кием», «с посохом», а то і «ни щым». Не ўсе ваяры мелі каня, хоць вайсковае заканадаўства абавязвала з'яўляцца на вайну «конна». Засцерагальнае ўзбраенне магло адсутнічаць альбо быць прадстаўленым ватаванымі кафтанамі альбо «скуркамі», якія часам называліся «скурка лося»[113]. У выніку апісанне «Хронікай Літоўскай і Жамойцкай» літоўскага войска XIII ст. можна смела прымяніць і да некаторых ваяроў ВКЛ другой паловы XVI ст. Між тым гаворка тут ідзе не пра дэмакратычную пагоню, куды мог уваходзіць і просты люд, а пра паспалітае рушэнне — феадальнае апалчэнне, якое складалася з асоб, клопат пра ўзбраенне для якіх з'яўляўся прафесійным абавязкам.

Няма ніякага сумнення, што літвінская вайсковая традыцыя адчувала на сабе значныя ўплывы рускай школы. Уплыў рускага элемента на фарміраванне агульнага аблічча літвінскага войска быў даволі значным. Да XIII ст. гэта абумоўлівалася ваеннай і культурна-эканамічнай экспансіяй, якую ажыццяўлялі рускія княствы на балцкія землі. У другой палове XIII — першай палове XV ст. падобная з'ява была звязана ўжо з прасоўваннем Вялікага Княства Літоўскага на ўсход і ўключэннем вайсковых адзінак толькі што далучаных рускіх тэрыторый у вайсковую сістэму дзяржавы. Аднак і тады «рускае» ўзбраенне

не лічылася кепскім нават з пункту гледжання прадстаўніка заходняй мілітарнай традыцыі. Так, апісваючы адваяванне Ягайлам у 1390 г. Брэсцкага, Камянецкага і Гродзенскага замкаў Вітаўта, Длугаш згадвае прыбыццё да польскага караля «князя навагрудскага Карыбута» (напэўна, ноўгарадсеверскага князя Дзмітрыя Карыбута), які «прыбыўшы асабіста, прывёў з сабой атрад больш шматлікі, чым іншыя літоўскія князі, і з больш багатым узбраеннем»[114].







Крыжацкія харугвы: Старогардскай камтурыі, горада Кёнігсберга, Гнеўская

На сённяшні дзень праведзены значныя даследаванні вайсковай справы рускіх зямель, якія дазваляюць сцвярджаць, што ў канцы XIV — пачатку XV ст. шляхі ў эвалюцыі сродкаў вайны на захадзе і ўсходзе Еўропы яшчэ не паспелі кардынальна разысціся. Рускія землі ўсё яшчэ адчувалі на сабе заходнееўрапейскія ўплывы і, у сваю чаргу, самі перадавалі сваім заходнім суседзям (прычым не толькі Вялікаму Княству Літоўскаму) уласныя напрацоўкі і запазычанні з Усходу. На Русі досыць шырока выкарыстоўваліся кальчужныя даспехі, у тым ліку кальчужныя нагавіцы, наборныя даспехі, пласцінкі якіх маглі прыклёпвацца да скураной ці тэкстыльнай асновы, коп'і з «бранябойнымі» наканечнікамі, прызначаныя для тараннага ўдару і прабівання пласцінчатых даспехаў, арбалеты, шчыты агульнаеўрапейскіх форм, мячы і г. д. На рускіх землях, прычым нават на іх усходніх рубяжах, выкарыстоўваліся некаторыя тыпы шлемаў, якія раней лічыліся тыпова заходнееўрапейскімі[115].

У сваю чаргу, некаторыя віды ўзбраення, трактуемыя часам як тыпова «рускія», такія, напрыклад, як ламелярныя даспехі, пласцінкі якіх звязваліся паміж сабой скуранымі раменьчыкамі, былі добра вядомыя ў краях «лацінскай» Еўропы яшчэ ў канцы XIV ст. У крыжацкіх





Крыжацкія харугвы: вестфальскіх наёмнікаў, Няшаўскай камтурыі

інвентарах трапляліся «рускія наплечнікі» і некаторыя іншыя віды ўсходняга ўзбраення. Поўны пласцінавы («цэльнакаваны») даспех, які ў той час з'яўляўся найноўшым вынаходніцтвам заходняй даспешнай думкі, не атрымаў ва ўсходнярускіх княствах распаўсюджання, аднак і традыцыйныя сродкі аховы дазвалялі стварыць тут дастаткова манументальнае пакрыццё ваяроў, у дачыненні да якіх дакументы канца XIV ст. адзначалі: «От глав их и до ногу все железно».

Верагодна, атрады менавіта такіх байцоў акрэсліваюцца ў творах Кулікоўскага цыкла як «каваная раць». Акрамя таго, у згаданых творах узгадваецца і зброя несумненна заходняга паходжання — «суліцы нямецкія», «шаломы нямецкія», «корды ляцкія» і г. д. Нават калі дапусціць, што падобная зброя тычыцца перадусім літвінскіх атрадаў, прыведзеных на Кулікова поле Альгердавічамі, то і тады факт іх фіксацыі ўяўляецца вельмі паказальным, тым больш што Літва ў такім разе мусіла б выступаць як ідавочны прадстаўнік мілітарнай культуры Захаду[116].

Калі б гэта было так, то давялося б канстатаваць, што ў канцы XIV — пачатку XV ст. не ВКЛ адчувала на сабе «рускія» ўплывы ў галіне вайсковай справы, а сама ўплывала, прынамсі на гэтым этапе, на вайсковую манеру рускіх зямель. У прынцыпе, у гэтым не было б нічога дзіўнага, калі ўзгадаць, якім аўтарытэтам у галіне вайсковай справы карысталіся прадстаўнікі ВКЛ у Маскве. Дастаткова ўзгадаць, якую выключную ролю ў Кулікоўскай бітве прыпісваюць рускія крыніцы Альгердавічам. Літвін Асцей кіраваў у 1382 г. абаронай Масквы ад войскаў Тахтамыша. Аляксандр Андрэевіч (Асей), сын Андрэя Полацкага і ўнук Альгерда, з'яўляўся каля 1390 г. намеснікам маскоўскага князя ў Каломне і «кармілічам» (выхавацелем) маладога княжыча. Увогуле незадаволеныя літоўска-беларускія князі — а іх не бракавала ў часы зацяжных дынастычных канфліктаў, якія цягнуліся амаль бесперапынна са смерці Альгерда ў 1377 г., — былі жаданымі гасцямі ў Маскве, што не магло не ўплываць на аблічча войска маскоўскіх і іншых усходнярускіх князёў.

У той жа час, прызнаючы несумненныя ўплывы рускай вайсковай традыцыі на землях Вялікага Княства Літоўскага, не варта іх занадта перабольшваць. Уяўляецца, што ў першую чаргу тут былі пашыраныя тыя віды ўсходняй зброі, у тым ліку, напэўна, не толькі рускай,





якія па баявых якасцях набліжаліся да заходніх аналагаў, — кальчужныя і пласцінавыя даспехі, некаторыя віды шлемаў, абухова-ўдарная зброя і інш. Яны не толькі прыжыліся на мясцовай глебе, але ў шэрагу выпадкаў трансфармаваліся, з улікам мясцовых традыцый і густаў, у самабытныя ўзоры баявога рыштунку. І «рускае», і «літоўскае» ўзбраенне, такое, як спічастыя шлемы, фіксуемыя ў крыжацкіх арсеналах як «spiczenghelme» і «pekilhube», шчыты-павезы альбо кароткія коп'і-суліцы, прызначаныя не толькі для рукапашнага бою, але і для кідання, засведчыла свае высокія якасці. У выніку нават прадстаўнікі заходняй мілітарнай школы ахвотна ім карысталіся. Што ж тычыцца пашыранага меркавання аб перавазе ў літвінскім войску тых усходніх відаў зброі, якія не мелі аналагаў на Захадзе, то яно хутчэй стала вынікам непаразумення. Прыярытэтнае выкарыстанне ў літвінскім войску агульнаеўрапейскіх тыпаў зброі, хоць і больш архаічных у параўнанні з найбольш перадавымі краямі Еўропы, пацвярджаецца рознымі крыніцамі, у тым ліку і археалагічнымі.

Такім чынам, на развіццё вайсковай справы ў Вялікім Княстве Літоўскім, у тым ліку і на характар выкарыстоўваемай тут зброі, уплывалі як заходнія, так і ўсходнія традыцыі. Пры гэтым узровень забяспечанасці літвінскага войска ўзбраеннем яшчэ ў канцы XIV — пачатку XV ст. заставаўся даволі нізкім. Гэта запатрабавала ад Ягайлы і Вітаўта сур'ёзных высілкаў па даўзбраенню русінаў і асабліва літвінаў напярэдадні рашучага сутыкнення з Тэўтонскім ордэнам. Сляды гэтых высілкаў знайшлі адлюстраванне ў рахунках польскага караля. Там пазначаны сумы на аплату вайсковага рыштунку для асобных прадстаўнікой палітычнай эліты ВКЛ, а таксама на закупку цэлых партый узбраення, прызначаных, верагодна, для простага рыцарства.

Раз-пораз польскія майстры маглі задавальняць спецыфічныя густы заможных заказчыкаў, у тым ліку і арыентальныя. Аднак у большасці выпадкаў на літоўскія і беларускія землі экспартавалася, без сумнення, тыповае для польскай традыцыі ўзбраенне, выкананае па заходніх стандартах, асабліва калі справа тычылася высылкі буйных партый зброі.

Далёка не заўсёды на землі Вялікага Княства Літоўскага траплялі самыя перадавыя ўзоры еўрапейскага ўзбраення, такія, як пласцінавыя даспехі ці агняпальная зброя. Асноўную масу рыштунку складалі,







Крыжацкія харугвы: горада Грудзендза, камтурыі і горада Шанзее, Эльблонгская



напэўна, дастаткова шараговыя рэчы — адкрытыя шлемы-шаломы альбо кальчужныя панцыры, якія не былі рэдкасцю і на ўсходзе Еўропы. Часам сустракаліся асобныя элементы, у тым ліку для аховы канечнасцяў, якія мусілі дапаўняць тыя засцерагальныя сродкі, якія ўжо меліся ў распараджэнні ўладальніка; прычым кампелект набытага такім чынам асобнымі літвінамі ўзбраення мог быць даволі сціплым. Калі эліта Вялікага Княства і набывала за кошт імпарту перадавую еўрапейскую зброю, то ў цэлым пастаўкі з Польшчы пераследавалі мэту задавальнення вострай патрэбы ва ўзбраенні наогул. Калі верыць скарзе крыжакоў на Канстанцкім саборы ў 1416 г. на пастаўкі палякаў «літоўцам, схізматыкам і ерэтыкам» вайсковай амуніцыі, то яна была прадстаўлена практычна ўсім спектрам узбраення, ужыванага ў той час, — даспехамі, нагруднікамі, шлемамі, кальчугамі, ручной агняпальнай зброяй, бамбардамі, мячамі, арбалетамі, махінамі для аблогі ўмацаванняў і г. д.[117]

Інтэнсіўныя пастаўкі ўзбраення ў Вялікае Княства Літоўскае з Польшчы не змаглі, па ўсёй верагоднасці, ліквідаваць тут дэфіцыт баявога рыштунку. Аднак яны здолелі надаць літвінскаму войску яшчэ больш заходні характар. Нездарма звыклай формай баявога шыхтавання тут з'яўляўся клін, што наўрад ці магло б быць магчымым у войску, для якога заходнееўрапейская мілітарная традыцыя была чужой. Ужо на Грунвальдскім полі ўзбраенне, аналагічнае заходняму не толькі па баявых якасцях, але і па знешнім выглядзе, не з'яўлялася ў харугвах Вітаўта, як падаецца, нечым выключна рэдкім, прынамсі ў першых лініях, дзе стаяла адборнае рыцарства. На гэта ўказвае адзін з эпізодаў бітвы, калі палякі нейкі час прымалі атакуючыя крыжацкія рэзервы за літвінаў, якія вярталіся на поле бою. На ўзнікненне непаразумення ў значнай меры паўплывала наяўнасць у крыжацкіх шыхтах вялікай колькасці лёгкіх коп'яў-суліц, характэрных для балцкай традыцыі, аднак калі б іншае іх узбраенне, у тым ліку засцерагальнае, кардынальна адрознівалася ад таго, якое палякі разлічвалі знайсці ў атрадах Вітаўта, блытаніна наўрад ці была б магчымай[118].

У XIV—XV стст. у Еўропе назіраўся сапраўдны пераварот у галіне вайсковай справы. Ён характарызаваўся з'яўленнем новых відаў наступальнага ўзбраення, паражаючы эфект якіх значна перавышаў традыцыйныя віды зброі. Гэта ў сваю чаргу запатрабавала пошуку больш

надзейных ахоўных сродкаў, прадстаўленых баявымі нагалоўямі (шлемамі), баявымі пакрыццямі тулава (даспехамі) і баявымі прыкрыццямі (шчытамі).



Бацынет. XIV ст.

У разглядаемы перыяд назіралася значная разнастайнасць **шлемаў**. Асноўным элементам любога шлема з'яўляўся звон, што ахоўваў найбольш небяспечную для паражэння частку галавы — чарапную каробку. Эвалюцыя шлема і ўзнікненне новых яго тыпаў адбывалася, галоўным чынам, шляхам удасканалення формы звона і забеспячэння яго дадатковымі засцерагальнымі элементамі. Узрастанне значэння зброі далёкага бою (лукаў, арбалетаў), а таксама павелічэнне эфектыўнасці мячоў, коп'яў, ударнай зброі вельмі востра паставілі пытанне надзейнай аховы твару, якая б адначасова не надта перашкаджала абсервацыі. У выніку побач з адкрытымі і закрытымі шлемамі ўзніклі прылбіцы — нагалоўі з рухомай аховай твару, якую, гледзячы па абставінах, можна было апускаць альбо падымаць. Адначасова пазначылася тэндэнцыя да патаўшчэння бляхі, з якой нагалоўі выраблялiся. У канцы XIV — пачатку XV ст. таўшчыня сценак звона шлемаў вагаецца ў межах 1,5—3 мм; адхіленні ў той ці іншы бок звычайна выкліканы тэхналагічнымі асаблівасцямі, якія не дазвалялі кавалю вырабіць бляху аднолькавай таўшчыні. Пры вырабе досыць складаных па форме нагалоўяў выкарыстоўвалася цэльная коўка, кавальская зварка, пайка пры дапамозе сярэбранага ці меднага дроту, змацаванне пры дапамозе заклёпак.

Па-ранейшаму велізарнай папулярнасцю карысталіся адкрытыя шлемы — найбольш простыя ў вырабе, недарагія, надзейныя і зручныя ў плане забеспячэння ўладальніку добрай абсервацыі. Адсутнасць аховы твару кампенсавалася наяўнасцю барміцы, якая найчасцей выраблялася з кальчужнага палатна і чаплялася да краёў звона. Барміца бараніла шыю і плечы ваяра, але магла пакрываць і ніжнюю частку твару. Падобныя шлемы ў разглядаемы час былі вядомыя як ***«шолом»***, прычым розныя варыянты гэтага тэрміна ўжываліся не толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім, але таксама ў Польшчы (scholm) і нават на землях Тэўтонскага ордэна (slomhuben).









Крыжацкія харугвы: горада Кніпава, камтурыі горада Бродніца, Бруншвіцкая

Цікава, што інвентары крыжацкіх арсеналаў фіксуюць таксама загадкавыя «прускія шлемы» (pruscher helme), якія, на думку польскага даследчыка А. Навакоўскага, уяўлялі сабой тыповыя для Усходу шаломы з барміцай лускавай канструкцыі, а таксама «спічастыя шлемы» (storczhelme, spiczgehelme), якія найбольш поўна мусяць адпавядаць характэрнай «старажытнарускай» форме[119]. Гэтая форма, якая склалася яшчэ ў «далітоўскія» часы, прадугледжвала звон сфераканічных, т. зв. «цыбулістых», альбо цыліндрычна-канічных («шатровых») абрысаў і выцягнуты шпіль. Паводле распаўсюджаных меркаванняў, такая дасканалая форма лепш за ўсё дазваляла адводзіць сякучы ўдар і гэтым, маўляў, тлумачыцца яе папулярнасць на Усходзе, у тым ліку і на Русі, дзе яна выкарыстоўвалася стагоддзямі. Аднак, паводле шматлікіх апытанняў сяброў беларускіх ваенна-гістарычных клубаў, большасць удараў клінковай зброяй наносіцца не ў цемянную, а ў лобную і скроневыя часткі шлема. Каб удар прыйшоўся «на шпіль», трэба наносіць строга вертыкальны ўдар, а праціўнік павінен быць вельмі малога росту ці моцна нахіліць галаву. Больш таго, пры нанясенні бакавога ці касога ўдару шлем з доўгім шпілем можа быць збіты з галавы. Такім чынам, працяглае выкарыстанне падобнай формы тлумачыцца, хутчэй за ўсё, не яе дасканаласцю, а большай кансерватыўнасцю ўсходняй вайсковай традыцыі.

Вядомыя дзве знаходкі падобных шлемаў з прускай тэрыторыі, якія са значнай доляй верагоднасці можна датаваць канцом XIV — пачаткам XV ст. Гэта шалом з Мельна (Альштынскае ваяводства), знойдзены на месцы бітвы 1410 г., і шалом з Выструця над Прэголай. Абодва шаломы маюць гарызантальна зрэзаны край звона з дзірачкамі пад барміцу і выцягнуты шпіль. Аднак калі нагалоўе з Выструця мае «цыбулістыя», сфераканічныя абрысы, то шлем з Мельна — цыліндрычна-канічныя. Не выключана, абодва шлемы, нетыповыя для заходнееўрапейскага ўзбраення, былі згублены падчас Грунвальдскай выправы кімсьці з ліцвінаў ці русінаў войска Вітаўта[120].

Яшчэ два шаломы «рускага» тыпу, надзвычайна падобныя на згаданыя вышэй, выпадкова знойдзены ў Мсціславе (Магілёўская вобласць). Яны выяўлены ў р. Віхра на ўчастку, які прымыкае да замчышча. Абодва шлемы з'яўляюцца ў той ці іншай ступені пераходным варыянтам ад сфераканічных да цыліндрычна-канічных нагалоўяў, абодва маюць

гранёную верхнюю частку. Аднак калі ў аднаго грані афармлены выразна і могуць расцэньвацца як частка дэкору, то ў другога яны прасочваюцца толькі з унутраннага боку. Таму не выключана, што тут іх наяўнасць была выклікана тэхналагічнымі асаблівасцямі, напрыклад, у выніку злучэння сектараў верхняй часткі ў лейкападобнае завяршэнне пры дапамозе кавальскай зваркі. Па адной з версій, шаломы маглі трапіць на дно ракі ў 1386 г., калі адбылася аблога Мсціслава войскам смаленскага князя Святаслава і яго бітва з падышоўшымі сіламі Скіргайлы і Вітаўта[121].

Пра папулярнасць шаломаў са шпілем нават у прадстаўнікоў палітычнай эліты Вялікага Княства Літоўскага сведчаць пячаткі літоўскіх князёў. Вершнікі ў такіх нагалоўях, забяспечаных брылькападобным выступам у лобнай частцы, паказаны на пячатках Дзмітрыя Карыбута за 1386 г. і Свідрыгайлы за 1420 г. Брылькападобныя выступы, характэрныя для мангола-татарскіх шлемаў таго ж часу, маглі быць альбо ўласна брылькамі, альбо прымацаванымі да ніжняга краю нагалоўя і прылягаўшымі да лба фігурнымі пласцінамі. Скласці ўражанне пра такія шлемы дазваляе экзэмпляр з пахавання качэўніка



Шаломы XIV—XV стст., знойдзеныя ў Мсціславе





«Шатровы» бацынет

канца XIII — пачатку XIV ст. у Плоскім на Украіне[122]. У той жа час татары маглі карыстацца і канструкцыйна больш простымі нагалоўямі. Адно з такіх нагалоўяў знойдзена на Украіне, у пахаванні XIV ст. ля в. Каірка Калачынскага р-на Херсонскай вобласці. Яно наборнае, складзенае з абвода, конусападобнага купала і накладнога наверша-каўпачка. Канструкцыя звона не прадугледжвала мацавання барміцы, якая чаплялася да лямцавага падшлемніка, які насіўся пад нагалоўем. Нечым падобны шалом, але з гранёнай верхняй часткай, быў знойдзены ў Луцку ў р. Стыр[123].

Значна больш шырокае распаўсюджанне атрымалі ў Еўропе ў канцы XIV — пачатку XV ст. шаломы «стажковай» формы з падоўжанымі з бакоў і ззаду краямі звона, што дазваляла бараніць вушы і патыліцу воіна. Спераду такіх шлемаў магло праходзіць вертыкальнае рабро. Падобныя шлемы прынята называць баскінетамі, бацынетамі альбо басінетамі (ад англ. і фр. bascinet ці bassinet). Лічыцца, што баскінеты сфарміраваліся на аснове малога «сакрэтнага» шлема, які насіўся пад «гаршковым» шлемам, альбо шляхам паглыблення сценак шырока распаўсюджаных у Еўропе т. зв. «нарманскіх» шлемаў. Бацынеты мелі больш дасканалую канструкцыю, што выявілася ў глыбейшым звоне і ў зручнейшай сістэме мацавання барміцы. Яна, як правіла, чаплялася да шлема пры дапамозе спецыяльных трубчатых завесаў, прыкляпаных па краях звона, праз якія прапускалася драціна. Дзякуючы падобнай сістэме барміца лёгка здымалася, што спрашчала яе замену. Разам з тым барміца некаторых бацынетаў магла мацавацца і настала.

Бацынеты былі адным з найбольш папулярных тыпаў баявых нагалоўяў ва ўсёй Еўропе, у тым ліку і на землях Тэўтонскага ордэна, дзе іх ужывалі як простыя рыцары, так і высокія ордэнскія чыны. Не менш папулярнымі яны былі і ў Польшчы. У сучаснай польскай збраязнаўчай літаратуры яны вядомыя як лэбкі, хоць у часы Вялікай вайны для іх абазначэння ўжываліся тэрміны szlom, schlome і інш.[124] «Szlomy» часта фігуруюць у рахунках польскага каралеўскага двара, у тым ліку ў спісах узбраення, прызначанага для прадстаўнікоў ВКЛ.





У 1394 г. такія шлемы атрымалі смаленскі князь Глеб, Раман, верагодна, князь кобрынскі, літвін Свімунт, а таксама нейкі Іван з Віцебска. Годам раней 2,5 грыўны на набыццё «шалома-лэбкі» і барміцы да яго атрымаў з каралеўскага скарбу віленскі староста Мінгал. У 1399 г. князю Вітаўту было выслана з Кракава 8 «барбут» і шаломаў-бацынетаў[125].

Пра папулярнасць баскінетаў па ўсёй Еўропе сведчаць знаходкі канструкцыйна блізкіх шаломаў на землях Усходняй Русі — з Белай Калітвы (Растоўская вобласць), з-пад Таржка, з-пад Гарадца-на-Волзе. Яны маюць цыліндрычна-канічныя (шатрападобныя) абрысы і больш простую, у параўнанні з класічнымі «стажковымі» бацынетамі, тэхналогію, але без зніжэння баявых якасцяў. «Шатровыя» бацынеты не могуць разглядацца як тыпова рускія; іх аналагі вядомы на Захадзе, напрыклад у Германіі і Швейцарыі, дзе плебейская пяхота таксама імкнулася забяспечыць сябе недарагім і надзейным узбраеннем[126]. Разам з тым, ва Усходнюю Русь маглі трапляць і нагалоўі заходнееўрапейскіх форм. Узорам можа служыць т. зв. «разанскі бацынет» з фондаў Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве. Ён мае звон тыповай стажковай формы, са скошаным назад верхам, аднак з гарызантальна зрэзанымі краямі. Не выключана, што краі звона маглі быць зрэзаны ўжо ў ходзе эксплуатацыі.

У камплекце з шаломамі маглі выкарыстоўвацца ***кальчужныя каптуры*** ў выглядзе пелерынкі з капюшонам. У сярэднявечнай Еўропе надзвычай шырока практыкавалася і ўжыванне кальчужных каптуроў як самастойнай аховы галавы. На сённяшні дзень абсалютна даказана, што менавіта гэты тып баявых нагалоўяў акрэсліваўся шырока вядомым ў XIV—XV стст. тэрмінам «псіная пыса» (ням. Hundsgugel). Дзякуючы сваёй тэхналагічнасці і невялікім коштам, «псіныя пысы» былі адным з самых пашыраных і дэмакратычных відаў баявых пакрыццяў галавы, ужываным як простымі воінамі, так і феадальнай арыстакратыяй. Сур'ёзным недахопам кальчужных каптуроў была іх надзвычайная эластычнасць: любы больш-менш моцны ўдар мог скончыцца кантузіяй альбо нават пашкоджаннем чэрапа ўладальніка. Таму ён патрабаваў абавязковага нашэння пад ім тоўстага мяккага падшлемніка.

Кальчужныя каптуры маглі быць шырока прадстаўлены як у крыжацкай, так і ў польскай арміях. Ужываўся такі від баявых нагалоўяў

і ваярамі Вялікага Княства Літоўскага. «Псіныя пысы» (hindiskogeln), што належалі князю Свідрыгайлу, узгадваюцца пад 1403 г. у кнізе выдаткаў падскарбія Тэўтонскага ордэна[127].

Яшчэ адным надзвычай дэмакратычным тыпам баявых нагалоўяў, ужываных у канцы XIV — пачатку XV ст., былі ***капаліны***, якія атрымалі сваю назву з-за падабенства да металічных капелюшоў. Яны з'яўляліся пераважна адкрытым шлемам, аднак асаблівасць іх канструкцыі складалі больш ці менш шырокія палі, часам апушчаныя ўніз, што значна павялічвала ахоўныя якасці. Для забеспячэння максімальнай

Кальчужны каптур (хундсгугель) з месца бітвы пад Вісбі ў 1361 г.







аховы галавы капаліны найчасцей насіліся ў камплекце з кальчужнымі каптурамі. У часы Грунвальдскай бітвы найбольшай папулярнасцю карысталіся капаліны з акруглым звонам, часам забяспечаным нізкім грэбенем[128].

Капаліны былі бадай што найбольш папулярным тыпам шлемаў у крыжацкай дзяржаве. У асобных арсеналах яны складалі да паловы ад усіх баявых нагалоўяў. Вельмі пашыранымі былі яны і ў Польшчы, аднак ужываліся тут пераважна небагатым рыцарствам і плебейскай часткай войска, напрыклад мяшчанамі. Што тычыцца Вялікага Княства Літоўскага, то капаліны заходнееўрапейскіх форм напачатку XV ст. яшчэ не паспелі набыць тут папулярнасці. Разам з тым арыгінальныя па форме шлемы ў выглядзе конусападобных нагалоўяў з нешырокімі палямі двойчы фіксуюцца на літоўскіх пячатках другой паловы XIV ст. (1379). Першая належыць князю Кейстуту, другая — ягонаму сыну Вітаўту. Самабытнасць падобных баявых пакрыццяў галавы, іх непадобнасць на ўсе нагалоўі, ужываныя ў тагачаснай Заходняй Еўропе, абумовілі той факт, што польскія, літоўскія, а часам і расійскія рэканструктары ўзбраення ВКЛ любяць паказваць літвінаў часоў Вітаўта менавіта ў такіх шлемах. Стылістычна найбольш блізкім да такіх нагалоўяў з'яўляецца візантыйскі шлем XII—XIII стст., які захоўваецца ў Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. Гэты шлем характарызуецца нешырокімі палямі і конусападобным звонам з акруглым «гузам» на вастрыі і невысокім цыліндрычным абводам у ніжняй частцы[129].

Найбольш дасканалым з пункту гледжання засцерагальных якасцяў з'яўляўся такі тып нагалоўяў, як ***прылбіца***. Асаблівасць прылбіцы складала наяўнасць рухомага элемента, які ахоўваў твар. Пры жаданні гэты элемент можна было адхіліць, адчапіць альбо зняць — і закрыты шлем ператвараўся ў адкрыты. Першыя прылбіцы, сканструяваныя ў Еўропе ў першай палове XIV ст. на аснове бацынетаў, цалкам пакрывалі галаву, але пакідалі неабароненай шыю, якую засланяла толькі кальчужная барміца. Функцыю па ахове твару ў прылбіц напачатку выконваў рухомы наноснік у выглядзе выцягнутага трыкутніка. Ніжні, шырокі канец наносніка мацаваўся да падбародачнай часткі барміцы, а верхні забяспечваўся пятлёй і чапляўся за спецыяльны кручок на лобнай частцы звона. Калі наноснік быў адчэплены, ён звісаў уніз і нагадваў



Прылбіца пачатку XV ст. Са збораў Венскага музея ўзбраення

бараду, таму прылбіца з наноснікам часам называлася «барбута», што па-італьянску азначае «барадач». Такі від прылбіц бытаваў ў XIV ст. у Германіі і Польшчы, адкуль у канцы XIV ст. мог імпартавацца ў Вялікае Княства Літоўскае. Так у 1399 г. з Кракава вялікаму князю Вітаўту было выслана «VIII barbutas et szlomy»[130]. Аднак у часы Грунвальда гэта быў ужо дастаткова архаічны тып нагалоўяў.

У другой палове XIV ст. з'явіліся больш дасканалыя мадыфікацыі прылбіцы з заслонай-забралам, што цалкам закрывала твар і забяспечвалася зрокавымі шчылінамі (візурай) і адтулінамі для дыхання. Заслона спачатку мацавалася на адной лобнай завесе і ў паднятым стане адкідалася на звон (т. зв. «кляпавая» заслона). Такая сістэма мацавання заслоны ўзнікла, праўдападобна, на германскіх землях і менавіта тут карысталася найбольшай папулярнасцю. У далейшым у большасці краін Еўропы сталі аддаваць перавагу заслонам на скроневых шарнірах. Шарнірная заслона магла мець дадатковыя шплінтаваныя завесы, што дазваляла цалкам здымаць яе. У мэтах павышэння трываласці заслона набывала выцягнутыя абрысы, падобныя на звярыную морду. Дзякуючы гэтаму заслона атрымала не толькі абцякальныя абрысы, якія дазвалялі выдатна адводзіць колючыя ўдары праціўніка, але і надзвычай грозны выгляд. Як ужо адзначалася, дзякуючы спецыфічнай форме такіх шлемаў іх доўгі час атаясамлівалі з





сярэднявечным тэрмінам «псіная морда», і толькі нядаўна высветлена, што гэты тэрмін выкарыстоўваўся ў дачыненні да кальчужных каптуроў.

Пад Грунвальдам прылбіцы выкарыстоўвалі як польскія рыцары, так і крыжакі. Меліся яны на ўзбраенні і ваяроў Вялікага Княства Літоўскага, прынамсі прадстаўнікоў палітычнай эліты, якія былі ў стане замовіць такія шлемы за мяжой, у той жа Польшчы. Прылбіцы старэйшага тыпу са спічастымі заслонамі неаднаразова фіксуюцца на пячатках літоўскіх князёў. Баскінеты з «кляпавай» заслонай прадстаўлены на пячатках Скіргайлы за 1387 г., Аляксандра Вігунта за 1388 г. і Вітаўта за 1418 г. Цікавым элементам нагалоўя з пячаткі Вітаўта з'яўляецца султан з пер'я, які нібыта вырастае са спічастага завяршэння звона. Такі самы султан можна заўважыць і на пячатцы Скіргайлы за 1394 г., аднак заслона шлема мацуецца тут не на адной лобнай, а на дзвюх скроневых завесах[131]. Мацаванне султана ў бацынетаў было магчымым дзякуючы спецыфічнаму афармленню спічастага завяршэння звона, якое мела выгляд як бы трубачкі. Экзэмпляры з такім завяршэннем можна пабачыць у Венскім музеі ўзбраення.

На ўзбраенні варагуючых бакоў, што сутыкнуліся пад Грунвальдам, маглі знаходзіцца і не зусім тыповыя прылбіцы, сканструяваныя на аснове цыліндрычна-канічных («шатровых») бацынетаў. Узорам такіх шлемаў можа служыць экзэмпляр з Торуня. Нагалоўі, якія могуць атаясамлівацца з «шатровымі» прылбіцамі, фіксуюцца як «pekilhaube» і «prewsche hube» ў крыжацкіх інвентарах. Польскія даследчыкі трактуюць гэтыя тэрміны як сінонімы, што абазначалі балтыйскую, альбо «прускую», прылбіцу, характэрную як для ордэна, так і для ВКЛ[132].

Напачатку XV ст. у Еўропе ішлі інтэнсіўныя пошукі найбольш надзейнай **аховы тулава**, што прывяло да з'яўлення даспеха з буйных



Пласцінка платаў са Студзёнкі Віцебскай вобл.



пласцін, якія забяспечвалі выдатную ахову не толькі ад колючых і сякучых, але і ад цяжкіх дэфармуючых удараў, наносімых абухова-ўдарнай зброяй. Разам з тым традыцыйныя віды баявых пакрыццяў тулава, выробленыя з невялікіх пласцінак альбо з кальчужнага пляцення, карысталіся вялікім поспехам і нават па-ранейшаму дамінавалі ў некаторых арміях.

Найбольш старажытнымі з даспехаў, ужываных на мяжы XIV—XV стст., з'яўляюцца т. зв. ***лямелярныя даспехі***. У такіх даспехах адносна невялікія падоўжаныя пласцінкі звязваліся паміж сабой пры дапамозе раменьчыкаў. Пласцінкі, размешчаныя вертыкальна, злучаліся ў гарызантальныя палосы, а палосы, у сваю чаргу, злучаліся ў гатовы даспех. І пласцінкі ў складзе палос, і самі палосы перакрывалі адна адну сваімі краямі, што павялічвала трываласць даспеха пры адносна малой таўшчыні пласцінак (0,5—1,5 мм). Краі гарызантальных палос пры злучэнні ў даспех абгортваліся палоскамі скуры. Для чаго гэта рабілася ў сярэднявеччы, няясна, аднак сучасныя рэканструкцыі падобнай аховы цела сведчаць, што абгортванне палос прадухіляе бразганне пласцін і пераціранне скураных раменьчыкаў, якімі яны звязваліся. У краінах «лацінскай» Еўропы лямелярныя даспехі ўжываліся да канца XIV ст., у той час як на ўсходнярускіх землях яны бытавалі да канца XV стагоддзя[133].

Можна меркаваць, што пад Грунвальдам даспехі раменнага мацавання былі прадстаўлены пераважна ў войску Вітаўта, складзеным з літвінаў і русінаў, да якіх еўрапейскія навацыі даходзілі з пэўным спазненнем. Пэўная кансерватыўнасць узбраення магла тут звязвацца, як і ў выпадку з ужываннем баявых нагалоўяў, не толькі з павагай да традыцый, але і з чыста практычнымі меркаваннямі. Лямелярны даспех быў дастаткова танны, даволі лёгка рамантаваўся самім уладальнікам, без паслуг рамесніка. Для гэтага дастаткова было замяніць адну ці некалькі пашкоджаных пласцін і зноў звязаць усю канструкцыю. Пры гэтым баявыя якасці лямелярнага даспеха былі вельмі высокімі і практычна не адрозніваліся ад больш сучасных пакрыццяў цела.

Разам з тым напачатку XV ст. даспехі раменнага мацавання нават у ВКЛ не належалі да засцерагальных сродкаў, якія можна было б назваць перадавымі. Прынамсі, большасць сведчанняў аб іх выкарыстанні датуюцца часам не пазней за XIV ст. Воін у лямелярным

даспеху паказаны на пячатцы трокскага князя Кейстута за 1379 г. Пласцінкі падобных даспехаў знойдзены ў слаях XIII—XIV стст. Друцка і Смаленска. Вялікая колькасць пласцін лямелярных даспехаў знойдзена ў слаях канца XIV ст. Віленскага Ніжняга замка, дзе яны колькасна пераважаюць над даспешнымі дэталямі іншых тыпаў (толькі ў 2007 г. знойдзена 80 асобных пласцін і 11 склееных іржой кавалкаў даспехаў). Паверхню віленскіх пласцін упрыгожвае арнамент з выбітых знутры кропак, які не толькі служыў эстэтычным мэтам, але і павялічваў трываласць даспеха, яго адпорнасць ударам праціўніка. Падобны ж арнамент прысутнічае і на некаторых пласцінах з Друцка, што дазваляе меркаваць, што практыка падобнага «аздаблення» лямелярнага даспеха была ў XIV ст. нярэдкай.

У польскім войску лямелярныя даспехі можна было сустрэць, па ўсёй верагоднасці, значна радзей, ды і то пераважна на мазавецкіх землях, дзе адчуваліся пэўныя мілітарныя ўплывы Вялікага Княства Літоўскага. Што тычыцца тэрыторыі Тэўтонскага ордэна, то лямелярны даспех быў вядомы і тут, асабліва дзякуючы даўнім кантактам прусаў з літоўскімі і рускімі землямі. Аднак у часы Грунвальда такі даспех мусіў лічыцца ў крыжацкім войску анахранізмам[134].



Крыты пласцінавы даспех XV ст. Зборы Парыжскага артылерыйскага музея

Больш папулярнымі ў Еўропе былі напачатку XV ст. даспехі, у якіх пласцінкі не звязваліся паміж сабой, а прыклёпваліся альбо прышываліся да скуранай ці тэкстыльнай асновы. Існавалі розныя сістэмы размяшчэння пласцінак у складзе даспеха. У адных выпадках пласцінкі напускаліся сваімі краямі адна на адну, накшталт рыбінай лускі. У другіх размяшчаліся не ўнахлёст, а ўстык, «мазаічна».

Пласцінкі ***даспеха «на аснове»*** маглі мацавацца да яе як са знешняга, так і з унутранага боку альбо нават паміж дзвюма слаямі скуры ці моцнай тканіны. У залежнасці ад гэтага ўсе даспехі падобнага тыпу падзяляліся на «белыя» і крытыя. У дачыненні да крытых даспехаў з пласцінак сярэдніх памераў у Еўропе ў канцы XIV — пачатку XV ст. ужываліся розныя варыянты тэрміна «платы». Платы атрымалі тут



распаўсюджанне з сярэдзіны XIII ст., пасля нашэсця мангола-татараў, якія і занеслі на еўрапейскія абшары гэты тып даспехаў. У XIV ст. платы з'яўляліся найбольш пашыраным відам даспехаў «лацінскай» Еўропы; былі вядомы яны і ва ўсходняй Русі, але не атрымалі тут такой папулярнасці, як на Захадзе.

Між тым папулярнасць платаў нават у бліжэйшых заходніх суседзяў ВКЛ была надзвычай высокай. У збраёўні сталіцы Тэўтонскага ордэна ў 1391 г. налічвалася 450 платаў, што складала 2/3 ад усіх даспехаў, якія тут захоўваліся. У 1404 г. колькасць падобных пакрыццяў тулава скарацілася ў Мальбарку да 324, але ўсё роўна яны заставаліся тут найбольш пашыраным відам даспехаў галоўнага крыжацкага арсенала.

Даволі значную папулярнасць набылі да пачатку XV ст. даспехі «на аснове» і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Іх элементы былі выяўлены ў познесярэдневяковых слаях Друцка, у слаях другой паловы XIV — пачатку XV ст. Старога замка ў Гродне, у в. Студзёнка Барысаўскага раёна, на тэрыторыі віленскага Ніжняга замка. Шырока прадстаўлены пласцінкі платаў у слаях XIV — XV стст. украінскіх замкаў — у Луцку, на замчышчы паблізу в. Сакільцы Гайсінскага раёна Вінніцкай вобласці, на замчышчы ў Брацлаве Вінніцкай вобласці і на гарадзішчы Зялёная Ліпа Хоцінскага раёна[135].

Практычна ўсе пласцінкі платаў XIV—XV стст. з беларускіх, украінскіх і літоўскіх зямель маюць еўрапейскія аналагі і паддаюцца класіфікацыі, распрацаванай Б. Тордэманам на аснове матэрыялу, выяўленага на месцы бітвы пры Вісбі на востраве Готланд, якая адбылася ў 1361 г. Большасць пласцінак набліжаецца да даспехаў тыпу IV і характарызуецца сярэднімі памерамі. Такія даспехі зашпільваліся збоку, баранілі не толькі грудзі і спіну, але і плечы ваяра. Да гэтага тыпу можна залічыць пласцінкі са Студзёнкі, Луцка, Брацлава. Да тыпу V набліжаюцца пласцінкі з Гродна і Сакільцаў. Даспехі гэтага тыпу вызначаліся пласцінкамі значна меншых памераў і зашпільваліся на грудзях.

Дакладна вызначыць, якія з пласцінак, знойдзеных падчас археалагічных раскопак, належалі да «белых», а якія да крытых наборных даспехаў, не заўсёды магчыма. Адна і тая ж форма пласцінак магла быць уласцівай як для платаў, так і для «белых» даспехаў «на аснове», вядомых у Еўропе як «карацэна» («каразін брыгантын»). Можна мер-

каваць, што, пры адноснай стабільнасці форм пласцінак такіх даспехаў, на сістэму іх мацавання да асновы маглі ўплываць самыя розныя фактары — мода, навыкі майстра ці проста густы заказчыка. Не выключана, што адны і тыя ж пласцінкі на працягу свайго «жыцця» маглі складаць, у выніку пераробкі, то крытыя, то «белыя» даспехі. Больш-менш упэўнена вызначыць, якому даспеху належалі пласцінкі, «беламу» ці крытаму, можна толькі па тым, з якога боку пласцінак размяшчаюцца галоўкі заклёпак[136].



Кіраса пачатку XV ст.

Вяршыняй эвалюцыі даспеха ў Еўропе стаў ***пласцінавы даспех***. Працэс яго ўзнікнення прайшоў некалькі этапаў. Найбольш важным стаў перыяд з 1330 па 1410 г., калі была сканструявана жорсткая кіраса, якая ахоўвала торс ваяра, а таксама поўныя пласцінавыя пакрыцці рук і ног. Найбольшая кансерватыўнасць назіралася ў выкарыстанні пакрыццяў торса. Традыцыйныя лямелярныя даспехі і даспехі «на аснове» бытавалі на працягу ўсяго разглядаемага перыяду, часам у камплекце з пласцінавай аховай канечнасцяў.

Ваяры Вялікага Княства Літоўскага, а часам і яго праціўнікі, маглі дапаўняць традыцыйныя даспехі спецыфічнымі элементамі, такімі, як «tasses de Russie», якія, напэўна, прыкрывалі суставы, найверагодней локці ці плечы. Такія элементы былі падараваны ў 1421 г. Вітаўтам паслу англійскага караля і бургундскага герцага Жыльберу дэ Лануа. Падобныя ж элементы, названыя «рускімі наплечнікамі» (Ruschen Armledir), даволі высока цаніліся і крыжакамі, якія мелі іх у сваіх арсеналах. А. Навакоўскі трактуе «рускія наплечнікі» як невялікія выпуклыя наплечнікі трыкутнай формы, прымацаваныя пры дапамозе завесаў да плечавой часткі даспеха. Падобная дэталь баявога касцюма знойдзена ў Друцку[137].

Галоўным элементам пласцінавага даспеха з'яўлялася жорсткая кіраса, сканструяваная ўжо ў сярэдзіне XIV ст. Аснову яе складаў цэльнакаваны альбо нерухома знітаваны з некалькіх буйных частак нагруднік, зрэдку дапоўнены наспіннікам, хоць у часы Грунвальда шырока практыкавалася выкарыстанне адных толькі нагруднікаў, апранутых паверх кальчугі. Знізу да кірасы магла мацавацца металічная



Баявая рукавіца

спаднічка, набраная з абручападобных пласцін, якія сваімі краямі находзілі адна на адну і прыкрывалі ніжнюю частку жывата і часткова бёдры ваяра. Першапачаткова ўся канструкцыя нітавалася, як і ў платах, з унутранага боку да моцнай тканіны ці скуры, што дазваляе называць яе крытай кірасай. Аднак з канца XIV ст. скураное пакрыццё паступова пачало выходзіць з ужытку, і крытыя кірасы ў часы Вялікай вайны маглі суседнічаць з «белымі».

Скласці ўражанне аб пласцінавых нагрудніках, шырока ўжываных у канцы XIV — пачатку XV ст. тэўтонскімі рыцарамі і іх праціўнікамі, дазваляе экзэмпляр, знойдзены на крыжацкім замку ў Малой Няшаве. Ён быў выкаваны з аднаго кавалка жалеза, меў таўшчыню 3 мм пасярэдзіне, а па краях — 1,5—2,5 мм. Вага нагрудніка складала 500 г. Верагодна, гэта быў тыповы, шараговы нагруднік, аналагічны тым, якія ў 1399 г. былі высланы, у колькасці 20 штук, з Польшчы ў Вялікае Княства Літоўскае ў рамках праграмы па даўзбраенню шараговага рыцарства гэтай дзяржавы. Пра гэта сведчаць нізкія кошты гэтых нагруднікаў — па 12 грошаў за штуку, што раўнялася мабілізацыйным цэнам на аналагічную прадукцыю, існуючым у крыжацкай дзяржаве[138].

У складзе поўнага даспеха кірасу дапаўнялі пакрыцці канечнасцяў, таксама выкананыя з буйных металічных пласцін. Ахова ног складалася з набедранікаў, накаленнікаў, нагалёначнікаў і фольгавых чаравікаў. Нагалёначнікі найчасцей мелі выгляд двухчасткавых труб, якія расчыняліся на завесах і зашпільваліся пры дапамозе спражак. Трубчатая канструкцыя ляжала таксама ў аснове поўных ахоў рук, якія складаліся з наплечніка, верхняй трубы, налакотніка і ніжняй трубы, якая прыкрывала руку ад локця да кісці. У часы Грунвальдскай бітвы наплечнікі маглі не выкарыстоўвацца. Пакрыцці канечнасцяў выраблялiся з больш тонкай бляхі, чым нагруднікі, хоць элементы, што ахоўвалі найбольш важныя і траўманебяспечныя суставы (локці, калені), маглі быць даволі тоўстымі. Пра гэта сведчаць налакотнікі, праўда познія, датуемыя апошняй трэццю XV ст., знойдзеныя ў Польшчы, ва ўмацаваным двары Спытковіцы ваяводства Бельска-Бяла. Іх таўшчыня складае 2,5—3 мм.





Асобны элемент аховы рук складалі металічныя рукавіцы. У канцы XIV — пачатку XV ст. найбольш пашыранымі былі рукавіцы, вядомыя ў збраязнаўчай літаратуры як «пясочны гадзіннік». Яны характарызаваліся кароткімі, але вельмі шырокімі манжэтамі, якія дазвалялі кісці рукі даволі свабодна рухацца ва ўсе бакі, а таксама раздзельнымі пальцамі[139].

Пранікненне поўнага пласцінавага даспеха на землі ВКЛ можна заўважыць што найменей з канца XIV ст. Гэтаму спрыяла, галоўным чынам, пасрэдніцтва бліжэйшых заходніх суседзяў балта-славянскай дзяржавы, найперш Польшчы. У спісах набываемага тут узбраення фіксуюцца не толькі поўныя даспехі, але і іх асобныя элементы, пераважна элементы па ахове рук і ног. Не выключана, што асобныя ваяры ВКЛ маглі дапаўняць імпартнымі пласцінавымі аховамі канечнасцяў традыцыйныя наборныя даспехі. Камплектную ахову рук і ног, а таксама жалезныя рукавіцы (beyngwanthy, scorky et cirotecis ferres) атрымаў у 1393 г. пасол Вітаўта Ваўчок, а годам пазней — Раман, верагодна князь кобрынскі. Два такія ж самыя камплекты, але без рукавіц (beyngwanthi et armillis alias scorky), набыў у 1393 г. пасланы ў Літву Корманч, тады як князь Фёдар (Карыятавіч, Карыбутавіч, Патрыкевіч альбо Астрожскі) — ахову рук і спаднічку-шорцу (szosl). Толькі пакрыцці ног атрымалі ў 1394 г. Вітаўт і нейкі літвін Барыс. Некаторыя ж феадалы Вялікага Княства набывалі пласцінавыя даспехі ў поўным камплекце. Поўны даспех (harnasch totali) набыў, напрыклад, у 1393 г. Васіль, верагодна князь чартарыйскі[140].

Сведчаннем ужывання ў Вялікім Княстве Літоўскім у канцы XIV — пачатку XV ст. пласцінавых даспехаў служаць таксама выявы ўзброеных вершнікаў на т. зв. «конных» пячатках літоўскіх князёў. Некаторыя з гэтых пячатак, на якіх, па



Пальчаткі пачатку XV ст. Рэканструкцыя



Кавалак кальчугі XIV—XV стст. з Мсціслава

ідэалагічных меркаваннях, павінна было быць прадстаўлена тыповае для дзяржавы ўзбраенне, несумненна, былі выраблены яшчэ да 1385 г., г. зн. у тыя часы, калі масавы імпарт узбраення з Польшчы наўрад ці быў магчымым. Рыцар у поўным даспеху, аналагічным даспехам заходніх еўрапейскіх армій таго часу, паказаны на пячатцы вялікага князя літоўскага Ягайлы, датаванай 1380 г.

Поўныя пласцінавыя даспехі альбо іх часткі даволі скрупулёзна прадстаўлены на пячатках Дзмітрыя Карыбута за 1386 г., Вітаўта за 1384—1385, 1404, 1413, 1418 і 1425 гг., Аляксандра Вігунта за 1388 г., Скіргайлы за 1394 г. На іх выразна чытаюцца выпуклыя кірасы, крытыя альбо «белыя», часам з абручападобнымі спаднічкамі-«шорцамі», аховы рук і ног з акруглымі ці характэрнымі завостранымі налакотнікамі і накаленнікамі, вастраносыя гатычныя чаравікі, рукавіцы з кароткімі шырокімі манжэтамі[141].

Адным з найбольш пашыраных відаў баявых пакрыццяў цела заставаліся ў канцы XIV — пачатку XV ст. ***кальчужныя панцыры***. Сплеценая такім чынам, што кожнае кольца злучалася з чатырма суседнімі, кальчуга валодала ідэальнай эластычнасцю і, у спалучэнні з дастатковай трываласцю, была найбольш прыстасаваная для патрэб

лёгкаўзброеных ваяроў, якім патрабавалася максімальная свабода рухаў.

Нягледзячы на пэўную стандартызацыю ў сістэме пляцення, кальчугі ў разглядаемы час маглі адрозніваццa памерамі і канфігурацыяй колцаў, а таксама сістэмай змацавання іх канцоў. У канцы XIV — пачатку XV ст. перавагу атрымалі кальчужныя панцыры, сабраныя са сплюшчаных колцаў, хоць больш архаічныя экзэмпляры, сплеценыя з колцаў круглага сячэння, таксама маглі выкарыстоўвацца. Прынамсі, на тэрыторыі суседняй з ВКЛ Маскоўскай дзяржавы яны ўжываліся яшчэ ў XVI ст. Колцы кальчуг нітаваліся пры дапамозе скразной заклёпкі («на гвоздь») ці з дапамогай шыпа, які мацаваўся да аднаго з канцоў колца. Падобная сістэма мацавання была характэрна для панцыраў, набраных з пляскатых колцаў. Пры ўдары молатам шып прабіваў другі канец колца (альбо толькі засядаў у ім), і яно лічылася больш-менш змацаваным.

Для паскарэння працэсу зборкі, а магчыма, і павелічэння трываласці кальчугі скляпаныя колцы маглі чаргавацца з экзэмплярамі, высечанымі з ліста бляхі. Працэс пляцення панцыра мог паскарацца таксама шляхам павелічэння памераў колцаў; чым большы быў іх дыяметр, тым менш патрабавалася дэталяў, а значыць, скарачалася колькасць манатонных маніпуляцый. У найбольш небяспечных і жыццёва важных месцах (грудзі, плечы) маглі часам уплятацца больш масіўныя колцы, выробленыя з таўсцейшага дроту, але без павелічэння дыяметра самога колца. Чым меншы быў дыяметр колцаў кальчужнага панцыра, тым гусцейшым было пляценне, а значыць, такія даспехі былі больш надзейнымі і дарагімі. Разам з тым траплялісь панцыры, відавочна выробленыя на хуткую руку для шараговага воінства, у якога нават не змацоўваліся канцы колцаў.

Выраб панцыраў у Вялікім Княстве меў, несумненна, даўнія традыцыі, і таму мясцовая вытворчасць кальчуг, вядома ж, спрыяла яе папулярнасці. Не было выключэннем і выкарыстанне ўзораў замежнага паходжання, якія маглі трапіць на літоўскія і «рускія» землі ў якасці трафея альбо ў выніку закупак за мяжой. Так, у 1393 г. кальчуга (lorica) была набытая за кошт польскага каралеўскага скарбу паслом Вітаўта Ваўчком, а ў наступным годзе — князем (напэўна, кобрынскім) Раманам і нейкім Іванам з Віцебска. Перасылку «II panzer» кня-





Тарча
Тэўтонскага ордэна

зю Свідрыгайлу фіксуе пад 1403 г. кніга выдаткаў падскарбія Тэўтонскага ордэна[142].

На жаль, крыніцы канца XIV — XV ст. не дазваляюць скласці дакладнае ўяўленне аб усіх тыпах ужываных у ВКЛ панцыраў. Можна толькі меркаваць, што, як і на тэрыторыі суседняй Польшчы, тут бытавалі тры віды кальчужнага даспеха: даўжынёй да пояса і з кароткімі рукавамі, да сярэдзіны сцягна і з доўгімі рукавамі, а таксама поўная ахова цела з кальчужнымі нагавіцамі. Першы від быў добра вядомы яшчэ з часоў «далітоўскай» Русі, у той час як два апошнія прадстаўлены, хаця і даволі схематычна, на шэрагу пячатак літоўскіх князёў. Поўная кальчужная ахова цела прадстаўлена на пячатцы Кейстута за 1379 г., прычым найбольшую ўвагу прыцягвае тут панцырная кашуля з вырабленымі як працяг доўгіх рукавоў кальчужнымі ж рукавіцамі, якія паказаны ў адкінутым (закасаным) выглядзе. Кальчужнае пляценне пакрывае і галаву ваяра, аднак незразумела, што гэта — каптур ці капюшон, т. зв. «хаўберта». Цалкам верагодна, што поўны кальчужны касцюм з доўгімі рукавамі ў спалучэнні з пласцінавай аховай ног паказаны на пячатцы Дзмітрыя Карыбута за 1386 г.

Спецыфічным відам баявога касцюма, ужыванага як у крыжацкім, так і ў польскім і вялікакняскім войсках, былі ***неметалічныя даспехі***. Тоўстая куртка, набітая ватай, абчоскамі льну і г. д., з'яўлялася ў тагачаснай Еўропе абавязковым элементам вайсковага рыштунку, на які апранаўся даспех. Такая куртка прадухіляла псаванне адзення кальчугай альбо пласцінавым даспехам, рабіла само нашэнне даспехаў больш камфортным, а таксама амартызавала ўдары праціўніка. Даныя аб ужыванні неметалічных даспехаў у ВКЛ у канцы XIV — пачатку XV ст. вельмі абмежаваныя. У гэты час у якасці дадатковай аховы тулава ў краінах Еўропы выступаў кароткі, моцна аблягаючы кафтан-лендер (лентнер), прадстаўлены, між іншым, на шэрагу пячатак літоўскіх князёў. Верагодна, блізкая па характару дэталь баявога касцюма фігуруе сярод узбраення, прадукаванага ў Польшчы ў канцы XIV ст. для прадстаўнікоў Вялікага Княства, пад тэрмінам «яка» (iacca). Выраблялася яка са скуры альбо з некалькіх варстваў тканіны, пераклад зе-



Кавалерыйская павеза

ных ватай. Яка з чорнага аксаміту, падбітага палатном, барханам і ядвабам, якая завяршалася ўнізе ядвабнымі фестонамі, была выраблена ў 1394 г. для Вітаўта. Паміж слаямі тканіны і ваты былі зашытыя жалезныя пласцінкі альбо кальчужнае палатно (textorium ferreum), што павышала баявыя якасці гэтага спецыфічнага даспеха і набліжала яго да крытых пласцінавых даспехаў. У тым самым годзе яка была таксама ахвяравана разам з шаломам літвіну Свімунту[143].

Можна меркаваць, што ў войску Вялікага Княства Літоўскага ў якасці імправізаванага даспеха маглі выкарыстоўвацца звярыныя скуры альбо вырабы з іх. Пра гэта сведчаць як хронікі і летапісы, якія смакуюць гэтую асаблівасць літоўскага войска, так і больш позняя попісы войска Вялікага Княства, датуемыя другой паловай XVI ст.

Важным элементам засцерагальнага ўзбраення ў разглядаемы перыяд заставаліся **шчыты**. Экзэмпляры, якія выкарыстоўваліся ў часы Вялікай вайны ў крыжацкім і польскім войску, былі падобнымі. Сярод іх можна вылучыць найменей тры віды — невялікія трыкутныя шчыты з плаўна закругленымі бакавымі краямі, шчыты ў выглядзе



Пяхотная павеза. Сярэдзіна XV ст.

чатырохкутніка са скругленымі вугламі і т. зв. «павезы». Павезы мелі таксама прастакутную форму, аднак іх характэрнай канструкцыйнай асаблівасцю быў вертыкальны жолаб, што праходзіў па цэнтру шчыта. Павезы падзяляліся на кавалерыйскія і пяхотныя, прычым у разглядаемы час найбольшае распаўсюджанне атрымалі менавіта кавалерыйскія павезы.

Трыкутныя і прастакутныя шчыты — «тарчы» (ням. Tartsche) — прызначаліся выключна для патрэб кавалерыі. Для карыстання такімі шчытамі падчас бою з іх унутранага боку змяшчалася досыць складаная сістэма раменных петляў, якая складалася з кароткіх петляў для рукі і доўгага рэменя, пры дапамозе якога шчыт навешваўся на шыю альбо праз плечы; калі кавалерыст не меў у ім патрэбы, шчыт можна было закінуць за спіну. Тарчы маглі мець з правага боку выцінку, у якую падчас атакі ўкладалася дрэўка кап'я, што аблягчала маніпуляванне ім. Рыцары маглі ўпрыгожваць тарчы сваімі гербамі, а на шчытах крыжакоў, асабліва ордэнскіх чыноў, красаваўся тэўтонскі крыж.

У дачыненні да другой паловы XIV — пачатку XV ст. інфармацыю аб формах ужываемых у ВКЛ шчытоў можна пачарпнуць выключна з даных сфрагістыкі. Пячаткі літоўскіх князёў змяшчаюць усё тыя ж тры віды кавалерыйскіх шчытоў. Першы мае набліжаную да трыкутніка форму з плаўна закругленымі бакавымі краямі. Такія шчыты прадстаўлены на пячатках Кейстута за 1353 г., Скіргайлы за 1387 і 1394 гг. і Вітаўта за 1404 і 1418 гг. На пячатцы Скіргайлы за 1394 г. можна заўважыць рэмень для навешвання шчыта праз плечы.

Верагодна, ад трыкутных тарчаў выводзяцца тарчы з закругленым ніжнім краем, так што шчыт мае паўкруглыя абрысы. Паўкруглыя тарчы паказаны на пячатках Дзмітрыя Карыбута за 1386 г., Вітаўта за 1425 г. і Жыгімонта Карыбута за 1433 г. Найбольшую цікавасць уяўляе вельмі аб'ёмна выкананая пячатка Дзмітрыя Карыбута, дзе паказана тарча з плаўна выгнутымі наперад верхнім і ніжнім краямі, што надае ёй спецыфічную вертыкальную прафіліроўку.





Апошні від шчытоў, прадстаўленых на пячатках літоўскіх князёў другой паловы XIV — першай паловы XV ст., — павеза. Павезы можна заўважыць на пячатках Кейстута за 1379 г., Вітаўта за 1379 і 1413 гг., а таксама Лугвена Сымона за 1385 г. Гэты від шчытоў, па ўсёй верагоднасці, быў у Вялікім Княстве Літоўскім адным з найбольш папулярных. У шэрагу цэнтральнаеўрапейскіх краін павеза нават называлася «літоўскай»; выказваецца меркаванне, што гэты тып шчыта быў сканструяваны менавіта ў балтыйскім рэгіёне[144].

Сцвярджаць, што асартымент выкарыстоўваемых у ВКЛ у часы Грунвальдскай бітвы шчытоў абмяжоўваўся толькі трыма згаданымі відамі, было б вельмі рызыкоўным. І раней, і пазней канца XIV — пачатку XV ст. ва Усходняй Еўропе, у тым ліку ў Вялікім Княстве Літоўскім, былі вядомыя таксама круглыя і міндалепадобныя шчыты. Цалкам верагодна, што такія шчыты баранілі нашых продкаў і на Грунвальдскім полі.

Значнае падабенства назіралася і ў асартыменце ўжываемага варагуючымі бакамі наступальнага ўзбраення. Найбольш універсальным відам наступальнага ўзбраення з'яўлялася **клінковая зброя**, якой забяспечваліся як капійнікі, так і стральцы.

Як сведчаць крыніцы, найбольш папулярным варыянтам клінковай зброі ва ўсіх арміях, якія сышліся ў Грунвальдскай бітве, былі ***мячы***. Пад мячом разумеюць доўгую клінковую сякучую зброю з адкрытай рукаяццю і крыжавінай, а таксама простым двухлязовым клінком даўжынёй больш за 60 см. І ў Польшчы, і ў крыжацкай дзяржаве найбольшай папулярнасцю карысталіся мячы значных памераў, у аднолькавай ступені прыстасаваныя як для сякучых, так і для колючых удараў. Для павелічэння сілы ўдару яны забяспечваліся палутара- ці друхручнымі рукаяцямі. Гэта дазваляла валодаць мячом як адной, так і дзвюма рукамі. Менавіта такія вялікія колюча-сякучыя мячы былі характэрнымі для цэнтральнаеўрапейскага рэгіёна, у адрозненне ад паўднёва-заходніх краін (Францыі, Італіі, Іспаніі і Англіі), дзе аддавалі перавагу «малому» мячу, прыстасаванаму пераважна для ўколаў[145].

Адрозненне паміж колючымі і сякучымі мячамі заключалася перш за ўсё ў канструкцыі клінка. Клінкі мячоў, прыстасаваных пераважна для ўколаў, моцна звужаюцца да вастрыя — штыха. Для павелічэння трываласці клінка ўздоўж яго выраблялася рабро, што надавала ся-

Меч XIV ст. са збораў Гродзенскага музея



чэнню клінка ромбападобную форму, радзей — форму сплошчанага шасцівугольніка. Клінкі мячоў, прызначаных для нанясення сякучых удараў, звужаліся да вастрыя больш плаўна і былі больш шырокімі. Для змяшчэння вагі такіх мячоў іх клінкі забяспечваліся канаўкамі — «доламі». У асобных тыпаў мячоў выраблялiся падвойныя ці нават патройныя долы, што таксама стварала своеасаблівае «рабро жорсткасці».

Форма мячовых клінкоў у XIV—XV стст. была адносна стабільнай. Аднак, у залежнасці ад густаў эпохі, з цягам часу мянялася форма крыжавін і навершаў, якія рабіліся больш моднымі і практычнымі. Здараліся выпадкі, калі на старыя добрыя клінкі, выдатна паслужыўшыя не аднаму пакаленню ваяроў, насаджваліся новыя дэталі рукаяці. У часы Грунвальда найбольш пашыранымі былі доўгія, простыя альбо злёгку выгнутыя да вастрыя крыжавіны. Што да навершаў, то яны найчасцей мелі форму, набліжаную да дыска (круглую ці многавугольную) альбо да сечанага конуса, т. зв. «келіхаватую».

Меч з'яўляўся ў разглядаемы перыяд асноўным відам клінковай зброі і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Літоўскія мячы, супрацьпастаўляемыя татарскім шаблям на Куліковым полі, узгадвае «Задоншчына». Выключна мячы фігуруюць на пячатках літоўскіх князёў канца XIV — пачатку XV ст., у тым ліку т. зв. «маестатных», дзе яны выступаюць як сімвал улады. На жаль, схематычнасць выяў дазваляе «апазнаць» канструкцыю падобнай зброі толькі ў агульных рысах. Усе мячы маюць клінападобныя альбо часцей плаўна звужаныя да вастрыя-штыха клінкі і, як правіла, доўгую палутараручную ці двухручную рукаяць з акруглым навершам.

Перавага двухручных альбо палутараручных колюча-сякучых мячоў над мячамі колючымі (зноў жа часам двухручнымі) заўважаецца і пры аналізе рэчавага матэрыялу з зямель Вялікага Княства. Выключэнне складае меч, знойдзены ў могільніку Куршай Цельшайскага раёна Літвы ў пахаванні XV ст. Меч мае клінок без долу, даўжынёй 76,3 см, моцна звужаны да вастрыя. Рукаяць практычна не захавалася, аднак можна ўпэўнена сцвярджаць, што яна была прыстасавана пад валоданне адной рукой[146].

Палутараручны колючы меч выяўлены ў Старых Дарогах былой Мінскай губерні. Ён даволі кароткі — усяго 105 см, аднак забяспечаны

доўгай двухручнай рукаяццю, якая вянчаецца навершам у выглядзе дыска. Клінок рамбічнага сячэння, без долу, даўжынёй 81 см.

Яшчэ адзін меч такога тыпу знойдзены ў р. Дрыса непадалёк ад в. Боркавічы і в. Гараўцы Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці. Агульная даўжыня мяча складае 117 см, даўжыня выцягнутага спічастага клінка — 90,5 см. Клінок мае сячэнне, блізкае да рамбічнага, але дзве супрацьлеглыя грані «ромба» змадэляваны не пляската, а ўвагнута, што надае ім падабенства са своеасаблівымі асіметрычнымі доламі, а сячэнню — падабенства не толькі з ромбам, але і з рунічнай літарай S. Падобныя ўвагнутасці змяншаюць вугал рабочых граняў клінка, што робіць яго больш прыдатным для сякучага ўдару, а таксама зніжаюць вагу мяча: пры значных памерах ён важыць усяго каля 1124 г.

Да колючых належыць таксама экзэмпляр з шасцігранным у сячэнні клінком і «келіхаватым» навершам з Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея (інв. № КП-31044). Агульная даўжыня мяча складае 108,2 см, клінка — 85 см[147].

Значна большай колькасцю экзэмпляраў прадстаўлены колюча-сякучыя мячы, найбольш характэрныя для канца XIV — пачатку XV ст. Яны вызначаліся доўгім, звужаным да вастрыя клінком з долам у верхняй частцы, двухручнай рукаяццю і найчасцей дыскападобным навершам. Тры падобныя мячы былі знойдзены на Валыні — у в. Малятын былога Ровенскага павета (даўжыня мяча 125 см, клінка — 99 см), у Рыдомлі і ў Луцку (агульная даўжыня 116 см, даўжыня клінка — 93 см). Рукаяці малятынскага і рыдомльскага экзэмпляраў вянчаюцца дыскападобнымі навершамі. Наверша луцкага мяча мае «келіхаватую» форму, аднак скляпанасць чаранка ў месцы насадкі наводзіць на думку аб тым, што першапачаткова меч быў забяспечаны іншым навершам.

Два колюча-сякучыя мячы такога ж самага тыпу знойдзены на Падоллі, якое ў канцы XIV — пачатку XV ст. уваходзіла ў сферу ўплыву Вялікага Княства Літоўскага. Адзін з іх, знойдзены паблізу Камянца-Падольскага, мае агульную даўжыню 130 см, з якіх на клінок прыпадае 104 см. Клінок, шырокі ля крыжавіны (каля 6 см), вельмі моцна звужаецца да вастрыя і пераходзіць у выразны вузкі штых, што збліжае яго з клінкамі колючых мячоў. Надзвычай блізкую форму клінка мае меч,

Меч з р. Дрыса Віцебскай вобласці





Дэталь похвы мяча з Мінска

знойдзены ў в. Вадзічкі Хмяльніцкай вобласці. Даўжыня мяча — каля 123 см, клінка — 95 см.

Меч даўжынёй 112 см выяўлены ў Кіеве; даўжыня яго клінка складае 86 см. Мячы аналагічнага тыпу выяўлены таксама ў Крычаве, пад Гроднам, у Кейданах (Літва).

Не зусім тыповым з'яўляецца меч, знойдзены на замчышчы ў Брацлаве (Украіна). Ён моцна перапалены, што кепска адбілася на яго захаванасці. Клінок мяча мае спічастыя абрысы, моцна звужаныя да штыха, і вузкі дол. Пашкоджанасць брацлаўскага экзэмпляра дазволіла прасачыць тэхналогію вырабу клінка: аснову яго складае паласа з жалеза нізкай якасці, на якую былі навараны стальныя грані. Нетыповым з'яўляецца афармленне рукаяці мяча: чаранок забяспечаны заклёпкамі, якія мацавалі накладныя тронкі, што больш характэрна не для мячоў, а для шабель; кароткая крыжавіна з парнымі выступамі (т. зв. «вусамі») таксама больш характэрная для шабель. Не выключана, што меч быў перароблены мясцовым кавалём з улікам уласных густаў[148].

Можна меркаваць, што ў часы Грунвальда ў Вялікім Княстве Літоўскім існавала ўласная вытворчасць мячоў. Аднак на некаторых клінках змяшчаюцца заходнееўрапейскія клеймы, у тым ліку т. зв. «пасаўскі ваўчок», што выразна ўказвае на іх замежнае паходжанне. Можна таксама сцвярджаць, што ў канцы XIV — пачатку XV ст. ваярамі Вялікага Княства Літоўскага часам ужываліся і мячы архаічных форм. Пра гэта сведчаць знаходкі падобнай зброі ў дакладна датаваных могільніках Літвы[149].

Большую частку свайго «жыцця» мячы знаходзіліся ў похвах. Выключэнне складалі моманты бітвы альбо патрэбы, звязаныя з падтрыманнем мячоў у належным стане (рамонт, чыстка, вастрэнне). Аснова похвы складалася з двух кавалкаў дрэва — т. зв. «трэсак», абцягнутых скурай ці тканінай. Канструкцыя ўзмацнялася металічнымі акоўкамі («абоймамі»), а канец похвы забяспечваўся часта металічным «чаравікам», у той час як яе вусце — металічнай «шыйкай»[150].

Похва разам з мячом прывешвалася да спецыяльнага паса, выробленага са скуры ці моцнай тканіны. У сярэднявеччы гэтай дэталі



Медная накладка на рыцарскі пас. XIV ст., Магілёўская вобл.

касцюма надавалі значную ролю, што выявілася ў бытаванні т. зв. «рыцарскіх пасаў», якія служылі сімвалам рыцарскай годнасці. Такія пасы ўпрыгожваліся плакеткамі з каштоўных металаў; у часы Грунвальдскай бітвы ужываліся таксама пасы, складзеныя выключна са злучаных паміж сабой металічных звёнаў, найчасцей прастакутнай формы. Багата аздобленыя пасы маглі ўяўляць сабой досыць значную каштоўнасць. Так, напрыклад, сума, выдаткаваная ў 1393 г. з польскага каралеўскага скарбу на выкуп залачонага паса (cinguli deaurati), закладзенага нейкім літвінам Шудзімутам для пакрыцця выдаткаў свайго побыту ў Кракаве, раўнялася 6 грыўнам. За такія грошы можна было набыць поўную экіпіроўку коннага стральца (каня з усім рыштункам, шлем, кальчугу, ахову канечнасцяў, шчыт, корд і лук). Рэальны ж кошт гэтага паса мусіў быць, напэўна, яшчэ вышэйшы. Разам з тым бяднейшае рыцарства абмяжоўвалася, па ўсёй верагоднасці, сціплейшымі экзэмплярамі ў выглядзе звычайнага рэменя, упрыгожанага пласцінкамі з нешляхетных металаў. Прыкладам такіх пасаў можа служыць узор, выяўлены падчас раскопак могільніка Барок у в. Вензаўшчына Шчучынскага раёна, у пахаванні XIV ст.[151]

У другой палове XIV — пачатку XV ст. пасы звычайна насіліся нізка на сцёгнах, аднак багатыя рыцарскія экзэмпляры маглі змяшчацца на таліі; у такіх выпадках меч прывешваўся да другога паса, спецыяльна для гэтага прызначанага. Падобная манера нашэння рыцарскага паса, які, напэўна, меў выключна рэпрэзэнтатыўную функцыю, прадстаўлена, між іншым, на пячатцы Дзмітрыя Карыбута за 1386 г.

Акрамя мячоў у канцы XIV — пачатку XV ст. даволі шырока ўжываліся ***корды*** і ***цесакі***, якія належаць да адналязовай клінковай зброі. Тэрмін «корд» выводзіцца, па ўсёй верагоднасці, ад нямецкага акрэслення «кордэляч» альбо «кордалеч» (Kordelatsch, Kordalatsch), што, у сваю чаргу, з'яўляецца скажонай італьянскай назвай «кортэлас» (cortelas), г. зн. «вялікі нож». Форма кордаў даволі поўна адпавядала гэтай назве: яны мелі просты ці злёгку выгнуты клінок і асіметрычную рукаяць з накладнымі тронкамі. Як правіла, корды належалі да ад-





Так званы «Пояс Вітаўта». Генуэзска-татарская работа. Крым, канец XIV ст.

налязовай зброі, аднак сустракаліся экзэмпляры і з двухлязовымі клінкамі[152].

Прамежкавае месца паміж мячамі і кордамі займалі цесакі (чэш. tesak, ням. Dussege). Яны былі даўжэйшымі за корды, але карацейшымі за тыя тыпы мячоў, якія былі распаўсюджаны ў Цэнтральнай Еўропе. Пры блізкім да кордавага адналязовым клінку, простым ці троху выгнутым, цесакі характарызаваліся сіметрычнай рукаяццю, якая практычна нічым не адрознівалася ад рукаяці мячоў.

На землях Тэўтонскага ордэна і ў Польшчы корды і цесакі лічыліся плебейскай зброяй, якую найчасцей можна было сустрэць у руках мяшчан ці заможных сялян. Аднак і рыцарства не грэбавала кордамі і цесакамі, прынамсі ў якасці зброі «на кожны дзень». Раз-пораз можна было напаткаць іх і на палях бітваў. Што тычыцца Вялікага Княства Літоўскага, то аднальязовая зброя тут таксама была, вядома, прынамсі калі гаворка ідзе пра корды. Тыповую нажовую форму, характэрную для пачатку XV ст., мае экзэмпляр даўжынёй 79 см, выяўлены на могільніку Дзіктарай Анікшчайскага раёна Літвы. З пэўнай нацяжкай можна дапусціць выкарыстанне ў часы Грунвальда кордаў, аналагічных экзэмпляру, знойдзенаму на могільніку ў пасёлку Кармелава непадалёк ад Коўна. Ён набліжаецца да кордаў т. зв. «мараўскага» тыпу, якія звычайна звязваюцца з гусіцкімі войнамі ў Чэхіі (1420—1434). Даўжыня корда складае 89,5 см, плаўна звужанага да вастрыя клінка — 72 см[153].

У адрозненне ад мячоў і кордаў арыгінальныя ***шаблі*** другой паловы XIV — пачатку XV ст. з земляў Вялікага Княства Літоўскага практычна не вядомыя. Разам з тым ужыванне тут падобнай зброі таксама мела даўнія традыцыі яшчэ з часоў «далітоўскай» Русі. З канца XIV ст. шабля мусіла даволі шырока бытаваць у Вялікім Княстве як галоўны від

клінковай зброі татарскіх каланістаў, якія выступалі надалей як неад'емная састаўная частка ўзброеных сілаў гэтай дзяржавы. Выкарыстанню шаблі ў ВКЛ спрыялі і цесныя кантакты з землямі Усходняй Русі, дзе гэты від зброі карыстаўся вялікай папулярнасцю. Так, у 1428 г. Генне, блазан Вітаўта, даносіў вялікаму магістру Тэўтонскага ордэна, што перад выправай вялікага князя на Ноўгарад ягоныя васалы і залежныя ўладары зямель Русі, у прыватнасці Разані, падносілі яму дары, сярод якіх значыліся шаблі[154]. Разам з тым можна сцвярджаць, што ў часы Грунвальдскай бітвы гэты від клінковай зброі не з'яўляўся ў войску Вялікага Княства асноўным. Нават у другой палове XVI ст., калі арыентальныя ўплывы адчуваліся ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе непараўнальна больш, шаблі выразна дамінавалі толькі ў паўднёвых паветах ВКЛ.

Нельга абмінуць і такі тып клінковай зброі, ужываны ў часы Грунвальдскай бітвы, як ***кінжалы***. Кінжалы належаць да кароткай клінковай зброі, непрыдатнай, па прычыне сваіх памераў, да сякучага ўдару і разлічанай на ўколы, незалежна ад формы клінка і канструкцыі рукаяці. У баявой практыцы кінжалы прызначаліся для цеснай рукапашнай сутычкі альбо для дабівання пераможанага праціўніка. Дабіванне праціўніка лічылася не варварскім учынкам, а актам спагады, бо пазбаўляла яго ад перадсмяротных пакут і ганьбы. Таму кінжалы ў Заходняй Еўропе часам называліся «мізэрыкордыя» — міласэрнасць[155].



Кінжал XIV—XV стст.
Копысь

Інфармацыя аб кінжалах, ужываемых у Вялікім Княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст., вельмі абмежаваная. Найбольшую цікавасць уяўляюць аўтэнтычныя экзэмпляры, датуемыя XIV—XV стст. Адзін з іх, знойдзены ў Лідзе, выкананы ў выглядзе як бы паласы, сіметрычна звужанай па абодвух канцах і падзеленай кароткімі крыжавінападобнымі выступамі на рукаятачную і клінковую часткі. Агульная даўжыня кінжала — 43 см, клінка — каля 30 см. Не выключана, што кінжал недароблены да канца, пра што сведчыць усяго адна адтуліна для мацавання накладак на канцы яго рукаяці.



Адносна някепска захаваны кінжал, набліжаны па форме да мяча, выяўлены ў слаях XIV—XV стст. у Копысі. Агульная даўжыня кінжала складае 33,6 см, даўжыня клінка — 22,6 см, рукаяці (разам з навершам) — 11 см.

Кінжал кордавай формы, у выглядзе вялікага нажа даўжынёй 37,4 см, выяўлены пры раскопках могільніка Барок у в. Вензаўшчына Шчучынскага раёна. У месцы пераходу рукаяці да клінка маецца кароткі цвікападобны шчыток, прызначаны бараніць знешні бок рукі ад саслізгваючых сякучых удараў. Падобны элемент вядомы таксама на кордах і вялікіх кордападобных кінжалах з розных краёў Цэнтральнай Еўропы. Таму можна дапусціць прысутнасць такой зброі не толькі ў войску ВКЛ, але і ў арміях Польшчы і Тэўтонскага ордэна[156].

Надзвычай важнае месца ў комплексе ўзбраення варагуючых бакоў займала **дрэўкавая зброя**, прадстаўленая ***коп'ямі***. Коп'і з'яўляліся асноўнай зброяй галоўнай ударнай часткі еўрапейскіх армій — капійнікаў. Апошнія ў канцы XIV — пачатку XV ст. найчасцей забяспечваліся цяжкімі тараннымі коп'ямі, выдатна прыстасаванымі для прабівання даспехаў. Падчас атакі такія коп'і заціскаліся пад пахай, і сіла ўдару залежала не столькі ад фізічных магчымасцяў вершніка, колькі ад магутнасці і разгону каня.

Спецыфічная манера валодання таранным і коп'ямі абумоўлівала некаторыя характэрныя рысы гэтай зброі. Лічыцца, што іх наканечнікі вызначаліся адносна кароткай і вузкай, аднак масіўнай баявой часткай — пяром і шырокай утулкай, прызначанай для насаджвання на тоўстае дрэўка. Надзейнасці дрэўка надавалася вельмі вялікая ўвага, бо ад яе залежала эфектыўнасць капійнага ўдару. Яно павінна было быць не толькі трывалым, але і дастаткова доўгім, каб паразіць праціўніка на максімальнай адлегласці. Можна меркаваць, што нейкага пэўнага стандарту ў даўжыні дрэўка, таксама як і ў яго таўшчыні, не існавала, хоць лічыцца, што ў познім сярэднявеччы яно магло дасягаць чатырох метраў. Значная вага такіх коп'яў прывяла да з'яўлення спецыяльных апорных крукоў на кірасе, што аблягчала маніпуляванне гэтай груваскай зброяй. Таранныя коп'і часта забяспечваліся невялікімі сцяжкамі. На іх маглі змяшчацца гербавыя знакі ўладальнікаў. Аднак мелі гэтыя сцяжкі і чыста функцыянальнае прызначэнне — падчас атакі яны шамацелі і распалохвалі варожых коней[157].







Сякера літоўскага ваяра.
Другая палова XIII ст.

Наканечнікі з гранёным шылападобным пяром і шырокай утулкай былі добра вядомыя ва Усходняй Еўропе яшчэ ў XII—XIII стст. Дэталлю таранных коп'яў могуць лічыцца і некаторыя наканечнікі з больш шырокім пяром. Прыкладам можа служыць наканечнік з Драгічына-Надбужскага, выяўлены ў слаях XIII—XIV стст. Агульная яго даўжыня складае 27,2 см, даўжыня блізкага да трыкутніка пяра — 14. Утулка мела салідны дыяметр (4,8 см) і забяспечвалася паласой, якая находзіла на дрэўка. Такія палосы («вусы») былі характэрныя для цяжкіх коп'яў і служылі для яшчэ больш надзейнага мацавання наканечніка, а таксама для прадухілення ламання дрэўка ў месцы насадкі падчас нанясення моцнага таранага ўдару[158]. Пра выкарыстанне таранных коп'яў у Вялікім Княстве Літоўскім у канцы XIV — пачатку XV ст. сведчаць таксама пячаткі літоўскіх князёў, дзе сустракаюцца выявы вершнікаў з доўгімі, заціснутымі пад пахай коп'ямі. На пячатцы князя Скіргайлы за 1394 г. паказана кап'ё са сцяжком, упрыгожаным крыжам, верагодна такім самым, які змяшчаецца на шчыце вершніка.

Акрамя цяжкіх таранных коп'яў вельмі шырокае распаўсюджанне атрымалі ў Вялікім Княстве лёгкія экзэмпляры, вядомыя як ***суліцы***, а ў больш познія часы — як ***ошчапы***. Яны былі прызначаны не толькі для рукапашнага бою, але і для кідання і таму забяспечваліся меншым наканечнікам, насаджаным на карацейшае і танчэйшае дрэўка. Наканечнікі суліц маглі мацавацца да дрэўка не толькі пры дапамозе ўтулкі, але і пры дапамозе чаранка, які ўбіваўся ў дрэўка альбо прывязваўся да яго. Гэта абумоўлівалася тым, што наканечнікі суліц адчувалі значна меншую нагрузку, чым наканечнікі таранных коп'яў. Адзін з магчымых варыянтаў карыстання суліцамі паказаны на пячатцы ноўгарад-северскага князя Дзмітрыя Карыбута за 1386 г. Звяртае на сябе ўвагу спецыфічная манера трымання кап'я — вастрыём у бок, адваротны кірунку вялікага пальца, што сведчыць пра падрыхтоўку зброі для кідання альбо ўдару зверху.

На Грунвальдскім полі суліцы былі тыповай зброяй не толькі літвінаў, але і рыцараў Тэўтонскага ордэна. Гэта, між іншым, прывяло да кур'ёзу, калі ў разгар бітвы палякі пераблыталі ордэнскія рэ-






Клявец XIV ст. з Гомеля

зервы, якія ў вялікай колькасці мелі такія коп'і, з літоўскімі атрадамі. Суліцай, паводле сведчанняў Яна Длугаша, быў узброены сам магістр Тэўтонскага ордэна — Ульрых фон Юнгінген. Больш таго, сутыкненне магістра з польскім рыцарам Дабяславам Алясніцкім паказала, што ў спрактыкаваных руках суліца можа быць зброяй нават больш грознай, чым тараннае кап'ё: крыжацкі даводца на поўным скаку адбіў ёй кап'ё паляка ўверх, а потым пагнаўся за ім і кінуў у яго сваю суліцу, параніўшы каня. Даследчыкі лічаць, што шырокае выкарыстанне крыжакамі суліц стала вынікам мілітарнага ўплыву балтаў на ваенную справу Тэўтонскага ордэна.

Значную ролю адыгрывала ў войсках праціўнікаў, што сутыкнуліся пад Грунвальдам, **абуховая зброя**. Яна была прадстаўлена як экзэмплярамі, у якіх выкарыстоўваўся сякучы паражаючы эфект, так і ўзорамі, разлічанымі толькі на аглушаюча-дробячы ўдар. Асартымент абуховай зброі ў канцы XIV — пачатку XV ст. быў даволі шырокім і ўключаў сякеры і чаканы, кляўцы, дубіны, булавы, перначы і кісцяні, альбо баявыя цапы.

Найбольш распаўсюджаным відам абуховай зброі ў часы позняга сярэднявечча з'яўляліся ***сякеры***. Пра гэта сведчаць як археалагічныя матэрыялы, так і пісьмовыя крыніцы. На выкарыстанне сякер у Грунвальдскай бітве недвухсэнсоўна ўказвае Ян Длугаш, калі апісвае сутыкненне польскага войска з крыжацкім: «сякеры і наканечнікі коп'яў, насаджаных на дрэўкі, сутыкаючыся адно з адным, страшны стварылі ляскат»[159].

На шырокае распаўсюджанне сякер не ў апошнюю чаргу паўплываў той факт, што любая сякера, неабходная ў кожнай сялянскай хаце, магла ў выпадку патрэбы ўжывацца як грозная зброя, эфектыўная ў спрактыкаваных руках. Што служыла крытэрыямі падзелу сякер на баявыя і рабочыя, дагэтуль не зусім ясна, аднак такі падзел існаваў, і пра гэта сведчыць познесярэднявечная тэрміналогія, дзе суіснавалі назвы «сякера» і «тапор».









Сякерка XIV ст. з Пінска

Падобная ж сітуацыя назіраецца ў польскай тэрміналогіі, дзе слова «тапор» мае больш шырокае значэнне, тады як «сякерамі» называюцца толькі рабочыя экземпляры. У Вялікім Княстве Літоўскім можна заўважыць адваротнае — ужыванне тэрміна «сякера» пераважна ў дачыненні да баявых узораў, а акрэсленне «тапор» — у дачыненні да прылад працы.

У Польшчы, па ўсёй верагоднасці, у баявых мэтах найчасцей выкарыстоўвалі сякеры з адцягнутым уніз падоўжаным «барадападобным» лязом і трубкападобнай насадкай. Што тычыцца Вялікага Княства Літоўскага, то тут найбольш шматлікую групу выяўленых сякер складаюць узоры з мысападобнымі выступамі ў верхняй і ніжняй частцы абуха, а таксама з адцягнутым уніз зрэзаным лязом. Даволі шырока былі распаўсюджаны таксама сякеры з больш ці менш выдзеленай насадкай, якая плаўна пераходзіць у шырокае лязо з завостранай барадой, часам зрэзанай. Ужываліся таксама ваярамі ВКЛ і вузкалязовыя сякеры. На Валыні і ў сумежных рэгіёнах бытаваў цікавы варыянт шырокалязовых сякер, якія пры значных памерах ляза мелі невялікую таўшчыню. Спецыфічную рысу валынскіх экземпляраў складаў таксама спосаб змацавання з рукаяццю — не пры дапамозе насадкі, а з дапамогай чаранка, які з'яўляўся працягам адагнутай пад прамым вуглом шыйкі. Не выключана, што распаўсюджанне такіх сякер стала вынікам мангольскага ўплыву.

Большасць выкарыстоўваемых у войску ВКЛ сякер мелі ўніверсальны характар і маглі служыць як зброяй, так і прыладамі працы. Аднак раз-пораз у руках літвінаў і русінаў маглі трапляцца і чыста баявыя экземпляры, напрыклад чаканы — сякеркі з малаткападобна аформленым абухом.

Можна сцвярджаць, што сякеры карысталіся ў войску Вялікага Княства, прынамсі ў балцкіх харугвах, вялікай папулярнасцю. У



літоўскіх пахаваннях яны часта спалучаюцца з іншымі элементамі ўзбраення, у тым ліку нават з клінковай зброяй. У небагатых ваяроў, асабліва тых, якія выязджалі на вайну ў рамках пагоні, гэта магла быць адзіная, апроч хіба што ошчапа, зброя блізкага бою.

Вельмі спецыфічны ўзор абуховай зброі ў выглядзе сякеркі з надзвычай вузкім, амаль дзюбападобным лязом выяўлены ў Гомелі. Практычна гэта пераходны варыянт ад вузкалязовай сякеркі да кляўца, прычым калі з сякеркай яго збліжае афармленне насадкі і абуха, то па сваіх паражаючых уласцівасцях ён, мусіць, набліжаецца менавіта да кляўца. Датуецца клявец вельмі асцярожна: XIV—XV стст.

Іншыя віды абухова-ўдарнай зброі маглі быць прадстаўлены ў варагуючых арміях булавамі, перначамі (мадыфікацыямі булаў з навершамі, падзеленымі на некалькі вертыкальна размешчаных лопасцяў, альбо «пёраў», якія радыяльна разыходзяцца ад цэнтра) і баявымі цапамі (кісцянямі). Аднак можна меркаваць, што ў часы Грунвальда такая зброя не была настолькі папулярнай, як у ранейшыя часы.



Арбалетчык. Нямецкая скульптура другой паловы XV ст.

У той жа час на палях бітваў можна было напаткаць, прынамсі ў войску Вялікага Княства Літоўскага, і такі прымітыўны від ударнай зброі, як ***дубіна***. Прасцейшая дубіна ўяўляла сабой драўляную палку з патаўшчэннем на канцы. Павысіць эфектыўнасць дубіны можна было шляхам убівання ў гэтае патаўшчэнне жалезных шыпоў ці цвікоў. Часам шыпы ці крамянёвыя асколкі ўбіваліся ў жывое дрэва. Пасля ўрастання іх у ствол ён ссякаўся і апрацоўваўся да атрымання неабходнай формы. Узоры такіх дубін з аформленым у выглядзе рукаяці тонкім канцом і ўманціраванымі ў патоўшчаны канец шыпамі маюцца ў зборах Гісторыка-этнаграфічнага музея Літвы ў Вільні. Яны звязваюцца з літоўскімі землямі і датуюцца XIV ст.[160]

Даволі значным асартыментам у варагуючых арміях была прадстаўлена **зброя далёкага бою**. Такая зброя была прызначана для паражэння праціўніка на адлегласці, недасягальнай для сродкаў нападзення, што знаходзіліся непасрэдна ў руках ваяра. Пераважная большасць відаў зброі далёкага бою складалася з паражаючага снарада і прыстасавання для яго выкідання. У гэтым яна адрозніваецца ад некаторых тыпаў



зброі, выкідаемай рукой (напрыклад, лёгкіх коп'яў-суліц), прыстасаваных у роўнай меры як для рукапашнага, так і для далёкага бою.

Адным з найбольш старажытных і ўніверсальных тыпаў зброі далёкага бою з'яўляўся ***лук***. У аснове прынцыпу яго дзеяння ляжыць згінанне пруткага прута шляхам адцягвання прымацаванай да яго канцоў струны — цецівы, якая пры рэзкім выпростванні прута напінаецца і выкідае снарад. У часы позняга сярэднявечча ў Еўропе бытавалі простыя лукі, у якіх прут (лукавішча) вырабляўся з аднаго кавалка дрэва пэўных парод, і складаныя, што характарызаваліся спецыфічнай формай лукавішча, сабранага з неаднародных матэрыялаў.

У канцы XIV — пачатку XV ст. на тэрыторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы прыярытэтнае значэнне меў складаны лук. Тыповай рысай усіх такіх лукаў была спецыфічная канструкцыя, якая вызначалася моцным загінаннем наперад канцоў лукавішча. Пры надзяванні цецівы гэтыя канцы спачатку выпростваліся, а затым адгіналіся назад. Такім чынам значна павялічвалася пруткасць лука без павелічэння яго даўжыні, што было асабліва карысным для конных стральцоў. Пры надзетай цеціве форма складанага лука нагадвала шырокую літару М з плаўнымі перагінамі.

У войсках Тэўтонскага ордэна і Польшчы лукі былі вядомыя, аднак не з'яўляліся асноўным відам зброі далёкага бою і ўжываліся на вайне даволі рэдка. Лукі маглі выкарыстоўвацца альбо плебейскай часткай войска, мабілізаванай ў рамках «абароны зямлі», альбо рыцарствам, але пераважна на паляванні. Напэўна, для гэтых мэтаў ажно два лукі меў у сваім распараджэнні сам кароль польскі Ягайла. Акрамя складаных выкарыстоўваліся і простыя лукі, тэхналагічна больш прымітыўныя, аднак раз-пораз таксама вельмі эфектыўныя. Матэрыялам для вырабу простых лукаў найчасцей служыла цісавая драўніна, радзей — ясень і вяз. Польскі ціс служыў прадметам імпарту ў заходнееўрапейскія цэнтры па вытворчасці лукаў. Разам з тым драўніна з Польшчы цанілася не вельмі высока, найлепшым матэрыялам лічыўся паўночнаітальянскі ціс. Польскія простыя лукі XIV ст. маглі дасягаць 120 см па лукавішчы і страляць на адлегласць да 70 м. Для прыкладу, славутыя англійскія лукі часоў Стагадовай вайны дасягалі ў даўжыню 150—180 см, а дальнасць іх стральбы перавышала 350 м[161].



Арбалетны болт XIV ст.





Арбалет з англійскім калаўротам

Традыцыя выкарыстання лукаў у Вялікім Княстве Літоўскім выводзіцца яшчэ са старажытнарускіх часоў. На Русі выкарыстоўваліся пераважна складаныя лукі. Іх аснова склейвалася з дзвюх планак розных парод дрэва (ядлоўцу і бярозы, сасны і бярозы) пры дапамозе рыбінага клею. Асобна выраблялiся з моцнага дрэва (бярозы, чаромхі і інш.) канцы лука, якія таксама прыклейваліся да асновы. Уздоўж знешняга бока лука (спінкі) наклейваліся сухажыллі, што павышала пруткасць зброі. Канцы лука з бакоў абклейваліся касцянымі накладкамі з выцінкамі для цецівы, якія таксама часткова находзілі на аснову. Пасярэдзіне асновы, на рукаяць наклейваліся з бакоў, а часам і знутры, яшчэ адныя накладкі, а месцы сучлянення частак лука (вузлы), якіх, як правіла, было чатыры — два ля рукаяці і два ля канцоў, — абкручваліся сухажыллямі паверх клею. Пасля гэтага ўвесь лук, за выключэннем канцоў, абклейваўся паскамі вываранай бяросты для аховы ад сырасці. Старажытнарускія лукі, падобна татарскім і арабскім, рэдка мелі даўжыню больш за 160, а з надзетай цецівой — больш за 130 см. Дальнасць стральбы з такой зброі звычайна складала 200—250 м. Тыповая даўжыня стрэл на Русі вагалася ў межах 75—90 см.

Важным дадаткам да лука з'яўляліся налучча і калчан для стрэл. Былі звычайнымі цыліндрычныя калчаны з пашырэннем ля дна і вусця. Яны выраблялiся з бяросты і мелі прымацаванае цвікамі да корпуса драўлянае дно круглых ці авальных абрысаў; зверху калчаны часам абцягваліся скурай. Даўжыня такіх калчаноў дасягала 60—70 см, і стрэлы ў іх насілі апярэннем уверх, прычым пашырэнне ля дна прызначалася для наканечнікаў. Умяшчальнасць старажытнарускіх калчаноў не перавышала 20 стрэл; калчаны татараў прызначаліся для 30 стрэл, некаторыя воіны маглі мець па два калчаны[162].

Нягледзячы на даўнія традыцыі па выкарыстанню лука, у канцы XIV — пачатку XV ст. баявое значэнне лука ў Вялікім Княстве не было такім дамінуючым, як у «далітоўскай» Русі, дзе складаны лук панаваў на палях бітваў. Наогул, вызначыць месца і вагу лучнікаў у войску Вялікага Княства Літоўскага надзвычай складана. Былі імі, несумнен-

на, татарскія каланісты, якія з канца XIV ст. трывала ўваходзілі ў склад узброеных сілаў гэтай дзяржавы, і ніводная з больш-менш значных ваенных аперацый у часы Вітаўта не абыходзілася без удзелу татарскай конніцы. Ужо тады татарскія лукі, як можна меркаваць, карысталіся ў Літве значным аўтарытэтам і адначасова разглядаліся як мясцовая экзотыка, здатная зацікавіць прадстаўнікоў Захаду. Верагодна, таму падобны лук увайшоў у склад рэчаў, прэзентаваных у 1421 г. Вітаўтам паслу англійскага караля і бургундскага герцага Жыльберу дэ Лануа[163]. Аднак апісанне шэрагу ваенных канфліктаў з удзелам вайсковых аддзелаў Вялікага Княства Літоўскага сведчыць, што прыярытэтная роля належала ў іх не луку, а яго механізаванаму «сваяку» — арбалету.

***Арбалеты*** не толькі складалі ў канцы XIV — пачатку XV ст. значную канкурэнцыю лукам, але ў шэрагу краін Еўропы амаль што выцеснілі іх з поля бітваў. З поўным правам гэта можна сказаць і ў дачыненні да Тэўтонскага ордэна і Польшчы. Арбалет уяўляў сабой механізаваны лук, прымацаваны настала да ложа пры дапамозе шнуроў, скураных рамянёў ці пары металічных петляў, якія пасля ўстаўляння ў іх лука закліньваліся. Арбалетная ложа забяспечвалася прыстасаваннем для ўтрымання цецівы ў нацягнутым стане і спускавым механізмам. Такая канструкцыя дазваляла раздзяліць працэсы напінання зброі, прыцэльвання і страляння, што рабіла карыстанне арбалетам лягчэйшым і зручнейшым.



Бліда.
Нямецкі малюнак, 1405 г.



Галоўны элемент спускавога механізма арбалета складала шайба — арэх, змешчаная ў спецыяльным гняздзе ложы такім чынам, што над яе паверхняй выступаў толькі зачэп для цецівы. Несвоечасовае вызваленне цецівы з зачэпа прадухілялася курком ці спускавым рычагом, які ўпіраўся ў засечку арэха насупраць зачэпа. У месцы праходжання восі пракручвання арэх мог мець адтуліну для мацавання да ложы, аднак у некаторых арбалетаў арэхі не мацаваліся, а свабодна «плавалі» ў гняздзе.

У часы Грунвальдскай бітвы ўжывалася што найменей тры мадыфікацыі арбалетаў, якія найперш адрозніваліся сістэмай напінання цецівы. Найпрасцейшым прыстасаваннем быў падвешаны да пояса нацяжны крук, адзінарны ці двайны, які чапляўся за цеціву, у той час як у спецыяльнае стрэмя, прымацаванае да пярэдняй часткі ложы перад лукам, устаўлялася сагнёная нага. Выпростваючы нагу ці разгінаючы тулава, стралец нацягваў лук да фіксацыі цецівы зачэпам арэха. Магчымасць досыць хуткага прывядзення зброі ў баявую гатоўнасць як пешым, так і конным ваяром абумовіла папулярнасць і працяглы час бытавання такой сістэмы. На тэрыторыі крыжацкай дзяржавы арбалеты з паясным крукам называліся «stegereiffarmbrost».

Імкненне павялічыць магутнасць арбалетаў прывяла да з'яўлення механізма, вядомага як «казіная нага». Яна ўяўляла сабой спалучэнне двайнога крука з аднаплечавым рычагом, да якога ён мацаваўся на шарнірах. Рычаг чапляўся раздвоеным канцом за спецыяльныя штыфты на ложы і адводзіўся назад, адцягваючы крук з цецівой. Пасля напінання цецівы прылада здымалася, аж пакуль не ўзнікала неабходнасць у новым напінанні. У крыжакоў арбалеты з такой сістэмай напінання называліся «rucharmbrost». Аднак арбалеты з «казінай нагой» выкарыстоўваліся пераважна для цяжкіх арбалетаў, актуальных падчас аблогі ці абароны ўмацаванняў.

Яшчэ больш магутнымі былі найноўшыя арбалеты, фіксуемыя крыжацкімі арсеналамі ўжо ў канцы XIV ст. як «windearmbrost». Яны выкарыстоўвалі нацяжныя механізмы ў выглядзе т. зв. «нямецкага калаўрота», які ўяўляў сабой зубчатую рэйку з раздвоеным кручком на канцы, які чапляўся за цеціву. Стралец круціў ручку, яна пры дапамозе зубчатай альбо чарвячнай перадачы круціла шасцярню, а тая, у



сваю чаргу, чапляла зубцы рэйкі і адцягвала яе назад. Уся канструкцыя заключалася ў ахоўны кожух, які падчас нацягвання цецівы мацаваўся за штыфты на ложы, а пасля здымаўся. Падобная канструкцыя магла выкарыстоўвацца як у ручных, так і ў цяжкіх артылерыйскіх арбалетах (grosze wyndearmbrost).

Выкарыстанне падобных прыстасаванняў дазваляла значна павялічыць сілу нацяжэння арбалетаў, што зрабіла магчымым пераход да больш магутных лукаў, у тым ліку з рогу ці сталі. Для такіх лукаў патрабавалася адпаведна тоўстая трывалая цеціва. Прабіўная здольнасць стралы (балта), выпушчанай з дасканалага арбалета, была вышэйшай, чым у звычайнага лука, аднак па хуткастрэльнасці арбалет, асабліва са складаным нацяжным механізмам, саступаў луку ў некалькі разоў.

Спецыфічную канструкцыю мелі і арбалетныя балты. Дрэўкі іх былі карацейшыя, але масіўнейшыя, чым у звычайных стрэл. Масіўнасцю вызначаліся і наканечнікі балтоў, кароткія і гранёныя, выдатна прыстасаваныя для прабівання засцерагальнага ўзбраення праціўніка[164].

Як ужо адзначалася, на землях Тэўтонскага ордэна і Польшчы арбалеты выкарыстоўваліся надзвычай шырока. Напярэдадні кампаніі 1410 г. у трынаццаці важнейшых крыжацкіх замках захоўвалася да 600 000 арбалетных балтоў, а колькасць саміх арбалетаў была не меншай чым 4167 штук. Прычым гэта тычылася мабілізацыйных запасаў самога ордэна, тады як земскае рыцарства і ваеннаабавязаныя мяшчане Прусіі мусілі выязджаць на вайну з уласнымі арбалетамі і запасам снарадаў да іх.

Да канца XIV ст. арбалет выступае як досыць тыповая зброя і ваяроў Вялікага Княства Літоўскага. Сваю эфектыўнасць арбалеты ў руках ліцвінаў і русінаў даказалі ў барацьбе з мабільнай татарскай конніцай, узброенай лукамі, падчас бітваў на Сініх Водах у 1362 і на Ворскле 1399 гг., падчас здабывання Драгічына-Надбужскага ў 1383 г. Забеспячэнне гэтай зброяй ваяроў ВКЛ было надзённым клопатам кіраўніцтва дзяржавы. Пасля атрымання Ягайлам польскай кароны ў 1386 г. арбалеты ўзгадваюцца як важны артыкул, імпартуемы ў Вялікае Княства з Польшчы, прычым забеспячэнне імі прадстаўнікоў вайсковага люду праводзілася як у індывідуальным парадку, так і шляхам высылкі цэлых партый самастрэлаў.





Ручніца (пішчаль). 1390—1400 гг.

Акрамя імпарту забеспячэнне войска арбалетамі адбывалася і за кошт уласнай вытворчасці. Пра гэта сведчаць майстэрні другой паловы XIV — першай паловы XV ст. па вырабу і рамонту такой зброі, выяўленыя падчас раскопак Вільні. Дэталі арбалетаў XIV—XV стст. знойдзены таксама ў Брэсце, Гродне, Лідзе, Мсціславе, Зялёнай Ліпе (Украіна). Сярод іх — элементы спускавых механізмаў (арэхі і спускавыя рычажкі), нацяжныя страмёны і паясныя крукі[165].

Меліся ў арміях, што прымалі ўдзел у канфлікце 1410 г., і ***механізмы для здабывання фартыфікацыйных аб'ектаў***. Узгадвае пра іх Ян Длугаш, апісваючы пераправу польскіх войскаў праз Віслу ў раёне Чэрвіньска. Канструкцыю гэтых «махін» ён не апісвае, аднак гаворка ідзе, несумненна, пра адзін з твух тыпаў, найбольш пашыраных у канцы XIV — пачатку XV ст.

У аснове іх выдзялення ляжыць крытэрый крыніцы энэргіі для выкідання снарада, які дазваляе выдзеліць неўрабалістычную і барабалістычную артылерыю. Неўрабалістычная артылерыя дзейнічала па прынцыпу выкарыстання энэргіі пругкасці эластычнага матэрыялу (сціснутага, сагнёнага ці скручанага). У барабалістычных машын снарад выкідаўся пры дапамозе двухплечавага рычага, шляхам прыкладання большай сілы да карацейшага пляча. Снарады неўрабалістычных машын, у залежнасці ад канструкцыі апошніх, маглі мець плоскую ці навясную траекторыю, тады як барабалістычных — толькі навясную. Дакладна вядома, што ў войску Вялікага Княства Літоўскага ў першай палове XV ст. ужываліся рычажныя махіны (парокі, бліды). Яны прыводзіліся ў дзеянне праз прымацаванне да карацейшага пляча рычага рухомай процівагі. Рэзкае апусканне пляча з процівагай прыводзіла да праварочвання замацаванай на спецыяльным станку драўлянай бэлькі, якая выконвала ролю рычага, і выкідання снарада. Для павелічэння дальнасці стральбы даўжэйшае плячо рычага забяспечвалася прашчой, і, такім чынам, парок выступаў як своеасаблівая механізаваная прашча гіганцкіх памераў.







Ручніца (пішчаль). 1380 г.

Асобную групу кідальных машын складалі цяжкія арбалеты, што стралялі вялікімі балтамі, ядрамі ці драўлянымі бэлькамі. Такія машыны маглі быць як статычнымі, так і на колах. Па-нямецку яны называліся адпаведна «Standarmbrust» і «Wagenarmbrust». Ніякіх спецыяльных тэрмінаў, якія б указвалі на выкарыстанне цяжкіх арбалетаў у Вялікім Княстве Літоўскім, не выяўлена, хоць яны маглі фігураваць пад тымі ж назвамі, што і ручная зброя аналагічнага прынцыпу дзеяння. Так, напрыклад, Длугаш, гаворачы аб вяртанні Вітаўта з Тэўтонскага ордэна ў Літву ў 1392 г., акцэнтуе ўвагу на тым, што гэты князь захапіў з сабой «bombardis, balistis». Уяўляецца цалкам верагодным, што гаворка ідзе якраз аб кідальных машынах, бо факт вяртання з лёгкімі арбалетамі, якія з'яўляліся індывідуальнай зброяй канкрэтных ваяроў і былі іх натуральным спадарожнікам у падобных вандроўках, мусіў з'яўляцца справай звычайнай і наўрад ці быў бы адзначаны спецыяльна. З другога боку, калі б тут мелася на ўвазе зброя, захопленая ў крыжакоў і транспартаваная на вазах, то нелагічным выглядала б ігнараванне іншых, часам не менш каштоўных відаў узбраення, у тым ліку засцерагальнага. Несумненна, меліся цяжкія арбалеты на ўзбраенні Тэўтонскага ордэна[166].

У канцы XIV — пачатку XV ст. даагнявая артылерыя няўхільна выцясняецца больш дасканалым і непараўнальна больш магутным відам зброі далёкага бою — гарматамі. Прынцып іх дзеяння заключаўся ў выкіданні снарада пры дапамозе энергіі, атрыманай пры спаленні пораху — сумесі салетры, серы і драўнянага вугалю. У часы Грунвальдскай бітвы порах ўяўляў сабой мукападобную масу, якая ўключала 66,5% салетры, 16,75% серы і 16,75% вугалю.

Эвалюцыя ***агняпальнай зброі*** адбывалася ў Еўропе шпаркімі тэмпамі, і ўжо ў часы Грунвальду існавала даволі значная колькасць

яе відаў. У аснове іх выдзялення ляжалі тры асноўныя крытэрыі — матэрыял, з якога вырабляўся снарад, велічыня гэтага снарада і канструкцыя ствала. Уся агняпальная зброя падзялялася на сценабітную артылерыю, палявую артылерыю і ручную зброю. Снарады агняпальнай зброі маглі вырабляцца з каменю альбо металу (жалеза, свінцу ці бронзы). Зброя, якая страляла каменнымі снарадамі, у нямецкай мове называлася «Steinbuchsen», у той час як на Русі яна была вядомая як «пушкі». Для акрэслення зброі, што выкідала металічныя снарады, ужываўся нямецкі тэрмін «Lotbuchsen», славянскім адпаведнікам якога з'яўлялася назва «пішчаль». Найлягчэйшыя пішчалі выступалі ў якасці ручной агняпальнай зброі — ручніц[167]. Спецыфічнай рысай канструкцыі пушак з'яўляўся неаднолькавы дыяметр канала ствала па ўсёй даўжыні. У каморнай частцы, прызначанай для парахавога зарада, ён быў вузейшы, каб прадухіліць яе разарванне парахавымі газамі.

У залежнасці ад калібру пушкі падзяляліся на асобныя катэгорыі. Каменекідальныя гарматы з калібрам ад 120 да 200 мм лічыліся лёгкімі. Цяжкія пушкі мелі калібр ад 250 да 450 мм, вельмі цяжкія — ад 500 да 800 мм. Разам з тым існавалі экзэмпляры, калібр якіх выходзіў за рамкі гэтай класіфікацыі. Пушкі вялікіх калібраў прызначаліся для разбурэння фартыфікацыйных аб'ектаў і належалі да катэгорыі бамбардаў. Мадыфікацыяй бамбардаў з'яўляліся марціры, з якіх вёўся агонь па навяснай траекторыі.

З XIV ст. пачалі вырабляцца спецыяльныя ложы пад гарматы, нерухома змацаваныя са ствалом і размяшчаемыя на козлах ці на колах. Дзякуючы гэтаму транспарціроўка і абслугоўванне агнявой артылерыі значна палегчылася, што паспрыяла шырэйшаму яе выкарыстанню не толькі пры здабыванні і абароне фартэцый, але і ў палявым баі.

Да палявой артылерыі належалі лёгкія пушкі з калібрам да 230 мм. У пісьмовых крыніцах XV ст. яны часта фігуруюць пад тэрмінам гуфніца, які, па ўсёй верагоднасці, вядзе свой пачатак ад слова «гуф» (атрад). Даўжыня каморнай часткі гуфніц звычайна раўнялася 1,5 калібру, дульнай часткі, у якой змяшчаўся снарад, — ад 3,5 да 4 калібраў. Першапачаткова гуфніцы транспартаваліся на вазах, але неўзабаве былі забяспечаны двухколавым лафетам. Змяненне вугла падымання ствала гуфніц рэгулявалася спецыяльным механізмам.

Адметную ад пушак канструкцыю мелі гарматы, прызначаныя перадусім для стральбы металічнымі снарадамі, — пішчалі. Яны вызначаліся большай даўжынёй ствала і адначасова значна меншым, чым у пушак, калібрам. Канал ствала быў роўным па ўсёй даўжыні, без звужэння ў каморнай частцы. Гэта абумоўлівалася неаднолькавай шчыльнасцю металу і каменю, што дазваляла паменшыць дыяметр металічных ядраў без змяншэння іх масы, прычым велічыня парахавога зараду, а значыць і шырыня каморнай часткі, заставалася нязменнай.

Падчас Вялікай вайны і Грунвальдскай бітвы артылерыю мелі і ўжывалі ўсе ўдзельнікі. Найбольш актыўныя спробы выкарыстання артылерыі ў полі прадпрымалі крыжакі. Яшчэ пры Кужэнтніку абстрэл непрыяцеля з гармат з'яўляўся важнай часткай іх плана разгрому польска-літвінскага войска. Спроба спыніць польскую кавалерыю гарматным агнём была зроблена войскам Тэўтонскага ордэна і на першым этапе Грунвальдскай бітвы. Напачатку вайны крыжакі выкарыстоўвалі гарматы пры здабыванні польскіх замкаў Добжыня, Баброўніка і Златарыі. Артылерыйскі парк Тэўтонскага ордэна быў



Крыжацкая бамбарда пачатку XV ст. з замка ў Квідзыне



Ручніца XV ст.
Рэканструкцыя



па тых часах вельмі значным і налічваў перад вайной каля 140 гармат. Што найменей трыццаць восем з іх былі бамбардамі і стралялі каменнымі ядрамі. Менавіта каменекідальныя гарматы былі выкарыстаны крыжакамі ў бітве пад Грунвальдам. Меліся ў арсеналах ордэна і гарматы, прыстасаваныя пад металічныя ядры.

Была агнявая артылерыя і ў польскім войску. Таксама як і крыжакі, ужылі яе палякі ўжо на першым этапе вайны, падчас вяртання занятага крыжакамі замка Быдгашч. Шырока выкарыстоўваліся палякамі гарматы і на заключным этапе, пры аблозе крыжацкай сталіцы Мальбарка.

У Вялікім Княстве Літоўскім з агнявой артылерыяй пазнаёміліся досыць рана. У 1362 г. яна была выкарыстана крыжакамі пры аблозе Коўна. Свой артылерыйскі парк з'явіўся ў Вялікім Княстве Літоўскім не пазней за пачатак 80-х гг. XIV ст.: у 1382 г. Кейстут выкарыстаў гарматы пры аблозе крыжацкага замка Юрбурга, а ў 1383 г. літоўскія сілы здабывалі Трокі, зноў ужываючы «pixidum». На гэты час прыпадаюць таксама першыя ўзгадкі аб выкарыстанні агняпальнай зброі ў Маскоўскай дзяржаве (1382), Чэхіі і Польшчы (1383)[168].

З гэтага часу агнявая артылерыя робіцца неад'емнай часткай комплексу ваенных сродкаў Вялікага Княства. Прычым ужо ў канцы XIV — пачатку XV ст. тут ужывалася некалькі тыпаў гармат. Падчас штурмаў умацаваных аб'ектаў шырока выкарыстоўвалася цяжкая аблогавая артылерыя — бамбарды, якія ўзгадваюцца пад 1390, 1391, 1393, 1403 гадамі, у тым ліку пры аблозе такіх значных умацаванняў, як мураваныя віцебскія замкі. Бытаваў у Вялікім Княстве і такі від гармат, як марціры. У 1397 г. крыжацкія данясенні фіксуюць высылку Вітаўтам вялікай колькасці марцір (Morser) для ўмацавання Кіева, а ў Полацкім замку «можжеры спижаные Витолтовы тры» захоўваліся яшчэ ў 1552 г. У 1399 г. пушкі і пішчалі былі ўжыты Вітаўтам у палявым баі ў бітве на Ворскле.





Скласці ўражанне пра гарматы, якія маглі ўжывацца войскам ВКЛ у адкрытым полі, дазваляе лёгкая пушка, датуемая прыблізна 1375—1425 гг., знойдзеная ў Ржэве, які ў гэты час знаходзіўся на літоўска-маскоўскім памежжы. Пры калібры ў 122—127 мм яна мае агульную даўжыню 46 см, прычым каморная і дульная часткі суадносяцца як 1,5 : 1.

Не абышлося без агнявой артылерыі ў войску Вялікага Княства і падчас Вялікай вайны. 27 лістапада 1409 г. крыжацкія данясенні фіксавалі наяўнасць у Троках 15 гармат, найвялікшая з якіх страляла каменнымі ядрамі велічынёй з галаву. Высылку Вітаўтам гармат да месца злучэння з польскім войскам напярэдадні маршу ўглыб Прусіі адзначае 14 чэрвеня 1410 г. комтур Рагнеты. Нарэшце, падчас аблогі Мальбарка артылерыя Вялікага Княства, разам з польскай, прымала ўдзел у абстрэле галоўнага замка Тэўтонскага ордэна[169].

Старэйшая інфармацыя аб выкарыстанні ў Еўропе *ручной агняпальнай зброі* датуецца 1343 г. (фрэска ў Лецэта каля Сіены ў Італіі). Цікавую ўзгадку аб прадукаванні 50 «бамбард» даўжынёй у далонь, якія насіліся ў руцэ і прабівалі любы даспех, прыносіць хроніка горада Перуджыі (1364). Што тычыцца Вялікага Княства Літоўскага, то першая больш-менш верагодная фіксацыя ўжывання тут ручной агняпальнай зброі прыпадае на 1399 г., калі войскі Вітаўта ўжылі ў бітве на Ворскле «пішчалі». Варта агаварыцца, што да трактоўкі пішчаляў як да ручной агняпальнай зброі ў дадзеным выпадку неабходна ставіцца з вялікай асцярожнасцю, хоць аб забяспечанасці ваяроў Вялікага Княства ў згаданай бітве «стрелбою ручничною» сведчыць яшчэ адна крыніца, на жаль позняя, а менавіта «Хроніка Літоўская і Жамойцкая»[170].

Як і гарматы, першыя экзэмпляры ручной агняпальнай зброі адліваліся ці каваліся, прычым у якасці матэрыялу служылі жалеза альбо бронза. Для зручнейшага ўтрымання ў руках ручныя пішчалі мацаваліся пры дапамозе ўтулкі ці чаранка на драўлянай жэрдцы, накшталт наканечніка кап'я, альбо на простай драўлянай ложы. Запаленне пораху ажыццяўлялася праз адтуліну зверху ствала пры дапамозе распаленага дроту ці кнота. Нязручнасць страляння з падобнай зброі, а таксама яе значная вага абумоўлівалі тое, што абслугоўванне ручных пішчаляў магло ажыццяўляцца дзвюма асобамі, з якіх адзін цэліўся, а другі падпальваў порах. Менавіта такія ўзоры маглі выкарыстоўвацца

варагуючымі бакамі пад Грунвальдам, хоць прамых указанняў на гэта ў пісьмовых крыніцах няма.

Разглядаючы ўзровень матэрыяльна-тэхнічнай забяспечанасці войскаў, якія сутыкнуліся ў Грунвальдскай бітве, нельга не закрануць і такі важны аспект, як якасць выкарыстоўваемых коней, **рыштунак вершніка і верхавога каня**. Лічыцца, што для прадухілення празмернага абцяжарвання каня ягоная маса павінна перавышаць масу вершніка прынамсі ў пяць разоў. Таму ўзрастанне ролі рыцарскай кавалерыі, забяспечанай цяжкім засцерагальным узбраеннем, востра паставіла пытанне аб выкарыстанні больш вынослівых, масіўных коней, прыдатных несці на сабе вершніка ў поўным капійнічым рыштунку. У адпаведнасці з гэтым у Еўропе бытавалі дзве катэгорыі баявых коней — стрэльчыя і капійнічыя.

У часы Вялікай вайны градацыя коней у залежнасці ад экіпіроўкі вершніка прысутнічала ў кожным з войскаў, якія прымалі ў ёй удзел. Польскі храніст Я. Длугаш інфармуе, што Вітаўт, праводзячы напярэдадні Грунвальдскай бітвы 1410 г. агляд свайго войска, падзяліў яго на кліны і ўсярэдзіну кожнага кліна змясціў рыцараў на горшых конях і недастаткова ўзброеных, якіх акружалі іншыя — на добрых конях і выдатна ўзброеныя. Аднак ад узбраення вершніка, а значыць, і ад ягонай манеры вядзення бою залежала не толькі камплекцыя падбіраемага ім каня, але і конскі рыштунак. Для ваяроў, узброеных кап'ём тараннага тыпу, была неабходна максімальная статычнасць і ўстойлівасць, у той час як стральцам патрабавалася мабільнасць, якая аблягчала маніпуляванне зброяй з розных пазіцый. Такім чынам, сярод фактараў, уплываўшых на фарміраванне рыштунку вершніка і каня ў першую чаргу, можна вылучыць характар наступальнага ўзбраення вершніка, наяўнасць альбо адсутнасць у яго цяжкога даспеха (а раз-пораз і даспеха самога каня) і, у сувязі з гэтым, асаблівасці конскага целаскладу.

Шпора XIV—XV стст. з Мінска



У канцы XIV — пачатку XV ст. бытавалі ***капійнічы і стрэльчы рыштункі***, якія адрозніваліся найперш тыпам сядла. Капійнічае сядло вызначалася высокімі і шырокімі лукамі, якія забяспечвалі рыцару ўстойлівую пасадку і стваралі дадатковую ахову яго нагам і жывату. У такім сяд-

ле вершнік трымаўся ўстойліва, на доўгіх путлішчах, з выпрастанымі нагамі.



Стрэльчае сядло было больш лёгкім, з нізкімі лукамі. Вершнік трымаўся ў такім сядле менш устойліва, затое мог свабодна паварочвацца ва ўсе бакі і страляць у любым напрамку. Пры яздзе ў лёгкім сядле выкарыстоўваліся карацейшыя путлішчы, што абумоўлівала пасадку на сагнёных нагах.

Выкарыстанне цяжкога ўзбраення аказала ўздзеянне і на эвалюцыю іншых элементаў рыштунку каня і кавалерыста. Каб вытрымаць цяжкога вершніка, былі неабходныя трывалыя путлішчы, аб чым сведчаць шырокія адтуліны пад путлішчы на некаторых страмёнах. Шырокія дужкі страмёнаў указваюць на прыстасаванне іх пад пакрытую металічным чаравікам ступню. Рыцарская пасадка на доўгіх путлішчах абумовіла падаўжэнне шыпа шпор, што было неабходна вершніку, каб пры прышпорванні каня не губляць стрэмя.

Металічнае засцерагальнае пакрыццё каня ў пачатку XV ст. было вядома ў цэнтральна- і ўсходнееўрапейскім рэгіёне, але ўжывалася крайне рэдка. У крыжацкім войску яго маглі мець толькі найвышэйшыя ордэнскія чыны; вядома, напрыклад, што на «браніраваных» конях ездзілі вялікі комтур Тэўтонскага ордэна і сам магістр Ульрых фон Юнгінген[171]. У Вялікім Княстве Літоўскім маглі трапляцца ўсходнія элементы конскага даспеха. На гэта ўказвае жалезны конскі нагалоўнік, знойдзены ў Рамашках Кіеўскай вобласці. Найбольш верагодным уяўляецца датаванне нагалоўніка, верагодна ўсходняга ці выробленага паводле ўсходняга ўзору, XIV — першай паловай XV ст.

Татарскі конны нагалоўнік XIV—XV стст., в. Рамашкі Кіеўскай вобл.

Значна шырэй ужывалася тэкстыльнае ці скуранае пакрыццё каня, вядомае як «кропеж». Яно бараніла жывёлу ад дажджу, сонечных промняў і насякомых. Скураныя экзэмпляры маглі выконваць засцерагальныя функцыі. Некаторыя баявыя папоны ўзмацняліся кальчужным пляценнем альбо прашываліся. На выкарыстанне «кропежаў» пад Грунвальдам у польскім войску ўказвае Ян Длугаш. Аб ужыванні такіх элементаў конскага рыштунку ў ВКЛ сведчаць некаторыя пячаткі



літоўскіх князёў канца XIV — пачатку XV ст. Тут яны паказаны ў сваёй развітай форме, якая прадугледжвала выкарыстанне дзвюх раздзельных частак — пярэдняй і задняй. Пярэдняя частка сшывалася з двух кавалкаў тканіны ці скуры, прычым швы ішлі ўздоўж горла і хрыбта каня. Ад грудзей да нізу рабіўся разрэз, а ў нагалоўнай частцы праразаліся адтуліны для вачэй, а часам і вушэй жывёлы.

Такім чынам, варагуючыя войскі валодалі на Грунвальдскім полі супараўнальным ваенным патэнцыялам, што, у прынцыпе, адзначалі і крыніцы. Калі крыжацкая і польская арміі былі прыблізна аднолькавымі па велічыні і якасці ўзбраення, то войска Вялікага Княства Літоўскага, схіліўшы шалі колькаснай перавагі на бок саюзнікаў, у пэўнай ступені саступала свайму праціўніку ў галіне ўзбраення, прычым гэта тычылася не якасці, а хутчэй колькасці выкарыстоўваемай зброі.

Напрыканцы трэба дадаць, што ва ўяўленні сучаснага чалавека трывала ўсталяваліся міфы, якія тычацца рыцарскага ўзбраення, у тым ліку часоў Грунвальдскай бітвы. Першы звязаны з нібыта празмернай вагой поўнага пласцінавага даспеха, які рабіў рыцара непаваротлівым і абсалютна бездапаможным, калі яго збівалі з каня. У гэтым сэнсе такі даспех часам супрацьпастаўляецца «лёгкай і зручнай» кальчузе, якая забяспечвала ўладальніку значна большую свабоду рухаў пры практычна такой жа самай надзейнасці. На самай справе «цэльнакаваны» даспех важыў напачатку XV ст. не больш за 25 кг, а калі ўлічыць, што яго цяжар раўнамерна размяркоўваўся па ўсім целе, то «абцяжарванне» нават максімальна ўзброенага рыцара не ўяўляецца празмерным. Для прыкладу, поўная выкладка пехацінца часоў Другой сусветнай вайны даходзіла да 30 кг. Пры гэтым трэба ўлічыць, што падчас бою цяжкаўзброенага капійніка, у адрозненне ад згаданага пехацінца, насіў ягоны конь, а значыць калі хто і пакутаваў ад цяжару даспехаў, то рыцарскія «расінанты». Натуральна, для выбітага з сядла рыцара патрабаваўся час, каб прыйсці ў прытомнасць, аднак гэта з поўным правам можна сказаць і пра нават зусім не ўзброенага чалавека, які, атрымаўшы наймацнейшы ўдар, падае на поўным скаку на зямлю, часам пад капыты іншых скакуноў. Што тычыцца «лёгкіх і зручных» кальчуг, то іх вага магла даходзіць да 17 кг, прытым гэта без аховы галавы і канечнасцяў! Не трэба таксама забываць, што ахоўныя якасці

 

кольчатых панцыраў, прынамсі ў дачыненні да колючага ўдару, былі непараўнальна ніжэйшымі.

Другі распаўсюджаны міф — неверагодна высокія кошты рыцарскага ўзбраення. Калі гаворка заходзіць пра гэты аспект экіпіроўкі сярэднявечнага воіна, то ў памяці нязменна ўсплывае засеўшая яшчэ са школьных часоў лічба — 45 кароў. Менавіта столькі нібыта мусіў аддаць феадал, натуральна, за кошт непасільнай працы прыгонных сялян, за права выехаць на вайну ва ўсім сваім бляску. На самай справе набыццё вайсковага рыштунку было для рыцара справай накладнай, але зусім не непасільнай. У часы Грунвальдскай бітвы ў Польшчы, якая служыла асноўным пастаўшчыком зброі і для арміі Вітаўта, поўная экіпіроўка рыцара, у залежнасці ад таго, быў ён стрэльчым ці капійнічым, каштавала, разам з канём, ад 11 да 22 грывен. «Па курсу» 1992 г. гэта складала ад 2100 да 4200 $ USA. Варта памятаць, што гэты рыштунак быў патрэбны рыцару не для хоббі, не для ралявых гульняў, а з'яўляўся яго «рабочым інструментам», неабходнай умовай забеспячэння яго зямлёй і сялянамі, а таксама мог на вайне ўратаваць яму жыццё[172].

**Ход** бітвы, якая традыцыйна разглядаецца як кульмінацыйны момант працяглай барацьбы Вялікага Княства Літоўскага з крыжацкай агрэсіяй, дагэтуль асвятляецца даследчыкамі па-рознаму. Нягледзячы на салідную колькасць даследаванняў, карціны бітвы, якую маглі б цалкам прыняць усе гісторыкі, не існуе. У вялікай ступені на гэта паўплываў разнабой у крыніцах, аўтарытэт якіх, нягледзячы на відавочныя супярэчнасці і нестыкоўкі, зноў і зноў прымушае аўтараў класці іх у аснову сваіх канцэпцый.

У першую чаргу гэта тычыцца шэрагу польскіх хронік, асабліва Хронікі Яна Длугаша, якая стала своеасаблівай «класікай» у асвятленні Вялікай вайны. Між тым гэтая хроніка, амаль з кінематаграфічнай дакладнасцю апісваючы асобныя, часам далёка не самыя важныя моманты бітвы, іншым, значна больш істотным для разумення агульнага ходу бою, адводзіць месцамі толькі некалькі слоў.

Структура апісання Грунвальдскай бітвы Длугашам прыблізна наступная: 1. Сутыкненне польска-літоўскага войска з крыжацкім; 2. Адступленне ўсяго літоўскага войска, апроч трох смаленскіх палкоў, і яго ўцёкі; 3. Напружанасць на польскім флангу і адыход харугвы Яна Сарноўскага з наступным вяртаннем яе ў бітву; 4. Уступленне ў бой крыжакоў, якія вярталіся з пагоні за літоўцамі, і пачатак разгрому сілаў ордэна; 5. Атака шаснаццаці крыжацкіх харугваў рэзерву і напад аднаго з ордэнскіх рыцараў на караля Ягайлу; 6. Акружэнне і разгром крыжацкага войска, пераследаванне разбітага ворага і захоп ягонага абозу.

Гэтыя ключавыя моманты апісання бітвы Длугашам традыцыйна прымаліся большасцю гісторыкаў амаль без пярэчанняў. Аднак з далейшага апісання славутым польскім храністам ходу вайны вынікае самы вялікі, хоць далёка не адзіны, нестасунак: паведамляючы пра ўцёкі ўсяго літоўскага войска аж да самай Літвы, ён піша пра актыўны ўдзел гэтага войска ў далейшай кампаніі, у тым ліку і ў аблозе крыжацкай сталіцы — Мальбарка. Гэтыя звесткі прымусілі большасць гісторыкаў, якія даследавалі бітву, прызнаць вяртанне войска ВКЛ на поле бою; праўда, па пытанню часу гэтага вяртання і яго абставін, а таксама па прычынах самога адступлення літвінскага фланга дагэтуль не існуе адзінай думкі. Асабліва сенсацыйным было ў гэтым сэн-

се апублікаванне шведскім гісторыкам Свенам Экдалем дакумента, з якога нібыта дакладна вынікае запланаваны характар адступлення войска Вялікага Княства Літоўскага.



Прылбіца канца XIV ст. Са збораў Венскага музея ўзбраення

Прымаючы пад увагу шматлікія супярэчнасці і недакладнасці апісання бітвы Янам Длугашам, у апошнія часы ўсё больш узрастае аўтарытэт, у тым ліку і сярод айчынных даследчыкаў, ананімнай «Хронікі канфлікту Уладзіслава, караля Польшчы, з крыжакамі ў год Хрыстовы 1410», а таксама т. зв. Чыгізскага манускрыпта, які звязваецца з кампіляцыяй твораў вядомага рэлігійнага і палітычнага дзеяча XV ст. Энеа Сільвіа Пікаламіні[173].

Аднак і паміж гэтымі крыніцамі маюцца істотныя нестыкоўкі. Так, «Хроніка канфлікту» згаджаецца з Длугашам, калі гаворка ідзе пра адступленне літвінаў, аднак намякае пра іх вяртанне ў бітву. У той жа час гэтая хроніка не стасуецца з тым жа Длугашам па пытанню пачатковай фазы бітвы: паводле Длугаша, войскі Вітаўта першыя распачалі бой, тады як з «Хронікі канфлікту» можна зразумець, што бітва адначасова пачалася на абодвух флангах. Праўда, паводле сведчанняў «Хронікі», Ягайла, атрымаўшы звесткі аб падыходзе крыжакоў, яшчэ перад шыхтаваннем саюзнага войска нібыта загадаў чатыром ці шасці харугвам выступіць супраць ворага. Практычна адразу пасля гэтага ён просіць Вітаўта падрыхтавацца да бітвы, аднак прыбыццё крыжацкіх герольдаў з мячамі прымушае яго звярнуцца да вялікага князя ўжо з іншай просьбай — устрымацца ад атакі, у якую ўжо рушылі літвіны. Прычым застаецца незразумелым, паспеў Вітаўт спыніць сваіх людзей альбо не. Зноў жа незразумела, ці паспелі выступіць супраць крыжакоў згаданыя чатыры ці шэсць харугваў — сілы, у прынцыпе, немалыя. Калі паспелі, то навошта было магістру дадаткова выклікаць Ягайлу і Вітаўта на бітву, разыгрываючы для гэтага сцэну з мячамі.

Калі ж верыць Чыгізскаму манускрыпту, то першымі ў бітву ўступілі «бяззбройныя» татары і літвіны Вітаўта; яны ж прынялі на

сябе асноўны ўдар крыжакоў і панеслі найбольшыя страты («як жывёлы ў ахвяру прыносіліся»). Ягайла ж «з цяжкаўзброенымі палякамі сам як бы ў дапаможным рэзерве каля лагера застаўся»[174]. І толькі пасля таго як крыжакі прыслалі яму і Вітаўту два мячы як выклік на бітву, а таксама пасля настойлівых папрокаў вялікага князя літоўскага, польскі кароль нарэшце згадзіўся ўвесці ў бой свае войскі.

Падобнае апісанне першай стадыі Грунвальдскай бітвы ў Чыгізскім манускрыпце нагадвае не толькі Хроніку Длугаша, але і (нават у большай ступені) значна пазнейшую Хроніку Быхаўца. Гэтая хроніка таксама нічога не паведамляе пра ўцёкі войска Вялікага Княства Літоўскага, затое апісвае настойлівыя просьбы Вітаўта аб дапамозе з боку палякаў, якую яны, нібыта, так і не аказалі, за выключэннем адной прысланай харугвы. Хроніка Быхаўца інфармуе таксама пра загадкавыя «воўчыя ямы», нібыта выкапаныя крыжакамі і ў якія пападала шмат літвінаў падчас шыхтавання войска Вітаўта перад бітвай[175]. Гэта дало падставу некаторым даследчыкам інтэрпрэтаваць першую фазу бітвы досыць фантастычна.

Апісанне Грунвальдскай бітвы ў Чыгізскім манускрыпце практычна супадае з тым, якое змешчана ў працы «Аб Лівоніі», што звязваецца з аўтарствам Энеа Сільвіа Пікаламіні. У той жа час яно выразна разыходзіцца з апісаннем бітвы ў працы таго ж аўтара «Аб выбітных мужах». Тут гаворыцца пра ўцёкі не літвінскага, а польскага войска і пра тое, што толькі дзякуючы энергіі Вітаўта ўдалося аднавіць бітву і атрымаць перамогу. Пра ўступленне польскага войска ў бітву толькі пасля разгрому літвінаў піша і ордэнская хроніка Яна фон Пасільге.

Відавочнае несупадзенне ў апісаннях Грунвальдскай бітвы рознымі крыніцамі можна было б растлумачыць памылковасцю ці тэндэнцыйнасцю асобных хронік. У такім разе варта, здавалася б, знайсці найбольш дакладную, раннюю і вартую даверу. Аднак, на жаль, такіх крыніц на сённяшні дзень не выяўлена. Нават тая ж «Хроніка канфлікту», якая лічыцца бадай што самай ранняй крыніцай, складзенай да таго ж па гарачых слядах відавочцам бітвы, мае, як ужо гаварылася, моманты, якія можна трактаваць па-рознаму.

На вялікі жаль, мусім канстатаваць, што абсалютна дакладная рэканструкцыя ходу бітвы не ўяўляецца нам на сённяшні дзень магчы-



май. Таму прапануем найбольш даставерную, на наш погляд, спробу, з улікам асноўных з усіх даступных нам крыніц.

Стаянка саюзных войскаў каля спаленага Дуброўна напярэдадні бітвы была неспакойнай. Ноччу здарылася моцная навальніца, «былі вялікія бліскавіцы, перуны і грымоты, і вялікі дождж прайшоў той ноччу». Усчынілася такая віхура, што, па словах «Хронікі канфлікту», папераварочвала ўсе абозы і намёты ў лагеры. «Вартыя веры рыцары» бачылі на небе акрываўлены месяц, які нібыта ўказваў на дзіўны знак над ім — «як бы меч чырвоны». Моцны вецер перашкодзіў усталяваць паходную каплічку, у якой Ягайла прывык кожную раніцу слухаць імшу. Як толькі бура трохі суцішылася, саюзныя войскі на досвітку рушылі ў паход, аднак ізноў пачаўся дождж, які «намачыў усё ўзбраенне рыцараў». Але бура і дождж толькі паспрыялі як маршу, так і будучай бітве, бо перад гэтым стаяла такая спёка, што падчас прасоўвання па палях рыцары не маглі нават бачыць адзін аднаго.

Саюзныя войскі рушылі па тракце з Дуброўна да Турава і там уступілі на дарогу з Дзялдава да Альштынка. Прасунуўшыся каля 15 кіламетраў, яны апынуліся на паўднёвым ускрайку возера Лубень. Войскі мусілі працягваць рухацца на поўнач па дзялдаўскай дарозе ўздоўж усходняга берага возера, аднак акурат у гэты час «сцішыўся дождж, разышліся цёмныя хмары, заблішчэла яснае сонца». Карыстаючыся добрым надвор'ем, якое невядома колькі часу магло такім заставацца (навокал працягвалі палыхаць зарніцы, памеры і колькасць якіх дзівілі ўсё войска), Ягайла вырашыў выканаць свой хрысціянскі абавязак і выслухаць-такі імшу. Гэта магло здарыцца не пазней за 8 гадзін раніцы.

Кароль спыніўся на «вяршыні нейкага пагорка», і тут да яго данеслі звесткі аб надыходзе ворагаў. Гэтая інфармацыя падалася каралю няпэўнай і малаверагоднай, таму ён, укленчыўшы, прыступіў да набажэнства. Аднак жа гэта не пашкодзіла рыцарству, занепакоенаму чуткамі, а можа нават і па загаду самога караля, узброіцца і сесці на баявых коней, спецыяльна прызначаных толькі для бітвы.

Між тым адзін з набліжаных караля, прызначаны ў той дзень у старожу і ў задачы якога ўваходзіў збор інфармацыі пра знаходжанне варожых сіл, звярнуўся да Ягайлы, запэўніваючы яго, што асабіста бачыў ворага. Кароль спытаў яго аб колькасці сілаў праціўніка, на што




той адказаў, што заўважыў толькі адзін ці два кліны. Ягайла, па словах «Хронікі канфлікту», загадаў: «Няхай рушаць супраць іх чатыры альбо шэсць кліноў з маршалкам войска на чале, а мы тым часам выслухаем імшу». Аднак не паспеў польскі манарх выдаць гэта распараджэнне, не паспелі адгучаць ягоныя словы, як да яго прыбыў яшчэ адзін ганец, які ўсклікнуў: «Кароль, не марудзь, ворагі выступаюць супраць цябе!» Ягайла тут жа накіроўвае ганцоў да Вітаўта з просьбай: «Найміленйшы браце! Патрыхтуйся да бітвы і загадай падрыхтавацца войскам тваім разам з рыцарамі, бо мы ўжо ўпэўнены, што ворагі тут». Адправіўшы ганца, польскі кароль, па словах «Хронікі канфлікту», «налажыў на вусны свае маўчанне і, узняўшы вочы і рукі да неба, пачаў маліцца і не хацеў адказваць ні на чые словы перад заканчэннем малітвы і выслуханнем імшы». Аўтар хронікі, які мог прыслужваць каралю падчас набажэнства, прыводзіць нават словы ягонай малітвы: «Табе, Пане Божа, даручаю дух мой і аддаю таварышаў маіх па зброі. Захавай мяне, Пане, разам з імі. А вас, мілыя таварышы па зброі, прашу і жадаю, каб памяталі аб маёй душы».

Неўзабаве да Ягайлы прыбыў яшчэ адзін ганец са словамі: «Найяснейшы кароль! Ворагі твае стаяць за палову мілі ад цябе, зграмаджаныя ў вялікай сіле. Чакаюць цябе. Не марудзь! Сядай на каня і рухайся на іх, таму што чым больш ты адцягваеш пачатак бітвы, тым большая чакае цябе небяспека, бо гэтая справа не церпіць адкладу і занядбання». Кароль, хоць і ўсведамляў усю важнасць пачутых слоў, «не нахіліў да іх вуха, бо ўсім сэрцам узносіўся да Бога». Аднак, скончыўшы малітву, ён адразу ж пачаў падрыхтоўку да бітвы. Перш за ўсё, каб у тлуме бою ягоныя рыцары маглі адрозніваць сваіх ад праціўнікаў, забяспечаных такім жа самым узбраеннем, ён загадаў ім падперазацца нейкімі павязкамі з саломы і



Герб «Пагоня». Выява першай паловы XV ст.






Пазіцыі варагуючых бакоў напярэдадні Грунвальдскай бітвы (паводле А. Надольскага)

вызначыў для польскіх і літвінскіх рыцараў словы баявога клічу: адпаведна «Кракаў» і «Вільна». Сеўшы на каня, Ягайла асабіста агледзеў варожае войска і пачаў расстаўляць свае баявыя парадкі «на адным полі паміж двума гаямі»; затым уласнай рукой правёў абрад пасавання тысячы ці нават больш рыцараў, так што аж стаміўся падчас гэтага абраду.

Калі кароль, зմораны доўгай працэдурай пасавання, не мог ужо яе далей працягваць, да яго прыбылі з крыжацкага стану два герольды — венгерскага караля Жыгімонта і шчэцінскага князя. Яны прывезлі Ягайлу і Вітаўту два аголеныя мячы — адпаведна ад вялікага магістра і маршала Тэўтонскага ордэна. Адзін з герольдаў звярнуўся да Ягайлы са словамі, якія «Хроніка канфлікту» перадае наступным чынам: «Кароль! Магістр пасылае табе вось гэты меч, а той, другі, мы павінны перадаць ад імя маршала твайму брату Вітаўту, калі б маглі яго спаткаць». Пачуўшы гэтыя словы, кароль зараз жа паслаў да Вітаўта давераных ганцоў з просьбай, каб той устрымаўся ад бітвы, у якую ён ужо ўступаў. Пакінуўшы сваіх рыцараў, вялікі князь хутка прыбыў да караля, пасля чаго герольды перадалі меч і яму са словамі: «Кароль і Вітаўт! Магістр і маршал прысылаюць вам гэ-







Нямецкія мячы канца XIV — пачатку XV ст.

тыя мячы ў якасці дапамогі і выклікаюць вас на бітву, пры гэтым пытаюць вас пра месца спаткання, прапануючы самім яго выбраць і пра зроблены выбар паведаміць. І не спрабуйце хавацца ў гушчыні гэтага лесу і не адцягвайце з уступленнем у бой, бо ні ў якім разе не ўдасца вам ухіліцца ад бітвы». Ягайла і Вітаўт, прыняўшы мячы, адказалі герольдам наступным чынам: «Прымаем дапамогу Божую як найважнейшую, а разам з ёй і гэтыя мячы як падмогу нам і хочам з магістрам пачаць бой. Не хаваемся па лясах, таму што прыбылі сюды з намерам памерацца з вамі сіламі, бо не можам ад вас атрымаць справядлівасці. А пошук месца бітвы аддаём на волю і ласку Божую».

Эпізод з мячамі не быў нейкай арыгінальнай выдумкай крыжакоў. Гэта быў даволі распаўсюджаны ў еўрапейскай традыцыі звычай, прычым тое, што прывезлі мячы герольды не ордэна, а яго саюзнікаў, таксама было цалкам у рамках гэтай традыцыі. Аднак грубаваты і высакамерны тон, якім суправаджалася перадача мячоў, паслужыў падставай для абвінавачання крыжакоў у непачцівасці, стаў сімвалам «тэўтонскай пыхлівасці». Самі мячы як сімвал перамогі над ордэнам доўгі час захоўваліся як рэліквія на кракаўскім Вавелі. Пасля задушэння паўстання пад кіраўніцтвам нашага земляка Тадэвуша Касцюшкі ў 1795 г. Вавель быў разрабаваны аўстрыйцамі. Сціплыя мячы, пазбаўленыя багатай аздобы, не прыцягнулі ўвагі рабаўнікоў. Потым яны трапілі ў калекцыю Чартарыйскіх ў Пулавах (Люблінскае ваяводства). У 1853 г. расійскія паліцэйскія ўлады канфіскавалі мячы «як зброю», і сляды іх канчаткова згубіліся[176].

Пасля перадачы мячоў Ягайла «з плачам і вялікім праліваннем слёз», што, зрэшты, было цалкам у традыцыях таго часу і не лічылася нечым такім, што пярэчыла ўяўленням аб мужнасці, звярнуўся да свайго рыцарства і прамовіў: «О рыцары мае! Прыяцелі і слаўныя мужы! Вядома вам, якімі непрыемнасцямі і беззаконнямі непакоілі нас і папярэднікаў нашых гэтыя вось людзі ганарыстага духу, на якіх глядзяць вашы вочы, колькі і як шмат зрабілі злога нашым землям, як зневажалі святыні Божыя і ганьбілі асоб, Богу ахвяраваных. Памятайце пра святатацтвы, гвалты, зладзействы і цёмныя справы, якія яны



ўчынялі ў нядаўнім яшчэ часе! Таму прыняўшы ў якасці падтрымкі тую справядлівасць, якую кожны ясна можа ўбачыць, бо яна сама за нас змагацца будзе, узбройцеся ж да абароны той самай справядлівасці і не бойцеся цяпер хутчэй згінуць за яе разам са мной, чым без яе жыць! Я ж, о рыцары мае, гатовы пайсці з вамі на жыццё альбо на смерць супраць тых, хто жадае нашай пагібелі».

Калі прамова караля скончылася, «усе разам пачалі з плачам спяваць «Багародзіцу» і рушылі ў бітву, праліваючы слёзы, якія сам кароль дабыў з іх сэрцаў сваімі словамі». Адбылося гэта «за тры гадзіны да палудня», гэта значыць у 9 гадзін раніцы[177].

Так выглядае падрыхтоўка да бітвы ў «Хроніцы канфлікту», складзенай адразу ж па гарачых слядах апісваемых падзей удзельнікам бітвы, які знаходзіўся пры асобе караля і быў непасрэдным відавочцам таго, што адбывалася ў яго атачэнні. Іншыя крыніцы, галоўным чынам Хроніка Яна Длугаша, у цэлым паўтараючы гэтае апісанне, прыносяць дадатковыя падрабязнасці, якія часам з'яўляюцца плёнам фантазіі, а таксама апісваюць падзеі ў іншых месцах поля будучай бітвы. Так, Длугаш, паўтараючы апісанне непагоды напярэдадні бітвы, прыўносіць у яго элемент Божай наканаванасці, што цалкам зразумела для духоўнай асобы, да таго ж прыхільнай да палякаў. Ён сцвярджае, што ў крыжацкім лагеры (якога ніхто з польскага лагера, між іншым, бачыць не мог) бура была значна мацнейшай і параскідала амаль што ўсе намёты, так што тэўтоны мусілі правесці бяссонную ноч.

Месяц, які ў «Хроніцы канфлікту» быў афарбаваны ў крывавы колер, што можна было растлумачыць капрызамі надвор'я, у Длугаша стаў арэнай змагання караля з манахам. Пасля працяглай барацьбы кароль перамог манаха і скінуў яго на зямлю, што было ўспрынята як добры знак, які Длугашу нібыта асабіста засведчыў відавочца — каралеўскі капелан Барташ Клабуцкі. Калі верыць польскаму храністу, то і некаторыя крыжацкія рыцары пазней распавядалі, што падчас бітвы бачылі ў небе асобу ў біскупскім адзенні, які благаслаўляў польскае войска.

Гаворачы пра месца прыпынку саюзнага войска, Длугаш удакладняе, што гэта адбылося на палях вёсак Таненберг і Грунвальд, атачаных з усіх бакоў лясамі. Удакладняецца і дакладнае месца прыбыцця крыжацкіх войскаў — да вёскі Грунвальд. Называецца імя рыцара, які





першы данёс каралю аб з'яўленні ворага, — Ганэк з Хелмскай зямлі, герба «Астоя». Другога ганца, інфармацыя якога прымусіла караля прасіць Вітаўта рыхтавацца да бою, звалі Дэрслаў Уластоўскі, герба «Окша».

Хроніка Длугаша сведчыць, што Ягайла выслухаў перад бітвай не адну, а аж дзве імшы. Польскім храністам указваюцца нават імёны надворных капеланаў Ягайлы, якія адпраўлялі гэтая набажэнствы, — Барташ, плябан з Клабучка, і Яраслаў, пробашч калішскі. Падобная дасведчанасць Длугаша тлумачыцца вельмі проста — ксёндз Барташ быў ягоным родным дзядзькам і, як лічыцца, адным з найбольш дасведчаных інфарматараў аб ходзе вайны.

Калі верыць Длугашу, то вялікі князь Вітаўт ужо з самага пачатку праяўляў нецярплівасць, запрашаючы свайго брата ўступіць у бітву супраць непрыяцеля, які стаяў ужо ў баявых парадках, цалкам гатовы да бою. Той факт, што крыжакі не ўдарылі па непадрыхтаваных да бою палякаx, Длугаш тлумачыць не высланымі наперад польскімі харугвамі, пра якія ён нават не ўзгадвае, а нежаданнем немцаў атакаваць схаваныя ў лесе сілы непрыяцеля да поўнага пастраення ўсіх сваіх сіл.



Ягайла. Надмагілле на кракаўскім Вавелі

Трохі іначай, чым у «Хроніцы канфлікту», выглядае ў Длугаша і пастраенне саюзных войскаў. Вынікае так, што яно пачалося яшчэ падчас набажэнства і кіраваў ім не Ягайла, а кракаўскі мечнік Зындрам з Машковіц. Наконт таго, што шыхтаваннем войска Вялікага Княства Літоўскага займаўся сам Вітаўт, у абодвух храністаў няма рознагалоссяў. У той жа час яшчэ адна крыніца, праўда позняя, а менавіта Хроніка Быхаўца, сцвярджае, што шыхтаваннем літвінскага войска займаліся «старшы гетман... князь Іван Жэдзевід, брат Ягайлаў і Вітаўтаў, а дворны гетман пан Ян Гаштольт».

У апісанні Хронікай Быхаўца шыхтавання літвінскага войска маецца адзін цікавы фрагмент, які парадзіў дзіўнае непаразуменне, якое стала адным з найбольш трывалых гістарычных анекдотаў, звязаных з Грунвальдскай бітвай: «І бачылі тое немцы, што ляхі і літва з такімі вялікімі войскамі не маглі нідзе ў іншым месцы прайсці, як толькі на



тыя палі, і для таго капалі ямы і прыкрывалі зямлёй, каб у іх коні і людзі падалі... І як пачалі вышэйпісаныя гетманы людзей шыхтаваць, а аб тых ямах нічога не ведалі, што на іх немцы пакапалі, і так шыхтуючы войска, найвышэйшыя гетманы князь Іван Жэдзевід і пан Сокал у ямы пападалі і ногі сабе паламалі, і моцна параніліся, з чаго і памерлі; і не толькі адны гетманы, але і многім людзям ад тых ям шкода вялікая сталася»[178].

Гэты фрагмент быў творча абыграны С. Кучыньскім: паводле ягонай канцэпцыі згаданыя «воўчыя ямы» былі «выяўлены» не падчас шыхтавання войска, а непасрэдна ў ходзе атакі войска Вітаўта напачатку бітвы. Між тым увесь ход падзей напярэдадні бітвы не дазваляе дапусціць нават думкі пра магчымасць існавання падобных ям. Папершае, выкапаць ямы ў такім месцы, якое займала перад боем саюзнае войска і на якім у далейшым разгортвалася сама бітва — лясістым і балоцістым, вывезці выкапаны грунт і замаскіраваць ямы належным чынам было б надзвычай складана. Для падрыхтоўкі такіх ям патрэбен досыць вялікі час, якога крыжакі, прымаючы пад увагу момант іх падыходу на месца бітвы, не мелі. Трэба ўлічыць таксама і стан надвор'я напярэдадні бітвы — дождж, навальніца і бура, якая зрывала намёты ў абодвух войсках, — усё гэта таксама зусім не спрыяла правядзенню складаных земляных работ. Акрамя таго, эфектыўнасць падобных прыстасаванняў магла быць досыць высокай толькі пры дакладным веданні пазіцый праціўніка падчас бою, якія для крыжакоў за дзень да падыходу войскаў Польшчы і ВКЛ былі, канешне ж, таямніцай, як і тое, што Ягайла і Вітаўт увогуле перанясуць стаянку ўсяго за дзве мілі ад папярэдняй.

Калі б такія ямы сапраўды існавалі, то атакуючы бок панёс бы каласальныя страты, якія хутчэй за ўсё сталі б для яго фатальнымі. Ніякая разведка боем не змагла б ўратаваць саюзнікаў ад замаскіраваных, досыць густа выкапаных ям (толькі пры гэтай умове ў іх наогул быў сэнс) у выпадку атакі шчыльнага строю кавалерыі, пазбаўленай поўнай свабоды манеўравання. А вялікіх страт у польскім войску падчас такой атакі ніхто з храністаў не адзначае. Да таго ж пры ўмове існавання падобных ваенных хітрасцяў крыжакі мусілі б цалкам адмовіцца ад атак, прарываў, абыходаў, каб самім не стаць ахвярай уласных жа пастак.





А між тым жаданне перайсці да глухой абароны назіраецца ў прускім войску толькі пад самы канец бітвы, пры абароне абозу. І нарэшце, галоўным аргументам для скептыкаў служаць археалагічныя даследаванні, якія былі праведзены на Грунвальдскім полі і якія не выявілі аніякіх слядоў таго, што хоць аддалена можна было б назваць «воўчымі ямамі»[179].



Павеза
Тэўтонскага ордэна.
XV ст.

Цікавыя звесткі прыводзіць Длугаш аб апошніх хвілінах перад бітвай у крыжацкім войску. Магістр Ульрых фон Юнгінген, нібыта, агледзеўшы сваё і варожае войскі, падрыхтаваныя ўжо да бою, перапоўнены кепскімі прадчуваннямі і трывогай, не змог утрымацца ад слёз. Комтуры, што знаходзіліся вакол яго, упалі ў смутак, а эльблангскі комтур Тэтынген спрабаваў публічна прысароміць магістра, запатрабаваўшы ад яго, «каб мужам быў, а не жанчынай» і рыцарам, што чакаюць ад яго сігналу да бітвы, даў хутчэй «прыклад адвагі, чым палахлівасці». На што Юнгінген, звычайна гняўлівы, праявіў прыклад стрыманасці і хрысціянскай пакоры, адказаўшы, «што слёзы, якія ў вачах яго зараз бачылі, не былі выкліканы нейкай бояззю ці лянотай, але выціснулі іх літасць і жаль сэрца, што падчас яго ўрадоўства і магістарства столькі крыві хрысціянскай павінна быць праліта, якую хоць вачыма яшчэ не бачыць, але затое можа ўявіць сабе ў думках». Аднак, дадаў магістр, ён «з цвёрдасцю і без трывогі пойдзе ў бой і стойка вытрымае любы вынік бітвы, на чый бы бок ні схіліліся шалі лёсу».

У сувязі з шыхтаваннем саюзных войскаў Длугаш узгадвае пра спробу дэзерцірства аднаго з атрадаў, а менавіта пра намер трохсот чэшскіх наёмнікаў пакінуць лагер Ягайлы. На пытанне падканцлера Мікалая Тромбы аб прычынах такога ганебнага ўчынку яны адказалі, што нібыта не атрымалі належнай заплаты. Аднак падканцлер прысароміў іх, абвергнуўшы надуманую зачэпку і абвінаваціўшы іх у баязліўстве. У выніку чэхі мусілі вярнуцца назад у каралеўскі лагер. Расійскі даследчык А. Барбашоў у сувязі з гэтым эпізодам прыводзіць паданне аб спробе пераходу да крыжакоў аднаго з чэшскіх атрадаў, нанятых Ягайлам. Аднак магістр нібыта не прыняў перабежчыкаў, сказаўшы іх камандзіру: «Я не Хрыстос і не маю патрэбы ў Іудзе». Выказваліся нават меркаванні, што гэтым камандзірам мог быць славуты ў далейшым Ян Жыжка[180].



У асноўных момантах пацвярджае Длугаш апісанне «Хронікай канфлікту» прыбыцця крыжацкіх герольдаў з мячамі. Аднак, паводле ягоных слоў, Вітаўт спяшаўся ў бітву і не змог з'явіцца да караля асабіста. Вельмі цікавым нюансам Хронікі Длугаша служаць словы герольдаў аб гатоўнасці крыжакоў пасунуцца, каб саступіць палякам і літвінам месца, пасля чаго тэўтоны нібыта сапраўды адышлі на пэўную адлегласць[181].

Па пытанню размяшчэння пазіцый варагуючых бакоў напярэдадні атакі па сённяшні дзень цягнуцца дыскусіі. Нам больш пераканаўчым падаецца сітуацыйная карціна поля, прапанаваная польскім класікам гісторыі вайсковасці Анджэем Надольскім[182]. Яна базіруецца на вызначэнні найбольш верагоднага шляху прасоўвання польска-літвінскіх войскаў на сталіцу крыжацкай дзяржавы. Як ужо адзначалася, яны, хутчэй за ўсё, рухаліся па тракце з Дуброўна да Турава і там уступілі на дарогу з Дзялдава да Альштынка.

Існуюць і іншыя меркаванні, якія дапускаюць прасоўванне саюзнікаў больш дробнымі шляхамі, што ў пэўнай ступені падмацоўваецца сведчаннямі ненадзейнай Хронікі Быхаўца, якая сцвярджае, што «ка-

Войска на маршы. Нямецкі малюнак канца XV ст.



роль Ягайла і князь вялікі Вітаўт цягнулі ку бітве ўсё лясными і злымі дарогамі». Аднак А. Надольскі задаецца слушным пытаннем: а што магло прымусіць Ягайлу і Вітаўта, якія дагэтуль выбіралі найбольш зручныя для маршу вялікага войска значнейшыя тракты, збочыць на заблытаныя прасёлачныя сцежкі, якія да таго ж часам вялі праз падмоклыя ўчасткі, цяжкія для праезду нават у нашы дні? І гэта пры тым, што надвор'е зусім не спрыяла эксперыментам у выбары шляхоў, а дзялдаўская дарога была найбольш зручнай трасай на Альштынак, куды, дарэчы, і скіраваліся пераможцы пасля бітвы.

Такім чынам, выступіўшы з-пад Дуброўна і прайшоўшы каля дзвюх міль (каля 15 км), саюзнікі дасягнулі паўднёвага ўскрайку возера Лубень. Уздоўж яго ўсходняга берага і праходзіў тракт з Дзялдава на поўнач, да Альштынка, па якім збіраліся рухацца аб'яднаныя сілы Ягайлы і Вітаўта. Скарыстаўшы раптоўнае паляпшэнне надвор'я, што магло здарыцца, прымаючы пад увагу вялізную колькасць падзей, якія паспелі адбыцца да пачатку бітвы, каля 7 гадзін раніцы, Ягайла загадаў зрабіць прыпынак для набажэнства. З найбольшай доляй верагоднасці гэта магло адбыцца на ўзнёслым паўднёва-ўсходнім беразе возера, каля вёскі Ульнова.

Нягледзячы на тое што іншыя даследчыкі звычайна шукаюць месца каралеўскага лагера значна далей на захад ад возера, на карысць менавіта берагавога яго размяшчэння можна прывесці некалькі аргументаў. Па-першае, яно знаходзілася непадалёк ад трасы, па якой войска неўзабаве мусіла рухацца далей; аддаляцца ад яго, тым больш на некалькі кіламетраў на захад па складанай лясістай мясцовасці, не мела сэнсу. Па-другое, на размяшчэнне паходнай капліцы «над возерам Лубень на ўзнёслым пагорку» прама ўказвае Длугаш, які меў, як адзначалася, вельмі дасведчанага інфарматара. А. Надольскі слушна звяртаў увагу на асаблівасці размяшчэння гэтага возера, якое ляжыць у глыбокай упадзіне і мае настолькі парослыя лесам берагі, што заўважыць яго можна толькі з непасрэднай блізкасці. Такім чынам, калі б капліца знаходзілася на значнай адлегласці ад возера (Р. Гагуа размяшчае яе за 2 км на захад[183]), то такое размяшчэнне нават з вялізарнай нацяжкай нельга было б назваць надазёрным.

Месца размяшчэння лагера саюзнікаў каля возера, уздоўж тракту на Альштынак, было выдатна схавана ад вачэй падыходзячага не-



прыяцеля рэльефам мясцовасці. Аднак і самі яны практычна нічога не маглі бачыць, асабліва ў найбольш небяспечным заходнім напрамку, дзе мясцовасць уяўляла сабой нагрувашчанне пагоркаў і далін, месцамі парослых лесам. Толькі яшчэ далей на захад раскінулася адкрытая прастора, якую абмяжоўвалі на поўдні Ладвікова, на поўначы Таненберг і на захадзе Грунвальд. Тым не менш дазоры саюзнікаў здолелі заўважыць падыход крыжацкіх сіл, аб чым і данеслі Ягайлу. Можна ўпэўнена сцвярджаць, што сутыкненне праціўнікаў раніцай 15 ліпеня было поўнай нечаканасцю як для польска-літвінскага, так і для тэўтонскага войска.

Для прыкрыцця сваіх войскаў, якія яшчэ не паспелі стаць у баявыя парадкі, кароль, як адзначае «Хроніка канфлікту», выслаў насустрач ворагу «чатыры ці шэсць» харугваў пад камандай маршалка кароннага Збігнева з Бжэзя, а сам спакойна пачаў слухаць імшу. Падобная легкадумнасць Ягайлы дзівіла як Длугаша, так і пазнейшых даследчыкаў. Неаднаразова выказваліся думкі, што калі б пруская армія атакавала сілы Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, апошнія абавязкова былі б разбітыя. Аднак кіраўніцтва ордэна не выкарыстала гэтую




Верагодны план поля Грунвальдскай бітвы на пачатак XV ст.



цудоўную магчымасць. Самі крыжакі, ужо пасля бітвы, шкадавалі аб страчаных шанцах лёгкага разгрому непадрыхтаванага да бою непрыяцеля. Аднак даводзіцца прызнаць, што ў тых абставінах, як яны маглі бачыцца тэўтонам, нічога лепшага, як чакаць, яны зрабіць не маглі. Сапраўды, самі крыжакі паспелі пашыхтаваць, як сведчыць Длугаш, толькі частку свайго войска; ацаніць ступень падрыхтаванасці да бою схаваных ад іх вачэй у лесе палякаў і літвінаў яны не маглі. Тэўтоны бачылі перад сабой толькі пашыхтаваныя ўжо «чатыры ці шэсць» харугваў прыкрыцця, і гэта магло навесці на думку, што ў такой жа самай гатоўнасці знаходзіцца і рэшта войска. У якім месцы лясістай часткі поля знаходзіцца непрыяцель, крыжакі не ведалі, і таму «сляпая» атака выглядала б абсалютнай авантурай. Можна цалкам пагадзіцца з А. Надольскім і М. Біскупам, што ў такіх абставінах час працаваў на саюзнікаў і Ягайла мог спакойна працягваць маліцца, тым больш што па ягонай просьбе Вітаўт праводзіў інтэнсіўнае шыхтаванне свайго войска[184].

Найбольш верагодным месцам поля, дзе войскі праціўнікаў выйшлі на лінію атакі, уяўляецца даліна перасохлай рачулкі Вялікі Струмень. Гэтая рачулка, насуперак сваёй назве, пераразала поле з паўднёвага захаду на паўночны ўсход у выглядзе маленькага струменьчыка і вяла да багністых берагоў ракі Марча. Забалочанай была мясцовасць і на поўдні — ля вытокаў Вялікага Струменя і на захад ад вёскі Ладвікова. Такім чынам, шыхтаванне праціўнікаў магло адбывацца па супрацьлеглых узнёслых берагах рачулкі на фронце да 3 км. Левы, «крыжацкі» бераг быў трохі вышэйшы, што і адзначыў Длугаш, сцвярджаючы, што тэўтоны кінуліся ў атаку «з больш высокага месца». Перадыслакацыя сілаў Ягайлы і Вітаўта да месца бою па складанай мясцовасці патрабавала пэўнага часу, таму адцягванне пачатку бітвы сапраўды было на карысць саюзнікам.

Першымі разгарнулі свае парадкі войскі Вітаўта, якія занялі правы фланг аб'яднаных сілаў, трохі пазней — палякі. Як вынікае з ходу бітвы, польскія войскі размяшчаліся што найменей трыма лініямі, дакладней эшалонамі, якія паслядоўна ўводзіліся ў бітву. Можна сцвярджаць, што пабудова войска Вітаўта таксама была эшаланіраванай. Як зноў жа вынікае з логікі бітвы, на левым крыле войска Вялікага Княства Літоўскага размяшчаліся «тры смаленскія палкі», авея-


Герб «Калюмны»

ныя славай дзякуючы пяру Длугаша. Лічыцца, што на чале іх знаходзіўся мсціслаўскі князь Сымон Лугвен. Разам з тым, апісваючы харугвы Вітаўта напярэдадні бітвы, Длугаш пералічвае толькі адну смаленскую харугву, а таксама сцвярджае, што Сымон Лугвен прывёў на вайну сваю ўласную харугву, праўдападобна, скапмлектаваную з мсціслаўскага рыцарства. Каб трохі «рэабілітаваць» Длугаша, заўважым, што, залічваючы Мсціслаўскую харугву да смаленскіх, польскі храніст быў не такі ўжо далёкі ад ісціны, бо Мсціслаў да ўключэння ў 1359 г. у склад Вялікага Княства Літоўскага з'яўляўся часткай Смаленскага княства. Што тычыцца трэцяй «смаленскай» харугвы, то яе паходжанне застаецца загадкай. Спробы звязаць яе з аршанскімі ці старадубскімі землямі можна ўспрымаць не больш як гіпотэзу.

На левым флангу «смаленскія» харугвы суседнічалі з польскім войскам, верагодна з Гоньчай харугвай і харугвай Св. Юрыя, складзенай з чэшскіх наёмнікаў. А. Надольскі лічыць, што гэтыя харугвы маглі першапачаткова ўваходзіць у «чатыры ці шэсць» харугваў прыкрыцця, разам з харугвай маршалка Збігнева з Бжэзя; такім чынам, уласная харугва маршалка таксама павінна была суседнічаць са «смаленскімі» харугвамі. Далей улева на польскім флангу маглі знаходзіцца, на думку польскага даследчыка, «вялікая» Кракаўская харугва, Сандамірская, Галіцкая і Вялюньская харугвы. Паблізу іх, але яшчэ трохі далей, маглі знаходзіцца харугвы Надворная і Дабяслава Алясніцкага.

Існуе даволі пашыранае меркаванне, што крайні правы фланг крыла Вітаўта займалі татары Джэдад-ад-Дзіна, што падаецца цалкам праўдападобным. Праўда, ні «Хроніка канфлікту», ні Длугаш пра гэта нічога не гавораць, аднак сведчанні пра тое, што татары ўтваралі асобны атрад, размешчаны на самым правым ускрайку войска ВКЛ, маюцца ў пазнейшай «Гісторыі» Бернарда Вапоўскага[185]. Глыбіня поля на літвінскім флангу была меншай — каля 2 км, тады як на левым, польскім крыле яна даходзіла да 3 км. Дзякуючы гэтаму войскі ВКЛ мелі патэнцыяльна менш свабоды для манеўра.

Абозы Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага найпраўдападобней знаходзіліся каля паўднёвага ўскрайку возера Лубень пры тракце з Дзялдава на Ольштын. Акрамя абознай чэлядзі там маглі знаходзіцца



духоўныя асобы і пісары, а таксама артылерыя саюзнікаў, якая не прымала ўдзелу ў бітве, аднак засведчыла сваю наяўнасць пазней, падчас аблогі Мальбарка.

На супрацілеглым беразе Вялікага Струменя, на адлегласці палёту стралы (200—300 м) ад пазіцый войскаў Ягайлы і Вітаўта, размясціліся крыжацкія сілы. Яны расцягнуліся паміж вёскамі Стэмбарк і Ладвікова. Як вынікае з апісання бітвы «Хронікай канфлікту» і Длугашам, наперадзе сваёй ударнай сілы — цяжкой кавалерыі вялікі магістр размясціў артылерыю, якая тэарэтычна павінна была суправаджацца пэўнай (але відавочна зусім нязначнай) колькасцю пяхоты — гарматнай абслугай, пешымі стральцамі і г. д., хоць прама пра гэта ў крыніцах не згадваецца. Пабудова крыжацкага войска таксама была эшаланіраванай, аднак неабходнасць захаваць шырыню фронту такую ж, як у праціўніка, але пры значна меншых сілах, абумовіла тое, што магістр мог прыхаваць пра запас толькі адзін рэзерв, які ён і кінуў у бой напрыканцы бітвы. Як і польска-літвінскія сілы, крыжацкая армія дзялілася на два крылы. Правае ўзначальваў галоўны комтур ордэна Конрад фон Ліхтэнштэйн, левае, скіраванае супраць войска Вітаўта, — маршал Фрыдрых фон Валенрод. Практычна ўсе крыніцы сведчаць, што менавіта на левым крыле змагаліся галоўныя сілы крыжакоў, цвет тэўтонскага рыцарства.

Археалагічныя даследаванні, праведзеныя на Грунвальдскім полі ў 1958—1960 і 1980—1982 гг., дапамаглі дакладна высветліць месцазнаходжанне крыжацкага абозу. Ён размяшчаўся ззаду ордэнскіх пазіцый акурат па цэнтру трыкутніка, утворанага вёскамі Грунвальд, Стэмбарк і Ладвікова. Менавіта тут пасля бітвы па ініцыятыве кіраўніцтва Тэўтонскага ордэна была ўзведзена капліца ў памяць хрысціянскіх душ, палеглых на Грунвальдскіх палях. Раскопкамі выяўлена некалькі масавых пахаванняў, што ўтрымоўвалі чалавечыя касцякі з выразнымі слядамі баявых пашкоджанняў. Тут жа была сканцэнтравана і большасць знойдзенага на месцы бітвы сярэднявечнага ўзбраення. Усё ўказвае, што менавіта тут разыгралася фінальная і найбольш крывавая фаза бітвы.

У гістарычнай літаратуры здаўна вядуцца дыскусіі аб тым, хто стаяў на чале войскаў, што ўдзельнічалі ў бітве. Называюцца самыя розныя імёны — ад кракаўскага мечніка Зындрама Машкавецкага, якога Длу-



гаш узгадвае ў якасці асобы, што займалася пабудовай войска перад боем, да Вітаўта, якому той жа Длугаш прыпісвае шалёную энергію напярэдадні і ў ходзе бітвы. Менавіта Вітаўт раіць каралю, калі выступаць з-пад Дуброўна і калі пачаць атаку; ён, як чараўнік, з'яўляецца то ў адным, то ў другім месцы бою, пастаянна мяняючы загнаных коней, папраўляе шыхты, падбадзёрвае ваяроў, патрабуе ад Ягайлы ўвядзення ў бой свежых сіл, асабіста аддае загады аб расправе над палоннымі крыжакамі і г. д. Энеа Сільвіа Пікаламіні ў адной са сваіх прац прама гаворыць, што менавіта дзякуючы энергіі Вітаўта было ўратавана ад поўнага паражэння ўжо акружанае крыжакамі і практычна разгромленае польскае войска.

Хроніка Быхаўца, апісанне бітвы ў якой увогуле перанасычана сумніўнымі сюжэтамі, першапачатковае кіраванне польскай і літоўскай арміямі прыпісвае адпаведна чэху Яну Сокалу і найвышэйшаму гетману ВКЛ (у пачатку XV стагоддзя!) Івану Жэдзевіду. Пасля ж таго, як згаданыя асобы правалiліся ў «воўчыя ямы» і ад многіх ранаў памерлі, на іх месцы былі прызначаны пан Спытак Спыткович і Ян Гаштольд[186].

На сённяшні дзень большасць даследчыкаў праблемы згаджаюцца з тым, што вярхоўнае кіраўніцтва саюзнымі войскамі належала каралю польскаму Уладзіславу Ягайлу. Ён, а не хто іншы, вырашае, калі і дзе спыніцца войску і разбіць лагер. Менавіта ад яго рашэння залежыць пачатак бітвы, і, не зважаючы на парады і прыспешванне іншых асоб, ён слушна ацэньвае абстаноўку і адцягвае атаку; у той жа час менавіта Ягайла аддае загад высунуць наперад «чатыры ці шэсць харугваў» на чале з маршалкам, пад прыкрыццём якіх спакойна праводзіць шыхтаванне польскага войска. Адначасова ён просіць Вітаўта падрыхтаваць да бою войска ВКЛ, а значыць, уплывае і на дзеянні вялікага князя. Ягайла пакідае за сабой права вызначаць баявы кліч не толькі для польскага (Кракаў), але і для літвінскага войска (Вільна). На фінальнай стадыі бітвы кароль асабіста ўдзельнічае ў разгроме крыжацкага абозу і пераследаванні непрыяцеля, як тое вынікае з ягоных лістоў, напісаных пасля бітвы розным асобам[187].

Разам з тым, адзначаючы агульнае кіраўніцтва Ягайлам саюзнымі войскамі, варта заўважыць, што гэтае кіраўніцтва насіла хутчэй стратэгічны, агульны характар. Дробнымі тактычнымі момантамі



Умацаваны абоз. Нямецкі малюнак канца XV ст.

ён кіраваць не мог па цэламу шэрагу прычын, галоўнай з якіх уяўляецца яго адсутнасць непасрэдна на полі бою. Длугаш піша, што «было вырашана і пастаноўлена мудра і прадбачліва, каб кароль Уладзіслаў не станавіўся ў шыхту баявым і ні да якой асобна харугвы не належаў; аднак была нададзена яму стража, і асоба яго з вялікім клопатам заслонена была. Да таго ж наймацнейшыя былі зроблены перасцеражэнні, каб кароль стаў убаку, у месцы аддаленым і бяспечным, атачаны дружынай з адборных рыцараў, так, каб не толькі непрыяцелі, але і свае пра яго не ведалі. Расстаўлены былі, апроч таго, у розных месцах найхутчэйшыя коні, пры дапамозе якіх ён мог у выпадку небяспекі і перамогі непрыяцеля ратавацца, мяняючы коней, бо яго аднаго ацанілі ў сто тысяч рыцараў»[188].

Для аховы асобы караля быў выдзелены атрад адборных рыцараў у колькасці 60 коп'яў, якія стаялі пад малым каралеўскім сцягам з белым арлом. Аналізуючы гэты ўрывак Хронікі Длугаша, Р. Гагуа прыйшоў да высновы, што гэты атрад і з'яўляўся харугвай пярэдняй стражы, якая, па словах «Хронікі канфлікту», змагалася побач з войскам Вітаўта і наёмнай харугвай Св. Юрыя. Пры гэтым беларускі даследчык не пагаджаецца з атаясамленнем польскімі даследчыкамі, у тым ліку А. Надольскім, згаданай харугвы пярэдняй стражы з Гоньчай харугвай, якая мела ў якасці баявога знака падвойны крыж[189].

Аднак стройныя, на першы погляд, выкладкі Р. Гагуа маюць сур'ёзныя



Ягайла з крыжацкімі мячамі. Манумент у Нью-Ёрку

нестыкоўкі. Па-першае, варта яшчэ раз уважліва ўчытацца ў словы Длугаша аб тым, што «кароль Уладзіслаў не станавіўся ў шыхту баявым і ні да якой асобна харугвы не належаў». Значыць, атрад каралеўскіх целаахоўнікаў лічыўся не харугвай, а сапраўды зборным атрадам з найбольш слаўных, дужых альбо мудрых рыцараў, здольных аказаць каралю паслугі не толькі мячом, але і мудрай парадай. Уяўляецца, што менавіта з такімі мэтамі ў згаданы атрад патрапіў, напрыклад, каралеўскі пісар Збігнеў Алясніцкі. Гэтым можа тлумачыцца і «супярэчнасць» у тэксце Длугаша, калі чэх Ян Сокал і літвін Сымон Лугвен узгадваюцца то як камандзіры харугваў, то як камбатанты каралеўскага атрада. Проста яны маглі курсіраваць паміж сваімі харугвамі і каралём, выконваючы функцыі своеасаблівых «ад'ютантаў».

У сувязі з гэтым звяртае на сябе ўвагу эпізод з уцёкамі з поля бою наёмнай харугвы Св. Юрыя, якую павінен быў узначальваць Ян Сокал. Аднак на момант уцёкаў на чале яе ўзгадваецца харунжы Ян Сарноўскі, якога чэшскія рыцары называюць сваім «ротмістрам і даводцам». Можна меркаваць, што ён замяшчаў на той момант бітвы рэальнага камандзіра харугвы, Яна Сокала, які знаходзіўся пры асобе Ягайлы і не мог устрымаць сваіх камбатантаў ад дэзерцірства[190].

Аднак найбольшы «сюрпрыз» чакае нас, калі мы ўсё ж такі пагодзімся з тым, што атрад каралеўскіх целаахоўнікаў і быў той самай харугвай пярэдняй стражы, якая змагалася побач з войскам Вітаўта. У такім разе давядзецца прызнаць, што гэтыя адборныя рыцары не справіліся з ускладзенай на іх задачай, парушыўшы прамы і ясны загад — ахоўваць асобу караля, якая, нагадаем, была ацэнена ў дзесяць тысяч рыцараў. На шчасце, гэтага не адбылося — мы бачым іх пры Ягайлу і ў пачатку бітвы, і ў яе разгары, калі нават прарыў крыжацкіх рэзерваў не прымусіў каралеўскіх целаахоўнікаў пакінуць свайго манарха. Такім чынам, можна адназначна і ўпэўнена сцвярджаць: атрад каралеўскіх целаахоўнікаў не быў харугвай пярэдняй стражы.



Такім чынам, Ягайла ў атачэнні адборных рыцараў знаходзіўся паблізу войска на пагорку, з якога ён ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва. Даследчыкі адзначаюць, што падчас бітвы Вітаўт у значнай ступені валодаў значнай ступенню самастойнасці. Р. Гагуа ўвогуле выказаў меркаванне, што Ягайла і Вітаўт дзейнічалі як саюзнікі, але не падпарадкоўваліся адзін аднаму, што яны змагаліся паасобку, камандуючы кожны сваёй арміяй. Само ж гэта камандаванне «зводзілася да ўвядзення ў бой свежых атрадаў, у той час як, уступіўшы ў бітву, рыцары ў асобных харугвах падпарадкоўваліся (наколькі гэта было магчыма) сваім непасрэдным камандзірам, якія вялі іх у бой»[191].

Значная роля Вітаўта ў кіраванні войскам сапраўды праявілася на працягу ўсёй кампаніі 1410 г. Прычым гэта выявілася не толькі ў самастойнасці пры кіраванні войскам Вялікага Княства Літоўскага, якое дзейнічала, на пэўных этапах вайны, як бы насуперак агульнаму плану: Вітаўт пачынае атаку, нягледзячы на тое што Ягайла просіць яго пачакаць; літвіны здымаюць аблогу Мальбарка і вяртаюцца ў межы Вялікага Княства, што практычна перакрэслівае планы польскага караля па поўнаму знішчэнню ордэнскай дзяржавы. Вітаўт, як ужо адзначалася, дае каралю важныя парады, да многіх з якіх Ягайла прыслухоўваецца. У ходзе бітвы кароль не загадвае Вітаўту, ён просіць яго, крыжакі выклікаюць на бітву абодвух манархаў, перадаючы ім аднолькавыя мячы, — усё ўказвае на тое, што кароль польскі і вялікі князь літоўскі выступаюць амаль як раўназначныя фігуры. Аднак гэта «амаль» ва ўмовах ваеннага часу магло быць вельмі істотным. Ягайла мог прыслухоўвацца да парад Вітаўта, таксама як і да парад іншых асоб, аднак апошняе слова ўсё роўна заставалася за ім. Ды іначай і быць не магло, прымаючы пад увагу статус Ягайлы як не толькі караля польскага, але і «вярхоўнага князя літоўскага», прычым захаванне гэтага статуса, хай сабе ў многім і ілюзорнага, было пастаянным клопатам не толькі самога Ягайлы, але і польскіх паноў. Такім чынам, ролю Ягайлы можна вызначыць калі не як кіраўніка, то як агульнага каардынатара, які вызначаў стратэгію саюзных войскаў.

У той жа час Вітаўт, як можна меркаваць, не абмяжоўваўся кіраваннем толькі ягонымі ўласнымі харугвамі. Па словах Длугаша, у ходзе бітвы ён «пастаянна бегаў паміж польскімі палкамі і харугвамі,



Вітаўт.
Эскіз Яна Матэйкі да карціны «Бітва пад Грунвальдам». 1872 г.

замест стомленых і змучаных новыя ўводзячы палкі і клапатліва назіраючы, як вагаліся лёсы абодвух бакоў». Альбо, як адзначаў Энеа Сільвіа Пікаламіні, «Вітаўт звярнуўся з заклікам працягнуць бітву, і працягнулі палякі з лікуючымі крыкамі, і мужна наступалі так, каб прымусіць да ўцёкаў прусаў»[192]. Такім чынам, ён, ці то паводле нададзеных яму паўнамоцтваў, ці то па ўласнай ініцыятыве, узяў на сябе што найменей некаторыя функцыі па тактычнаму кіраванню не толькі літоўскім, але і польскім войскам.

Аднак вялікі князь літоўскі быў не адзінай асобай, хто такое кіраванне ажыццяўляў. Значную ролю ў кіраванні часткай польскіх харугваў («чатырох ці шасці») адыгрываў, як ужо адзначалася, маршалак польскі Збігнеў з Бжэзя. Можна дапусціць, што стойкасць «трох смаленскіх палкоў» літвінскага фланга таксама ў нейкай ступені абумоўлівалася ўмелым кіраўніцтвам мсціслаўскага князя Сымона Лугвена.

Што тычыцца войска Тэўтонскага ордэна, то на чале яго стаяў вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген. Ягонымі непасрэднымі памочнікамі з'яўляліся вялікі комтур і маршал. Як ужо адзначалася, у часы Вялікай вайны гэтыя пасады займалі адпаведна Конрад фон Ліхтэнштэйн і Фрыдрых фон Валенрод, якія камандавалі правым і левым крыламі крыжацкага войска. Сам магістар кіраваў рэзервамі. Вышэйшымі саноўнікамі ордэна, у тым ліку і вайсковымі, з'яўляліся таксама вялікі шпітальнік, вялікі шатны і вялікі скарбнік.

Вялізарная роля ў Грунвальдскай бітве належала камандзірам харугваў, што абумоўлівалася спецыфікай клінава-калоннай тактыкі, характэрнай як для крыжацкага, так і для польска-літвінскага войскаў. Кожны клін уяўляў сабой аўтаномную баявую адзінку, хоць падчас агульнай атакі кліны ўтваралі суцэльную лінію з разрывамі паміж асобнымі атрадамі, якія забяспечвалі ім свабоду манеўра. Атака пачыналася паволі, паступова набіраючы тэмп ажно да галопу, пры гэтым «ламанне» строю падчас атакі строга забаранялася. Та-



кая пабудова войска дазваляла цяжкой рыцарскай кавалерыі дасягнуць максімальнага ўдарнага эфекту і ў той жа час не перашкаджала выводзіць з бою стомленыя альбо парадзелыя харугвы і замяняць іх новымі, свежымі. Гэта давала войскам магчымасць змагацца цэлымі гадзінамі без празмернага вымотвання рыцарства. Пра аўтарытэт, якім карысталіся камандзіры харугваў, сведчыць той факт, што ў крыжацкім войску імі кіравалі не толькі комтуры, пракуратары, войты, але і сам вялікі магістр. Ён стаяў на чале дзвюх уласных харугваў — «большай» і «меншай», альбо Гоньчай[193].

Такім чынам, 15 ліпеня 1410 года, «за тры гадзіны да палудня», гэта значыць у 9 гадзін раніцы, калі скончылася прамова Ягайлы, «усе разам пачалі з плачам спяваць «Багародзіцу» і рушылі ў бітву, праліваючы слёзы, якія сам кароль дабыў з іх сэрцаў сваімі словамі». «Хроніка канфлікту», а за ёй і Хроніка Яна Длугаша надзвычай маляўніча апісваюць атаку польскага войска і яго сутыкненне з крыжацкім: «На правым крыле ўступіў у бой князь Вітаўт са сваімі людзьмі, з харугвай Св. Юрыя і харугвай пярэдняй стражы. Незадоўга перад самым пачаткам бітвы прайшоў невялікі і цёплы дождж, які змыў пыл з конскіх капытоў. А на самым пачатку таго дажджу гарматы ворагаў, бо ворагі мелі шматлікія гарматы, двойчы далі залпы каменнымі ядрамі, але не маглі нашым зрабіць тым стрэлам ніякай шкоды; і ворагі пры першай сутычцы з людзьмі караля былі адкінуты ад тых гармат на без малога стадыю. У той жа час разгарэўся суровы бой.

Калі ўжо абодва войскі, як каралеўскае, так і Вітаўтава, сышліся і змагаліся з усімі атрадамі ворага, а большая частка прусакаў, складзеная з адборных атрадаў, пастаўлена была насупраць людзей князя Вітаўта, харугвы Св. Юрыя і харугвы нашай пярэдняй стражы сустрэліся з вялікім гулам і нязмерным напорам коней у пэўнай даліне такім чынам, што праціўнік згары, а нашы таксама згары ўзаемнымі ўдарамі разіць адзін аднаго пачалі. У тым месцы пасля бітвы коп'і, якія ў той час былі скрышаны, і таму што ногі конскія скідалі на тое месца зверху, з вяршынь абодвух пагоркаў, паламаныя дрэўкі, якія з-за схілу мясцовасці не маглі ўтрымацца на вяршыні ўзвышша, грамадзіліся і збіраліся ў даліне паміж тымі пагоркамі, так што ўтварайся як бы маналітны мост, выкладзены людскімі рукамі з тых коп'яў.

Іншая ж частка ворагаў сярод тых жа адборных людзей крыжацкіх сутыкнулася з найвялікшым імпэтам і крыкам з людам князя Вітаўта, і пасля без малога гадзіны ўзаемнай бітвы шмат хто з абодвух бакоў загінуў, так што людзі князя Вітаўта вымушаны былі адступаць. Тады ворагі, якія гналі іх, падумалі, што атрымалі перамогу, і, рассыпаўшыся, аддаліліся ад сваіх харугваў і шыхту сваіх кліноў і перад тымі, каторых папярэдне прымусілі да ўцёкаў, самі ў сваю чаргу сталі адступаць. Неўзабаве, калі захацелі вярнуцца, адрэзаныя ад сваіх людзей і харугваў каралеўскімі людзьмі, якія іх харугвы наўпрост ад крылаў адсеклі, альбо ў большасці трапілі ў няволю, альбо былі знішчаны мячом. Тыя ж, якія стаялі злева ад тых, што былі адсечаны, захавалі жыццё, вярнуліся да сваіх людзей непрыяцельскага войска і, зноў злучыўшыся з імі, сутыкнуліся ўзаемна з харугвай кашталяна кракаўскага, ваяводы сандамірскага, зямлі Вялюньскай, зямлі Галіцкай і многімі іншымі харугвамі. Падчас гэтага сутыкнення распачаўся найбольш зацяты бой, і тады шмат людзей палягло».

З прыведзеных слоў «Хронікі канфлікту» вынікае, што сутыкненне з крыжацкім войскам адбылося адначасова на абодвух флангах саюзнага войска, як польскім, так і літвінскім. Між тым іншыя крыніцы, у тым ліку Хроніка Яна Длугаша, асобныя творы, звязаныя з імем Энеа Сільвіа Пікаламіні, Хроніка Яна Пасільге і нават пазнейшая Хроніка Быхаўца, сцвярджаюць, што крыло Вітаўта ўступіла ў бітву раней. Аднак і ў гэтых згаданых крыніцах маюцца вельмі сур'ёзныя разыходжанні, якія тычацца суадносін часу ўступлення ў бітву армій Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. Так, калі верыць Длугашу, літвіны апярэдзілі палякаў зусім ненашмат і адбылося гэта выпадкова, выключна па віне Вітаўта, які вызначаўся крайняй нецярплівасцю і ні на хвіліну не жадаў адкладваць атакі.

Трохі іначай выглядае паслядоўнасць уступлення ў бой літоўскага і польскага войскаў у Хроніцы Яна Пасільге. Апісваючы пачатак бітвы з пазіцыі крыжакоў, яна адзначае, што «ўступілі язычнікі з імі ў бітву і яго міласцю панам магістрам былі разбіты, калі пабеглі вон. І палякі прыйшлі ім на дапамогу, і была вялікая бітва, і магістр разам са сваімі людзьмі тройчы прабіваўся праз іх, і кароль так адступіў, што яны ўжо пачалі спяваць «Хрыстос уваскрос». Такім чынам, калі верыць нямецкаму храністу, то палякі ўступілі ў бітву толькі пасля разгрому крыла Вітаўта.

Блізкую трактоўку пачатковай фазы бітвы мы сустракаем у творах, што звязваюцца з імем Энеа Сільвіа Пікаламіні. Так, у творы «Аб Лівоніі» чытаем: «Уладзіслаў татарам і літоўцам першымі бой пачаць загадаў, з палякаў жа пакінуў рэзерв». Амаль тыя ж самыя словы мы знаходзім у Чыгізскім манускрыпце: «Уладзіслаў татар і літоўцаў на вастрыі размясціў, першымі ў бой ісці загадаў, з цяжкаўзброенымі палякамі сам як бы ў дапаможным рэзерве каля лагера застаўся... Сышоўшыся ў бітве, таму бяззбройныя татары і літоўцы панеслі цяжкія страты, ціснулі (крыжакоў)励 колькасцю, а не апорай на плечы палякаў. У суровай бітве пала трупаў звыш меры, і стала бачна, што прусы не так хутка раны наносяць, як самі ад татар і літоўцаў атрымоўваюць. Цягнуўся каля гадзіны бой, калі самыя слаўныя палі з абодвух бакоў, літоўцы, русіны і татары як жывёлы ў ахвяру прыносіліся». Варта ўвагі, што толькі пасля гэтага манускрыпт апісвае эпізод з мячамі, а далей утрымлівае яшчэ адзін цікавы фрагмент: «Калі кароль па звычаю быў на набажэнстве, чакаючы канца імшы, прыйшоў Вітаўт, брат ягоны, дакараючы караля за яго норавы і што паслаць на дапамогу ўсё войска не хоча. Кароль, аддаўшы сябе Божай абароне, праліў слёзы і, ускочыўшы на каня, зараз жа ў бітву сілай зброі нязломнай уступіў»[194].

Гуфніца. XV ст.



З прыведзеным вышэй фрагментам пераклікаецца і Хроніка Быхаўца: «Потым, бачучы князь вялікі Вітаўт, што войска ягонага надта многа пабіта, а ляхі ім ніякай дапамогі ўчыніці не хочуць, і князь вялікі Вітаўт прыбег да брата свайго караля Ягайлы, а ён імшу слухае. А ён казаў так: «Ты імшу слухаеш, а князі і панове, брацця мае, мала не ўсе пабітыя ляжаць, а твае людзі ніякай дапамогі ім учыніці не хочуць». І ён яму адказаў: «Мілы браце, ніяк іначай учыніці не магу, толькі мушу даслухаць імшу», і казаў гуфу свайму каморнаму



Грунвальдская бітва. Гравюра з «Хронікі ўсяго свету» М. Бельскага. 1554 г.

на ратунак пайсці, які ж гуф войску літоўскаму дапамогу аказаўшы, пайшоў з войскамі літоўскімі, і немцаў паразіў, і самога містра, і ўсіх комтураў яго да смерці пабілі, і незлічонае мноства немцаў злавілі і пабілі, а іншыя войскі лядскія нічога ім не дапамагалі, толькі на тое глядзелі»[195].

Такім чынам, у крыніцах існуе што найменей тры пункты гледжання на разгортванне падзей першай фазы Грунвальдскай бітвы.

Польскія крыніцы, найбольш падрабязна апісваючы сітуацыю на левым флангу саюзнікаў, адзначаюць сінхроннае з палякамі, альбо з нязначным апярэджаннем, уступленне ў бой і літоўскага фланга, які, праз нейкі час, быў вымушаны ўцякаць пад націскам адборных сіл непрыяцеля. Заходнія ж крыніцы сцвярджаюць, што войскі Вялікага Княства Літоўскага першыя ўступілі ў бітву і польскі фланг пачаў атаку толькі пасля іх разгрому. Што тычыцца беларуска-літоўскіх летапісаў, прадстаўленых позняй і тэндэнцыйнай Хронікай Быхаўца, то войска Вялікага Княства Літоўскага выступае тут як галоўны пераможца ў бітве, якому палякі не аказвалі значнай дапамогі на працягу ўсёй бітвы. Складаецца ўражанне, што кожная група крыніц падае такую карціну бітвы, якая бачылася з пэўнага месца Грунвальдскага поля, верагодна, таго, дзе знаходзіліся інфарматары польскіх, крыжацкіх альбо беларуска-літоўскіх храністаў. Што ў гэты час адбывалася ў іншых месцах бою, гэтыя інфарматары не ведалі альбо ведалі толькі па чутках, што і знайшло адлюстраванне ў хроніках.

З улікам інфармацыі, прыносімай усімі пералічанымі крыніцамі, першая фаза бітвы ўяўляецца нам наступным чынам. Яна пачалася атакай першай лініі правага фланга саюзнікаў, на якім размяшчаліся сілы Вялікага Княства Літоўскага. Гэта магло адбыцца перад самым прыбыццём да Ягайлы крыжацкіх герольдаў з мячамі. Польскі кароль бачыў пачатак атакі і спрабаваў спыніць яе, запрасіўшы Вітаўта да сябе, аднак, прымаючы пад увагу расцягнутасць фронту, зрабіць гэтага не паспеў. Сутыкненне адбылося ў даліне рачулкі Вялікі Струмень і было няўдалым для літвінаў. Ім давялося мець справу з найбольш моцнымі, адборнымі сіламі непрыяцеля, якія альбо размяшчаліся тут з самага пачатку, спадзеючыся на хуткі разгром горш узброеных літвінскіх ваяроў, альбо былі перакінуты сюды з правага крыла ўжо ў час напружанага бою. Пакуль польскі фланг канчаткова падрыхтаваўся да ўступлення ў бітву, прайшоў нейкі тэрмін. На працягу гэтага часу Ягайла быў заняты прыняццем мячоў ад крыжацкіх герольдаў (разам з Вітаўтам), звяртаўся да свайго рыцарства з узнёслай прамовай; пэўная колькасць часу спатрэбілася, каб вершнікі селі на коней і згуртавалі свае шыхты, бо герольды прыбылі ў лагер Ягайлы акурат тады, калі ён займаўся пасаваннем сваіх рыцараў, якія напэўна ж пры гэтым не сядзелі на конях з коп'ямі ў руках. За гэты час першая лінія

войска Вялікага Княства Літоўскага пад націскам непрыяцеля пачала паступова адыходзіць, як адзначаюць польскія хронікі, а ў далейшым адступленне перарасло ва ўцёкі.

Можна дапусціць, хоць крыніцы пра гэта маўчаць, што ўцёкі былі справакаваны татарамі, якія, як адзначалася, маглі размяшчацца на самым правым ускрайку літвінскага войска. Аднак калі для татараў прытворныя ўцёкі маглі, тэарэтычна, з'яўляцца звыклым тактычным прыёмам, то для астатніх гуфаў першай лініі гэта магло стаць сігналам для сапраўдных панічных уцёкаў. Длугаш сцвярджае, што «такі страх агарнуў уцекачоў, што некаторыя не спыняліся ажно да самай Літвы, дзе распусцілі чуткі, што кароль Уладзіслаў і Аляксандр, вялікі князь літоўскі, палеглі, а войскі іх вынішчаны дашчэнту»[196].

Верагодна, што спачатку адступленне на правым ускрайку літвінскага фланга не адразу было заўважана; да Ягайлы маглі толькі даходзіць данясенні пра цяжкае становішча крыла Вітаўта. Аднак да моманту атакі польскіх сіл большая частка першай лініі гэтага крыла была ўжо канчаткова разбіта і кінулася наўцёкі. На полі бою засталіся «тры смаленскія харугвы», размешчаныя, верагодна, на самым левым ускрайку, на стыку з польскім крылом. Як адзначае Длугаш, «хоць у адной харугве большая частка рыцарства пала пад мячом, а сцяг яе ажно да зямлі быў прыбіты, дзве астатнія, так мужна змагаючыся, як рыцарам пристала, выйшлі з бою пераможцамі і злучыліся потым з палякамі». Можна меркаваць, што атака польскага фланга і ўратавала гэтыя харугвы ад поўнага знішчэння альбо ад уцёкаў.

Цікавае тлумачэнне прычыны запозненага ўступлення ў бітву польскага крыла прыводзіць Р. Гагуа. Яно было звязана нібыта са спецыфікай размяшчэння варагуючых бакоў. На думку беларускага даследчыка, пазіцыі саюзнікаў знаходзіліся не ўздоўж усходняга берага рачулкі Вялікі Струмень, а трохі ніжэй на паўднёвы захад, прычым акурат перад лініямі польскага фланга знаходзілася балоцістая мясцовасць. Такім чынам, з-за спецыфікі сваіх баявых пазіцый палякі папросту не маглі ўступіць у бой да разгрому правага крыла, дзе стаялі сілы Вялікага Княства Літоўскага[197]. Пры ўсёй арыгінальнасці і цікавасці гэтага тлумачэння мы дазволім сабе ўсумніцца ў яго слушнасці: Ягайла мусіў бы быць занадта ўжо «нестандартным» стратэгам, каб размясціць свае сілы фронтам да балота і флангам у напрамку пла-





нуемай атакі. Займаючы такія пазіцыі, палякі для ўступлення ў бітву мусілі б зрабіць разварот управа, пасунуцца на пазіцыі войска ВКЛ, а затым зноў развярнуцца ўлева. Рабіць такія манеўры, складаныя нават для прафесійных салдат, прычым на вачах у непрыяцеля, было б вельмі рызыкоўным. Да таго ж палякі мусілі б пры гэтым павярнуцца да крыжакоў флангам, што, у выпадку іх атакі, магло б скончыцца катастрофай.

Верагодна, менавіта ў гэты час, напярэдадні поўнага разгрому першай лініі войска ВКЛ, польскія войскі ўвялі ў бой сваю першую лінію. Адначасова, для ўратавання сітуацыі на правым крыле, Ягайла перакінуў сюды харугвы Св. Юрыя і Гоньчую. Аднак у гэты ж час Вітаўт таксама мог кінуць у бой сваю другую лінію, якая рушыла ў бітву практычна адначасова з палякамі. Гэтым можа тлумачыцца той факт, што польскія хронікі апісваюць адначасовае ўступленне ў бой і польскага фланга, і людзей Вітаўта разам са згаданымі дзвюма харугвамі.

У відавочцаў, якія размяшчаліся на левым, польскім, флангу і ведалі пра ўцёкі правага крыла, але не ведалі пра тактычныя задумкі Вітаўта, пры паўторным з'яўленні ліцвінаў на полі бітвы сапраўды магло скласціся ўражанне аб вяртанні ў бой рэштак разбітых літвінскіх гуфаў. Аднак такое вяртанне разгромленых і рассыпаных атрадаў, праследуемых ворагам, уяўляецца малаверагодным. Нават калі адкінуць фактар панікі, прысутны ў любым уцякаючым войску, падобны манеўр літвіны разбітай першай лініі зрабіць не маглі. Як адзначалася, падчас бою войска Вялікага Княства Літоўскага, таксама як польскае і крыжацкае, дзейнічала сціснутымі шыхтамі. Рассыпанае і расцярушанае, яно губляла значную частку сваіх баявых якасцяў. Нездарма прычынай знішчэння крыжацкіх сіл, якія вярталіся з пагоні за тымі ж літвінамі, «Хроніка канфлікту» называе парушэнне імі баявых парадкаў. Аператыўна перабудаваць значна парадзелыя шыхты пад напорам ворага, каб пасля гэтага ворага самім прымусіць да ўцёкаў, літвіны наўрад ці маглі. Не выключана, што частка разбітых атрадаў першай лініі і вярнулася ў бітву, аднак гэта магло адбыцца толькі значна пазней, калі яны ўжо ачуліся ад праследавання. Факт уцёкаў часткі войска Вітаўта ўскосна пацвярджаецца і такім салідным, вартым даверу дакументам, як данясенне ордэнскага ўрадніка з Тапева комтуру Свен-





Грунвальдская бітва. Мініяцюра XV ст. з «Хронікі» Д. Шылінга

ца ад 21 кастрычніка 1410 г. Там гаворыцца, што Вітаўт вярнуўся ў межы Вялікага Княства ледзьве з паловай свайго войска, іншая ж палова, напэўна, была страчана і што нават князь Жыгімонт (верагодна, брат Вітаўта) яшчэ не вярнуўся назад, і ніхто не ведае, жывы ён ці загінуў[198].

У апошні час шырокую папулярнасць у беларускай гістарыяграфіі набыла канцэпцыя, паводле якой адступленне правага фланга з'яўлялася дальнабачным тактычным ходам Вітаўта, закліканым парушыць непрыяцельскія шыхты і заманіць іх у пастку. Падставай для такой канцэпцыі стала выяўленне шведскім гісторыкам Свенам Экдалем ліста да вялікага магістра Тэўтонскага ордэна, напісанага пасля Грунвальдскай бітвы. У ім гаворыцца: «Можа стацца так, што вашы ворагі задумаюць асцярожнасць і, пакінуўшы харугву, праявіўшы слабасць, кінуцца наўцёкі; [аднак] можа здарыцца, што яны задумалі парушыць вашы шыхты, бо людзі маюць звычку паляваць (пускацца ў пераследаванне), як гэта адбылося ў Вялікай бітве. ...І таму мы вам упэўнена раім, каб вы сваім высокім становішчам над падначаленымі атрады ўтрымлівалі ў баявым парадку, і каб адны другіх не пакідалі да таго часу, пакуль не будзе бачна, што варожы атрад прымушаны да ўцёкаў канчаткова. ...Бо 20 тых, хто далучыцца да трыццаці паляўнічых, міжволі парушаць шыхты, людзі не змогуць праявіць паслушэнства, і бітва скончыцца вялікім паражэннем».

Аднак канцэпцыя прытворных уцёкаў сустракае ў шэрагу даследчыкаў сур'ёзныя контраргументы. Па вялікаму рахунку, аўтар (альбо аўтары) ліста не сцвярджае, што адступленне літвінаў у

 

«Вялікай бітве» было наўмысным; ён (альбо яны) перасцерагае толькі, каб крыжакі надалей не захапляліся праследаваннем ворага, як пад Грунвальдам, да поўнага яго разгрому, бо гэта можа прывесці да парушэння баявых парадкаў праследавацеляў і скончыцца іх паражэннем. Аўтары ліста, натуральна ж, не ведалі, ды і не маглі ведаць, планамерным было адступленне войскаў Вітаўта ці стыхійным, яны толькі выказалі гіпотэзу, што яно магло быць спланаваным. Таму ёсць усе падставы ставіцца да ўцёкаў правага крыла саюзнага войска як да тактычнага прыёму са значнай асцярожнасцю[199].

Вяртанне ў бітву крыжацкіх сіл, якія праследавалі разбітае крыло Вітаўта, асвятляецца ў крыніцах даволі туманна. Гэта тычыцца, у тым ліку, і «Хронікі канфлікту», якая адзіная больш-менш падрабязна апісвае гэтую падзею. З яе слоў можна зразумець, што крыжакі мусілі адступаць перад тымі, каго яны перад гэтым праследавалі, аднак адразу ж за гэтым мы чытаем, што некаторыя крыжакі захацелі вярнуцца, што не адно і тое ж. Далей «Хроніка» ўказвае, што тыя рыцары, якія захацелі вярнуцца, былі адсечаны ад сваіх харугваў каралеўскімі людзьмі і загінулі ці трапілі ў палон. Тыя ж, якія стаялі злева ад іх, уратаваліся, здолелі вярнуцца да сваіх шыхтоў і зноў уступілі ў бітву з харугвамі польскага крыла. Прычым з тэксту застаецца няясным, «злева» гледзячы з крыжацкага альбо польска-літвінскага боку.

Супастаўляючы звесткі «Хронікі канфлікту» з іншымі крыніцамі, вяртанне крыжакоў у бітву бачыцца нам наступным чынам. Пасля разгрому і ўцёкаў войскаў першай лініі войска Вітаўта тэўтоны рушылі за імі ў пагоню. Аднак у гэты час Ягайла ўводзіць у бой сваю першую лінію і пасылае для ўратавання правага крыла харугвы Св. Юрыя і Гоньчую. Прыблізна адначасова Вітаўт кідае ў бітву сваю другую лінію, якая сутыкаецца з тымі крыжакамі, якія праследавалі адступаючых літвінаў на паўднёва-ўсходнім напрамку. Рассыпаныя і расцярушаныя, тэўтонскія рыцары, будучы не ў стане супрацьстаяць сціснутым шыхтам свежых варожых гуфаў, вымушаны адыходзіць, прычым можа скласціся ўражанне, што яны адступаюць «перад тымі, каго перад гэтым праследавалі». Больш таго, уражлівы чалавек сапраўды мог падумаць, што вяртанне ў бітву войска, якое толькі што ўцякала, магло стаць вынікам добра прадуманага плана. Вярнуўшыся да сваіх баявых парадкаў, гэтая частка крыжакоў развярнулася і ўступіла ў

бой з польскімі харугвамі, што знаходзіліся на стыку левага і правага флангаў саюзных войскаў.

Трохі іначай сітуацыя магла развівацца на ўсходнім і паўночна-ўсходнім напрамках, дзе крыжакі, не сустракаючы супраціўлення, яшчэ нейкі час пераследавалі разбітыя харугвы непрыяцеля. Калі ж, стомленыя пагоняй і, па словах Длугаша, абцяжараныя здабычай, яны захацелі вярнуцца, то, адрэзаныя ад сваіх ліній свежымі сіламі Вітаўта і прыдадзенымі ім польскімі харугвамі, былі знішчаны альбо трапілі ў палон.

Аднак гэта адбылося трохі пазней, а пакуль што, з уступленнем у бой першай польскай і другой літоўскай ліній, бітва закіпела на ўсім фронце саюзнікаў. «Хроніка канфлікту» апісвае гэту фазу бітвы надзвычай лаканічна: «Бітва цягнулася шэсць гадзін, і толькі тады крыжакі звярнуліся да адступлення. Гэтым разам адышлі ажно да сваіх абозаў». Значна больш інфармацыі, хоць і не заўсёды лёгкай для зразумення, утрымлівае Хроніка Длугаша. Прычым польскі храніст закранае падзеі выключна на польскім флангу. Пасля апісання ўцёкаў літвінскага войска ён падрабязна спыняецца на спробе дэзертырства наёмнай харугвы Св. Юрыя, прычым яе адыход трактуецца Длугашам не як разгром і ўцёкі, а менавіта як дэзертырства, віноўнікам якога быў харунжы Ян Сарноўскі. Аднак, прысаромленыя падканцлерам Мікалаем Тромбам, чэхі вярнуліся на поле бою, і зноў «пачалася паміж палякамі і прусакамі ў многіх месцах жвавая і зацятая бітва».

Паводле слоў Длугаша, на польскім флангу склалася пагрозлівая сітуацыя і нават быў абвалены на зямлі вялікі каралеўскі сцяг з белым арлом. Аднак дзякуючы намаганням найлепшых рыцараў, якія належалі да харугвы пад гэтым знакам, сцяг зноў удалося падняць. «Рыцарства польскае, жадаючы змыць з сябе знявагу, ударыла з вялікім запалам на непрыяцеля, і ўсе тыя гуфы, з якімі вялі бой, ушчэнт разбілі, рассыпалі і знішчылі».

Менавіта ў гэты момант, па ўсёй верагоднасці, адбылося вяртанне ў бітву тых крыжакоў, якія дагэтуль пераследавалі разбітых літвінаў у паўночна-заходнім напрамку: «Надышлі тым часам крыжакі, якія вярталіся з пагоні за літвінамі і руссю і вялі да прускага абозу шматлікі натоўп палонных з вялікай весялосцю і трыумфам. Аднак, убачыўшы,

што справа для іх набывае кепскі ход, пакідаюць палонных і здабычу і як мага хутчэй кідаюцца ў бітву, каб дапамагчы сваім, якія ўжо слаба супраціўляліся пераможцам». Але тут яны мусілі трапіць у пастку, якая зачынілася з увядзеннем у бой новых сіл саюзнікаў, напэўна ў выглядзе другой польскай і трэцяй літоўскай ліній: «З падыходам свежых сілаў узмацнілася зацятая з абодвух бакоў бітва. Тут і там густа падалі трупы; крыжакі, змяшаўшы свае парадкі, адчуўшы вялікія страты ў людзях і палеглых даводцах, ужо былі гатовыя да ўцёкаў, аднак рыцарства чэшскае і нямецкае дапамагло аслаблым у многіх месцах крыжакам і стойкай адвагай падтрымала бітву».



Герб Трокскай зямлі. Выява першай паловы XV ст.

Такім чынам, праз шэсць гадзін з пачатку бітвы аслаблае войска Тэўтонскага ордэна пачало адкатвацца да свайго абозу. Каб уратаваць сітуацыю, магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнгінген «з рэшткамі сваіх людзей, маючы з сабой пятнаццаць ці больш харугваў, з пэўнага малога лясочка захацеў звярнуць свае гуфы супраць асобы караля; і ўжо коп'і і ошчапы, знятыя з плеч, злажылі на шчыты і сталі на месцы, жадаючы даведацца, дзе будзе найбольш зручна і выгадна сутыкнуцца з ворагамі. У той жа час кароль, паколькі крыжакі, уладкаваўшы шыхты, сталі насупраць яго, хацеў, схапіўшы ў руку кап'ё, з найвялікшай смеласцю скіраваць супраць іх каня, але, устрыманы насуперак сваёй волі сілай і з найвялікшай цяжкасцю сваімі дастойнікамі, не мог здзейсніць свае намеры». Так выглядае ўступленне ў бітву крыжацкіх рэзерваў у «Хроніцы канфлікту», якая далей згадвае пра нападзенне аднаго з тэўтонскіх рыцараў на караля, які ўласнаручна параніў яго ў твар, пасля чаго мёртвы крыжак быў коп'ямі скінуты з каня атачэннем Ягайлы. Пасля «Хроніка» апісвае сутыкненне свежых крыжацкіх сіл з вялікай харугвай польскага войска, прычым пры першым жа сутыкненні магістр, маршал, комтуры і іншыя дастойнікі ордэна былі забіты. Астатнія ж, убачыўшы смерць свайго кіраўніцтва і будучы ўжо не ў стане аказваць супраціўленне, мусілі адступіць да свайго ўмацаванага абозу. «А калі прыбылі да лагера, бачачы, што шмат яшчэ было гуфаў каралеўскіх, якія дагэтуль не ўступілі ў бітву, убачыўшы таксама, што заводца іх забіты, кінуліся да сапраўдных уцёкаў і, рассыпаўшыся, пачалі ўцякаць. Кароль жа, па парадзе сваіх баронаў, не дазволіў сваім паганяць так хутка ўцякаючых



ворагаў, не жадаючы, каб яго людзі, рассыпаўшыся, аддаляліся занадта далёка, але, зняўшы па прычыне незвычайнай спякоты свой шлем, з усімі сваімі людзьмі падступіў да крыжацкіх абозаў».

Ян Длугаш, у цэлым, не пярэчыць інфармацыі «Хронікі канфлікту», аднак яна абрастае ў яго дадатковымі падрабязнасцямі. Па-першае, ён ацэньвае крыжацкія рэзервы не ў пятнаццаць, а ў шаснаццаць харугваў. Апісваючы атаку гэтых харугваў, Длугаш інфармуе, што Ягайла, убачыўшы набліжэнне да свайго атрада часткі крыжацкіх сілаў, паслаў свайго надворнага пісара Збігнева Алясніцкага па дапамогу да харугвы каралеўскіх дваран, што знаходзілася паблізу. Аднак гэтая харугва рыхтавалася да ўступлення ў бой, таму пісар мусіў вярнуцца назад, заявіўшы каралю, «што ўсё рыцарства занята бітвай з непрыяцелем і што тыя, хто змагаецца альбо рыхтуецца да бою, ніякай просьбы альбо загаду прыняць не могуць». Таму было вырашана, што для бяспекі Ягайлы неабходна прыспусціць малы каралеўскі штандар, які выдаваў яго месцазнаходжанне. Аднак тут Ягайла праявіў такую неўласцівую для яго гарачнасць і імпэт да бітвы, што атачаўшыя караля рыцары з цяжкасцю здолелі яго ўтрымаць ад асабістага ўступлення ў бой.

Больш падрабязна апісвае Длугаш і нападзенне на караля тэўтонскага рыцара, якога ён называе па імені — Дыпольд Кёкерыц фон Дзебер. Апісваецца нават яго ўбранства і ўказваецца прыналежнасць да вялікай прускай харугвы. Паводле слоў Длугаша, першым нанёс яму ўдар не Ягайла, а Збігнеў Алясніцкі, які выбіў крыжака з сядла ўдарам абломка кап'я ў бок. Пасля, ужо ляжачага на зямлі, яго нібыта дабіў ударам кап'я ў лоб сам кароль.

Звяртае на сябе ўвагу фрагмент, які апісвае непасрэднае сутыкненне крыжацкага рэзерву з палякамі: «Войска крыжацкае, складзенае з тых шаснаццаці харугваў... зараз жа паварочваць пачало на вокліч аднаго з крыжакоў, даводцы харугвы, які сядзеў на белым кані, і кап'ём падаваў знак да вяртання, і крычаў па-нямецку: *herum, herum*! Потым, павярнуўшы, рушыла направа, дзе разам з іншымі польскімі харугвамі стаяла вялікая каралеўская харугва, якая ўжо разбіла непрыяцеля. Каралеўскія рыцары заўважылі тыя шаснаццаць харугваў, прычым адны пазналі ў іх непрыяцеля, як на самай справе і было, іншыя ж, з уласцівай людзям слабасцю спадзеючыся на лепшае, палічылі іх за літоўскае войска па прычыне лёгкіх кідальных коп'яў, называных

суліцамі, якіх у крыжацкім войску была вялікая колькасць, і не адразу ўдарылі на крыжакоў; спрачаліся паміж сабой і доўга былі ў няпэўнасці, аж пакуль рыцар Добек з Алясніцы... сам-адзін не паскакаў да непрыяцеля. Супраць яго выступіў з прускага войска адзін крыжак, даводца гуфаў і харугваў, і, пераняўшы Дабяслава, сваёй лёгкай суліцай падбіў уверх ягонае кап'ё і прапусціў яго над галавой... Дабяслаў жа, убачыўшы, што схібіў з ударам, не пасмеў змагацца з такім вялікім войскам, што сапраўды было б шаленствам, і хутка да сваіх павярнуў». Зразумеўшы памылку, палякі ўступілі ў бой са згаданымі шаснаццацю харугвамі. «Крыжакі нейкі час вытрымлівалі націск, аднак, нарэшце, акружаныя з усіх бакоў пераважаючай колькасцю каралеўскіх войск, былі разбіты ўшчэнт»[200].

На падставе звестак, прыносімых «Хронікай канфлікту» і Длугашам, можна прыйсці да высновы, што крыжацкія рэзервы прарвалі фронт саюзнікаў на стыку польскага і літоўскага флангаў. У польскага войска заставаліся харугвы ў рэзерве, але яны рыхтаваліся ўступіць у бой і не змаглі засланіць стаўку Ягайлы. Караля ўратавала тое, што магістр Ульрых фон Юнгінген завярнуў свае гуфы і паспрабаваў ударыць у тыл польскаму флангу. Аднак польскія рэзервы (трэцяя лінія) самі нанеслі ўдар па групоўцы Юнгінгена, і яна была заціснута паміж імі і асноўнымі польскімі сіламі левага крыла. Акружаныя, крыжакі нейкі час супраціўляліся, але былі знішчаны. Загінуў сам магістр. «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», якая ў цэлым абсалютна фантастычна апавядае пра Грунвальдскую бітву, сцвярджае, што яго «просты драб ошчапам прабіў»[201].



Павеза. Чэхія, 1400 г.

Пэўную глебу для разважанняў прыносіць Хроніка Яна Пасільге, дзе гаворыцца, што «была вялікая бітва, і магістр разам са сваімі людзьмі тройчы прабіваўся скрозь іх (ворагаў), і кароль так адступіў, што яны ўжо пачалі пець «Хрыстос уваскрос». Але прыйшлі яго госці і наёмнікі, калі яны не былі пашыхтаваны, і напалі з аднаго боку, а язычнікі — з другога, і акружылі іх; і людзі магістра, і вялікія саноўнікі, і вельмі шмат братоў ордэна — усе загінулі». Не да канца зразумела,





Гібель магістра Ульрыха фон Юнгінгена. Фрагмент карціны Я. Матэйкі «Бітва пад Грунвальдам»

пра якія тры прарывы ідзе гаворка, хоць уяўляецца найбольш праўдападобным, што маюцца на ўвазе прарывы тэўтонаў на розных этапах бітвы і ў розных месцах — 1) напачатку бітвы на літоўскім флангу; 2) на польскім крыле, калі быў абвалены вялікі каралеўскі сцяг; 3) напрыканцы бітвы, калі рэзервы Юнгінгена выйшлі ў тыл палякам.

Фінальная фаза бітвы разыгралася каля крыжацкіх абозаў, дзе схавалася частка разгромленых тэўтонскіх сілаў. «На месцы лагера шматлікія ворагі, убачыўшы, што ўцёкамі ніяк не ўдасца пазбегнуць смерці, утварылі з вазоў нібыта вал, за якім усе пачалі бараніцца, але неўзабаве, пераможаныя, усе ў пашчы мяча згінулі. У гэтым месцы было знойдзена больш палеглых, чым на ўсім месцы бітвы». «Хроніка канфлікту», даючы такое кароткае, але ёмістае апісанне штурму крыжацкага абозу, далей інфармуе, што Ягайла па завяршэнні бітвы падняўся на вяршыню аднаго з пагоркаў, злез з каня і, укленчыўшы, «пачаў дзякаваць Богу за перамогу, якую Бог даў яму над яго ворагамі». Потым кароль агледзеў першых палонных, якія былі прыведзеныя да яго, а пасля загадаў падрыхтаваць сабе імправізаваную пасцель з разасланых на зямлі галінак дрэў і заснуў. «Бітва пачалася за тры гадзіны перад палуднем, а скончылася менш чым за гадзіну да заходу сонца»; такім чынам, яна доўжылася з 9.00 да 19.00 гадзін.

Дадатковыя падрабязнасці, звязаныя са здабываннем умацаванага крыжацкага абозу, прыносіць Хроніка Яна Длугаша. Пасля яго захопу там былі знойдзены «вялікія багацці і дастаткі», у тым ліку «некалькі вазоў, нагружаных аднымі ланцугамі і аковамі, якія крыжакі, упэўнена



прадракаючы сабе перамогу, а не спадзеючыся на Бога, і думаючы больш пра будучы трыумф, чым пра бітву, прыгатавалі, каб закаваць палонных палякаў. Былі і іншыя вазы, напоўненыя смалістымі лучынамі, аблітымі лоем і смалой, а таксама анучамі, нацёртымі смалой і тлушчам, пры дапамозе якіх думалі [ноччу] гнаць перад сабой пабітых і ўцякаючых палякаў... Апроч таго, знайшлі ў абозе і на вазах крыжацкіх шмат бочак віна, да якіх жаўнеры, пасля разгрому непрыяцеля, змучаныя бітвай і летняй спякотай, кінуліся было са сквапнасцю для наталення смагі: адны шапкамі, другія рукавіцамі, трэція чаравікамі набіралі віна і пілі. Але Уладзіслаў, кароль польскі, баючыся, каб войска, перапіўшыся віна, не страціла баявыя якасці, у выніку чаго яго лёгка мог бы перамагчы падчас нападзення нават слабейшы непрыяцель, і каб з празмернага п'янства не з'явіліся ў войску хваробы, загадаў бочкі разбіць і віно выліць. Калі іх па загаду караля зараз жа разбілі, віно хлынула на трупы палеглых, каторых у тым абозе было вялікае мноства, і, змяшанае з крывёй забітых людзей і коней, разлілося ажно па лугах вёскі Таненберг, утварыўшы як бы адзіны паток, які цёк уласным рэчышчам».

Далей Длугаш падрабязна апісвае пагоню за рэшткамі ўцякаючага крыжацкага войска, прычым ён адзначае, што «няшмат каму з тых, хто раней выслізнуў з поля, удалося ўратавацца ўцёкамі. Значная колькасць рыцараў трапіла ў няволю; а калі іх пераправілі ў абоз, пераможцы абыходзіліся з імі літасціва, назаўтра ж прынялі ад іх прысягу на вернасць. Шмат патанула, па прычыне цеснаты і тлуму, у сажалцы, якая знаходзілася за дзве мілі ад месца пабоішча. Надышоўшая ноч спыніла далейшую пагоню. Палягло ў той бітве пяцьдзясят тысяч непрыяцеляў, а сорак тысяч было забрана ў палон. Было захоплена харугваў, кажуць, пяцьдзясят і адна. Войска пераможцаў непрыяцельскімі трафеямі ўзбагацілася бязмерна. Ці сапраўды была такая вялікая колькасць забітых, не смею сцвярджаць з пэўнасцю. Але на некалькі міль дарога заслана была трупамі, а зямля ад крыві размякчэла; у паветры насіліся крыкі і енкі канаючых»[202].

Так закончылася бітва, якая стала кульмінацыйным момантам Вялікай вайны. Тэўтонскі ордэн панёс у ёй страты, якія яму так і не ўдалося аднавіць. У польскай гістарыяграфіі называюцца наступныя лічбы: было забіта 203 браты ордэна з 250, што прымалі ўдзел у бітве, у




Мемарыял у памяць гібелі магістра Ульрыха фон Юнгінгена. 1910 г.

тым ліку ўвесь камандны састаў, а таксама некалькі тысяч (да васьмі) земскага рыцарства, што складала да паловы вайсковага патэнцыялу крыжацкай дзяржавы; трапілі ў палон больш за дзесяць тысяч чалавек.

Як можна заўважыць, асабліва страшнае вынішчэнне закранула шэрагі менавіта ордэнскіх братоў, якія страцілі да 80% свайго складу. А. Надольскі схільны тлумачыць гэта адметным стаўленнем польска-літоўскага рыцарства да «барадатых», якія выклікалі ў іх асаблівую нянавісць і прагу помсты за ўсе нанесеныя раней крыўды. Славуты польскі даследчык адзначае, што ў адрозненне ад кіраўніцтва ордэна, якое практычна цалкам палягло пад мячамі, за выключэннем тых, хто здолеў уцячы, усе выбітныя свецкія даводцы крыжацкага войска ўратавалі жыццё, трапіўшы ў палон. Як адзначалі самі крыжакі, ваяры Ягайлы і Вітаўта «не цэлілі ні ў кога іншага, як толькі ў братоў і ў коней».

Разам з тым да жахлівых страт сярод братоў ордэна магла спрычыніцца і іх надзвычайная зацятасць. Сведчаннем таму з'яўляецца трагічны лёс двух ордэнскіх чыноў — Маркварда фон Зальцбаха і Шумберга, захопленых польскім рыцарам Янам Вянявам Длугашам, бацькам славутага гісторыка Яна Длугаша. У свой час згаданыя рыцары нанеслі асабістую крыўду Вітаўту, абразіўшы яго і яго маці, прылюдна выказаўшы сумненне ў яе прыстойнасці. Таму, калі фон Зальцбах і Шумберг трапілі ў рукі Вітаўта, ён гатовы быў ужо з імі расправіцца і толькі па просьбе Ягайлы згадзіўся пакінуць ім жыццё. Аднак фон Зальцбах, у адказ на папрокі вялікага князя, зробленыя ў яго адрас, заявіў: «Не баюся я цяперашняга свайго лёсу, бо зменлівае

шчасце круціцца, як кола; што вам, пераможцам, сёння прынесла, тое заўтра нам прынесці можа». Раз'юшаны такімі словамі, якія сведчаць не толькі пра пыху крыжакоў, але і пра іх смеласць, Вітаўт загадаў пакараць абодвух палонных смерцю.

Што да страт саюзнікаў, то ў польскай гістарыяграфіі прынята лічыць, дзякуючы сцвярджэнням патрыятычна настроенага Длугаша і лістам Ягайлы, напісаным пасля бітвы, што польская армія не панесла значных страт, асабліва сярод вядомых рыцараў і даводцаў войска. А. Надольскі тлумачыць гэта тым, што большую частку дня 15 ліпеня бітва мела характар тыповых кавалерыйскіх сутычак, якія часта мелі драматычны характар, але не прыводзілі да значнага кровапраліцця. Пералом наступіў пасля знішчэння кіраўніцтва ордэна падчас атакі рэзерваў Юнгінгена. У крыжацкім войску адбыўся надлом, які прывёў да панічных уцёкаў. Гэтыя ўцёкі суправаджаліся разнёй, у якой, як таго і варта было чакаць, гінулі амаль выключна рыцары тэўтонскага войска. Такім жа самым фактарам — фактарам панічных уцёкаў — тлумачыць Надольскі і вялікія страты ў літоўскім войску на першым этапе бітвы. Нагадаем, што армія Вітаўта мусіла страціць, па словах крыжацкага шпіёна, да паловы свайго саставу[203].

Пасля надыходу начной цемры пайшоў моцны дождж, які цягнуўся ўсю ноч. Як сведчыць Длугаш, ад слоты і холаду загінула шмат параненых з абодвух бакоў, якіх не паспелі прыбраць з поля бітвы. Ягайлу данеслі аб смерці Ульрыха фон Юнгінгена. Вялікі магістр быў апазнаны па залатым пектарале з мошчамі святых, які прыцягнуў увагу пахолка аднаго з польскіх рыцараў, збіраўшага па полі бою трафеі. Храніст сцвярджае, што кароль, уражаны зменлівасцю чалавечага лёсу, усклікнуў: «Паглядзіце, рыцары мае, да якой згубы можа прывесці пыха і ганарыстасць перад Богам. Вось той, хто ўчора столькі каралеўстваў і дзяржаў хацеў падпарадкаваць, каму здавалася, што ў магутнасці не меў сабе роўнага, а зараз ён ляжыць, пазбаўлены ўсялякай дапамогі сваіх людзей, забіты вартым жалю чынам, паказваючы сваім прыкладам, наколькі пыха ніжэйшая за пакору».

Пасля перамогі перад саюзнікамі стала пытанне аб тым, што рабіць далей. Гучалі прапановы аб як мага хутчэйшым маршы на Мальбарк, пакуль крыжакі не аправіліся ад шоку паражэння і не паспелі арганізаваць належнай абароны сваёй сталіцы. Аднак усё ж было вы-



рашана заставацца на месцы бітвы тры дні. Наступны дзень пераможцы прысвяцілі трохі запозненаму догляду за параненымі, апазнанню палеглых у бітве рыцараў, найперш даводцаў варожага войска, а таксама агляду палонных і захопленых харугваў. Па загаду караля былі знойдзены трупы магістра і вышэйшых дастойнікаў ордэна. На целе Ульрыха фон Юнгінгена былі выяўлены дзве раны — на лбе і на грудзях. Рэшткі магістра, маршала, вялікага комтура і некаторых вышэйшых саноўнікаў былі адасланы ў Мальбарк, целы іншых знатных асоб Ягайла загадаў урачыста пахаваць у размешчаным недалёка ад месца бітвы драўляным касцёле. Простых крыжакоў пахавалі на месцы самой бітвы ў брацкіх магілах.

У каплічным намёце Ягайлы была адпраўлена імша ў гонар атрыманай перамогі, а затым кароль наладзіў урачысты абед для свайго рыцарства. На ім прысутнічалі і найбольш знатныя прадстаўнікі варожага лагера, захопленыя падчас бітвы. Потым адбыўся перапіс палонных, пасля чаго яны былі адпушчаны, прысягнуўшы папярэдне, што з'явяцца 29 верасня 1410 г. у Кракаў для ўнясення выкупу за сваю асобу. Пры войску пераможцаў пакінулі толькі найбольш знатных асоб і братоў-рыцараў. У той жа дзень канцылярыяй Ягайлы былі адпраўлены лісты каралеве Ганне, біскупам, кракаўскім панам, магістрату і ўніверсітэту з паведамленнямі аб атрыманай перамозе. 17 ліпеня, адпусціўшы палонных, Ягайла і Вітаўт павялі свае адпачыўшыя войскі на сталіцу Тэўтонскага ордэна[204].

Калі чуткі аб страшным паражэнні тэўтонскага войска дайшлі да Мальбарка, то спачатку там у іх папросту не паверылі. Калі ж уцалелыя ўдзельнікі бітвы засведчылі трагічны вынік бітвы ўласнымі персонамі, роспач і паніка агарнулі насельніцтва крыжацкай сталіцы. Між тым войскі саюзнікаў пераможным маршам крочылі па Прусіі, без бою займаючы гарады і замкі і прымаючы прысягу ад мясцовага рыцарства і мяшчанства. У гэтай экстрэмальнай сітуацыі комтур Свеца Генрых фон Плаўэн, якога магістр пакінуў для аховы межаў дзяржавы, праявіў нечуваную энергію і ў сціслыя тэрміны арганізаваў падрыхтоўку да абароны. Прыбыўшы са сваімі людзьмі ў Мальбарк, ён здолеў падняць маральны дух мясцовых жыхароў, а таксама спешна сцягнуў сюды вайсковы люд з іншых прускіх замкаў. Калі верыць Длугашу, фон Плаўэн змог сабраць пад сваёй камандай 5 тысяч чала-





Мальбаркскі замак. Фота пачатку XX ст.

век, да якіх ён трохі пазней здолеў далучыць пяцьсот наёмнікаў. Гарадская забудова сталіцы была спалена, «каб места Мальбарк, здабытае каралём польскім, не магло паслужыць палякам у якасці крэпасці і прыкрыцця». Быў разбураны мост праз раку, а войска, насельніцтва горада, узбраенне і правіянт былі сканцэнтраваны ў замку. Ва ўсе бакі ад сталіцы рассылаліся лісты з просьбамі аб дапамозе.

25 ліпеня саюзныя войскі падышлі да Мальбаркскага замка. На наступны дзень кіраўнікі войска размясцілі вакол яго сваю артылерыю і «з чатырох бакоў білі і штурмавалі з усёй сілы». Падчас аблогі да Ягайлы працягвалі прыбываць «шляхта і рыцары зямель Прускай, Хелмінькай і Паморскай і ўсе амаль абывацелі гарадоў, размешчаных



у тых землях... аддаючы пад яго ўладу сябе і ўсё сваё — замкі і гарады, і ўрачыста прысягаючы каралю на вернасць і паслушэнства». У сваю чаргу Ягайла раздаваў трапіўшыя такім чынам у ягоныя рукі гарады, замкі, а то і цэлыя вобласці сваім рыцарам і саюзнікам. Так, вялікаму князю літоўскаму Аляксандру Вітаўту былі перададзены «замкі Каралявец (Кёнігсберг) і Холанд з гарадамі вялікімі».

Становішча абаронцаў Мальбарка ўяўлялася безнадзейным. Нягледзячы на магутныя ўмацаванні замка, бракавала сілаў для яго абароны. Сказваўся і недахоп артылерыі, якая амаль уся была захоплена саюзнікамі. Не спрыялі ўмацаванню баявога духу і звесткі аб здачы гарадоў. Таму ў пачатку верасня Генрых фон Плаўэн «выслаў да Уладзіслава, караля польскага, герольдаў з просьбай, каб яму кароль дазволіў прыбыць з замка Марыенбургскага для сумеснай размовы». На гэтай сустрэчы крыжакі запрасілі міру, узамен чаго прапанавалі перадаць Ягайлу Паморскую, Хелміньскую і Міхалоўскую землі, просячы пакінуць ордэну толькі ўласна Прусію. Пасля доўгіх дыскусій у асяроддзі каралеўскай рады верх атрымала думка, што «замак Марыенбург доўга аблогі не вытрымае, а крыжакі, калі застануцца пры Прускай зямлі, не ўпусцяць любой магчымасці, каб вярнуць тыя тэрыторыі, ад якіх зараз вымушаны адмовіцца». Такім чынам, перамовы аб міры былі прыпынены.

Між тым аблога Мальбаркскага замка зацягвалася. Шматлікія штурмы не прыносілі ніякіх вынікаў. Адчуваўся недахоп правіянту і фуражу. Па прычыне вялікай колькасці мёртвых коней і скаціны ў лагеры саюзнікаў развялося столькі мух, што яны сталі ствараць сур'ёзную праблему для войска. Падала дысцыпліна. Нямецкі бок, наадварот, страціўшы апошнюю надзею на мірнае ўрэгуляванне, узмацніў вылазкі, якія рабіліся ўсё больш частымі і дзёрзкімі. Абаронцы атрымоўвалі звесткі, што лівонскі маршал Бернд Гевельман з моцным войскам (да 2 тысяч чалавек) спяшаецца на дапамогу і дайшоў ужо да Кёнігсберга. Рыцарскія атрады збіраліся ў самой Прусіі. Плаўэну ўдалося накіраваць да прускіх комтураў лісты і грошы для вярбоўкі наёмнікаў. Заклапочаны Ягайла паслаў Вітаўта са значнымі сіламі насустрач інфлянцкім рыцарам, якія не рызыкнулі пайсці на ўзброены канфлікт. У выніку пачаліся перамовы, якія скончыліся заключэннем 8 верасня перамір'я тэрмінам на 14 дзён.





Далейшая аблога Мальбарка працягвалася, прычым беспаспяхова. Канчаўся тэрмін пераміра з Інфлянтамі, што стварала для Вялікага Княства Літоўскага пагрозу з боку Лівонскага ордэна. У войску Вітаўта пачаліся хваробы. Таму ён згарнуў свой лагер і рушыў у межы Літвы. Можна сцвярджаць, што на такі крок вялікага князя паўплывала і нежаданне поўнага аслаблення Тэўтонскага ордэна, а тым больш яго знішчэння, што непазбежна ўзмацніла б Польшчу і павялічыла яе апетыты ў дачыненні да ВКЛ. Пасля адыходу Вітаўта, з-пад Мальбарка сышлі і мазавецкія сілы разам з князямі Янушам і Земавітам. Аслаблены адыходам войскаў сваіх саюзнікаў, а таксама пад пагрозай удару з боку Жыгімонта Люксембургскага, Ягайла быў вымушаны 22 верасня зняць аблогу Мальбарка і пачаць адыход у польскія землі. За імі рушыла нанова сабраная крыжацкая армія, якая вяртала сабе прускія гарады і замкі так жа лёгка, як калісьці саюзнікі іх займалі. 10 кастрычніка 1410 г. сілы ордэна зноў пацярпелі паражэнне ад палякаў у бітве пад Карановам, але гэта паражэнне мала што змяніла.

Пасля вяртання каралеўскага войска ў Польшчу пачаліся сутычкі на межах дзяржавы. Генрых фон Плаўэн, які стаў новым магістрам ордэна, запрашаў рыцараў з усёй Еўропы. Пры гэтым шырока прапагандавалася ідэя «справядлівай вайны», вайны за само існаванне «хрыстовага воінства» ў змаганні супраць «няверных» (татараў, жамойтаў, русінаў), якія ў значнай колькасці былі ў войску Ягайлы і Вітаўта. Стала неспакойна на польска-венгерскім памежжы. У гэтых умовах Ягайла быў вымушаны зноў звярнуцца да Вітаўта з просьбай аб дапамозе. У канцы кастрычніка Вітаўт стаў рыхтаваць войскі да новай вайны. Гэтая акалічнасць прымусіла крыжакоў пайсці на заключэнне перамір'я на 4 тыдні, з 14 снежня 1410 па 11 студзеня 1411 г., у якім прымаў удзел і Вітаўт. У сярэдзіне студзеня Вітаўт пачаў перапіску з магістрам аб заключэнні больш трывалага міру, а пасля студзеня прадстаўнікі варагуючых бакоў з'ехаліся на выспе ракі Вісла каля Торуня. Саюзнікаў прадстаўляў Вітаўт і шэсць польскіх саноўнікаў, а ордэн — інфлянцкі магістр Конрад Фірцынгоф, стрыечны брат прускага магістра Генрых фон Плаўэн і біскуп Ян Вюрцбургскі. 1 лютага 1411 г. быў заключаны мір. Яго ўмовы былі наступныя:

1. Палонныя і захопленыя землі вярталіся.
2. Ордэн вяртаў Вітаўту Жамойць у пажыццёвае ўладанне.

